Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

.........................................................................................

**Рэдакцыя:**
Барыс Пятровіч (Сачанка) —
галоўны рэдактар;
Алесь Пашкевіч —
намеснік галоўнага рэдактара;
адказны сакратар – Анатоль Івашчанка.

Мастак — Генадзь Мацур.
Тэхнічны рэдактар — Людміла Фомчанка.
Стыльрэдактар — Андрэй Федарэнка.

Ілюстрацыі на вокладцы Аляксандра Грышкевіча:
на 1-й стар.: «Лета», 2002;
на 4-й стар.: «На краі», 2004.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл. 200-80-91.

Здадзена ў набор 22.04.2014 г. Падпісана да друку 28.05.2014 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№3(70)
/травень-чэрвень/ 2014

Дзе
дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Валянціна Аксак.**
Бяссонне. *Строфы-2013.* / 5
**Васіль Макарэвіч.**
Атлант. *Аптымістычная араторыя.* / 72
**Славамір Адамовіч.**
Штосьці не так. *Вершы.* / 96
**Аксана Данільчык.**
Пытанне інтэрпрэтацыі. *Вершы.* / 113
**Васіль Барысюк.**
Дай, Божа, ізноў абнадзеіцца... *Вершы.* / 131
**Ігар Кагановіч.**
Скачок да сонца. *Вершы.* / 146

**Проза**

**Людміла Рублеўская.**
Дагератып. *Дэкадансны раман. (Пачатак).* / 14
**Віктар Карамазаў.**
Святло з вышыняў божых.
*Дзве навелы.* / 87
**Уладзімір Дамашэвіч.**
Электрычка Мінск – Баранавічы.
*Апавяданне 1994 года.* / 100
**Міхась Южык.**
Людная вуліцы. *Фантасмагорыя.* / 120
**Ксенія Шталянкова.**
Сітуацыя POST. *Імпрэсіі.* / 138

**Дэбют**

**Андрэй Козел.**
Недавершанасць. *Версэты.* / 152

**Пераклады**

**«Працяжнік, за якім няма даты».**
***Сучасная грузінская паэзія.***
Ната Інгоркава.
*Пераклад Алесі Башарымавай.* / 156
Ніка Джарджанэлі.
*Пераклад Андрэя Хадановіча.* / 160

Паата Шамугія.
*Пераклад Уладзіміра Арлова.* / 164
Георгій Шонія.
*Пераклад Андрэя Адамовіча.* / 169
Лаша Джаяні. / 174
*Пераклад Віталя Рыжкова.*
Аміран Свіманішвілі. *Пераклад Андрэя Хадановіча і Віталя Рыжкова.* / 176
**Мары Кона.**
Ці не балюча ім так?
*Пераклад з японскай Вольгі Гапеевай.* / 178

**Да 90-годдзя Васіля Быкава**

**Васіль Быкаў – Алесь Адамовіч.**
Маладыя гады. *Аўтабіяграфічныя дыялогі В. Быкава з А. Адамовічам.* / 183
**Васіль Быкаў.**
Дзякаваць богу,
ёсць яшчэ на свеце сяброўства.
*Лісты з Гародні (1963-1977). (Працяг).* / 201

**Сумоўе**

**Мікола Гіль.**
Ён быў, як месяц, адзінокі...
*Пісьмы маладога Варлена Бечыка.* / 212

**Эсэ**

**Віктар Жыбуль.**
Удзяку Акіта ў Менску:
вопыт уважлівага прачытання. / 237

**Да 60-годдзя Радыё Свабода**

**Аляксандар Лукашук.**
Радыё Скарына / 250

**У вянок памяці Таццяны Зіненка**

**Таццяна Зіненка.**
Гарчэйшае пітво. / 278
**Леанід Галубовіч.**
“Я адчуваю, што жыву высока”. / 278
**Алена Маеўская.**
Мая сяброўка Таня. / 280
**Алена Брава.**
Палёт над безданню. / 286
**Таццяна Зіненка.** *Вершы.* / 288

**Прачытанне**

**Анжэла Мельнікава.**
“Голас крыві...” *Тэтралогія В. Адамчыка як люстэрка жыцця Заходняй Беларусі.* / 295

**Кнігапіс**

**Леанід Галубовіч.**
“Мой рускі боль ціхмяны”
*Рэцэнзія на кнігу Марыны Наталіч.* / 302

**Дзеяпіс**

**Беларуская глыбіня.** *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова».* / 307

Валянціна Аксак



...жанчына –

асалода Бога...

# Бяссонне

***Строфы-2013***

***АДГАДКА***

Кветкі й матылі
афарбованыя
ў зыркія колеры
дзеля адной мэты –
сэксу.
Дык вось чаму я
не апранаюся
ў чырвонае.

***БЕЗ ГУМАРУ***

Смерць –
кабета без гумару.
І таму
сваіх антыподаў

яна выбірае найперш –
Сержука,
Юру,
Сакульскага...

### *ГРАФІКА*

Гляджуся ў люстэрка
і заўважаю,
як жывапіс
ператвараецца
ў графіку.

### *ДЗЕНЬ АНЁЛА РАМАНА*

Шоў-хлопчык-харошчык,
дзе і з кім ты сёння
ў наш з табою
трыццаць сёмы
дзень лапатання
крылаў анёла
ля правай рукі?

### *ДЫСГАРМОНІЯ*

Вычытала ў Сімоны Вэйл,
што суперажыванне –
самая вялікая мужнасць.
Дык вось яно як!
А я ж меркавала,
што маю імя
ў поўнай гармоніі з сутнасцю.

### *З ВАЧЭЙ ДАЛОЎ*

Адплываеш.
Адплыў
на новую выспу,
адкуль мяне
ўдзень не бачна,
адно бераг
майго мацерыка
не перастае
табе сніцца
штоночы.

А думаў,
што праўдзівая прымаўка –
з вачэй далоў...

### *ЗАБУДЗЬСЯ*

Я засуджаная табой
да пажыццёвага тэрміну,
і амністыі
мой артыкул
не падлягае.
Забудзься.

### *ЗНОЎ БЯССОННЕ*

Калісьці не спала –
без цябе,
цяпер не сплю –
з табою.

### *ЗМЕНА ЖАНРУ*

Смерць –
гэта калі кіно
ператвараецца
ў фатаграфію.

### *КАЛІ ХОЧАЦЦА*

Калі хочацца шчасця на дзень –
напіся віна.
Калі хочацца шчасця на тыдзень –
засмаж індыка.
Калі хочацца шчасця на месяц –
выйдзі замуж.
Калі хочацца шчасця на век –
гадуй кветкі
ў бацькавым садзе.

### *КАЛІ*

Калі цябе
не пускае ў адведкі
да роднага бацькі
родная сястра,

калі табе
не дазваляе пагушкаць
роднага ўнука
родны сын,
толькі й застаецца,
што кінуцца ў абдымкі
да роднае зямлі.

### КУДЫ?

Ты з’ехаў у горад,
які я ненавіджу.
Табе ж там добра.
І я змушаю сябе
палюбіць
тое зброднае месца.
Сёння –
атрымалася.
Але куды ад сэрца
адлучылася душа?

### МАМІНА СУКЕНКА

Кажаш,
у гэтай сукенцы
я была падобная
да гераіні
“Рымскіх канікул”.
Не,
я – толькі цень тае,
якая ўпершыню
прымерала чароўнасць
зялёнага ядвабу
ў няўлоўных рысах
простага фасону
смаліцкае краўчыхі.
Апрані мяне
ў гэтую сукенку
на развітанне,
каб мама хутчэй
там
мяне пазнала.

### МУЖЧЫНЫ ЎСЕ

Бог адзіны
і вера адна,

людзі розныя –
міласэрнікі,
стоікі,
тэрарысты.
Зрэшты, тое –
пра жанчын,
мужчыны ўсе –
мусульмане.

### *НАПАМІН*

Уранні БТ
паказала стары
J:Морсаўскі кліп,
а ў ім –
ты,
такі малады,
мой першы,
мой лепшы,
мой улюбёны
музыка.

### *НЕСМЯРОТНАСЦЬ*

У ясны блакіт
тваіх студзеньскіх вачанятаў
улілася зіхоткасць
маіх красавіцкіх зрэнак,
а ў німб залацісты ўпляліся
жнівеньскія жарынкі
твайго зорахвацкага дзеда –
так нашае з ім
невідочнае ўчора
паімкнула
ў тваё даляглядное заўтра,
і мы сталі несмяротныя.

### *ПАСЛАННІЦА*

Ластавачка
ўляцела ў сені,
хоча віць
тут гняздзечка.
Відаць,
мама яе паслала,
каторы год

з сумам гледзячы
на пустую хату.

## ПІЛІГРЫМКА

Як нам спяваць
хвалу Госпаду
на чужой зямлі?

## РАЎНАВАГА

– Колькі ў цябе
было мужчынаў
да майго бацькі? –
спытаўся сын-падлетак.
– Напэўна, столькі,
колькі жанчынаў
было ў твайго бацькі
пасля
твайго нараджэння –
прамаўчала ў адказ.

## СВЯТЛЕЕ МАРМУР

З сонейкам устаю,
спяшаюся на горачку
пад серабрысты бярэзнік,
каб хутчэй сказаць маме,
што Хрыстос уваскрос,
і Яська ўсміхаецца.
Святлее мармур за агароджаю
і мятлік сядае
на чырвонае яйка.

## СЯБРОЎКА

Толькі Таёта
ў мяне засталася
ў сяброўках,
астатнія
не вытрымалі
выпрабавання
поглядам таго,
хто зрэдчас
зазірае да нас
з Таётай.

### ТАЎРО

У хвіліну
наймацнейшага гневу
ты выгукнула:
па-э-тэ-с-са!
Пагарда і грэблівасць,
якія былі ў тваім голасе,
не давалі мне шанцаў
пазбыцца
гэтага
ганебнага
таўра.

### ТРЫ КОЛЕРЫ

Тры колеры шэрага –
пыха,
пагарда,
панурасць.
Каб падкрэсліць палітру,
Бог афарбіў мае зрэнкі
зяленівам.

### ТРЫ СПОСАБЫ

Тры способы вернасці –
самота,
вар’яцтва,
смерць.
Толькі ў трэцім не пэўная.
Пакуль што.

### ТРЭЦІ ЛІШНІ

Як толькі дэльфініюм
перабраўся
ў далейшую кветніцу,
адразу ўлагодзілася
палітра
гэтага дня
і можна спакойна
сумоўнічаць
з чародкаю
ўпэўненых ружаў
на сцененым азярцы
трымцлівых асцільбаў.

### УСІХ

Жанчына –
асалода Бога.
І ён у мяне –
адзіны.
Мужчына –
валадар Сонца.
І ён,
як яно,
асвятляе
безліччу праменняў
усіх,
хто патрапіцца.

### ЦЭЙТНОТ

Ад красавіка да кастрычніка
корпаюся ў кветніках
у спадчынным садзе,
а затым усю зіму
гадую флянсы ў вазонах,
і няма ў мяне часу
засушваць гербарый.

### ЧОРНЫ САД

Ну вось і ўсё –
свячэнне саду
знікла назаўсёды,
восень чорнай фарбай
прайшлася па галінах,
і новая вясна
не знойдзе колераў
для родных яблынь –
бацька стаў
да скону
невідушчы.

### ЧУЖАНІЦА

Мой сад –
гэта свойская жывёла,
якая дзічэе
ў суме па мне,
і ператвараецца ў чужаніцу,
мерачыся ўцячы
ў непралазны лес.

### ЧУЖЫЯ КАМЯНІ

Камяні перад ганкам
змянілі аблiччы.
Рвалася да іх –
родных,
а сустрэлі –
чужыя.

### ЯНЫ – ТУТ

Хата стогне
бацькавай роспаччу,
печ пакутуе
мамінай немаччу,
сад свіціцца
дзедавым гумарком,
кветнік буяе
бабінай весялосцю.

### ЯСЬ

Заўсёды не любіла
імя майго першага –
Янак –
і выбірала наступных
не па розуме,
знешнасці
ці паспяховасці.
Бо ж ведама –
як карабель назавеш...
А мае тры наступныя
ўдавалі разумных,
выглядалі вабнымі,
сталі выбітнымі.
Ды вось жа пятага
Бог паслаў
з імем першага,
праўда, у іншым,
з шасцідзесяці магчымых,
варыянце,
які люблю цяпер
найболей.

Людміла Рублеўская



...я не люблю
фатаграфаваць
мёртвых дзяцей...

# Дагератып

*Дэкадансны раман*

## КНІГА ЗНЕШНЯГА КОЛА

### Раздзел першы. Пад'езд з шахматнай падлогай

Гэта было ў той год, калі ўсе пачалі насіць кашулі ў краткі.

Быццам вуліцы запоўніліся каўбоямі.

І гэта было падобна, як бы статак гуляўся ў пастухоў.

Яшчэ ў той час у горадзе паўсюль замест асфальту клалі новую плітку. Дакладней, здзеклівае падабенства брукаванкі. Шэрыя ці ружаватыя кавалкі бетону мясцовай вытворчасці вельмі хутка трэскаліся, а паколькі зазвычай іх укладвалі ў вільготную зямлю – а халера яго чакаць, пакуль высахне, яны распаўзаліся ўбакі, як гнілое сукно, дыбіліся неахайнымі хвалямі, па якіх было нават весела скакаць. Тым больш у маіх Чаравіках. Менавіта так, з вялікай літары. Суперскія Чаравікі, якія ўдалося набыць хаця б ужыванымі, праз інтэрнэт, затое – чорна-бліскучыя,

з цяжкой «жаўнерскай» скуры, прашытыя суровымі ніткамі... Хех! Навюткія такія ж за маю журналісцкую паўстаўку не купіш.

Дарэчы, яшчэ пашанцавала на гэтую паўстаўку, мне ж засталося апошні курс давучыцца, а ўжо цяпер не баліць галава пра размеркаванне.

Затое баліць – пра жытло. Праўда, якраз з'явіўся шанец гэтую праблему бліскуча вырашыць. Знаёмы хлопец з'язджае па нейкім гранце займацца сваёй біялогіяй-заалогіяй-пацукалогіяй, а паколькі акрамя тае пацукалогіі (ці прусакалогіі) нічога яго, падобна, па жыцці не цікавіць, прапанаваў сваю кватэру, у самым цэнтры места, абсалютова бясплатна ў карыстанне дзвюм правінцыяльным студэнтачкам. На шчасце, Наста, мая сяброўка і суседка па здымным жытле, з'ехала на тыдзень да бацькоў, і ўсе ўражанні візіту – мне, мне адной!

Машыны ляцелі па праспекце так мэтанакіравана, быццам кожная везла сэнс жыцця, але, мяркуючы па смуродзе, які пасля іх заставаўся, гэта быў не вельмі добры сэнс. Я дастала смартфон і патыцкала пальцам у экран, павялічваючы фрагмент карты з патрэбным мне домам. Ого, гэта той самы, з дзвюма скульптурамі перадавых калгасніц на карнізе і кніжнай крамай на першым паверсе! Крутая кватэрка...

Высока нада мной перадавыя калгасніцы, прыцiскаючы да магутных грудзей па снапе, перавязаным стужкай, пазіралі ў шэрае восеньскае неба цяпер ужо майго горада сляпымі каменнымі вачыма. І зерне ў іх каласах было каменнае. А млын заснавальніка горада, волата Мянеска, які перамолваў камяні, даўно спыніўся, і не было нікому справы да хлеба прамінулых стагоддзяў.

Пад'езд нагадваў пра тыя часы, калі па вітых лесвіцах з кованымі мадэрновымі рашоткамі дзелавіта падымаліся людзі ў фуражках з зорачкамі, а той, за кім яны ішлі, сігаў у лесвічны пралёт...

Да не, гэта я рамантызую. Ніхто не сігаў... У гэтым я ўпэўнілася, калі працавала над серыяй артыкулаў пра беларускіх літаратараў з таварыства «Маладняк». Сядзелі па кватэрах і чакалі арышту – паэты, празаікі, навукоўцы... Трэсліся пад коўдрамі, трымалі ў калідоры клуначак з неабходнымі для турмы рэчамі, прыслухоўваліся начыма да крокаў па лесвіцы: не, не да нас! Далібог, не да нас! І суцяшаліся: я ж нічога кепскага савецкай уладзе не зрабіў, я ж за яе, ёсць больш вінаватыя! Нават калі арыштуюць, разбяруцца! Ну не можа быць, каб вось так, нізавошта...

Магло. І было.

Я пісала артыкул за артыкулам, і з'яўляліся ўсё новыя імёны, вартыя згадкі... І пакуль гэта будуць друкаваць у газеце, якую распаўсюджваюць па бібліятэках, пакуль яна будзе заставацца беларускамоўнай і пакуль будзе магчымасць працаваць у архівах, нават атрымліваючы менш, чым каштуюць не ношаныя мае боты, нават з тым, што даводзіцца пісаць шмат інфармацыйнай нецікавай лухты і бегаць з дыктафонам па начальніцкіх прэсухах – я не звольнюся...

Мне яшчэ ў дзяцінстве мама казала, што я “не ад гэтага свету”.

А па-мойму, дык кожны сам выбірае, у якім свеце яму жыць. Іх жа насамрэч многа, практычна паралельных, светаў, дзе ўмоўны шматок сена матляецца, падвешаны на вяровачцы, перад пысай даверлівага асла, змушаючы яго ісці і ісці, і валачы за сабой сваё жыццё.

Пра свой матывуючы «шматок сена» я вам распавяла...

А падлога ў гэтым пад'ездзе нагадвае шахматную дошку. Чорныя і белыя пліткі-ромбікі, быццам ты ўнутры атракцыёна, які стварае прасторавыя ілюзіі.

Атракцыён сапраўды быў... Такімі ж пліткамі-ромбікамі быў выкладзены пад’езд, дзе знаходзіўся музей аднаго савецкага паэты, пра які я напісала рэпартаж. Надта ж уразіла ўсё – і злавесна-ціхі пад’езд з рашоткамі і вітражамі ў стылі арт-нуво, і вельмі савецкая экспазіцыя, дзе красаваліся шматлікія ўзнагароды і пасведчанні паэта, а пра ягоную рэпрэсаваную радню і расстраляных сяброў нічога... А паколькі я яшчэ згадала, што сюды рэдка ходзяць наведнікі, кабеты, якія кіравалі музеем, закідалі ўсе інстанцыі і мяне асабіста абуранымі скаргамі і патрабаваннем мяне, нахабную і недасведчаную, «привлечь по всей строгости». Якраз цяпер я была ў стадыі чакання... ну, не арышту – але чагось таксама непрыемнага... Праўда, звольняць наўрад – я ж дзеўка «пісучая», як у нашай тусоўцы кажуць... Але прыкра было, праўда. Затое гэтую прыкрасць можна выкарыстаць і для Справы – каб лепш зразумець сваіх герояў, якія таксама зведалі даносы і дурныя абвінавачванні.

А вось і патрэбная кватэра... На самым верхнім паверсе, дзесьці непадалёк вартуюць дах каменныя калгасніцы. Дзверы старыя, з натуральнага дрэва... Ад нумара засталася адна металёвая лічба, другую можна адгадаць па цёмным адбітку: «37».

Як для мяне, дык запомніцца на раз, самы расстрэльны год: 1937.

Блін, толькі не дрыжэць... Не чырванець, не пацець, не зглытваць сліну і не адводзіць вочы, як гімназістка! А сэрца пад акампанемент званка ўсё прыспешвалася... Баязліўка, закаханая дурында...

Высокая і шэравокая прычына маёй панікі, Гальяш, адчыніў і ветліва адыйшоўся ўбок, прапускаючы мяне ў кватэру. Вядома, ён быў у кашулі ў краткі. Зялёна-белыя.

– Прывітанне... Сімка.

Перад маім імем была зразумелая паўза. Звыкнуць трэба, так звяртацца да ў прынцыпе сур’ёзнай дзяўчыны (спадзяюся, што раблю менавіта такое ўражанне). Але сваё імя па пашпарце «Серафіма» я ненавідзела настолькі, што сама вырашыла з яго паздзеквацца. Сімка – гэта і мой нік у сеціве, і тэст падчас знаёмстваў. Калі пачынаюць перапытваць: «Як, як?», альбо расцягваюць вусны ў паблажлівай усмешцы, я залічваю гэтых людзей у паралельны свайму свет. Гальяш у свой час проста паціснуў руку і зазірнуў мне ў вочы сваймі шэрымі вачыма, такімі светлымі на смуглявым твары – не ад прыроды смуглявым, а ад загару вечных вандровак. Дый у самога імя было на сучасны слых дзіўнаватае. Гальяш, беларуская форма звыклага «Ілля».

Прызнацца, менавіта ягонае імя давала мне найбольшую надзею... Пэўна ж, чалавек дэманструе сваю зацікаўленасць беларускай культурай, а значыць, мы паразумеемся?

Але я вельмі хутка пераканалася, што нічога ён не дэманструе. Проста, як і я, не любіць свайго імя па пашпарце.

Ён амаль увесь час маўчаў. Дзень народзінаў маёй аднакурсніцы быў шчабятлівы і крэатыўны, з «гадальнымі» піражкамі і конкурсам «дастань яблык з вады зубамі». Абслінены яблык я чапаць не стала, з піражка выцягнула прамасленую паперку з абяцаннем «вялікага і светлага кахання», непрыкметна скамечыла і сунула ў кішэню джынсаў. Гальяш таксама пазбягаў «крэатыву», на спробы яго «растармасіць» адказваў белазубай усмешкай, а паколькі ён быў высокі, плячысты і няспешны, звалачы яго з канапы гвалтам было нікому не пад сілу.

І што яму напрарокаваў піражок імянінніцы, я так і не даведалася.

Толькі пад канец вечарыны Гальяш трохі разгаварыўся – пра апошнюю экспедыцыю... Я так і не ўцяміла, куды менавіта, але на балаты. Змрочныя такія, бясконцыя беларускія балаты. Расказваў цікава: пра злітыя жуpавінамі паляны, птушак, якія крычаць, як немаўляты, параненага лася, якога выцягнулі з дрыгвы – а цалкам магчыма, ён проста сам пайшоў туды паміраць. Я глядзела, як хлопец падчас аповеду няўважна адкідвае пяцярнёй доўгі русявы чуб, як пасміхаюцца ягоныя вусны з цвёрдым «мужчынскім» абрысам, як на шчацэ бялее маленькі стары шнар... І разумела, што папалася. І вельмі няўдала.

Гэты малады чалавек не цікавіўся беларускай літаратурай, у яго мелася дзяўчына, і ён у хуткім часе павінен быў з'язджаць за мяжу.

Пасля мы яшчэ некалькі разоў сустракаліся ў той жа кампаніі – глядзелі фестывальныя фільмы, потым абмяркоўвалі іх у кавярні, аднойчы Гальяш нават праводзіў мяне дахаты – ну, не тое, што праводзіў, яму проста было па дарозе, і, акрамя сяброўскіх размоў, нічога не здарылася...

А цяпер і не здарыцца. І я буду жыць у гэтай кватэры з высокай столлю, з пафарбаванымі яшчэ за савецкім часам жоўтай крэйдавай фарбай сценамі і цяжкой бронзавай люстрай, у якой не хапае лямпачак... І вышукваць сляды былога гаспадара, і адгадваць, ад чаго ўтварылася гэтая драпіна на сцяне, і гэтая пляма на сталешніцы...

– Праходзь, пакажу, дзе што.

А ў мяне ўзнікла пакутлівая дылема: здымаць ці не здымаць чаравікі? Зняць – выявіць сябе выхаванай дзяўчынкай, тым больш і гаспадар у гумавых сініх «хлёпанцах», як кажа мая бабуля, і такія ж запасныя «хлёпанцы» для гасцей стаяць у вітальні... Але вельмі верагодна, што чорныя мае калготкі парваліся на вялікіх пальцах, і я буду крадма і пакутліва сцягваць дзіркі ўбок, каб пальцы з іх не вытыркаліся, і больш ні пра што думаць не змагу, акрамя як заўважыць хлопец, што я ў дзіравым, альбо не.

Паркет чысты, але лакам не блішчыць... А, пашкандыбаю ў сваіх жаўнерскіх чаравіках, выяўлюся такой нефармалкай.

Падчас азнаямляльнай экскурсіі я глядзела ў шырокую спіну біёлага, і гэта здорава адцягвала ад успрыняцця інфармацыі, яна даходзіла да свядомасці як праз пылавы фільтр. "З суседзямі асцярожна, старыя «актывісты», зрэагуюць на любы гучны «чых». Кран падцякае, пастараюся памяняць перад ад'ездам пракладкі. На гаўбцы барахло, якое ўсё варта выкінуць, але калі знойдзеце, што скарыстаць – калі ласка. Ровар, дарэчы, яшчэ на хаду. Талеркі ўсялякія ды рондалі маюцца, мыць ці не мыць – вырашаць вам. Тэрарыумы-серпентарыі свае я дамовіўся ўжо, дзе прыстроіць, не зважай на іх. Вось кнігі і часопісы прашу ўсё-ткі не выкідваць. Мог бы – забраў, але за акіян валачы не выпадае. Да таго ж, можа, прыйдзецца вяртацца".

Вычутае ў апошняй фразе змусіла здрыгануцца: «прыйдзецца». Гэта значыць, вяртацца не збіраецца.

Я нарэшце ўважліва азірнулася: так, гэта кватэра чалавека, які сабраўся ў бежанцы. Дыван скручаны, як вялізны пыльны вусень. Перавязаныя стосы кніг ляжаць проста на падлозе, побач са спакаванымі валізамі, у парасчыненых шафах гуляе паветра. Ой, а вось і згаданыя серпентарыі-тэрарыўмы... У шкляных скрынках, адмыслова падсвечаных, нечалавеча марудна варушыліся істоты, з якімі я не жадала мець ніякіх зносінаў, нават на адлегласці. Ніколі не зразумею людзей, якія могуць жыць побач з гэтай гадасцю... Не, я ўсведамляю своеасаблівую прыгажосць і гэтай

срабрыста-зялёнай змяюкі, што ляніва ганіць свае кольцы вакол нейкай карчажыны, і вунь таго гіганцкага павука, які трымаецца ўсімі расстаўленымі валасатымі лапамі за кавалак цагліны, і чарапахі, якая меланхалічна пускае бурбалкі, высунуўшы звыродліва маленькую галаву, падобную да гнілога карэньчыка, з-пад вады... Супэр, усе прыгожыя, усе хай жывуць... Толькі не побач са мной!

Я кінула ўважлівы позірк на гаспадара кватэры: што з ім не так, не можа быць, каб чалавек, які спіць здаровым сном побач з жывым тарантулам, што перабірае калматымі лапкамі, быў зусім нармальны...

З другога боку, мае апантаныя архіўныя вышукі «за так» і слёзы над запырсканымі крывёй стэнаграмамі допытаў таксама камусьці падаюцца прыкметай душэўнай хваробы.

На пісьмовым стале стаяў расчынены ноўтбук, на маніторы якога млява плаваў, як яшчэ адна пачварка ў празрыстай скрынцы, лагатып Windows. А побач у шкляной рамачцы фота: Гальяш у кашулі ў краткі, толькі чорна-чырвоныя, а ля яго – галава да галавы – вясёлая прыгожая дзеўка ў каўбойскім капелюху і чорнай цішотцы. Гарэзлівыя цёмна-бліскучыя кудзеры дзеўкі змяшаліся з русявымі валасамі біёлага, які тады адрасціў іх ледзь не па плечы.

Гэта тая самая Лера, што чакае яго ў каліфарнійскім універсітэце.

Што ж, ручніком ім дарога... Будуць разам ездзіць па прэрыях і збіраць тарантулаў.

– Халера, здаецца, цэлы тыдзень рэчы перабіраў, але гэта ж кватэра дзеда і прадзеда, тут ва ўсіх закутках нейкая старызна, – вінавата прагаварыў Гальяш, азіраючыся па баках. – На антрэсолі і ў камору яшчэ нават не зазіраў.

– Дык давай дапамагу, – нечакана для самой сябе прапанавала я. І, злавіўшы разгублены позірк, паспешліва патлумачыла:

– Мне ж, урэшце, тут жыць. Усё роўна буду прыбірацца.

Гальяш трохі павагаўся – так званая джэнтльменская паўза, потым крытычна агледзеў мяне – джынсы, чорная байка, цалкам прыдатна для нечарговага суботніка, пакорпаўся ў плеценай скрынцы, якая стаяла ў куце пакоя, і кінуў мне пад ногі паношаныя жаночыя чорныя паўкеды якраз майго памеру.

– З мяне гарбата.

Усё-ткі з ім проста... І паўкеды – не “хлёпанцы”, дзіркі ў калготах схаваюць (а дзіркі якраз былі, як я ўпэўнілася, сцягнуўшы нарэшце ў вітальні боты).

Каб весялей працавалася, Гальяш уключыў на ноўце музыку, прычым падборка была самая дзіўная. Дэпрэсіўныя скавытанні «Металікі» змяняліся энергічным «Хто ты гэткі? Свой, тутэйшы! Чаго хочаш? Долі лепшай!», меладычнае пяшчотнае «Алоха» гавайскага спевака Камакавівы, які загінуў, задушаны ўласным тлушчам – фолк-рокам фэнтэзійнага шкталту. Пра рыцараў, эльфаў і цмокаў. Асабліва да гаспадара падыходзіла песенька пра Міхеля, у якога ёсць калодзеж, у якім жыве Ундзіна. І нічогенька таму мужыку больш не трэба, ні гаспадыні ў хаце, ні золата, ні кароны, ні трона... Бо «ў Міхеля ёсць калодзеж, у калодзежы ёсць Ундзіна».

Каб выцягнуць усе транты з кладоўкі, спатрэбілася не менш за гадзіну. Падшыўкі «Нового мира» і «Науки и жизни» сямідзясятых гадоў, перавязаныя «шпагатам» – скручанай з жаўтлява-брунатнай паперы вяровачкай,

мех старога мужчынскага абутку, выцвілыя балоневыя курткі, радыёла, набор медыцынскіх банак у палатняным мяшэчку... Музей сац-арта.

– Слухай, і не шкада табе з'язджаць? – не вытрымала я. Гальяш трохі прамарудзіў, перш чым кінуць у кучу хламу, асуджанага на сметніцу, настольную лямпу на гнуткай металёвай ножцы, але без абажура, шнура і лямпачкі.

– А што я тут забыўся? – адказ прагучаў нечакана злосна-тужліва, нібыта той, хто гаварыў, сам сябе пераконваў. –Магчымасцяў для працы – трохі больш, чым ніякіх, выбіць фінансаванне экспедыцыі – лягчэй самому ў жабу ператварыцца. Тэма мая нікога тут не цікавіць, бо каўбасы ад яе не прырасце.

– А родныя? – не здавалася я. –Не засумуеш?

– Маці без мяне цудоўна абыходзіцца ўжо дваццаць гадоў, – Гальяш страсянуў русявым чубам. – Жыве ў Швецыі, дзе ў яе іншая сям'я, і два мае зводныя браты там таксама па мне не плачуць. Бацьку ўвогуле не ведаю. Мяне выхоўвала бабуля. Яна калісь сышла ад майго дзеда – доктара навук і ўладальніка гэтай кватэры, у хрушчоўку да простага інжынера па пральных машынах. У той час, дарэчы, гэта была супер-тэхніка, кшталту нана-тэхналогій. Нічога сабе сямейка, так? Мае першыя ўспаміны – я лаўлю ў лазенцы павукоў, саджаю ў слоік і адчуваю сябе непатрэбным і падкінутым, як Гары Потэр да Хогвардса.

Я агледзела ўпэўненую постаць гаспадара і не змагла ўявіць яго затурканым худзенькім Гары Потэрам у каморы альбо лазенцы. Да таго ж я ва ўласнай сям'і расла маленькім боствам, для якога тата прыладжваў на балконе гамак, мама шыла касцюмы прынцэсы, а бабуля не клала ў варыва цыбулі, якой я не цярпела, і мне цяжкавата ўявіць іншае дзяцінства.

– А я думала, ты ў гэтай кватэры вырас...

Гальяш шпурнуў у кучу хламу гумавую грэлку калісьці бэзавага колеру.

– Дзед так і не ажаніўся другі раз і ўпарта ваяваў з бабуляй за права выхоўваць дачку, пасля – мяне. Я яго баяўся – ён быў чалавек дужа суворы. Бабуля так і тлумачыла свой учынак: маўляў, у экс-мужа зверху касцюмчык, а пад ім – ваўчыная скура. Напалохаў ён яе аднойчы моцна сваім... характарам. Неўзабаве пасля таго, як памерла бабуля, памёр і ён, такі вось... лебедзь-адналюб, перад смерцю адпісаў мне кватэру. Тут з шаснаццаці і жыву сам. – Малады гаспадар кінуў на мяне хмуры позірк і прамовіў, нібыта апярэджваючы пытанне, якое, відаць, абрыдла чуць. – Нічога, спраўляюся. Ведаеш, я неяк прачытаў ва ўспамінах акадэміка Дзмітрыя Ліхачова пра ленінградскую блакаду цікавы эпізод пра лёс навукоўцаў. Этнографы ўсе вымерлі з голаду, матэматыкі, лінгвісты... Адны заолагі практычна ўсе выжылі, бо ўмелі паляваць.

Я абвяла позіркам сталінку: хаця цяпер і рэзрух, і няма асаблівых дызайнерскіх вышукаў, але й дастаткова акуратна, павута па кутах не вісіць. П'янак тут дакладна не ўчынялі, плакатаў з рок-зоркамі на сцены не ляпілі. Нават абраз "Неапалімая купіна" ў куце, а пад ім лампадка. Ціхая кватэра інтэлігентнага хлопца з антыкварнай мэбляй з карэльскай бярозы і густоўнымі нацюрмортамі на сценах. Каб у мяне адпачатку такая была... Жыві – не хачу.

– Ведаеш, я таксама атрымліваю капейкі. І не скажу, каб мае тэмы былі запатрабаванымі ды перспектыўнымі ў вачах уладаў.

– Ты думаеш, я з-за грошай з'язджаю? – бач ты, абурыўся, шэрымі

вачыма паблісквае. – Усё, што мне трэба – магчымасць працаваць. А тут яе не даюць. Тры гады таму атрымаў гумовым дручком па галаве і пярцовым газам у вочы за тое, што спыніўся паназіраць за, так бы мовіць, несанкцыянаваным мерапрыемствам. Зазнялі на камеру разам з іншымі, вылічылі, дзе працую, прасігналілі – і я паўгода працаваў на паўстаўкі, потым вярнуўся на месца, але без асаблівых перспектыў. Начальства разумнае, як бы і пакарала, і засталося ўбаку. Бабуля, старая камуністка, як даведалася, што на мітынгу быў, мяне «фашыстам» абазвала. Не, нічога тут не зменіцца. Колькі жыву – столькі чую ў нашай інтэлігенцкай так званай тусоўцы: «Валіць трэба. Валіць трэба»... Хто застаецца – ці няўдачнік, ці калабарант. Ну вось і я звалю. Буду героем.

Гальяш прамаўляў з горыччу і злосцю, за якімі адчуваліся сотні пакутлівых спрэчак і несправядлівых абвінавачванняў, у тым ліку ад ягонай дзяўчыны, якая, мусіць, і пастаралася ўгаварыць непрактычнага сябра на правільны крок.

– Я не лічу, што «зваліць» – гэта подзвіг, – асцярожна прамовіла я. – Калі аднаму вучонаму, спецыялісту па рускай літаратуры, пасля рэвалюцыі прапанавалі з'ехаць за мяжу, ён адмовіўся з каментарам: «Месца ўрача – у чумным бараку».

– І пасля яго расстралялі, – злосна адрэзаў Гальяш. – Усё вырашана. Мяне чакаюць кракадзілы Амазонкі.

«І твая Лера», – раздражнёна дадала ў думках я. Але на рэўнасць і раздражненне ў мяне не мелася аніякага права.

Нейкі час мы працавалі моўчкі, дабраўшыся да антрэсоляў. На драбіны залезла я: прыступкі, калісьці пафарбаваныя ў ярка-чырвоны колер, былі здрадліва таненькія, ледзь не з фанеры, месцамі патрэскаліся, і Гальяша маглі не вытрымаць. Я здымала скрынкі і перадавала біёлагу, уяўляючы, што было б, каб аднойчы ён замест скрынкі падхапіў на рукі мяне.

Па апошнюю рэч давялося лезці ў самы кут антрэсоляў. Гэта была каробка з выцвілага юлёвага кардону з выцісненымі срэбнымі кветачкамі, акуратна перавязаная барвовай стужкай, як торт. Па памеры ў такой каробцы мог захоўвацца дамскі капялюш з вялікімі брыламі, пра які я заўсёды марыла, але так ні разу не наважылася набыць. Знаходка адрознівалася ад іншых рэчаў, як тонкая доўгая цыгарэтка з ментолам ад папяросінаў, якія курыў мой дзед.

Гальяш няўважна дазволіў мне вывучыць экспанат. Я паставіла каробку на канапу і тузанула за аксамітную запыленую стужку.

Зверху ляжалі граматы з профілямі Леніна-Сталіна, выпісаныя на імя выкладчыка педтэхнікума Ігната Сымонавіча Масевіча, далей – загорнуты ў цэлафан стосік пажаўцелых паперак, якія, аднак, не стала разглядаць, бо рука сама пацягнулася да антыкварнага альбома ў скуранай вокладцы, з накладнымі металёвымі кветкамі, з выцісненымі вензелямі, якія яшчэ не страцілі пазалоты.

– Падобна, мы знайшлі твой сямейны архіў! – урачыста абвесціла я. Гальяш прысеў ля мяне, бязважка і павольна пагладзіў альбом, нібыта прыручаў звера, і разгарнуў. Вялікі здымак з літарамі ў куце «ФотоательеНіхель і К°" змусіў мяне захоплена ўздыхнуць. Сапраўдная дама-вамп: тонкі профіль, цёмныя бліскучыя валасы-карэ паказваюцца з-пад капелюша з кароткімі брыламі, доўгая прыгожая шыя, як у Ганны Ахматавай, рука ў карункавай пальчатцы манерна падносіць да ярка нафарбаваных маленькіх вуснаў цыгарэтку ў тонкім муштуку. Вочы вельмі светлыя і

нейкія дзіўныя... Углядаюцца ў невядомую далеч, але быццам чакаюць не прынца пад пунсовымі ветразямі, а атрад гунаў у калматых скурах, якім трэба ўсадзіць па страле ў сэрца.

– Гэта хто? – выдыхнула я. Гальяш дастаў фотаздымак з акуратных паўкруглых пазоў, пераканаўся, што на звароце нічога няма, акрамя надпісу алоўкам: "Багуслава".

– Магчыма, якаясь прабабка. Не ведаю.

Прагарнуў яшчэ адну старонку. На нас глядзелі людзі даўно прамінулай эпохі. У сурдутах, мундзірах, пышных спадніцах да падлогі і шчыльна зацягнутых гарсетах.

– Ну вось гэта неадменна твой продак! – тыцнула я пальцам у фота чалавека ў дыхтоўным касцюме, пры гальштуку, але з тварам паляўнічага, вандроўніка ці ваяра. Вочы быццам свяціліся на загарэлым твары, і напэўна былі шэрага колеру, як у Гальяша, нос, здаецца, перабіты, валасы, таксама светлыя, адкінуты назад, адкрываючы высокі лоб. Подпіс лацінскімі літарамі: "Шымон Каганецкі".

– Нагадвае артыста з прыгодніцкіх фільмаў пра пошукі скарбаў, – зазначыла я. – Хто гэта?

– Не ўяўляю, – напружана прагаварыў Гальяш. – Такога прозвішча ў сям'і ніколі не чуў.

– Ой, а гэтая мясціна мне знаёмая! – радасна сказала я, паказваючы на фотаздымак маёнтка – двухпавярховы будынак, масіўныя белыя калоны, герб над уваходам, не разабраць, які. – Гэта Энгельсаўка, непадалёк ад майго мястэчка. Мы туды ў грыбы ездзім. У будынку было лясніцтва, а цяпер нічога няма, вокны дошкамі забітыя. Разбураецца паціху. А герба над уваходам не памятаю, знішчаны, відаць, яшчэ да вайны.

– А як даўней тая Энгельсаўка называлася? – запытаўся Гальяш, якога, як я спадзявалася, усё больш чаплялі таямніцы мінулага. Да свайго сораму, я не магла дакладна ўспомніць. Нешта такое інфернальнае, замененае на ідэалагічна правільную назву, як Прапойск – на Слаўгарад.

Яшчэ ў альбоме былі пранумараваныя здымкі нейкіх этнаграфічных рэдкасцяў: каляднай маскі, каменнага стода, драўлянага слупа з грубай разьбой.

Наступным скарбам у юлёвай каробцы аказалася загорнутая ў белую сурвэтку, пажаўцелую на згінах, срэбная пласцінка. Калі мы пачалі круціць яе ў руках туды-сюды, разгледзелі на паверхні выяву мужчыны. Малады, са шляхецкімі вусамі, у канфедэратцы. Дагератып, тэхналогія першых фотаздымкаў! Відаць выяву кепска, затое захоўваецца лепш, чым папера. Але ні подпісу, ні лічбаў.

– У цябе дакладна арыстакратычныя карані, Гальяш! – з хваляваннем зазначыла я. Біёлаг пацiснуў плячыма і зірнуў на мяне амаль вінавата.

– Нічога не магу патлумачыць. Бабуля памерла, дзед памёр, маці наўрад што ведае, яе радавод ніколі не цікавіў. Дзеда ненавідзела, з бабуляй сварылася – як жа, дачка-камсамолка збегла да імперыялістаў.

– Я дапамагу разабрацца з гэтымі дакументамі, – вырвалася ў мяне. – Я ж у архівах з падобнымі працую.

Ніколі не прапаноўвайце хлапцу, які вам падабаецца, нават страшэнна падабаецца, сваю дапамогу, калі ён сам не просіць. У іх, мужыкоў, інстынкт: апякаеш яго – ты "мамачка" альбо драпежніца, якая хоча яго акруціць, а калі вакол цябе трэба бегаць з марозівам і паліто – ты чароўная дама, якую ён, магчыма, заваюе, нягледзячы на цяжкасці.

– Дзякую, але гэта не гарыць.

Голас гучаў настолькі знарочыста абыякава, што я абурылася і засмуцілася. Бо абыякавасць да гісторыі, у тым ліку ўласнага роду, уважаю за такі недахоп разумовы і душэўны, што чалавек успрымаецца, як інвалід. Я не хацела б настолькі расчаравацца ў шэравокім біёлагу.

Я моўчкі паклала ў скрынку зноў загорнуты ў сурвэтку дагератып, а Гальяш ужо трымаў у руках пульхны сшытак у зялёнай пацёртай вокладцы, яшчэ адзін экспанат са скрынкі. Сшытак аказаўся ўвесь спісаны цвёрдым почыркам з вострадахавымі літарамі. Вельмі падобна на дзённікавыя запісы... Дата на першай старонцы – 1893 год – падалася мне чамусьці страшэнна знаёмай. Ах, так, гэта ж лічба з каменнага п'едэстала знакамітай скульптуры-фантана "Хлопчык з лебедзем", зробленай у год адкрыцця ў горадзе водаправода. Колькі я на першых курсах сядзела з сябрамі на лаўцы каля таго фантана, сузіраючы гэты надпіс. Дарэчы, пляц з фантанам празвалі "Панікоўкай" – бо хлопчыка, які пяшчотна прыціскае да сябе вялікую птушку, гарадскія жартаўнікі прыпадабнялі персанажу рамана Ільфа і Пятрова "Залатое цяля", старому шалберу Панікоўскаму, што больш за ўсё на свеце любіў гусей.

Але перад намі дзённік, напісаны больш за сто гадоў таму! Подпіс уладальніка знайшоўся: "Багуслава Н". Відаць, тая самая дама з цыгарэткай!

– Гэта табе таксама не цікава? – як мага больш халодна папыталася я.

Ну чаму, чаму патрапіла мне ўтрэскацца ў хлапца, які настолькі не падзяляе маіх інтарэсаў? Ды каб я на антрэсолях нашай хрушчоўкі такое знайшла, я б валяр'янку бутэлечкамі піла, абы сэрца ад радаснага ўзрушэння і прадчування таямніцаў не выскачыла! Але Гальяш усё-ткі, падобна, больш прыкідваўся абыякавым, чым быў. Ён кусаў вусны і вадзіў пальцамі па сшытку, быццам наважваўся... І нарэшце прамовіў глуха:

– Мне страшна.

Ад нечаканага прызнання ў слабасці, ад усведамлення, што я заслужыла такую шчырасць, я зноў расчулілася, расцяклася, як масла на цёплай патэльні.

– Чаму?

Гальяш задумаўся, паціраючы пальцам лоб, такі ж высокі, як у невядомага Каганецкага на фотаздымку.

– Гэта як бы ты азірнуўся назад, і замест дарогі, па якой ішоў, звычайнай такой, асфальтавай, пабачыў пракладзеную над прорвай хісткую кладку. Што ў маім мінулым, чыя кроў ува мне цячэ? Я па звярах ведаю, як шмат значыць парода. Магчыма, мой свет парушыцца, калі я гэта прачытаю, і я ніколі не стану ранейшым. У бальніцах нездарма не даюць хвораму на рукі гісторыю яго хваробы.

– Лічыш за лепшае зрабіць выгляд, нібы мы нічога не знаходзілі? – з выклікам прамовіла я. Гальяш уздыхнуў на поўныя грудзі, быццам рыхтаваўся да бойкі, і шчыра ўсміхнуўся (маё здрадлівае сэрца, вядома, трапятнулася).

– Я не дазволю сабе быць баязліўцам. Тым больш, я ж бачу, як цябе гэта ўсё цікавіць, і артыкулы твае чытаў... – (Чытаў! Трэба ж!) – Ты малайчына. Магчыма, штось і з гэтай скрынкі выкарыстаеш у сваёй працы. Так што...

Гальяш абвёў вачыма загрувашчаны пакой.

– Бог з імі, з трантамі, заўтра сам скончу. Я абяцаў табе гарбату... Вось давай і зладзім вечар за гарбатай і чытаннем старых дакументаў. Ты сама сказала, умееш іх разбіраць, дык і агучыш.

– А калі за вечар не паспеем? – вырвалася ў мяне. Біёлаг неяк занадта ўважліва паглядзеў і павольна прамовіў:

– Тады працягнем заўтра. Мой самалёт толькі праз тыдзень.

Спадзяюся, ён не заўважыў маёй радасці...

Тонкая змяюка нарэшце вырашыла запаўзці ў самы цёмны кут сваёй шкляной турмы і скруцілася надзейным клубком, чарапаха – не паверыце – усё гэтак жа пускала вадзяныя бурбалкі, магчыма, гэта была ў яе доўгатэрміновая медытацыя альбо натхнёныя спевы, тарантул... На тарантула я намагалася не глядзець, так што не магу сказаць, што ён рабіў у той момант. А мы з шэравокім шыракаплечым не маім хлопцам уселіся побач на канапу, засцеленую пледам, зразумела, у краткі, гарбата дымілася ў кубках з зялёнай паліванай керамікі, канапкі з вяндлінай, па-хуценькаму зварганеныя мною, ляжалі гарой у талерцы з такой жа зялёнай керамікі, не хапала толькі агню ў каміне, як і самога каміну.

Я сербанула гарбаты, салодкай «у чатыры лыжачкі», як мне падабаецца, разгарнула першую старонку таямнічага дзённіка і прачытала:

«3.10.1893. Я не люблю фатаграфаваць мёртвых дзяцей».

## КНІГА ЎНУТРАНАГА КОЛА

### Раздзел першы. Пан Ніхель і нахабныя студэнты

Багуслава не любіла фатаграфаваць мёртвых дзяцей.

Праца ёсць праца. Асабліва калі за гэтыя post mortems адсыпаюць грошай, як вандроўнаму менестрэлю пад канец панскага вяселля.

Але ўвекавечванне нябожчыкаў было дурной модай, якая прыйшла ў забытае Госпадам мястэчка, добра пабадзяўшыся па Еўропе...

Уласна кажучы, усё, што сюды дабрыдала ў якасці новага-прагрэсіўнага-моднага, і было такім валацужным фацэтам з падпудранымі зморшчынамі... Тут даношвалі капялюшыкі фасону, якія ў Парыжы даўно пусцілі на зручныя фетравыя падэшвы для хатніх пантофляў, ахвотна куплялі патэнтаваныя эліксіры ад аблысення і грудной жабы, за якія ў Жэневе кагосьці даўно пасадзілі ў каталажку, бо ў тых цуд-мікстурах утрымлівалася конская доза свінцовай атруты... Насілі гарсэты з кітовым вусам і апраналі нанач шаўковыя сетачкі для валасоў, пілі какаву з размаляваных незабудкамі парцалянавых кубкаў, манерна адставіўшы мезенцы, выпісвалі літаратурны дадатак да "Новага часу", але чыталі толькі Надсана, і толькі таму, каб было што працытаваць у гасцях... Прыходзілі ў модную кніжную краму братоў Масевічаў, але куплялі толькі паштоўкі "Любі мяне, як я цябе", і стараліся нават не падыходзіць да паліцаў з падазронай літаратурай кшталту нямецкіх філосафаў, і ўжо, вядома, перабягалі на другі бок вуліцы, калі ў краме ў чарговы раз быўператрус і з яе дзвярэй выкідвалі проста на зямлю шкодныя выданні. І нават не думалі, што можна жыць неяк інакш, не сцінаючыся міжвольна пры выпадковай сустрэчы з панам у форменнай белай фуражцы, а ў галаве пры гэтым мітусяцца непатрэбныя ўспаміны пра найменшыя праявы ўласнай нелаяльнасці... А раптам данеслі, напаклёпнічалі, і будзе пастарунак, суд, катарга, зацемка ў мястачковай газетцы "пригрели змею на груди", "заклеймим позором", "выжжем каленым железом"... Дый нават няхай проста вытураць са службы і перастануць заўважаць на вуліцах...

Тутэйшым цяжка ўявіць, што хтосьці жыве, не ведаючы гэтага ліпу-

чага, агіднага пачуцця, якое халодзіць і раз'ядае душу знутры і завецца Страхам.

Ён жа карысны, гэты страх, для існавання Імперыі – некаторыя лічаць, што ён увогуле неабходны, як клейстар, які змацоўвае дэталі казачнага Кіцеж-града з пап'е-машэ ў вітрыне крамы дзіцячых тавараў. Так, на гэтай зямлі, якую яшчэ нядаўна адно за адным сатрасалі няўдалыя паўстанні, кожны павінен усведамляць сваю недасканаласць, грахоўнасць, якая падлягае пакаранню, і ад гэтага імкнуцца засведчыць сваю лаяльнасць – а найлепей гэта зрабіць, выкрыўшы яшчэ большага грэшніка, чым сам... Бунтаўніка, інсургента, рэвалюцыянера, бамбіста, бязбожніка, іншаверцу, масона альбо сепаратыста, які лічыць, што акрамя вялікага рускага народа тут маюць права жыць і мець сваю культуру нейкія іншыя "народнасці"...

Усё новае ў гэтым свеце здавалася падазроным.

Таму навіной, трохі небяспечнай і амаль неверагоднай, сталася ў мястэчку Б* фотаатэлье пана Вараксы Ніхеля і ягонай дачкі Багуславы.

Як усё, што змяняе жыццё, гэтыя асобы з'явіліся проста і нечакана.

Прыехаў, валюхаючыся, заляпаны гразёй экіпаж, нагружаны абцерханымі куфрамі. На мокрую брукаванку ступіў спадар у светла-шэрым касцюме-тройцы, капелюшы і круглых акулярах у тонкай жалезнай аправе. Падкруціў акуратныя пасівелыя вусы, ацаніў краявіды Наўя і тэатральна развёў рукамі:

– Натуральнасць і шчырасць! Я проста прагну адлюстраваць гэтыя рамантычныя лужыны і платы, хлявы і хлебадайныя лаўкі з дапамогай свайго апарату! Сусветная гісторыя не даруе, калі я гэтага не зраблю, таму мы застаемся, дарагая мая Багута!

Ягоная спадарожніца, паненка з паставай, якая бывае толькі ў ангельскіх гувернантак і асоб, што пазбягаюць выпадковых знаёмстваў, пакрывіла фанабэрыстыя вусны, нафарбаваныя цёмнай памадай, так што здавалася, быццам паненка толькі што насмакталася крыві:

– Не сумняюся, што райскія краявіды і арыстакратычныя фізіяноміі тутэйшага бамонду падымуць ваш фатаграфічны геній, дарагі тата, на парнаскія вышыні... Як, дарэчы, гэтае благаслаўлёнае места называецца, забылася?

Пан Ніхель нечакана спрытна схапіў за плячук аднаго з цікаўных непаўналетніх месцічаў, мурзатага і кірпаносага:

– Малады чалавек, улучыце беднаму вандроўніку трохі ўвагі... Будзьце ласкавыя, нагадайце назву гэтага населенага пункта!

Тубылец змаргнуў вачыма з рудымі вейкамі:

– Ч-чаго?

Ветлівы пан паправіў мезенцам акуляры і перапытаў, у мяккім тоне голаса пазвоньвала сталь:

– Мястэчка як называецца?

Хлапчук шмаргануў кірпатым носам і адказаў з недаверам, як бы не мог паверыць, што хтось на белым свеце можа быць такім недасведчаным.

– Б*, ясная рэч.

І вылупіўся на паненку, як на вылаўленую ва ўласнай студні русалку.

Лупіцца было чаго. Паненка была стрыжаная – цёмныя валасы звісалі з-пад строгага капялюшыка двума бліскучымі крыламі, ледзь дасягаючы падбароддзя. На госці быў модны кардыган у чорна-чырвоныя краткі, зашпілены на ўсе тузіны дробных гузікаў. Твар бледны, з вытанчанымі, але нібыта застылымі рысамі, а вочы колеру веснавога лёду такія светлыя,

што зрэнкі і абадок вакол райка здаюцца асабліва цёмнымі, як і рэзка зламаныя бровы.

– Няхай будзе Б*, і нават з каптуром! – пакорліва згадзіўся пан у акулярах. – Думаю, што тут удасца зняць недарагое памяшканне для студыі.

Так у мястэчка на берагах звілістай рачулкі Наўкі, якая ніколі не гайдала на сваіх кволых хвалях ні ганарыстую купецкую ладдзю, ні баявы карабель з каляровым ветразем, прыйшоў Вялікі Прагрэс у выглядзе фатаграфічнага мастацтва.

Не тое, каб месцічы не бачылі ніколі фотакартак – але былі яны справай дарагой, загадкавай, мала каму дасяжнай. У сем'ях мясцовай арыстакратыі побач з фамільным посудам захоўваліся даўнейшыя дагератыпы – срэбныя пласцінкі з цьмянымі выявамі бацькоў і дзядуляў. А фотакарткі на шчыльным кардоне, з віньеткамі і абрэзанымі зубчыкамі краямі мелі толькі тыя, хто выязджаў у Вільню, Варшаву ці Санкт-Пецярбург.

Ці трэба казаць, што напачатку пазычаць сваё аблічча таемнаму дэману з чорнай скрынкі пана Ніхеля баяліся нават прагрэсіўныя насельнікі горада Б*. У кожнага ў памяці сядзелі аповеды пра скрадзены след і пратнуты спіцай адбітак у лужыне.

Але паступова ў двухпавярховы зялёны будынак насупраць пажарнай часткі, у дзверы пад шыльдай "Фотаатэльe. Пан Ніхель і К°" завітвала ўсё больш месцічаў. Найчасцей замаўлялі сямейныя партрэты – з іх напружана пазіралі чапурыстыя матроны ў капотах і каптурах, мужчыны ў пінжаках і кашулях з накрухмаленымі каўнярамі, дзеці ў гімназічных формах. Ну і, вядома, маладажоны, гордыя той светлай прышласцю, якой яшчэ не займелі і наўрад будуць мець – круглатварыя нявесты ў карункавых капелюшах, жаніхі з вялікімі далонямі ў цесных пальчатках, цяжкімі сківіцамі і глыбока пасаджанымі вачыма, здрадліва блакітнымі, як тутэйшае неба.

Пасля таго, як пана Ніхеля запрасілі ўвекавечыць гарадскую раду на чале з бурмістрам на фоне грандыёзнай будоўлі завода па апрацоўцы драўніны па нямецкай тэхналогіі – адкрыццё таго завода ў хуткім часе мусіла праславіць мястэчка Б* на ўсю імперыю, – паставіць на сервант фотаздымак з уласным абліччам стала не менш ганарова, чым выпісваць газету.

Сям'я Ніхеляў заняла ў горадзе прыблізна такое месца, як у афрыканскім племені ведзьмакі. Ніхто не спрабаваў іх закідаць камянямі, але запрасіць на гарбату ці папрасіць адрас краўца, які так зграбна пашыў касцюм пана Вараксы Ніхеля, нікому б у галаву не прыйшло. Ну хіба суседу-краўцу Навуму Гурэвічу, у якога шылі касцюмы і паліто нават губернатар і паліцмайстар. Але ж гэта пан Гурэвіч, які нават пані бурмістрыху можа змусіць чакаць у чарзе, пакуль здымае мерку з булачніцы Манькі, бо булачніцу, як вядома, за хвілю не абыйдзеш.

Некаторыя асабліва нервовыя паненкі ўскрыквалі і страчвалі прытомнасць ад успышкі магнэзіі, якім суправаджаўся кожны здымак. Праўда, гэтак жа яны рэагавалі на магнетычныя сеансы італьянскага гастралёра, прыхільніка вучэння Месмера, спірытычныя сеансы таўсманнай егіпецкай жрыцы праездам з Мелітопаля, а таксама на навальніцы, гарматныя стрэлы ў дзень тэзаімяніцтва ягонай імператарскай вялікасці і ўсмешку маладога чарнавусага і буйначубага пана Адальфа Мянчынскага.

Менавіта з-за такога стаўлення, якое рабіла прыхадняў з фотакамерай

адначасова і выбранцамі, і ізгоямі, ніхто асабліва не абураўся недзявочымі паводзінамі панны Багуславы, якая дапамагала бацьку ў ягонай таямнічай справе звыкла і спрытна, а часам бацька перадавяраў ёй увесь працэс. А як Ніхелі ў пакоі без вокнаў з дапамогай смярдзючых рэактываў, хімікаліяў ды варажбы пераносілі адбіткі са шкляных бромжэлацінавых пласцінаў на паперу, добрапрыстойныя месцічы нават ведаць не хацелі. Хіба што непаўналетнія насельнікі горада Б* распавядалі адзін аднаму страшныя гісторыі пра свае вылазкі ў пракляты дом – у гісторыях абавязкова прысутнічалі безгаловыя прывіды і зачараваныя скарбы, бедная ўдава Параска, якая зарабляла сабе на жыццё прыслугоўваннем ды самую крышку шаптаннем на ваду, распавядала пра пякельны смурод, які даносіўся з сутарэнняў фатаграфічнага дому. Да таго ж часцяком у тонкіх пальцах панны Багуславы бачылі і такі д'ябальскі прадмет, як тонкія доўгія цыгарэткі – дагэтуль у горадзе толькі старая пані судзейская курыла, праўда, не цыгарэты, а люльку з чорнага дрэва, што засталася ў спадчыну ад нябожчыка-мужа.

Усё мужчынскае насельніцтва горада Б* пагаджалася, што фатаграфічная паненка прыгожая. Але й пасля трох куфляў добрага піва з Ёселевай карчмы ніхто, нават пан Адальф Мянчынскі, не наважыўся б падысці да панны Ніхель з куртуазнымі намерамі.

Асабліва калі яна прагульвалася па мясцовых могілках.

А рабіла яна гэта так часта, як іншыя паненкі начышчалі абцасамі адзіны ў мястэчку брукаваны кавалак вуліцы паміж французскай кавярняй і домам бурмістра.

Ходзіць сабе такая фанабэрыстая танклявая гадаўка, захутаная ў шалю, паміж магіл, і толькі перахрысціцца застаецца ды скіравацца падалей, да царквы з нядаўна надбудаванымі пазалочанымі "цыбулінамі".

Так, нават цэрквы ў гэтым мястэчку былі нядобранадзейнымі – бо раней іх будынкі належалі альбо ўніятам, альбо каталікам. І няхай храмы перабудоўвалі і залацілі ім галовы, іхнія сцены, магутныя, разлічаныя на стрэл гарматы, памяталі занадта шмат... Кроў, крыкі, страх і нянавісць усмоктваюцца ў камяні і цэглу гэтак жа, як таемныя спадзяванні – у сны. Каб зноў і зноў вяртацца – ценем, адчуваннем, трывогай.

Падазроны край, падазронае мястэчка... Акрамя дзвюх цэркваў, у ім былі касцёл і дзве сінагогі, і нават лютэранская кірха, бо тут атрымалі дазвол пасяліцца немцы-лютэране. Некаторыя з іх мусілі спрыяць адкрыццю прагрэсіўнага дрэваапрацоўчага завода, надзеі мясцовых уладаў на росквіт.

Тое, што менавіта іншаверцы найчасцей наведвалі атэлье Ніхеляў, толькі пацверджвала вядзьмарскі статус фатографаў.

Дык вось, апошнім часам пан Варакса і панна Багуслава ўсё часцей выязджалі да нябожчыкаў. Бо калі паміраў хтось, не адлюстраваны на фотаздымках, асабліва дзіця, родзічы лічылі гэта вялікай ганьбай. Калі партрэт не паспелі зрабіць пры жыцці, нябожчыка фатаграфавалі, як жывога. Часта разам з сямейнікамі. Дзеля чаго апраналі труп у самае лепшае і надавалі патрэбную позу. Укладвалі ў рукі кабеце вязанне, мужчыну – кнігу, дзяўчынцы – ляльку. Хлопчыка маглі пасадзіць на драўлянага коніка. Асабліва жудасна атрымлівалася, калі нябожчык пачынаў калець, у яго не закрываліся вочы, і на фатаграфіі адбіваўся гэты каламутны, нетутэйшы позірк. Багуслава згадвала пра сярэднявечныя скокі смерці, у якіх жывыя павінны былі ўяўляць, што танчаць з мерцвякамі.

З жывымі дарослымі было лягчэй, а вось дзеці на памерлых братоў і

сясцёр касавурыліся з жахам, асабліва калі іх прымушалі да мерцвякоў датыкацца, кідаліся ў плач, адштурхоўвалі тое чужароднае, схаладнелае, з інстынктыўнай агідай. Угаворы, крыкі, пагрозы дарослых... Вяночкі, карункі, васковыя кветкі... Пудра, памада... Дрыготка агіды жывых і пачарнелыя пазногці мёртвых... Заплаканая кабета са схаладнелым немаўлём на каленях расцягвае вусны ва ўсмешцы, не менш нежывой...

Чаму ў Багуславы ўсё яшчэ відовішча смерці адгукаецца болем? Каму-каму, а ёй павінна быць абыякава. Прынамсі, пан Варакса толькі гмыкае скептычна, калі дачка мімаволі адводзіць вочы ад асабліва выразных пост-мортэ і нервова зглытвае...

Сапраўды, зусім недарэчная сентыментальнасць. Смешна.

Сарданічны смех, Risus sardonicus – тая ўсмешка, падобная да выскалу, што застывае на тварах памерлых ад слупняку. Куты роту рэзка апушчаныя, бровы прыўзнятыя, сківіцы моцна сціснутыя...

Цікава, ці можна сфатаграфаваць самую смерць? Яе Жняцоў? Адыход душы, якая яшчэ не ўсведамляе, што пакінула свой зямны футарал? Адзін з піянераў фатаграфічнага мастацтва, Іпаліт Байяр, быў у такім адчаі, калі французская Акадэмія вырашыла падтрымаць даследванні не ягоныя, а ягонага суперніка Дагера, што зрабіў свой фотаздымак у выглядзе тапельца. Апушчаная галава, скрыжаваныя рукі, аголены торс, на сцяне вялізны саламяны капялюш, як сымболь пакінутай жыццёвай мітусні з яе атрыбутамі... А прысутнасці смерці няма.

Вось на тым дагератыпе, што Багуслава зрэдку дастае са свайго куфэрка, смерць ёсць. Хаця малады чалавек на дагератыпе, у чамарцы і канфедэратцы, з задзірыстымі шляхецкімі вусамі вясёлы і дзёрзкі, ягоныя светлыя вочы пазіраюць з-пад прамых густых броваў адважна і трохі іранічна, рука ляжыць на дзяржальне шаблі...

Але Багуслава бачыць тут смерць так выразна, як ваўкалак мечаную кулю.

Часам смерць бачная і ў адсутнасці трупа. На фотаздымку Франсуа Обера 1867 года – усяго толькі кашуля. Кашуля расстралянага імператара Максіміліяна. На белай тканіне з элегантнымі дэкаратыўнымі зашчыпамі – дзіркі ад куль з запеклай крывёй. І гэта страшна больш, чым відовішча трупа.

...Апошнія шкляныя пласцінкі з выявамі былі размешчаныя ў спецыяльныя ячэйкі драўлянай скрынкі, з рук змытыя рэактывы, якія пакідаюць на скуры жоўтыя плямы... За вокнамі загарлалі аптымістычныя пеўні горада Б*, перакідваючы адзін аднаму навіну пра тое, што жыццё працягваецца, быццам гульцы – падпалены скрутак, а той, хто выпусціць, прайграе.

Званочак ля дзвярэй фотаатэлье пана Вараксы закалаціўся, быццам таксама хацеў далучыцца да хору сонечных вестуноў.

Наведнікаў было двое. Абодва маладыя, з такімі насцярожанымі позіркамі, нібы прыйшлі не ў фотаатэлье, а ў намёт да татарскага хана, ад якога ці ярлык на княжэнне, ці сякір-башка. Адзін, вышэйшы і плячысты, лабасты, з цёмнымі пышнымі кудзерамі і маленькай нігілістычнай бародкай, якая дзіўна спалучалася з па-дзіцячы пульхнымі вуснамі, быў у танным, але чыстым і адпрасаваным паліто, з-пад каўняра якога вызірала не звычайная кашуля, а вышыванка. Ягоны таварыш, больш шчуплы і рудавалосы, з рэдкімі вусікамі і трохі штучнай усмешкай, сіратліва хаваў рукі ў кішэнях патрапанага студэнцкага шыняля, а падбароддзе – у наматаны на шыю белы вязаны шалік.

Студэнты ў зношаных шынялях – заказчыкі не самавітыя... Але пан Ніхель пакланіўся гэтак жа гжэчна, як бы да яго завітаў сам бурмістр.

– Чым магу дапамагчы панам? Партрэт? Групавы здымак?

Багуслава абыякава прыхілілася да сцяны, скрыжаваўшы рукі. Як ёй гэта надакучыла... Гэтая ветлівасць, гэтыя танцы на дроце...

Барадаты ў вышыванцы слізнуў вачыма па сценах, завешаных узорамі фатаграфічнага майстэрства: кацяняты ў кошыках, усмешлівыя дзеткі з ружамі і сабачкамі, паненкі з мройнымі вачыма ў капелюхах-клумбах...

Узоры падманвалі, як ім і належала. Праўда толькі ў тым, чаго нельга паўтарыць, пераняць. Самым адметным, бадай, быў партрэт Багуславы, зняты Ніхелем у багемнай манеры. Тонкі профіль, рука ў пальчатцы падносіць да ярка нафарбаваных вуснаў тонкую цыгарэтку ў доўгім муштуку... Барадаты зацікаўлена скасавурыўся на дзёрзкі партрэт, потым на Багуславу, і зноў утаропіўся ў гаспадара.

– У нас ёсць заказ. Выязны. Папрацаваць у маёнтку Жухавічы, на паховінах. Заўтра трэба там быць.

Голас госця гучаў з незразумелым выклікам.

– Жухавічы? – пан Ніхель здзіўлена прыўзняў бровы. – Калі не памыляюся, за трыццаць вёрст, у самай Волатавай пушчы, а калі ўлічыць, што нядаўна была залева, дарогі паплылі... Не думаю, маладыя людзі, што магу пагадзіцца на такую замову – не ў тым я ўзросце, а дачцэ тым болей не пасуе мясіць восеньскую гразь і блукаць па лясах.

– І ўсё-ткі мы спадзяемся вас угаварыць! – дзёрзка заявіў шчуплейшы юнак. – Справа надта важная. Высакародная. Ды вы ганарыцца будзеце, што паўдзельнічаеце!

Аж чырвоныя плямы ад узрушэння на запалых шчоках загарэліся. Пан Ніхель зычліва ківаў галавой, як добры дзядзька перад малечам, якое прапануе яму пакаштаваць булку, зьлепленую з пяску.

– Вы чулі пра графаў Каганецкіх, Радаслава ды ягонага сына Антонія? Знакамітых калекцыянераў, у якіх унікальныя зборы старажытнасцяў? – спытаўся вышэйшы. – Колькі курганоў раскапалі, старых капішчаў... Колькі па вёсках паездзілі, збіраючы так званыя вядзьмарскія кнігі! Пан Антоній рэшткі маёмасці спусціў, якія бацька ягоны, пачынальнік калекцыі, не паспеў у карты прайграць, затое з усяго свету нацягаў рэліквіяў, ад афрыканскіх бажкоў да егіпецкіх мумій. Кажуць, рарытэты неверагодныя!

Цёмныя вочы юнака загарэліся, як у шчанючка, перад носам якога прабегла смарагдавая яшчарка, такая яму спакусная, бо на зуб яшчэ не каштаваў. Другі госць з тугою ў голасе падтрымаў:

– І нікога з навукоўцаў да сваёй калекцыі за ўсё жыццё ні бацька, ні сын не дапусцілі. Толькі са слоў рэдкіх сведкаў пра яе вядома. Доктар Боўнар, сваяк Каганецкіх, называе Жухавічы дасканалым музеем шатана.

– Але ж аматар эзатэрыкі пан Антоній даўно памёр, наколькі я чуў, – ветліва, але з належнай доляй сухасці прамовіў пан Ніхель.

– А нядаўна памерла і ягоная ўдава пані Антаніна Каганецкая, згодна запавету мужа седзячы на той калекцыі, як сабака на сене! – барадаты кліент у нецярпенні ступіў наперад. – І ў бліжэйшыя два дні ў нас – адзіная магчымасць зафіксаваць для нашчадкаў хоць нешта! Прабачце, мы не прадставіліся. Я – Міхал Калоцкі, археолаг, магістрант Санкт-Пецярбургскай акадэміі...

– Давыд Масевіч, студэнт, будучы этнограф – да вашых паслугаў! – пакланіўся шчуплы.

– Я працую над дысертацыяй па гісторыі Беларусі, – з выклікам заявіў Міхал. – Спрабую вярнуць гэтаму краю ўсё, што ў яго аднялі. Кожная рэч, якая дапаўняе нашу гісторыю, каштоўная!

Юнакі ўтаропіліся ў гаспадара, відавочна падрыхтаваўшыся абараняць свае ідэі.

– Што ж, я быў калісьці знаёмы з панам Аляксандрам Рыпінскім, маім калегам, які пасля няўдалага бунту быў змушаны жыць за мяжой і адкрыў у ваколіцах Лондана фотаатэлье па метадзе Дагера, – добразычліва прамовіў Ніхель. – Апошнія свае гады ён жыў дзесьці пад Лёзна, хадзіў па мужыцкіх вяселлях ды хрэсьбінах і запісваў старадаўнія народныя песні. Кажуць, нават збіраў хрэстаматыю беларускай літаратуры. Але хто ж яе надрукуе...

Калоцкі, так і не вычуўшы належнай дозы іроніі, працягнуў:

– А тут такая катастрофа... – археолаг махнуў рукой, сціснутай у кулак, нібыта ўдарыў нябачнага ворага. – Спадчыннік Каганецкіх, чалавек, які ўсё жыццё цягаецца па нейкіх суматрах ды явах, прыехаў, каб пахаваць мачыху – і знішчыць бацькавы калекцыі! З блаславення, вядома, мясцовых святароў. Бязбожныя рэчы, ідалы...

– Цемрашалы! – з нянавісцю выгукнуў Давыд. – Мала ім таго, што столькі бясцэнных кніг з уніяцкіх кляштароў, абразоў мясцовай работы, прызнаных недастаткова праваслаўнымі, тут спалена!

Нешта надта госці шчырыя, гэтак лёгка раскрываюць сваё няверна-падданіцкае, сепаратысцкае нутро, – лянiва адзначыла Багута. Наіўныя? Ці ўладальнікі гэтага фотаатэлье чымсьці выклікалі іх давер? А вось гэта ўжо лішняе... Гэта ўжо нядобра...

– Пакуль спісаліся з тым спадчыннікам, графам Шымонам Каганецкім, пакуль атрымалі адказ – дазвол прыехаць і сфатаграфаваць экспанаты, тыдзень прамінуў! – горача працягваў Міхал Калоцкі.—Цяпер вы разумееце, чаму нельга марудзіць?

Пан Ніхель ні на каліва не страціў спакою.

– Думаю, на пахаванне вы ўсё адно безнадзейна спазніліся, і пані Каганецкая ўжо спачыла ў радавым склепе. Помніцца, я чытаў, што гетмана Радзівіла Рыбаньку хавалі цэлы год – забальзамавалі цела ды ладзілі хаўтуры на ўсё княства. Але не думаю, што паны з Волатавай пушчы замахваюцца на гэткія фараонавы звычаі. Што тычыцца дарагіх вашаму сэрцу экспанатаў... – пан Варакса нібыта ў роздуме падкруціў вусы. – Паважаю людзей, якія захопленыя сваёй справай. Але грандыёзныя ідэі дорага абыходзяцца, маладыя людзі. За звычайны выезд на пахаванне ці вяселле дзеля тузіну фотаздымкаў мы бяром не менш трыццаці рублёў. А тут – справа для цэлай экспедыцыі, рахунак на сотні... Ведаю, што ў суседнім мястэчку адзін настаўнік мае апарат, калі вы прапануеце яму хаця б трыста рублёў...

– У нас ёсць трыццаць, – цвёрда гледзячы ў вочы пану Вараксу, прамовіў барадаты студэнт. – І больш дастаць няма дзе – мы спрабавалі, паверце. Нас з Давыдам у гэтым мястэчку ўважаюць за небяспечных дзівакоў. Нават Давыдавы сваякі, людзі заможныя, адмовіліся яму пазычыць! Забараняли з Каганецкімі звязвацца... Каб быў час...

Фатограф камічна развёў рукамі: самі, маўляў, разумееце, панства, тады і размовы не варта весці. Сфатаграфаваныя красуні, выпускніцы мясцовай жаночай духоўнай вучэльні, пагардліва паглядалі з-пад ажурных брылаў капелюшоў на нахабных студэнтаў.

– І ўсё-ткі, я думаю, вы пагодзіцеся ехаць з намі, – прамовіў Калоцкі павольна, як ступаюць па тонкі лёд. – Вы не адмовіце нам, інакш... – уздыхнуў, перазірнуўся с сябрам, наважваючыся, і сказаў, як з адхону скокнуў. – Інакш, прабачце, але паліцыя даведаецца, што вырабляецца ў лабараторыі гэтага атэлье, і якія насамрэч выконваюць заказы вядомыя тэрарысты Ян Ранарыч і Багуслава Кленчыц.

Кацяняты на здымках ледзь не пахаваліся за пасярэбраныя рамачкі, таму што мізансцэна змянілася так хутка, быццам павярнуўся чароўны ліхтар. Багуслава стаяла за спінай археолага, трымаючы пад ягоным падбародзем вострае лязо стылета, а на шчуплага этнографа пазірала руля пісталета, які нібыта сам па сабе ўзнік у руцэ пана Вараксы. Студэнты, вядома, збялелі і спацелі, але не зварухнуліся.

– Гэта вам не дапаможа, – з ледзь заўважнай дрыготкай у голасе прамовіў Калоцкі. – Вы ж павінны разумець – мы не прыйшлі б з такой заявай да вас, не паклапаціўшыся пра сваю бяспеку.

– Ай-яй-яй, – дакорліва прамовіў Ніхель, ветласць якога цяпер, у спалучэнні з пісталетам, магла настрашыць. – Студэнты, вучоныя, прагрэсіўныя людзі – і даносчыкі, працуюць на паліцыю. Што скажуць у вашым асяродку, калі даведаюцца, што вы выкрылі рэвалюцыянераў, барацьбітоў з самадзяржаўем?

Госці апусцілі вочы, прызнаючы слушнасць заўвагі: слава агента паліцыі – не тое, чым можна ганарыцца ў ліберальна-інтэлігенцкіх колах, дастанецца такому лаяльнаму гарохавы вянок.

– Ну дык і не варта даводзіць да скрайнасцяў! – загаварыў Калоцкі, якому было страшэнна нязручна стаяць, задраўшы падбароддзе, а да шыі датыкаецца сталёвае джала – рука Багуты ніколі ў такіх выпадках не дрыжэла. – Падумайце, пан Ніхель! Навошта ўсё ўскладняць? Тры гадзіны на дарогу туды, столькі ж назад, дзень пафатаграфаваць – і ў разлік! Мы з Давыдам дамо слова гонару, што нікому пра вас не раскажам. З'едзем у Піцер – і зоймемся кожны сваёй справай.

Багуце надакучыла камедыя:

– А хто нам перашкодзіць забіць вас па дарозе ў тыя Жухавічы і знікнуць?

Пульхныя вусны магістранта-археолага ўздрыгнулі.

– Не думаю, што для вас ёсць сэнс з'язджаць да Калядаў, да таго, як адкрыюць дрэваапрацоўчы завод!

Багуслава прыціснула лязо шчыльней да шыі нахабы.

– Гэта ты пра што, мярзотнік?

Адказаў этнограф, якому нішто не ціснула на шыю, але голас гучаў здушана:

– Ну як жа, усе ведаюць, што на адкрыццё завода прыедзе хтось з царскай сям'і, збярэцца ўсё начальства, арыстакратыя... Мы вырашылі, што вы не выпадкова атабарыліся ў гэтым мястэчку. Так што – дапамажыце нам, папрацуйце на навуку, і не прыйдзецца ламаць уласныя планы.

Масевіч па-дзіцячы хлюпнуў носам і тут жа ганарыста задраў падбароддзе, пакрытае светлым пушком, каб не выглядала, што ён баіцца.

– Вы не адказалі на галоўнае пытанне – адкуль вы пра нас даведаліся?

Голасам Ніхеля можна было расколваць лёд. Археолаг зглытнуў, мімамолі касавурачыся вачыма за спіну, на магчымую сваю светлавокую смерць, і прахрыпеў:

– Выпадак. Я быў сведкам замаху на генерал-губернатара на Сянной. Паліцыянты хапалі ўсіх, хто быў у той час на вуліцы. Разам са мной вычапілі старога па мянушцы Ваўчура...

Пан Варакса апусціў пісталет.

– Балбатлівы недаробак той Ваўчура... Можаш схаваць нож, Багута.

– Між іншым, паліцыі ён не сказаў ні слова, – змрочна прамовіў археолаг, паціраючы шыю, на якой засталася заўважная драпіна. – Але я ніколі не забудуся, як стаім мы, заклаўшы рукі за галаву, у калідоры пастарунка, насамі да аблезлай, шэрай сцяны, быццам створанай для таго, каб на яе пляваць, і я, раззлаваны ўшчэнт, шапчу, што правільна ўчынілі тэракт, абавязкова знайду тых герояў і да іх далучуся. Ваўчуру перасмыкнула, а пасля, калі мы апынуліся ў адной камеры, ён распавёў тое-сёе пра маіх герояў. І я зразумеў, які я дурань... Быў.

Калоцкі з выклікам паглядзеў на Вараксу. Багута пакрывіла бледныя вусны.

– Значыць, вы паразумнелі, а мы з Янам засталіся дурнямі?

– Ваўчура не казаў – дурныя... Ён казаў – пачвары.

Давыд у жаху стукнуў сябрука локцем у бок. Але пан Ніхель толькі расцягнуў вусны ва ўсмешцы, быццам яму падалі філіжанку кавы з вяршкамі.

– Як толькі нас не называюць, маладыя людзі. Мне больш падабаецца – інквізітары рэвалюцыі.

Багута скрывілася: яна не любіла пафас ілжэ-бацькі. Калоцкі таксама ледзь стрымаў скептычную ўсмешку.

Паўзу, даволі такі напружаную, парушыў вясёлы званочак, у атэлье сунулася жонка пана пісара, трымаючы на руках шчакастае немаўля ў каптуры, шчодра прыкрашаным карункамі і блакітнымі стужкамі. Пан Варакса схіліўся ў паклоне.

– Ах, як шкада, мая дарагая пані, што вы не прыйшлі трохі раней. Мы з дачкой мусім неадкладна ехаць на пахаванне. Самі разумееце – святая справа, пакінуць памяць аб нябожчыку несуцешным сваякам...

Што ж, зноў Варакса ўсё вырашыў сам. Падобна, студэнты перамаглі. Назаўсёды з'язджаць з горада, дзе столькі сілаў укладзена ў падрыхтоўку тэракту, падводзіць усю арганізацыю сапраўды было глупствам – пакуль ёсць хоць найменшая магчымасць усё здзейсніць.

Брычка, загадзя нанятая гасцямі, мусіла пад'ехаць праз гадзіну. Пан Варакса спусціўся ў лабараторыю пакаваць інструменты... Ну, і найлепей прыхаваць тое, чаму не варта трапляцца на староннія вочы. А Багуслава стамлёна прысела на плеценае крэсла, у якім перафатаграфаваўся не адзін тузін павятовых прыгажунь. Як абыдзецца Ніхель з непажаданымі сведкамі? Наколькі ведала Багута свайго настаўніка, той нічога не прабачаў і не забываў. Дзяўчына ўявіла два целы ў глухой лагчавіне, заваленыя галлём, і тужліва зацягнулася цыгарэтай, устаўленай у касцяны муштук. Але хіба яна можа асуджаць? Дваццаць хвілін таму фатографка была на валасіну ад таго, каб чыркануць стылетам па горле нахабнага юнака трохі мацней... Так, каб перарэзаць артэрыю. Чалавека ўвогуле можна забіць вельмі лёгка... Багуслава гэта ведала лепей, чым іншыя.

Так, пачвара. Вядома, пачвара...

Пра гэта ёй крычалі яшчэ дзяўчынкі ў пансіёне, у садзе, напоўненым водарам язміну і бэзу, на перапынку паміж арыфметыкай і Законам Божым. Яны штурхалі яе, шчыпалі – дачка катаржніка, здрадніка, паляка-фарма-

зона, худая і бясколерная, як паганка. Такая і магла нарадзіцца толькі на атрутнай глебе сібірскай катаргі, выцягнутая адтуль нечай міласэрнасцю – усё-ткі дваранская кроў. Але не мела гэтая істота права знаходзіцца побач з будучымі палкоўніцамі і маёршамі... Дзяўчынкі ж заўсёды марыць пра вайскоўцаў, дужых, вусатых і ганарыстых, праўда?

Багуслава марыла толькі пра тое, каб яе пакінулі ў спакоі. І каб не чапалі адзінае, што засталося на памяць ад бацькоў, якія ляжаць у сібірскай зямлі – срэбную пласцінку, дагератып з выявай адважнага прыгажуна ў канфедэратцы...

Вядома, партрэт бунтаўніка пансіянеркі і пастараліся адабраць. Напэўна, каб ізноў пакараць хоць выяву даўно мёртвага злачынцы, як прынята ў дзікуноў і выключна вернападданых асобаў.

Багута не можа ўспомніць, як усё адбывалася. Хаця падзеі таго травеньскага дня дасюль пракручваліся ў памяці вядзьмарскім калаўротам. Проста яе шчуплае, але жылістае цела, звыклае да холаду і ўдараў, само ведала, што рабіць – імклівыя рухі яшчаркі, кідкі гадзюкі.

Магчыма, звычайныя хатнія дзяўчаткі разбегліся б адразу, сутыкнуўшыся з такім шалёным супраціваў, але тут вучыліся на казённы кошт сіроты, закінутыя атожылкі дваранскіх родаў, звыклыя да законаў зграі. Старонняга назіральніка здзівіла б, як білася Багута – з недзіцячай жорсткай развагай: найперш трэба заваліць вось гэтую зубастую, кірпаносую завадатарку з пукатымі вачыма і тоўстай русявай касой, укладзенай бублікам, астатнія адступяць. І з недзіцячай упэўненасцю, што калі не адбароніцца – заб'юць.

Зубастая таўсманая дзеўка захрыпела і павалілася на зямлю, вочы яе закаціліся.

– Забілі!

Вакол адразу апусцела, пацішэла... Да звону ў вушах пацішэла... А можа, гэта дзумкаюць пчолы, збіраючы дзівосны мёд кветак? І няхай карэнні кустоў, на якіх тыя кветкі ўзгадаваныя, усмакталі рэкі крыві і нечыстотаў, мёд будзе духмяным і салодкім.

– Вы, безумоўна, Багуслава Кленчыц! – да маленькай забойцы, якая застыла на фоне квецені язміну і бэзу лялькай са зламанай спружынай, прыціскаючы да запэцканага крывёй калісьці белага фартуха дагератып, падыходзіў спадар у акуратным касцюме-тройцы, з такой ветлай усмешкай, нібыта знаходзіўся на дабрачынным кірмашы. – Ты малайчына. За свой гонар і за гонар такога бацькі, як твой, варта біцца!

Ён яе хваліць? Багута маўчала, насцярожана пазіраючы на незнаёмца. Няўжо ён увесь гэты час назіраў за бойкай? Чаму не ўмяшаўся? Але думкі блыталіся, таму што краем вока бачылся тое, страшнае, што ляжала на траве... Дзіўна, але спадар пераступіў цела таўсманай пансіянеркі нязмушана, быццам цераз калоду, схіліўся да Багуты і загаварыў па-змоўніцку, упэўнена і амаль весела:

– Мяне завуць Ян Ранарыч, я быў добрым сябрам твайго бацькі, адважнага Марцыяна Кленчыца. Доўга шукаў цябе. І мяркую, што варта неадкладна цябе адсюль забраць. Як ты думаеш, Багуслава?

Усё бліжэй чуліся крыкі... Дзяўчынка, з цяжкасцю пераадолеўшы здранцвенне, змагла толькі кіўнуць галавой, сціскаючы дагератып, аж краі балюча ўразаліся ў даланю.

Коні ў брычцы пана Яна былі хуткія і сытыя. Куды яны везлі? Якая розніца. Ад нечаканага апекуна пахла тытунем, дарагім адэкалонам і порахам.

Багута з маленства добра ведала пах пораху.

На начлег спыніліся толькі позна ўвечары, у прыдарожнай гасцёўні, прапахлай гарэлымі блінамі, кіслай капустай і гарэлкай. Першае, што сказаў пан Ранарыч дачцэ свайго сябра, калі яны апынуліся сам-насам у пакоі, было:

– Ну вось, ты і пачала адлік сваёй помсты. З удалым пачаткам, панна Кленчыц!

І зноў усміхнуўся, добразычліва так, прыемна...

У яго такі талент – рабіць усё зразумелым, натуральным.

А Багуслава – каб магла тады крычаць, закрычала б, каб не адвучылі плакаць – плакала б... Але яна сапраўды была атручаным парасткам, пустазеллем, якое толькі выпадкова не выпалалі.

А яшчэ яна была прыроджанай забойцай.

Так сказаў пан Ян. Яму заставалася толькі адшліфаваць яе таленты і даць простыя і ясныя мэты. Высакародныя, а як жа. Што яшчэ можа ўтрымаць такіх, як яны, на мяжы вар'яцтва?

Інквізітары рэвалюцыі...

Няўжо і тым, сярэднявечным, інквізітарам у перапынках паміж прыступамі халоднай ятрасці ваяра і пякучага задавальнення, што зло пакаранае, было гэтак жа моташна ад саміх сябе? Гэтак жа расцякаўся ў грудзях халодны жах ад усведамлення – гэта назаўсёды, гэтая кроў на руках, як у Каіна, душа ў праказе смяротнага граху... Словы малітвы страшна вымавіць услых, бо вусны іх не вартыя... У царкве Багуслава дазваляла сабе стаць толькі ў прытворы. Яко мытар. Яко разбойнік. Душагубца. Хаця ў мэтах канспірацыі пан Ян патрабаваў, каб яны станавіліся наперадзе і выяўлялі іставую малітву. Выяўлялі, вядома – не маліліся. Бо ў рэвалюцыянера адна вера – у змаганне. У тое, што ўсё, што яны робяць, урэшце прывядзе да чагосьці вялікага, светлага і справядлівага, нават калі ў тым светлым не будзе месца такім кроплям цемры, як яны.

Багуслава Ніхель. Багуслава Ніхто. Ці мог прыгожы юнак на дагератыпе апраўдаць яе?

Багуслава загасіла недапалак... У роце гарчыла, як ад палыновай настойкі. Фатографка часам шкадавала, што кінула какаін, які на нейкі час даваў гарантаваную лёгкасць і ўпэўненасць. Але надта жахлівай падавалася пустэча, што непазбежна прыходзіла на месца лёгкасці. Надта не хацелася быць залежнай яшчэ ад чагосьці. Багута нагледзелася на людзей, у якіх трэсліся ад нецярплівасці рукі, калі яны даставалі з кішэні бляшаначкі з коксам. Экзальтаваныя паненкі, што нюхалі эфір – новая мода, якая, на шчасце, не дайшла да мястэчак кшталту Б* –набывалі прыгожае сіняе адценне скуры і прыкметы старэчага маразму. Многія падсядалі на морфій... Асабліва пасля франка-прускай вайны – амаль усе жаўнеры вярнуліся з яе марфіністамі. Мала таго, што наркотык калолі параненым, і ўвогуле ад любой хваробы, але ўсе, ад навабранца да афіцэра, ужывалі атруту "для ўзняцця баявога духу". Малады модны ўрач Зыгмунд Фройд настойліва раіў прапісваць морфій усім, бо сам зведаў ягонае "дабрадатнае" ўздзеянне і быў уражаны, калі сусветны кансіліум калегаў вынес вердыкт аб шкоднасці "ўсемагутнага" рэчыва.

Што толькі не прыдумае чалавек, каб выйсці за межы сваёй вартай жалю, абрыдлай клеткі адчуванняў і асацыяцыяў, каб хоць трохі пабыць не сабой! Каб забыцца, што твой унутраны свет – усяго толькі пляцоўка вечнага змагання Бога і Звера.

Адзін іх таварыш расказваў, як ягоны дзед неяк патрапіў на адну з тых “райскіх начаў”, якія ўчыняў у Вільні “кароль цынікаў”, былы палкоўнік канфедэратаў і расейскі шпіён Ігнацы Хацкевіч. Нараніцу прадзед пускаў сліну і плакаў, і яго давялося адправіць у маёнтак, дзе да канца жыцця яго карміла жонка з лыжачкі, а ён толькі енчыў, як хоча яшчэ хоць раз пабачыць дзівосы, што з’явіліся яму ў доме Хацкевіча ў дыме азіяцкіх зёлак.

Не, абыдзецца без дурману... Больш за ўсё Багута цаніла волю. Нават Ніхель гэта разумеў – і быў з ёю асцярожлівы, як з прыручаным леапардам.

А яшчэ чамусьці чапляла, што ў вачах гасцей, нахабных шантажыстаў і магчымых даносчыкаў, гэтых спешчаных юнакоў, бачылася пагарда, быццам на дне кубка з салодкім віном – мёртвы вусень, які не дажыў да крылаў.

Багута страсянула каротка стрыжанымі валасамі – яна фарбавала іх басмай у чорны, як крыло тругана, колер, і пайшла пакаваць саквояж. Маёнтак у пушчанскіх нетрах – самае месца для крывавых таямніцаў. Трэба прыхапіць яшчэ адзін пісталет, той, з інкрустацыяй з зялёнага перламутру.

## Раздзел другі. Спадкаемца маёнтка Жухавічы

Жалезныя вароты, упрыгожаныя іржавымі ваўчынымі галовамі, рыпелі, як быццам упрошвалі не пускаць падазроных гасцей. Прыслужнік, смуглявы змрочны тып з перабітым носам, у белай кашулі і скуранай камізэльцы, са звязанымі на патыліцы ў неахайны хвост валасамі, сам падобны да ваўка, прыслухоўвацца да скаргаў старога металу не збіраўся. Ён няспешна адчыніў па чарзе абедзве створкі варотаў і абыякава кіўнуў прыхадням, маўляў, праязджайце. І нават галавы ім услед не павярнуў.

Вядома, на што тут глядзець... Брычка, так заляпаная гразёю, быццам яе дасталі з балота, і гэтак жа ўгвэзаныя пасажыры – двое маладзёнаў, адзін у студэнцкім шынялі, другі ў кажушку і вышыванцы, і светлавокая паненка ў габардзінавым паліто і ваўнянай дарожнай спадніцы, на падоле якой можна ўжо было штосьці сеяць. Хіба што сівавалосы пан з акуратна падкручанымі вусамі, у акулярах і капелюшы з вялікімі брыламі выглядаў фацэтна, нягледзячы на тое, што па пояс таксама быў у гразі.

Што ж, усе калюгі пералічылі, усім вожыкам пра свой кепскі настрой смачнай лаянкай давялі, нягледзячы на прысутнасць дамы. Якая, папраўдзе, выказвалася ціха, скрозь зубы, але найбольш выразна. Восеньскія тутэйшыя дарогі нездарма лічыліся самымі горшымі гэтак жа, як лясы – самымі гонкімі. У мясцовых лясах спаконвеку займаліся “шмальцаваннем” – вырабам попелу. Лепшыя сосны ішлі на мачты, і лёс ім быў горда ўзвышацца над хвалямі далёкіх мораў. Нягеглыя ж дрэўцы мусілі стацца чорным бязважкім рэчывам, попелам, не для таго, каб антычныя прарочыцы пасыпалі ім галовы, а каб быць запакаваным у звычайныя бочкі і сплаўленым на віцінах на далёкія паўднёвыя рынкі, а потым угнаіць чужую глебу, на якой ніколі не вырасце карабельнай сасны. Многія жыхары невялікага, але гордага горада Б* былі нашчадкамі тых шмальцароў, з перапэцканымі па-мурынску тварамі, з вялікімі шурпатымі далоньмі, у якія назаўсёды ўелася смала, якая не паспела стаць бурштынам.

Не бракавала тут калісь і паляўнічых... Вадзіліся магутныя туры і лемпарды... Але ўжо ў шаснаццатым стагоддзі ўладальнік гэтых месцаў

Крыштаф Радзівіл пісаў да Канстанціна Астрожскага, упрошваючы здабыць яму ў ягоных падапечных, маладых князёў Сапегаў, лемпарда дзеля звярынца. Бо ільва Крыштаф знайшоў, прывезлі з-за мора, а лемпардаў тутэйшых усіх выбілі.

Не дзіва – што можа лепей упрыгожыць драгуна ці крылатага гусара, чым зухавата перакінутая цераз плячо залацістая скура ў чорныя плямы!

Каго толькі не выбілі ў тутэйшых нетрах. Феніксаў, аднарогаў, паўстанцаў... Даўно сцежкі гэтага лесу не тапталі ні туры, ні лемпарды. Дый мядзведзя, звыклага ліцвінскага тулягу, было сустрэць няпроста. Што з важнай мінай і паведаміў Багуславе археолаг-магістрант Міхал Калоцкі – ясна, з падтэкстам, каб супакоіць паненку наконт нападу звяроў. Багуслава тут жа халодна выказала шкадаванне, што не будзе ёй на кім практыкавацца ў кіданні стылету... Ну і крутанула ў пальцах маланкава выхапленае з рукава лязо, каб кола срэбнае ў паветры ўтварылася. Дзіцячы такі выпад... Надта ж захацелася нагадаць правільнаму юнаку, з кім звязаўся, а то ён нібы вызначыцца не можа, ці драпежная пачвара, ці эксцэнтрычная, але прывабная дама з імі едзе.

Калі шчыра, дык Багута зусім не так вольна пачувалася ў лесе – было ўладанне лесуноў для яе стыхіяй варожай і незнаёмай. Як пакінула пансіён – так усё па гарадах ды мястэчках і бадзялася з Ніхелем. Мінулае ўяўлялася шэрагам пракураных пакояў у прыдарожных гатэлях ды здымнымі кватэрамі з паркалёвымі шпалерамі і забытай кімсьці на трумо сетачкай для набрыяліненых валасоў. А сібірская тайга з успамінаў дзяцінства – гэта кшталту заснежанага пекла, дзе знікаюць збеглыя ссыльныя, толькі аб'едзеныя ваўкамі іхнія косткі знаходзяць па вясне.

А тут яшчэ шчуплы Давыд ускочыў на родны ўслончык ды пачаў расказваць сваё, этналагічнае. Маўляў, звяры ў лесе вакол Жухавіч зніклі таму, што тут, паводле пераканання мясцовых жыхароў, водзяцца ваўкалакі. Выдаў цэлы тузін баек пра пераваратняў, запісаных ім асабіста ад гаваркіх бабулек ды дзядулек. У жахалках фігуравалі зачараваныя пасы, якія рассцілалі на шляху таго, каго задумалі гвалтам ператварыць у звера, і такія ж зачараваныя нажы, колькасцю ад пяці да дванаццаці, цераз якія ўжо самому ваўкалаку трэба перакульвацца, каб вярнуць чалавечае аблічча. Свісталі пазначаныя крыжам срэбныя кулі, разляталася на друз выбітае дужым звярыным целам вакно ў царкве – уздумалася ж камусь завалачы туды няшчаснага пярэваратня... Тут жа Давыд – ажно запалыя шчокі гарэлі румянцам – параўноўваў усё з замежнымі міфамі, напрыклад, што згодна сербскаму Намаканону па спісе 1262 года «Влькодлаци лоуноу изедоше или слнце», што значыць, з'ядаюць месяц і сонца, а гэта дазваляе правесці паралель з салярным міфам і супаставіць ваўкалака як архетып з цмокам... У Старым Запавеце Іерэмія казаў пра "ваўка пустэльнага", а Навуходаносар за грахі свае стаў напалову зверам. Адны з ікластых істотаў-двудушцаў мусілі заставацца ў скуры, пакуль не здымуць з іх праклён, іншыя пакрываліся поўсцю час ад часу. Было і мноства рэцэптаў, як пазнаць зачараванага. Зверам ён спрабуе падсмажыць мяса на вогнішчы, забытым пастухамі, возіць пысай па расістай траве – мыецца, тужліва вые на ўсход – моліцца, заўсёды самотны, а калі яго забіць і садраць скуру – пад ёй акажацца сатлелае чалавечае адзенне... Калі ж вяртаецца ў чалавечае аблічча, фізіяномія застаецца перакрыўленая, срэбра баіцца, пад поўню не выходзіць, і пах ад яго агідны... Яшчэ адна асаблівасць мясцовых ваўкалакаў – яны асабліва не любілі чужынцаў-

нападнікаў. Прыйшлі шведы – ваўкалакі пагрызлі цэлы гарнізон. Татары лагер разбілі– таксама ноччу горлы ім параздзірала пачвара. Маскоўскае войска прыйшло да муроў мястэчка – маскоўцаў звер пагрыз. Французы заявіліся – таксама перапала ад ікластых... Давыд Масевіч тлумачыў тое архетыповай функцыяй татэму, абаронцы роду, якім у мясцовых неадменна з'яўляўся воўк, што пацверджваюць не толькі хронікі Герадота, але і некаторыя гербы мясцовай шляхты...

Карацей, як штурхнуў матавіла, дык да Вільні круціла.

Лес чорны, дарога гразкая, а там, дзе лес на нейкі час адступіў далей, і на змену гонкім соснам выкульгвалі скалечаныя, скурчаныя асіны, было яшчэ горш – балота. Шлях ператвараўся ў грэблю – па абодва бакі была дрыгва, над якой калісьці наслалі целы тых жа соснаў і прысыпалі зверху зямлёй. Па балатах Багуце ўвогуле ні разу не даводзілася вандраваць, за што яна была шчыра ўдзячная лёсу.

Дзякуй Богу, даехалі да Жухавіч засветла.

Таму што ў цемры было б яшчэ больш жудка... Глухі лес вакол, агароджа з ваўчынымі галовамі, якія шчэрацца з іржавых прэнтаў. У канцы прысадаў цямнее панскі дом з шэрага каменю, сіратліва свеціцца ўжо запалены самотны агеньчык ліхтара. Добра хоць, нехта з уладароў загадаў заміж соснаў пасадзіць уздоўж прысадаў ліпы – але гэтыя дрэвы, такія звычайна ветлыя, тут выглядалі, як згалелыя да рыззя старыя купчыхі. Яны ў адчаі цягнулі да неба рукі з лахманамі апошняй брунатнай восеньскай лістоты, якая ўжо і не памятае, што была залатой.

Калоцкі, які спраўляўся за фурмана, нацягнуў лейцы, утаропіўшыся з жахам і захапленнем на тое, што ўзвышалася злева паміж чорных целаў ліп. Багута недаўменна зірнула: на рудой траве ляжала некалькі вялізных камянёў, усцягнутых адзін на адзін, быццам волатава дзіця замест снежнай бабы ляпіла каменную. Збудаванне і сапраўды нагадвала жаночую фігуру: у верхнім камяні паўсляпыя страшныя выёміны-вочы, кірпаты нос, расселіна-рот, ніжэйшы камень раздвойваўся, як грудзі... Падобна, гэта быў старажытны стод, аб чым і перакідваліся вучонымі тэрмінамі студэнты.

– Глядзі, там далей, злева, Хорс! Далібог, выява Хорса! – Давыд саскочыў з брычкі і, паперхваючы, пашкандыбаў да чарговага рарытэту, на гэты раз драўлянага – пачарнелы патрэсканы слуп з падабенствам конскай морды наверсе. Міхал Калоцкі, кусаючы ад нецярпення пульхныя вусны, падагнаў за сябруком гнядога каня, цярплівага і панылага, якім толькі і можа быць бяспраўны найміт, які бясконца мяняе часовых гаспадароў. Студэнты разглядалі злавесны слуп, быццам наведнікі Мулен-Руж красуньку, якая танцуе канкан. Як жа нязручна мець справу з энтузіястамі!

За спінай апошні раз бразнулі вароты. Багута азірнулася: слуга, старанна зачыніўшы ўсе засовы, ішоў пругкай размашыстай хадой, трохі пакульгваючы, услед за гасцямі, а за спінай яго – далібог – тырчэла стрэльба... Дзяўчына абмянялася позіркам з Ніхелем: спрактыкаваны стары ваяр таксама прыкмеціў патэнцыйную небяспеку. Такое правіла: у любым месцы, самым сяброўскім, прыкмячай, хто можа табе стаць супернікам у бойцы.

Вецер кінуў у твары па прыгаршчы халодных кропляў, Ніхель прыспешыў Калоцкага, той прыспешыў каня, і дом з век непатрэбнымі рэвалюцыйнай справе скарбамі пачаў набліжацца. Багуце карцела выхапіць у мядзведзяватага Калоцкага лейцы, развярнуць брычку ды галопам – назад, да брукаваных вулак, пякарняў ды свежых газетаў.

Зноў сыпануў дробны дожджык, ад якога хацелася адмахнуцца, як ад машкаты. Дом быў выкладзены так званай “разынкавай” кладкай: паміж шэрых камянёў у расчынні цямнелі дробныя каменьчыкі, як разынкі. Вузкія вокны з аблезлымі драўлянымі рамамі, калісьці фарбаванымі ў белы колер, зялёна-шэрая, як спіна старой чарапахі, чарапіца на даху і навесе над ганкам, які абапіраўся на дзве нязграбныя калоны. Над уваходам мацаваўся высечаны з мармуру герб: падзеленае на дзве часткі поле шчыта, у левай частцы – рука ў рыцарскай пальчатцы трымае меч, у правай – прадказальна – ашчэраная ваўчыная пыса са смешна высалапленым языком, быццам геральдычны звер падрыхтаваўся лізаць цукровага пеўніка на палачцы.

Змяшанае з апошнімі промнямі дня святло ліхтара, павешанага на жалезны крук злева ад дзвярэй, нагадвала, што вось-вось сцямнее. Другі такі ж ліхтар свяціўся на доўгай прыбудове злева ад дома – стайні былі разлічаныя на некалькі дзясяткаў коней. Але ў рудой траве і гразі малавата слядоў колаў і капытоў. Ніхто не спяшаўся і сустракаць прыезджых, якія разгублена тапталіся перад ганкам, дом здаваўся мёртвым, бы леташняя павута.

Між тым, наблізіўся кульгавы слуга, які ўпускаў прыхадняў у маёнтак. Пры больш пільным паглядзе ён нагадваў не лёкая, а ляснічага: абветраны смуглявы твар, якому ўмяціна на пераноссі дадае ваяўнічасці, хада і пастава чалавека, што часта вандруе пешкі і звыкся да небяспекі.

– Коней можаце паставіць у стайню, там, дзе гарыць ліхтар, – уладна заявіў смуглявы, няўважна махнуўшы рукой. – Спадзяюся, паны справяцца з гэтым. Рэчы таксама давядзецца занесці ў дом самім, – цяпер у голасе гучала амаль непрыхаваная насмешка. – Прыслугі, перапрашаю, няма.

Міхал Калоцкі як правадыр фатаграфічна-этнаграфічай экспедыцыі ступіў наперад:

– А ці ёсць пан Шымон Каганецкі? Ён сам запрасіў нас!

Незвычайна светлыя на смуглявым твары шэрыя вочы раздражнёна бліснулі:

– Запрашаў? Правільней сказаць, дазволіў прыехаць. І не магу прызнацца, што надта гэтаму рады.

Вось табе маеш чорта ў буслянцы. Пан Варакса Ніхель ветліва пакланіўся, перахапіўшы ролю правадыра кампаніі ў Калоцкага:

– Трэба разумець, маем гонар бачыць перад сабой графа Шымона Антонавіча Каганецкага?

Гаспадар не зварухнуўся.

– Не ведаю, у чым вы бачыце гонар, але так, я граф Шымон Каганецкі. Спадзяюся, наша знаёмства будзе максімальна неабцяжарвальным для абодвух бакоў і нядоўгім. Калі б вы, пан Калоцкі, – гаспадар беспамылкова кінуў востры позірк на археолага, – не спасляліся на аўтарытэт вельмі паважанага мною прафесара Заменцкага, я б адмовіў адразу. Скажу шчыра – мне не да вас. І, спадзяюся, умову маю памятаеце: ніякіх кранальных размоваў пра мае намеры, святую навуку і цемрашальства. І нікуды не заходзіць без майго дазволу. Інакш выганю.

Каганецкі сказаў гэта так, што не падлягала сумневу: як што ўпоперак – павыкідвае за браму з ваўчынымі пысамі адзін усіх, нават плячыстага Калоцкага. Праўда, пасміхнулася пра сябе Багута, гэты хамаваты графчык не падазрае, што гадзюкаў, такіх, як яна з Ніхелем, нельга чапаць нават за хвост. Пан Варакса зноў ветліва пакланіўся:

– Разумею вас, літасцівы пан. Дазвольце прадставіцца: Варакса Ніхель, а гэта мая дачка Багуслава Ніхель. Мы – фатографы, нас нанялі гэтыя маладыя людзі за плату, ад якой мы не можам дазволіць сабе адмовіцца...

Багута ледзь чутна хмыкнула. Маніць, як шоўкам шые.

– Запэўніваю, мы зацікаўленыя зрабіць сваю справу як найхутчэй, і без усялякіх непрыемнасцяў... для абодвух бакоў, – Ніхель ліў словы алеем на аладкі.

Граф на гэты раз пакланіўся ў адказ, нібыта прызнаючы, што перад ім найменш вінаваты, гэткая нейтральная дзяржава:

– Што ж, заўтра ў вас будзе адзін дзень. Пасля вы павінны з'ехаць.

І рушыў у дом, кінуўшы:

– Пакоі займайце на першым паверсе ў левым крыле, якія хочаце. Прынамсі, там працеплена.

Калі граф ужо адчыняў дзверы, Давыд, ледзь стрымліваючы абурэнне, выгукнуў:

– Дык ці няможна запрасіць хоць якую прыслугу назаўтра! З намі ж паненка...

Шымон азірнуўся цераз плячо, ягоны профіль нагадваў бы, напэўна, італійцаў, каб не пашкоджаны нос, і паўтарыў на гэты раз проста стамлёна:

– Прыслугі няма. І не будзе. Пакуль я тут, у гэты маёнтак не прыйдзе ніхто з мясцовых.

– Вас так баяцца? – падала голас Багута.

– І баяцца, і ненавідзяць, – неяк дужа спакойна прамовіў граф. – Так што і вам не раю, пакуль гасцюеце ў мяне, выходзіць за агароджу маёнтка.

– Ого! – не вытрымаў Давыд, – Проста абложнае становішча... Чаму ж вы хоць сабакаў не прыхапілі?

– Не люблю сабак, – кінуў Каганецкі і зайшоў у радавы дом.

На дзвярах, за якімі схавалася ягоная пругкая ўпэўненая пастава, выразна бачыліся сляды ад куль. Светлая драўніна ў выбоінах яшчэ не паспела пацямнець і нават набрыняць вільгаццю.

Ужо ў ложку, такім груваcткім і вялізным, быццам у ім павінны былі займацца каханнем Брунгільда ды Зігфрыд, Багуслава ўспомніла, што падалося ёй у тоне кульгавага графа такім знаёмым: агіда. Агіда і нянавісць, скіраваныя да сябе. Але з чаго б гэтаму эксцэнтрычнаму багацею сабой пагарджаць? "Проста ва ўсім бачу цені ўласных хімераў", – сумна вырашыла Багута і праваліліся ў сон, цёмны і непрыемны, як сутарэнне са смаўжамі.

Абуджэнне было не менш дзіўным, чым усё навокал, і гэткім жа спалошным: нібыта проста над вухам ударыў звон, завібравала паветра, як паверхня вады, закалацілася сэрца...

Вось жа і адвучыла сябе баяцца – а сэрца ўсё роўна не слухаецца, калоціцца, тузаецца, як жабяня ў гарачай вадзе.

Металёвы звон яшчэ раз запоўніў сабой прастору... Што за выбрыкі? Багута, блытаючыся ў рукавах і гузіках, апранулася. Учора, ушчэнт змучаная, пры цьмяным святле адзінай вылучанай ёй свечкі, яна не паспела асабліва разгледзецца. Цяпер позірк спрактыкавана слізгаў, ацэньваючы абстаноўку: калі што, з вакна выскачыць будзе цяжка, рамы тоўстыя, зачыненыя наглуха, мусіць, ужо невядома колькі гадоў. Акрамя ложка на драўляных слупах-калонах у пакоі толькі шафа, грунтоўная, як у купцоў, з упрыгожванняў – парцьеры з букецікамі незабудак на ружовым фоне

ды забытая парцалянавая пастушка з баранчыкам на стабурку. Та-ак, ні табе ваўчыных галоваў, ні паганскіх стодаў... Падобна, у гэтым крыле месціліся пакоі для прыслугі, вось якаясь пакаёўка альбо кухарка і стварала свой маленькі свет з кветачкамі ды авечачкамі пасярод панскага вар'яцтва.

Зноў ударыў звон, ці гонг? З суседняга пакоя ўжо выходзіў Ніхель, фацэтны, як заўсёды, а ў канцы нецікава пустога калідору з абцягнутымі блякла-юлёвай тканінай сценамі чуліся санлівыя галасы студэнтаў – тыя быццам сунуліся на нелюбімую лекцыю.

Варакса шэптам нагадаў злоснай, як сагнаная з кветкі пчала, Багуце быць цярплівай “добрай дзяўчынкай”.

Добрыя дзяўчынкі ляжаць з перабітымі пазванкамі ў траве, і ў іх косах смела поўзаюць мурашкі.

Гэта сапраўды аказаўся гонг! Загарэлы па-плебейску граф са здзеклівай усмешкай, падганяючы прыпозненых на сняданак гасцей, наастачу ўдарыў у вялізны бронзавы дыск, упрыгожаны іерогліфамі, і той загайдаўся, завыў, падвешаны на спецыяльнай раме, як бы яго катавалі. Мусіць, з якога Тыбету прывезена.

Але нічога сабе сталоўня... Здавалася, яны апынуліся ў іншым доме. Хаця што тут дзіўнага: слугі жывуць сабе, паны сабе, не разумеючы, высмейваючы адно аднаго...

А гэтае памяшканне, нягледзячы на даўжэзны стол, здавалася, выраблены з аднаго гіганцкага бервяна, хутчэй нагадвае майстэрню дужа багемнага скульптара. Калісьці Багуслава з Ніхелем хаваліся з тыдзень у такой у Піцеры, калі шпегі выйшлі на іх след. Там таксама ўзвышаліся захутаныя ў мятыя палотны таямнічыя фігуры, проста на падлозе грувасціліся стосы кніг і кучы незразумелых артэфактаў.

Праўда, артэфакты тут нейкія недарэчныя. Вунь патрэсканы хамут, які, мусіць, цягала звычайная мужыцкая кабылка, а там – чалавечы чэрап, калісьці пераўтвораны ў кубак – і, відаць, досыць даўно. Срэбная аправа зусім счарнела, устаўленыя ў яе каменьчыкі пагубляліся, над пустымі выемінамі ад іх тапырацца бездапаможна расціснутыя кіпцюры мацаванняў, быццам драпежная птушка ўпусціла здабычу. Бязвокае і бяззубае чучала маленькага кракадзіла, брунатнае ад узросту, падпаўзло пад плецены бок кошыка з батлеечнымі лялькамі – Багуслава не раз назірала прадстаўленні батлейкі на кірмашовым пляцы горада Б*, гэта было зусім не падобна на расейскіх балаганных Пятрушак. Цьмяна паблісквацюць шэрагі закаркаваных пыльных слоікаў і бутэлечак з каляровага шкла, у якіх плавае нешта цёмнае. Ці не дарэмна ірваліся сюды студэнты? Нешта не відаць вялікіх мастацкіх каштоўнасцяў.

– Харчаванне будзе паходнае, – адрывіста патлумачыў граф, які накінуў паўзверх кашулі і камізэлькі кароткую куртку са светлай замшы, што не дужа надало яму арыстакратычнасці. – Кіпень ёсць, гарбату і каву заварвайце на свой густ, вяндліну і хлеб нарэзаць не праблема...

Прынамсі, не заявіў, што раз кабета ёсць, дык і сняданак на яе сумленні. Праўда, вяндліну Багуслава сапраўды нарэзала сама – на амаль празрыстыя раўнюткія лустачкі, толькі нож мільгаў... Трэба ж было мець падставу шматзначна прамовіць: “Прынамсі, мяса я рэзаць умею”, каб паглядзець, як перасмыкне Калоцкага ды Масевіча, выдатна расчуўшых дваісты сэнс. Шчуплы этнограф – Багута падазравала, што ў хлапца нежартоўныя сухоты – запарыў гарбату ў вялікіх кубках з дрэздэнскай

парцалянавай фабрыкі, упрыгожаных кветкавымі арнаментамі. Калоцкі выявіў абыякавасць да гаспадарчых клопатаў, але памацаў шэрую каменную пліту, на якой свяціўся жоўтымі бакамі расейскі самавар, і заявіў, што на камені ўгледжвае рэшткі малюскаў даяцэнскага перыяду, так званыя “манеты фараонаў”, таму вельмі падобна, што камень прывезены з Егіпту. Граф пацвердзіў: дзед і бацька нацягалі ў дом дастаткова егіпецкіх рэчаў, мода была такая... Егіпецкая цывілізацыя ўяўлялася цэнтрам таемнай мудрасці, ключом да незямных сакрэтаў.

– Да сусветнага духу жадалі далучыцца? – з лёгкай насмешкай прамовіў Калоцкі, пасёрбваючы гарбату. Пан Шымон, які ўладкаваўся на зэдліку з лустай хлеба ды кубкам падалей ад кампаніі, спакойна адказаў:

– Калі юны Гегель пабачыў, як у ягоны родны горад заязджае Напалеон на белым кані, то быў упэўнены, што гэта і ёсць Сусветны дух. Калі павіяны бачаць усход сонца, яны ўздымаюць лапы і захоплена равуць. З’явы аднаго парадку.

Калоцкі раскалыхаўся, як брацкі звон:

– Вы хочаце сказаць, што ўсе высокія памкненні чалавечага духу...

– Усяго толькі жывёльны інстынкт, замаскаваны свядомаснымі канструкцыямі, бо чалавек ніколі не прызнае, што ён не разумнейшы і не маральнейшы ад жывёлы.

Вось табе і спадчыннік Жухавіч... Дзікунскае аблічча і вучоныя прамовы. Хаця чаму “дзікунскае”? Шляхетныя продкі, якія большую частку жыцця – бо жылі тады нядоўга – праводзілі ў ваенных паходах, таксама не выглядалі спешчанымі, іх твары – гетманаў, князёў, магнатаў – таксама былі абветранымі, у шнарах, плечы шырокімі, каб трымаць цяжкія латы, а рукі дужымі, звыклымі да зброі.

– Пан мае на ўвазе так званае “быдла”? – нейтральна папытаўся Ніхель. – Мужыкоў, якіх вашыя продкі трактавалі як хатнюю жывёлу і з чыёй працы жылі і набывалі егіпецкія камяні?

Багута вырашыла, што Ніхель толькі што папоўніў спіс дэспатаў, вартых знішчэння, жухавіцкім гаспадаром. Але пан Шымон толькі стамлёна пакрывіўся:

– Ну навошта так спрашчаць? Я заолаг. Я бачу сутнасць, прыроду, а не абалонку. Для мяне людзі не дзеляцца на арыстакратаў і плебс. Хіба што з Сакратам пагаджуся, які падзяляў усіх на залатое, срэбнае, жалезнае і глінянае саслоўе, але не па паходжанні, а па здольнасцях – у сям’і “срэбнага” чыноўніка можа нарадзіцца “гліняны” някемнік, здольны толькі араць зямлю, а ў шаўца – “срэбны” вайскавод. Насамрэч людзі – усяго толькі адзін з жывёльных відаў, як ваўкі альбо пацукі. Сацыяльныя адрозненні – гэта загана цывілізацыі.

– Даволі... прагрэсіўныя погляды для нашчадка графскага роду, – працягнуў Ніхель, цяпер ужо з цікаўнасцю ўглядаючыся ў Каганецкага. Граф піў гарбату з парцалянавага кубка, як на дыпламатычным прыёме. З манерамі і этыкетам у яго, напэўна, пры неабходнасці праблем не мелася.

– Той, хто добра ведае звяроў, не можа быць высокай думкі пра чалавека. Усё, чым чалавецтва ганарыцца, спаконвеку існуе і ў чатырохлапых, крылатых ды хвастатых. Мастацтва, каханне, здольнасць ахвяраваць сабой дзеля бліжніх, любоў да дзяцей, павага да старых...

– Вы перабольшваеце, пан Шымон! – запярэчыў Давыд Масевіч, ледзь не выраніўшы сваю канапку. – Вы прыніжаеце чалавечы розум і пачуццё прыгожага! Дзе вы бачылі ў звяроў мастацтва?

Каганецкі акуратна паставіў на егіпецкі камень, побач з самаварам, недапіты кубак, пара над ім танчыла, як празрыста-срэбныя змейкі.

– А вы бачылі, якія мазаікі выкладвае для сваёй самкі птушка-буданчык? З featured рознакаляровых каменьчыкаў, ягад, кветак... Мастак не здольны на такую фантазію. Вам нагадаць пра птушыныя спевы, якія беспаспяхова пераймаюць на сцэнах оперных тэатраў? Запэўніваю вас, вайсковы строй павіянаў альбо мурашоў зладжаны па ўсіх правілах ваеннай навукі. Звычайная пчала, вяртаючыся ў вулей, выконвае перад супляменнікамі складаны танец, у якім распавядае, дзе і на якой адлегласці ёсць меданосныя кветкі. Адзін мой калега праліčыў, што ў пчол розных месцаў зямлі свае дыялекты, і адзін і той жа элемент танца ў нямецкай пчалы азначае 75 метраў, у італьянскай – 25 метраў, а ў егіпецкай – пяць.

Калоцкі і Масевіч не вытрымалі і дружна фыркнулі, граф, на дзіва, таксама ўсміхнуўся.

– Так, вучоных-энтузіястаў часта “заносіць”, думаю, вам гэта вядома на ўласным прыкладзе. Вучань Дарвіна Джордж Раманес, я з ім быў аднойчы ў экспедыцыі, напісаў кнігу “Розум жывёлаў”, у якой так ухваліў інтэлектуальную дзейнасць малпаў, варонаў ды іншых жывых істотаў, што хоць зараз ствараай для іх універсітэты. Але я і сам бачыў, як грыф кідае з вышыні камень на гняздо страуса, каб разбіць яйка, а галапагоскі дзятлавы ўюрок дастае жамяру з трэшчынаў з дапамогай кактусавай калючкі. Вось вам працоўныя інструменты... Творчасць? Падчас экспедыцыі па Танзаніі ў нас знікла пустая бляшаная бочачка з-пад вады. Назаўтра мы пачулі ў джунглях, дзе не мелася згодна карты ніякіх паселішчаў, барабанны бой. Рушылі асцярожна туды... І пабачылі, як малады шымпанзэ, страшэнна горды сабой, выбівае рытм на нашай бочачцы, а супляменнікі захоплена яго слухаюць, гукаючы ды пляскаючы ў ладкі. Чым не канцэрт Ігнацыя Падэрэўскага?

– Выбачайце, але чалавек мае маральнасць! – абурана выгукнуў Масевіч, адарваўшыся ад хлеба з сырам. Граф счапіў тонкія пальцы, як на лекцыі, і насмешна прымружыў вочы.

– Та-ак, ну, давайце зірнем на мараль... Дэльфіны падымаюць хворага таварыша да паверхні вады, каб даць удыхнуць паветра. А вы наведвалі калі-небудзь звычайную гарадскую багадзельню, дзе дажываюць свой век інваліды, гніючы зажыва? А хто з людзей можа пахваліцца такой любоўю да радзімы, як бусел, які пралятае тысячы вёрстаў, каб вярнуцца на нашыя балаты, такой вернасцю, як сабака, такім каханнем, як лебедзь? Звяры мудрэй за чалавека, бо толькі двухногія могуць гэтак бязлітасна знішчаць адно аднаго, быццам іх мэта – звесці ўласны род. Леў можа з аднаго кідка вырваць бок буйвалу. Але калі б'ецца з сутаварышам за тэрыторыю альбо за самку, ніколі не пусціць на поўную моц іклы і кіпцюры. У звяроў ёсць абмежаванне на сваю зброю, калі б'юцца з прадстаўніком уласнага віду. Толькі чалавек такога абмежавання не мае! Праўда, дадзеная яму ад прыроды зброя вартая жалю: пазногці крохкія, зубы тупыя... Але чалавек надзвычай вынаходлівы ў прыстасаваннях для больш зручнага забойства падобных да сябе.

– Вы не дужа любіце людзей? – спытала-сцвердзіла Багута, вывучаючы смуглявы твар, занадта нервовы для мізантропа. Граф перавёў на адзіную ў кампаніі кабету спакойны позірк шэрых вачэй.

– Той, хто кажа, што любіць дарагое наша чалавецтва ўцале, ці ілгун, ці сам сабе тлуміць галаву. Любіць можна таго, каго ведаеш, і ў абмежаванай

колькасці асобінаў. Я сустракаў людзей, вартых любові і павагі. Няшмат, але мне досыць. І асабліва не люблю тых, хто спрабуе згаданае чалавецтва перавыхаваць, перарабіць на свой густ і, зразумела, ашчасліўіць. Як сведчыць гісторыя, агульнае шчасце такія дабрадзеі заліваюць чалавецтву ў глотку гвалтам, як расплаўлены свінец, і эпоху доўга ванітуе крывёй.

– Вы не верыце, што можна выправіць сацыяльную несправядлівасць? – Ніхель перастаў ветла ўсміхацца, шкельцы ў ягоных акулярах нібыта пацямнелі.

– Ну чаму ж, веру, нават чарнаскурых рабоў вызвалілі ад рабства, – прагаварыў Каганецкі. – Але любая высакародная справа прыцягвае зашмат паразітаў, якія высмакчуць урэшце яе сутнасць. Вось, адзін з экспанатаў сямейнага музея...

Граф падыйшоў да шафы з чорнага разнога дрэва, падобнай да труны, адчыніў шуфляду, якая жаласна зарыпела, і дастаў бясформны срэбны злітак памерам з два кулакі. Нават археолаг Калоцкі не змог вызначыць, што гэта было.

– Мой дзед вучыўся ў Віленскім шляхецкім інстытуце, – змрочна пачаў апавядаць граф. – Ён, як і многія студэнты, увайшоў у таемнае таварыства філарэтаў. У нармальным грамадстве мэты такога ўтварэння былі б толькі ўхваленыя: прысвяціць жыццё асветніцтву народа, збіраць ягоны фальклор, набываць веды. Весці цвярозы лад жыцця... Але тыраны заўсёды лічаць, што няхай лепей малады чалавек будзе блытацца па тлумных вечарынках з вінам, паскуднымі песенькамі і дурнымі гульнямі ў фанты, чым стане развітай асобай, якой не загадаеш думаць так альбо іначай. Сяброў таварыства выкрылі, быў ганебны працэс з неапраўдана жорсткім следствам і прысудамі. Сенатар Навасільцаў раздзімаў справу, як мог, ператварыў падлеткаў у вачах царскага двара ў нейкіх усемагутных монстраў, чым зрабіў сабе кар'еру. Усе юнакі трымаліся годна, і падчас доўгіх катаванняў, і на судзе... А іхнія каты і даносчыкі, адпаведна, павагай не карысталіся.

Каганецкі правёў пальцам па пашкоджаным носе – Багута падумала, што ён, напэўна, увесь час памятае пра сваё калецтва, – і працягваў:

– Адным з самых непаважаных у Вільні стаў прафесар Аўгуст Бекю, выдатны фізіёлаг і гігіеніст, які першым пачаў рабіць на гэтых землях прышчэпкі ад воспы, але вось – вырашыў, што ягоны доўг змагацца з мярзотнікамі, якія разгойдваюць сістэму. Ён дапамагаў Навасільцаву вынішчаць парасткі бунту... І ў хуткім часе пасля суда над філаматамі – катарга, высылка, здача ў салдаты – яго, па пераканannях віленчукоў, напаткаў Божы суд. Аўгуста Бекю забіла маланка проста ў ягонай спальні. А срэбныя манеты, якія ён нібыта атрымаў ад Навасільцава за сваю здраду і хаваў пад матрацам, сплавіліся вось у гэты злітак...

Калоцкі, які ў гэты момант трымаў у руках загадкавы прадмет, грэбліва кінуў яго на стол, ажно дзынькнулі лыжкі ў кубках.

– І як жа гэта апынулася ў вашым доме?

– Дакладна не ведаю, – змрочна адказаў пан Шымон. – Мусіць, спадчыннікі Бекю не надта гарэлі жаданнем трымаць дома такі сумніўны рарытэт, і дзед гэты "злітак Юды" ці выкупіў, ці выпрасіў на памяць. Дзеду тады пашанцавала, ён абыйшоўся толькі выключэннем з інстытута, давучваўся ў Санкт-Пецярбурзе. Разумееце, у любога жывёльнага віду заўсёды спрацоўвае інстынкт – ратаваць моладзь, падлеткаў, якія працягнуць, абароняць род. А чалавек імкнецца сваім птушанятам з дзяцінства перабіць крылы.

– Вы сапраўды верыце ў Божую кару? – ляніва запыталася Багута, дэманстратыўна запаліўшы тонкую цыгарэтку ў касцяным муштуку. Яна ведала, як шалеюць ад такога відовішча старасвецкія паны, і манерна выдыхнула ў бок гаспадара струмень дыму, быццам насылала сурокі. Граф нібыта не заўважыў абуральных паводзінаў госці.

– Вось чым адрозніваецца сапраўды чалавек ад жывёлы – дык тым, што акрамя звера, у ім жыве і Бог. Але мы даем волю зверу, і Бог пакідае нас.

Ад таго, як граф гэта сказаў, Багуце стала непамысна. Гэта прагучала, як быццам чалавек паведаміў, што ў яго апошняя стадыя рака.

– Ну тады я ўвогуле не разумею вашай філасофіі, – Ніхель адкінуўся на зэдліку, адбіваючы на цёмнай сталешніцы стала, за якім шляхціцы мінулых стагоддзяў падымалі срэбныя кубкі з медавухай, рытмы полечкі. – Да ўсяго вы яшчэ і забабонны чалавек. Але ж вы не будзеце адмаўляць, што прырода – гэта ланцуг страванання, дзе ўсе ядуць адзін аднаго без усялякіх сантыментаў?

Граф нахмурыўся.

– А вы ўжо вырашылі, што я гатовы садзіцца за стол з дзікімі мядзведзямі? Я не толькі вучоны, але і паляўнічы. І без сантыментаў падстрэльваю трапяткую кранальную казулю, калі трэба карміць экспедыцыю, і гордага тыгра, на якога напароўся ў джунглях. Мне было восем гадоў, калі маю маці за тры вярсты адсюль, на дарозе, задзерлі ваўкі.

Госці агаломшана замёрлі, Багута ледзь не ўпусціла цыгарэту.

– Тады бацька прызначыў узнагароду ў дваццаць рублеў за кожную галаву ваўка ці ваўчаняці. З таго часу ў гэтых лясах драпежнікаў няма. Акрамя людзей, вядома. А да іх мне, прабачце, ніякай справы.

Вось яно што, дзіцячая траўма... Таму й такі дзіўны характар. Багуслава ледзь не пасміхнулася.

– Я разумею вашую нелюбоў да гэтых мясцін. Але ваш продак, сябар таварыства філарэтаў, не быў такі абыякавы да лёсу края, – з абвінавачваннем у голасе заявіў Калоцкі. – Няўжо вам абыходзіць, што цэлы народ жыве, пазбаўлены асветы, без права на друкаванае слова і адукацыю на роднай мове, проста на тое, каб заставацца самім сабой? Няўжо вас больш хвалююць праблемы шымпанзэ Танзаніі?

Аблічча Каганецкага пацямнела.

– Вось толькі не трэба ўпікаць мяне ў абыякавасці да беднага гаротнага народа і роднага куточка. Сумленне маё ўздумалі абуджаць? Тое, што я жыву не тут, прыязджаючы раз на год, не мой выбар, і абумоўлена дастаткова важкімі прычынамі. На жыццё сабе зарабляю лекцыямі, публікацыямі і здабычай рэдкіх звяроў для заасадаў. Мая нябожчыца-мачыха, якая кіравала гаспадаркай пасля смерці бацькі, упэўнены, не прыгнятала нашых нешматлікіх арандатараў. Яе брат, доктар, якога я пакіну ўсім тут распараджацца, таксама чалавек адукаваны, спагадлівы. Даходы ад нашых уладанняў у Жухавічах і Пагневічах збольшага ідуць на ўтрыманне ягонай бальніцы. Я нікому тут нічога не павінны. І пасля смерці пані Антаніны нічога мяне тут не трымае. – Каганецкі ледзь чутна ўздыхнуў, відавочна адганяючы прыкрыя ўспаміны. – І дом перадам для патрэб бальніцы. А тое, што знаходзіцца ў ім – зло, не меншае, чым гэты злітак. Што тут выклікае ў вас замілаванне? Кнігі заклёнаў, па якіх сурочана не адна бязвінная маладзіца? Вось гэты хамут, які ў вёсцы выкарыстоўвалі для пакарання нецнатлівых дзевак? Ці гэты паганскі стод, у драўніну якога

ўелася кроў ахвяр? Сведчанне людскога паскудства? Можа, і добра, што не даводзіцца мне жыць сярод народа з такім “духоўным багаццем”. Ды каб не бацькаў запавет, які загадваў мачысе захоўваць тут усё непарушным, я б ужо даўно калекцыі гэтыя знішчыў. Цьху... Сцярвятнікі вы ўсе...

Каганецкі рэзка ўзняўся і, пакульгваючы, адыйшоўся ў другі канец пакоя.

– Вы проста не ведаеце свайго народа! – тонкі, трохі хрыплы голас Масевіча дрыжэў ад абурэння. – Тое, да чаго мае дачыненне сабранае тут – толькі адзін бок фальклору. А колькі мудрасці, дабрыні, прыгажосці і розуму можна знайсці ў народных песнях і легендах, казках і прымаўках! Вы чыталі працы Паўла Шэйна ці Івана Насовіча па беларускім фальклоры? Ці хаця б – вам жа гэта блізка – даследванні Паўла Шпілеўскага пра ваўкалакаў... Вядома, не, што я пытаюся... – Давыд інфантыльна махнуў рукой і працягнуў далей. – Я ж вырас у гэтым самым мястэчку Б*, у якім для вас, сталічных штучак, напэўна нічога цікавага. Але адна мая бабуля, беларуска, у дзяцінстве мне распавядала пра вужынага караля ў залатой кароне, які жыве на дне дрыгвы ў бурштынавым палацы і прыпаўзае на наш ганак апоўначы, другая, габрэйка – пра анёла, што кожны дзень кладзе на маю падушку нябачную карону з пер’яў. А калі выходзіла замуж мая цётка, малодшая сястра маці, на яе вяселлі танцавалі казачок, галападу, бейгеле, хасідл, а ў завяршэнне – кантрданс. Дзе на зямлі яшчэ можа быць такое скрыжаванне культур? І для чалавека, які сам знаходзіцца на такім скрыжаванні, які шукае сваё месца – тут яно знойдзецца. Павярніся да гэтай зямлі, шчодра палітай крывёй, ад якой адракаюцца нават родныя дзеці, і ты не будзеш чужынцам у самоце яе. Я захапіўся этнаграфіяй пасля таго, як знайшоў у доме цёткі «Праграму для збірання помнікаў народнай творчасці», патрапаную брашурку з сухім кляновым лістом замест закладкі. Яе ў 1867-м разаслаў па ўсёй Беларусі, шукаючы памагатых, мой цяперашні настаўнік, Павал Шэйн, сын магілёўскага купца-габрэя Мафіта Шэйна, вялікі вучоны і сябар Льва Талстога. У адным ягоным зборніку больш за тысячу беларускіх народных песень! Дарэчы, ён і сам іх цудоўна пяе... – Масевіч заперхаўся ад узрушэння, аддыхаўся і працягваў. – Уяўляеце, пару тыдняў таму я запісаў ад бабулькі на хутары, вёрстаў за дзесяць адсюль, песню “Англеза танец прамінада”. Старажытны ангельскі прыдворны танец англеза згадваецца ў курной хаце! Адкуль бабулькіны продкі гэта расчулі? Спыняўся на іхнім хутары падчас палявання якісь князь? Ці хтось служыў у палацы? А вы ведаеце, пан заолаг, што апошні аднарог Еўропы быў злоўлены тут, на Беларусі? На Случчыне, асабіста князем Алелькавічам? І рог таго адзінарога значыўся ў рэестры скарбаў князя Гераніма Радзівіла. А яшчэ зуб дракона! Вас і гэта не цікавіць?

Каганецкі стаяў спінай да вакна, цень хаваў недахопы знешнасці, напяты сілуэт здаваўся выразаным з чорнай паперы: доўгія валасы ляжаць на ганарыста распраўленых плячах, рукі скрыжаваныя на грудзях, не хапае толькі шаблі пры баку.

– Не ўчыняйце мне іспытаў, літасцівыя паны! Я прафесар Венскага ўніверсітэта, а не студэнт. А вы – хто? Два мястэчковыя патрыёты плюс два нігілісты з фотаапаратам, прычым адзін з іх – дама-суфражыстка... Замілаванне родным куточкам і бедным мужычком не павінна даходзіць да абсурду. Да адмаўлення фактаў, якім паскудным можа быць той мужычок і якія подласці творацца ў “родным куце” нават самымі прагрэсіўнымі людзямі.

Заолаг зрабіў некалькі няроўных крокаў па пакоі, жадаючы, відаць, супакоіцца.

– Я не часта бываю на радзіме, але і да мяне тое-сёе даходзіць. Хто здаваў паўстанцаў расійскім жандарам? Свае ж. Хто адварочваўся, як толькі трымацца было нявыгадна, ад роднай мовы і сямейнай рэлігіі? Нашы, тутэйшыя. А ў 1881-м, калі забілі Аляксандра Трэцяга, пагромы дайшлі і да вашага ўлюбёнага мястэчка Б*, сям'я аднаго крамніка ажно ў Жухавічах ратавалася, і для мяне аднолькава быдлячая сутнасць і ў пралетарыя з цаглянага завода, які з іконай наперавес ідзе біць вокны іншаверцам, і ў палымянага рэвалюцыянера, які гэта ўхваляе.

– Разумею, на што вы намякаеце. Але Вера Фігнер парвала "рэвалюцыйныя" лістоўкі, якія апраўдвалі такое "змаганне з эксплуатататарамі", і я з ёй салідарны, – Ніхель сунуў рукі ў кішэні, як заўсёды рабіў, калі хацеў, каб вораг не заўважыў ягоную гатоўнасць да бойкі. – Нельга вінаваціць увесь народ за кучку нягоднікаў і проста абдураных.

Каганецкі толькі пагардліва фыркнуў:

– Ды вы адзін аднаго ненавідзіце і зразумець не можаце, а хочаце зразумець "народ". Прысягнуць магу – для вас за гэтым словам крыецца абстрактнае паняцце і апраўданне любых вашых пражэктаў і авантураў. Чароўныя словы "дзеля народа" – і вар'яцтва робіцца подзвігам. А самі, прыехаўшы, прыслугу сабе запатрабавалі! Усё, інтэлектуальны пралог скончаны. Слова сваё назад не забяру – фатаграфуйце і сёння ж вымятайцеся.

Каганецкі рэзка павярнуўся і рушыў да выхаду, кульгаючы больш заўважна. У гэты момант шыба, ля якой ён толькі што стаяў, нібы ўзарвалася. У пакой заляцела, як шляхецкі наезд, восеньскае паветра.

Граф толькі азірнуўся з незразумелым выразам на разбітае вакно і хуткім крокам выйшаў з пакоя, нічога не сказаўшы. Калоцкі і Масевіч, збялелыя, застылі, аднолькава ўгнуўшы плечы. Падаць на падлогу, хавацца, адпаўзаць? Ніхель з пісталетам у руцэ прыціснуўся да сцяны ля вакна, асцярожна вызірнуў праз утвораны прагал на двор.

– Думаю, стралялі з паляўнічага ружжа... Здалёк, усляпую. Добра, што ўсе дрэвы вакол будынка высечаныя, але лепей перад вокнамі больш не стаяць, спадарства.

– Ды што ж гэта... Ды як жа... Якога лысага чорта... – бязладна мармытаў Давыд Масевіч, абціраючы вільготны лоб. Калоцкі, спрабуючы стрымаць дрыготку вуснаў, падазрона ўтаропіўся на Ніхеля:

– Ці не за вамі гэта з'явіліся госці, пан Варакса?

– Думаю, што не, – Багуслава нажом выкалупала кулю з драўлянага пачарнелага слупа, які мусіў для продкаў увасабляць бога Хорса, і цяпер круціла яе ў пальцах, быццам здабытую са дна мора перліну. – Срэбрам, ды яшчэ пазначаным крыжам, у нас яшчэ не пулялі.

У маёнтку Жухавічы была раніца.

## Раздзел трэці. Змрочная калекцыя Каганецкіх

Чаго толькі людзі не збіраюць! Чарапы ворагаў і парцалянавыя статуэткі пастушак, люлькі і пісталеты, засохлыя букецікі і сэрцы былых каханкаў... Менавіта калекцыю такіх забальзамаваных сэрцаў, паводле легенды, насіла пад сваёй неабдымнай спадніцай на жалезных абручах чароўная каралева Марго. Кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст Трэці выразаў з паперы чалавечкаў

і будынкі, Геранім Радзівіл збіраў голкі ды іншыя небяспечныя прадметы, якія яму падкладалі ненавіснікі ў ежу.

Продкі пана Шымона Каганецкага, падобна, апантана цягнулі ў пакоі прадметы, з дапамогай якіх чалавек зводзіў са свету бліжніх. Багуслава адчувала ў роце мядзяны прысмак, быццам выпіла атруты. Быццам зноў даводзілася фатаграфаваць мёртвых дзяцей. Артэфакты грувасціліся проста на падлозе вялікага пакоя, выкінутыя без усялякай павагі з шафаў, падрыхтаваныя да знішчэння. І пра прызначэнне гэтых дошчачак, клубкоў і скураных варонак проста не хацелася ведаць. Цяпер дзяўчына не так ужо асуджала цемрашала-заолага, які збіраўся гэтае "багацце" знішчыць.

– І як нябожчыца Каганецкая магла жыць у такім бедламе?

– А яна тут і не жыла.

Багуслава ледзь стрымалася, каб не выхапіць стылет: пан Шымон падыйшоў са спіны зусім бязгучна, як сапраўдны паляўнічы, нягледзячы на кульгавую нагу.

– Мачыха перасялілася ў іншы дом, у Пагневічах, адразу пасля смерці майго бацькі.

– Нічога дзіўнага...—прабурчэла Багута, змрочна назіраючы, як студэнты зацята варушаць экспанаты, быццам вароны падлу каля бойні, адбіраюць, што наступнае варта адлюстраваць для вечнасці. – А ў бацькі вашага як узнікла такое... захапленне?

– Калекцыю яшчэ дзед пачаў, – неахвотна адказаў Каганецкі. – Ён быў у нейкіх там тэасофскіх гуртках, укруціўся ў эзатэрыку. Ведаю, што першым экспанатам стаў срэбны злітак здрадніка Бекю. Яго гісторыя зрабіла на яшчэ зусім юнага дзеда такое ўражанне, што закупіў чатыры маланкаадводы найноўшай канструкцыі ў Нямеччыне, за кошт якіх можна было пабудаваць яшчэ адзін дом, ды ўсталяваў на даху. Бацька іх чамусьці паздымаў. А ў калекцыю пачало дадавацца ўсё, звязанае з праклёнамі, сурокамі, варажбой.

– Егіпецкія артэфакты – гэта таму, што на тых, хто іх здабываў, таксама падаў праклён? – зацікавіўся Калоцкі, ягоныя шырока расплюшчаныя сінія вочы паглядалі па-дзіцячы сумленна. Гэткі сімпатычны прыстойны малады чалавек з высокім ілбом і даверлівымі пульхнымі вуснамі, увасобленая мара салонных паненак... Пан Шымон, аднак, зіркнуў на піцерскага магістранта раздражнёна і зрабіў некалькі няроўных крокаў да вакна, каля якога ляжала палова драўлянай накрыўкі саркафага, выразанай па форме цела і адпаведна размаляванай. З фрагмента твару нябожчыка раскоса пазірала адзінае цёмнае вока, нібыта егіпцянін задумліва выбіраў, у каго б тут выдраць вока да пары свайму.

– Так, егіпецкія рэчы, асабліва з грабніцаў, лічыліся самымі... праклятымі. – Каганецкі грэбліва тыцнуў наском бота ў саркафаг, нібыта ў ім калісьці быў пахаваны ягоны вораг. – Успомніце лёс экспедыцыі лорда Карнавона! Нават тыя даследчыкі, хто паспелі вярнуцца ў Англію, памерлі невядома ад чаго. Магчыма, дзед хацеў давесці, што гэта ўсяго толькі забабоны, кінуць выклік лёсу. Ва ўсялякім разе, пра чорныя месы ў Жухавічах ніякіх чутак не хадзіла, магічных рытуалаў тут ніхто не спраўляў, цмокі золата не насілі, сталы не танчылі воляю выкліканых духаў. Памёр дзед мірнай смерцю, ад хваробы нырак, пахаваны як хрысціянін, на могілках у Пагневічах. Бацьку пашанцавала менш – сышоў адносна маладым. Мне, падобна, пашанцуе яшчэ ў меншай ступені...

Пан Шымон абарваў сябе, быццам пачаў гаварыць лішняе. Ніхель, які наладжваў фотакамеру, павярнуўся да яго:

– Вы б усё-ткі адышліся падалей ад акна, пан Каганецкі. З вашых паводзінаў магу выснаваць дзве гіпотэзы: альбо вам надакучыла жыць, альбо карціць пахваліцца зухаватасцю і падражніць дурных мужыкоў, якія відавочна прымаюць вас за ваўкалака. І ў першым, і ў другім выпадку нас чакаюць непрыемныя клопаты з вашым трупам. Тлумачэнні з паліцыяй, сапсаваная рэпутацыя... З чаго б нам увязвацца ў гэта, тым больш уражлівай дзяўчыне?

Заолаг кінуў незадаволены пагляд на фатографа, але ўсё-ткі адступіў углыб пакоя.

– Прашу прабачэння. Даю слова, што да вашага ад'езду пастараюся не перайсці ў становішча трупа.

І, памачаўшы, дадаў:

– Хаця не думаю, што вас з дачкой уразіць відовішча нябожчыка.

Вось табе маеш... Нешта западозрыў? Студэнты прагаварыліся? Налілі алею ў дзіравы збан... Але граф патлумачыў:

– Лічу так не таму, што вас запрашаюць фатаграфаваць пахаванні. У мяне ўражанне, што вы з дачкой прайшлі вайну... Ці на ёй знаходзіцеся. Я ж спецыяліст па паводзінах жывёлаў, а што тыпова для іх, тыпова і для чалавека. У таго, хто аднойчы зміры́ўся з прысутнасцю смерцю, вочы іншыя...

– Як у вас? – рэзка папыталася Багуслава. Каганецкі адвёў пагляд шэрых вачэй.

– Як у мяне.

Да чаго недарэчныя размовы... Усё, што варта ведаць – як найхутчэй сфатаграфаваць тое, што гэтыя маньякі, Калоцкі з Масевічам, палічаць патрэбным, і з'ехаць. Хай гэты вар'яцкі граф сам разбіраецца са сваймі хімерамі.

– Вось гэта яшчэ, калі ласка! – археолаг ласкава грувасціў на пакрыты белым палатном зэдлік, прыстасаваны як падстаўка для таго, што здымалі, палена з груба высечаным арнаментам, у якім угадваліся вочы і перакрыўленыя лапы. Адно такое палена ўжо гарэла ў печцы, бязлітасна расколатае і засунутае туды гаспадаром дома пад тужліва-абураныя погляды студэнтаў.

У пакоі ні абразоў, ні знака крыжа. Нават у сталоўні, дзе зваленая частка калекцыі, усё-ткі меўся ў куце стары абраз, з якога з дакорлівым сумам пазірала Прасвятая Багародзіца. А тут, відаць, самі ўладальнікі ўсведамлялі – не да месца святыя рэчы. Ганебна паказваць такое вачам святых – хаця ясна, што тыя вочы бачаць і скрозь сцены, і скрозь грэшную плоць.

Дарэчы, і ніводнага фамільнага партрэта. Магчыма, таксама каб не засмучаць продкаў. Ну і змрочныя арыгіналы былі дзед і бацька кульгавага графчыка!

Багута падумала, што таксама не хацела б, каб юнак у канфедэратцы на ейным дагератыпе быў сведкам такіх-сякіх яе ўчынкаў.

За вакном сцямнела, хоць было яшчэ далёка да вечара. Кастрычнік, як самавіты млынар, няспешна развязваў поўны мех з буйным халодным зернем дажджу, каб сыпануць уніз, на марудныя жорны зямной цвердзі. Ніхель заявіў, што асвятленне надта кепскае, зараз усю магнэзію растрацяць на падсветку, і так увесь пакой задымілі, і лепш зрабіць невялікі перапынак на гарбату. Толькі давайце не станем гуляцца з небяспекай і ў сталоўню, дзе такія зручныя для забойства вокны, не пойдзем.

Адзіны фамільны партрэт якраз і выявіўся ў гасцёўні на другім павер-

се, куды граф пусціў прыхадняў не больш ахвотна, чым свякруха нелюбімую нявестку да куфра са сваімі сукенкамі. Але ж тут было найбольш бяспечна – усяго два вакны, абароненыя ад вока стралка зашклёнай галерэяй з зімовым садам – ад яго застаўся толькі панылы сухі фікус ды шэраг пустых кадак, з якіх там-сям тырчэлі скурчаныя парэшткі раслінаў. З партрэта ў бронзавай рамцы з віньеткамі пазірала мажная дама з чорнымі зрослымі брывамі і цёмным позіркам. Напэўна, пад носам у яе былі вусікі – у Вялікім Княстве Літоўскім гэта лічылася прыкметай жарснай натуры. Менавіта з-за такіх вусікаў кароль Ягайла не ажаніўся са старэйшай князёўнай Гальшанскай, абраўшы не такую прыгожую, але маладзейшую і спакайнейшую Соф'ю. Але ў эпоху дырыжабляў і морфію белая скура і субтыльная фігура цаніліся вышэй, чым румянак, крамяныя формы і згаданыя вусікі, таму мастак іх і не намаляваў. Аднак і без гэтага жанчына на партрэце была ўладнай і суровай, не як каралева – хутчэй як ахмістрыня. Белыя карункі старасвецкага каптура, што аздаблялі яе твар, здаваліся калючай шэранню.

– Пані Антаніна, – скупа патлумачыў Каганецкі. – Хай зямля ёй пухам... Не, асаблівай пяшчоты з яе боку не бачыў, але яна зрабіла для мяне вельмі шмат. Ніхто б таго не зрабіў.

Вось такое развітальнае слова.

– А вы адкуль родам, пан Ніхель? – нечакана папытаўся граф, які сам гарбаты піць не збіраўся, але прынёс знізу жалезны, трохі пагнуты імбрык з кіпенем, у той час як Багуслава завалакла на падносе кубкі і срэбную цукарніцу ў выглядзе дамка з саламянай страхой. Праца была настолькі тонкая, што ў метале перадавалася кожная саломінка.

Та-ак, куды лепей было б цяпер сядзець у такой беднай хатцы, чым у гэтым фанабэрыстым маёнтку, у атачэнні восені, нянавісці і забойцаў.

– Я нарадзіўся тут, – памаўчаўшы, прамовіў Ніхель. – Праўда, не магу сказаць, што буду жыць тут. – Пасміхнуўся, падкруціў вусы. – Мне сапраўды давялося блізка пазнаёміцца са смерцю – трыццаць гадоў таму. У тутэйшых лясах і балотах.

Багуслава нават уздрыгнула: Варакса, пільны канспіратар, ніколі не дазваляў сабе раскрываць штосьці з уласнай біяграфіі. Ды яшчэ пры людзях старонніх, магчыма, небяспечных. Але Ніхель працягваў:

– Я не дваранін, мой бацька быў гадзіннікавым майстрам, зыгаршчыкам, як у нас казалі. Добрым майстрам. І кніжнікам. Любіў чытаць філосафаў і верыў, што грамадства мусіць быць адладжанае, як механізм: кожны рамеснік і земляроб круціцца на сваім стрыжні, шасцяронкі-чыноўнікі перадаюць адна адной рух, чапляючыся зубчыкамі, а ў цэнтры – спружына. Мысляры і асветнікі. Бацька лічыў, што воля – натуральнае права чалавека.

Каганецкі скептычна пахітаў галавой.

– Пусціць ідэаліста кіраваць – усё роўна, што даць дзіцяці лейцы нарвістых коней. Гісторыя з Фаэтонам, сынам Геліяса, які, зажадаўшы сам сесці ў бацькаву сонечную калясніцу, не ўтрымаў коней і ледзь не ўчыніў зямлі вогненнае пахаванне, павінна чамусьці вучыць.

– Найлепшае апраўданне ўсіх дыктатараў – што простыя людзі не здольныя да дзяржаўнай дзейнасці, – холадна сказаў Ніхель. – А між тым у 1606 годзе жыхары Магілёва, даведзеныя да скрайнасці рэпрэсіямі супраць праваслаўных – ім не давалі ні дзіця ахрысціць, ні нябожчыка адпець, ні шлюб законны ўзяць – паднялі паўстанне, разагналі раду, занялі ратушу.

Праваадыром быў стараста цэха саладоўнікаў Стахор Мітковіч. Абралі новую раду – у яе ўвайшлі простыя рамеснікі, такія, як мой бацька, кавалі, збройнікі, ганчары. І два гады гараджане самі кіравалі сваім горадам!

Ніхель урачыста памаўчаў і працягваў сямейную гісторыю.

– Дык вось, аднойчы бацька быў змушаны тэрмінова везці адрамантаваны залаты брэгет заказчыку, які захацеў прадэманстраваць знаёмцам асаблівы перазвон гадзінніка на патрыятычны матыў. У Менску якраз былі кантракты – традыцыйныя з'езды шляхты, якія адбываліся напачатку сакавіка кожнага года дзеля разлікаў па крэдытах ды маёмасных угодах. Магнат знаходзіўся на прыёме ў Ашторпаў. Бацька з належным паклонам уручыў гадзіннік... А замест платы тут жа, пры ўсёй шаноўнай публіцы, атрымаў поўху – бо заказчык, які ўжо накаштаваўся шампанскага, вырашыў, што на ягоным атрыманым у падарунак ад высокай асобы брэгеце не хапае аднаго смарагда, а ў патрыятычнай мелодыі майстар-шкоднік змяніў некалькі тактаў.

Фатограф гаварыў вельмі спакойна, нават з усмешкай. Так паляўнічы распавядае пра паядынак з тыграм, пухатая скура якога ляжыць у гэты час пад ягонымі нагамі, бездапаможна рассцеленая перад утульным крэслам.

– Бацьку завалаклі ў пастарунак. Я бег следам і душыўся слязьмі, але не маліў і не крычаў, таму што ведаў: гэта ганебна. Бацька ўзяў мяне з сабой да Ашторпаў, каб паказаць гэтак званы "свет", пыхлівы, легкадумны і жорсткі... Паказаў. Заказчык, нават калі працверазеў, так і не прызнаўся, што памыліўся. Праўда, абвінавачванне сваё адклікаў, да суду не дайшло, бацьку назаўтра ж адпусцілі... Але за гэты час "злачынцу" збілі так, што дадому везлі непрытомнага, згрузіўшы кулём на воз. Праз пяць гадоў у атрад інсургентаў мы з бацькам пайшлі абодва. А потым маёй радзімай стаўся ўвесь свет.

Багуслава ўспомніла, што Ніхель не насіў з сабой гадзіннікаў, купляў толькі ёй. Яна думала, гэта проста прыхамаць... З другога боку, дасканалая дакладнасць Вараксы ў абыходжанні з хімікаліямі, узрыўнымі ці фатаграфічнымі механізмамі заўсёды яе здзіўляла... Вось і разгадка: так мог працаваць спадчынны гадзіннікавы майстар, зыгаршчык.

Калоцкі, прыціскаючы да грудзей томік у пашарпанай чорнай скураной вокладцы, неяк збянтэжана паглядзеў на Ніхеля і прамовіў, быццам просячы прабачэння:

– А я дваранін.

Уздыхнуў, нібыта прызнаўся ў злачынстве.

– Род збяднелы, хоць і стары. Герб "Касцеша". Бацька разарыўся, ажаніўся другі раз з трохі багацейшай, удавой з двума дзецьмі. Я гадаваўся ў дзеда, бегаў басанож па лугах ды палях разам з сялянскімі дзецьмі, разам пасвілі коней і распавядалі страшныя гісторыі пра цмокаў, сустракалі Купалле і шнырылі на вясковых вяселлях... Але, вядома, сваякі мне ўнушалі, што я шляхціц, што мы вышэй за простых людзей. Бабуля кожны вечар чытала мне Славацкага і Міцкевіча. Зразумела, калі падрос і паступіў у гімназію на казённы кошт, а пасля ва ўніверсітэт на дзяржаўную стыпендыю, я на басаногае дзяцінства забыўся. Заняўся скіфскай культурай, – Міхал Калоцкі скасавурыўся на Багуславу, нібыта хацеў пабачыць найперш яе рэакцыю.

– Вы мне вельмі нагадваеце скіфскіх стэпавых ваярак на конях, гнуткіх, дужых і бязлітасных, панна Ніхель. Прынамсі, я іх такімі ўяўляў... Як і

валькірый – не мужападобнымі, з вырачанымі вачыма і цяжкімі сківіцамі, а вытанчанымі і бясхібнымі, як стылет... – Міхал, кінуўшы на Багуславу захоплены позірк, сарамліва адвёў вочы, як бы просячы прабачэння за няўчасны камплімент. – А аднойчы ва ўніверсітэце мы паўсталі супраць таго, што дваіх студэнтаў адміністрацыя за парушэнне дысцыпліны аддала ў салдаты. Атрымаўся сапраўдны бунт, да нас далучыліся студэнты з медыцынскага ды тэхналагічнага... Карацей, наарыштоўвалі паліцыянты народу пару соцень, сагналі ў Манеж... Вось сядзім, пакуль разбіраюцца з нашым лёсам. Чым заняцца? У карты? У фанты? Пасля такога прыступу высакароднай адвагі? Не варта герояў! І паколькі там нас было выхадцаў з розных куткоў імперыі, хтось прыдумаў у народніцкім духу: падзяліцца па нацыянальнасцях і зладзіць канцэрты культур. Украінцы паказалі свае песні ды скокі, расейцы, габрэі, чачэнцы, грузіны... А мы, беларусы, збіліся сіратліва ў куток – і паказаць няма чаго. Не ведаем. Сорамна так сталася... Давай кожны ўспамінаць, што там чуў у дзяцінстве, якія песні, хоць прыпеўкі... Як там словы прамаўляюцца... Здолелі тое-сёе адметнае падрыхтаваць. Але перажытае так нас уразіла, што калі ўсіх выпусцілі, мы вырашылі выправіць тую ганьбу і стварылі гурток беларускай моладзі. А я пачаў адкрываць для сябе гісторыю Беларусі, каб потым адкрыць яе для іншых.

Міхал раптам усміхнуўся – не з выклікам, а шчыра, па-дзіцячы, і зноў зірнуў на Багуславу, ягоныя шчокі заружавелі.

Нешта зачаста ён пазірае на забойцу з нечаканым замілаваннем. Што ж, адзіная дама ў мужчынскай кампаніі – тут праз нейкі час і расамаху прымуць за Купалінку.

– Вы так горача агітуеце мяне за вартасці тутэйшай культуры, як быццам я вырас на Суматры, – з некаторым раздражненнем прагаварыў Калоцкі, нервова хаваючы рукі ў кішэні замшавай курткі. – Запэўніваю, што і мне даводзілася бегаць басаню па гэтых лугах, чуць купальскія песні ды нянькіны казкі-байкі. Слухаючы вас, можна падумаць, гэта нешта выключнае, нейкі подзвіг... Мне не чужы гэты край, я ведаю, што мае продкі называлі сябе ліцвінамі, гінулі за волю гэтай зямлі, што і сёння хтосьці змагаецца за яе незалежнасць. Мне нават даслаў адзін мой сентыментальны знаёмца з Гародні ў Вену асобнік зборніка “Дудка беларуская” паэты Мацея Бурачка... Цікавая такая стылізацыя пад мужыцкія напевы. Прызнацца, мне больш спадабалася сваёю жарсцю прадмова да тае брашуры. “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”... Але ў мяне зараз ёсць куды больш балючыя і неадкладныя справы, чым фальклор. Паверце, тое, што я згадзіўся вас прыняць – вялікая ахвяра.

Граф Каганецкі неяк тужліва зірнуў за вакно – праз двайныя шыбы, кватэры і зімовага саду, святло прасявалася скупа, як манеты з рук мытніка, і перавёў позірк на фатаграфку.

– А вы, мадэмуазэль, як і ваш бацька, грамадзянка свету?

Багуслава злосна сціснула вусны. Сустрэцца б з гэтым прафесарам Венскага ўніверсітэта на вузкай сцежцы без сведкаў, ды разікаў пяць прыкласці яго смуглявай нахабнай фізіяноміяй у гразь, ды другую нагу перабіць – тады з ягонага голасу, калі звяртаецца да яе, знікла б гэтая старасвецкая галантнасць з адценнем паблажлівасці. Што ж, калі Ніхель даў дазвол сваім прыкладам на шчырасць...

– Я нарадзілася ў Сібіры. У бараку для катаржнікаў. Расла ў прытулку. На радзіме продкаў упершыню апынулася ў шаснаццаць гадоў. Так што з

успамінамі дзяцінства, купальскімі песнямі ды казкамі клапатлівай нянькі ў мяне кепска.

Каганецкі паглядзеў на Багуславу, потым на ейнага саманазванага бацьку:

– Цаню вашу шчырасць, спадарства. Даю слова, вашы расповеды не выйдуць за гэтыя сцены. Прынамсі, па маёй віне.

– Не сумняваўся ў вашай прыстойнасці, ваша светласць, – цырымонна пакланіўся Ніхель, беражліва паставіўшы кубак на столік з інкруставанымі вінаградными гронкамі. Багуслава схаладнела ад таго, як ён гэта прамовіў, і як пры гэтым пасміхнуўся. Гэтак ён усміхаўся шынкару ў Пензе, які цішком паслаў за паліцыяй, пакуль яны з Ніхелем пілі гарбату з малаком. Залез, сволач, счакаўшы моманту, у іхнія рэчы, згледзеў стосік падазроных кніг.

Пукатыя зялёныя вочы шынкара, пакуль з іх знікала жыццё, нібыта выцвіталі, а з кута правага вока выкацілася адзіная дробная слязінка.

Цікава, граф паспее штось скеміць, калі давядзецца і яго...

Не, лепш выкінуць такое з галавы. Нашто ім з Ніхелем крывавы след? Трэба ж вярнуцца ў горад Б*, дажыць ціхамірным тубыльскім жыццём да Калядаў...

Калі, вядома, іх тут не перастраляюць шчырыя падданыя кульгавага графа.

Праца распачалася па новай, брудныя кубкі былі самым эгаістычным чынам забытыя на стале ў гасцёўні. Напэўна, нармальным людзям усведамленне, што ў вакно ў любы момант можа ўляцець куля, адбіла б усялякую ахвоту не тое, што працаваць, але ўвогуле тут знаходзіцца. Але ніхто з прысутных, падобна, нармальнасцю і абвостраным пачуццём самазахавання не вылучаўся, хіба Калоцкі старанна адыходзіўся далей ад вокнаў ды зачаста пазіраў у іх бок.

Варакса засяроджана чараваў над фотаапаратам, Багуслава няспешна складвала адпрацаваныя пласцінкі ў спецыяльную цёмную скрыню, Калоцкі і Масевіч мітусіліся, як жыхары абложанага горада перад апошняй магчымасцю ўцячы. Сшытак, у які Масевіч перапісваў адзнятыя экспанаты, імкліва запаўняўся. Ад успышак магнезіі ўтварыўся смурод, быццам на фарбавальнай мануфактуры, так што даводзілася час ад часу рабіць перапынкі, каб выгнаць дым. А гаспадар змрочна расхаджваў па пакоі, увесь час пазіраючы на свой гадзіннік, просты, у корпусе з белага металу, без усялякіх упрыгожванняў. Падобна, адзінае, што цікавіла графа – калі ж госці нарэшце з'едуць?

Таму грымоты ў суправаджэнні бляску маланкі непрыемна агаломшылі яго. Навальніца ў кастрычніку? З'ява надзвычай рэдкая, як вядома, сведчыць пра тое, што зіма будзе кароткай. А яшчэ, што выправіцца ў шлях па гразкай дарозе, праз лес, цяжкавата.

Багуслава са здзіўленнем заўважыла ў светлых шэрых вачах на смуглявым твары адценне панікі. За вокнамі сцямнела, як ноччу, ад чаго маланкі бліскалі проста сляпуча.

– Дазвольце, мы застанемся да раніцы, – мармытаў Калоцкі.

– Гэта немагчыма. Вы можаце хаця б дабрацца да леснічоўкі, яна ўсяго ў гадзіне язды, – адрывіста гаварыў граф, паціраючы перабіты нос. – Паверце, там вам будзе куды бяспечней.

– Пан Каганецкі, – умяшаўся Ніхель. – Я не гару жаданнем затрымацца тут больш, чым патрэбна дзеля выканання заказу. Але вы ж самі павінны разумець, што ехаць у такое надвор'е – вар'яцтва.

Каганецкі ўпарта нахіліў галаву, сцягнутыя зноў у хвост русявыя валасы цяжка ўпалі на левае плячо.

– Вы павінны з’ехаць. У маёнтку Жухавічы гэтай ноччу не застанецца гасцей. Не змушайце мяне да скрайніх мераў!

Чаго ён упіраецца, як пырнік за граду?

– Сёння пачынаецца поўня! – нечакана азваўся Давыд Масевіч шматзначным тонам. – Магу паспрачацца на свой нататнік – вы, граф, менавіта гэтага баіцёся, што прыдуць паляўнічыя на ваўкалакаў, бо, згодна забабонам, у гэты час пярэваратні набываюць звярынае аблічча. Але дзе логіка? Нашто заставацца аднаму прад небяспекай? Тым больш вам варта ці не праганяць нас, ці з’ехаць з намі.

– Не ваша справа, чаго і каго я баюся. Даю вам дзве гадзіны.

Нібыта ў пацверджанне словаў пана Шымона ўдарыў пярун, і па шыбах распаўзліся празрыстыя водарасці залевы.

Граф рэзка развярнуўся і пакульгаў з пакою. Праз нейкі час у канцы калідора пачуўся скрыгат, быццам адчыняліся цяжкія дзверы, і крокі... Але не ўверх па лесвіцы – а ўніз. Значыць, у доме ёсць яшчэ і сутарэнні з цікавым начыннем кшталту шкілета Мінатаўра. Пускаць туды гасцей гаспадар відавочна не збіраўся.

Ніхель перазірнуўся з Багутай: што ж, ім не звыкаць да неспрыяльных дарог. Неяк дабяруцца. Прыгнечаныя студэнты, якія, аднак, не насмельваліся пярэчыць, спрабавалі вызначыць наастачу найбольш каштоўныя скарбы дома – Каганецкі дазволіў зазіраць ва ўсе пакоі першага паверха. Адзін з тых пакояў, з мядзведжай скурай на падлозе і вялікім камінам з белага мармуру, быў прысвечаны шаманству: бубны, звярыныя галовы, драўляныя ступы, расшытыя грубымі арнаментамі скураныя балахоны, косткі... Масевіч адразу распавёў, што згодна перакананням алтайцаў-целявутаў, шлях у шаманы даволі пакутлівы: хоць простыя смяротныя гэтага працэсу не заўважаюць, духі разразаюць кандыдата на кавалкі, аддзяляюць мяса і пералічваюць ягоныя косткі. Калі адной не хапае, чалавек павінен памерці, калі знаходзіцца лішняя – хоча не хоча, стане шаманам. Потым яго цела збяруць, ажывяць і надзеляць дарам звязвацца з іншым светам. Калі ж дух, звычайна жывёльны, пад гук бубна ўсяляецца ў цела шамана, гэта таксама даволі пакутліва, няшчасны жрэц трасецца ў канвульсіях, закочвае вочы, пускае з роту пену...

– Я чытаў лісты з казахскіх стэпаў Адольфа Янушкевіча, паўстанцкага камандзіра родам з Дзягільна, што каля Койданава, – паспяшаўся дадаць сваё Калоцкі, нібыта баяўся паказацца менш дасведчаным, чым сябар. – Ён пісаў пра баксы – казахскіх музыкаў, якія авалодвалі майстэрствам ігры на кабызе, інструменце з дзвюма валасянымі струнамі, так, што ўмелі засяляць у сябе духаў. Я нават спецыяльна аналізаваў апісаны Янушкевічам абрад. Адзін баксы абматаў некалькі палачак анучамі, вымачанымі ў тлушчы, падпаліў і стаў маліцца, прымушаючы нячыстага ўвайсці ў сваё цела. Калі ж той нібыта ўвайшоў, пачаў “выдаваць страшныя гукі і кідацца па юрце, як звер”. Біўся галавою, ляскаў зубамі, круціўся туды-сюды так, што ўвесь пакрыўся пенай. А пасля прадказаў Янушкевічу і ягоным сябрам удалы канец экспедыцыі. Праз нейкі час наш зямляк напаткаў другога баксы і папрасіў паказаць ягонае майстэрства. Той пачаў граць і спяваць у такім тэмпе, што Янушкевіч піша: “не мог зразумець, як у яго так хутка язык круціўся, вызываў розных багоў, святых і анёлаў, між якімі былі Ізраэль і Гаўрыіл”. А потым музыка сказаў: “Дайце мне сто нажоў, я

з імі пагуляю". Знайшлі чатыры нажы... Баксы паклаў іх сабе на плечы, загадаў абматаць пасам і стаў бегаць з імі па юрце. А потым утыркнуў тыя нажы ў сябе, і ніводнай кроплі крыві, і ніякай шкоды! Вось што такое моц самаўнушэння! – Калоцкі уздыхнуў нават з зайздрасцю. –Гавораць, некаторыя нашы продкі, калі біліся, таксама шалелі ад бойкі і не адчувалі ранаў. Проста мы забыліся на іх уменне. Янушкевіч завяршае свой аповед так: "Вобраз гэтага шалбера ў чырвонай шапцы з казлінай бародкай, яго дзікая музыка і д'ябальскія спевы, юрта, асветленая цьмяным полымем свечкі, сніліся мне ноччу і мучылі, як блёкат ліхаманкі". Вунь, дарэчы, кабыз у куце і стаіць...

Кабыз быў падобны да маленькай лютні з дзіўна выцягнутым грыфам, і Багуславе зусім не хацелася кратаць ягоныя дзве струны, быццам гук мог абудзіць пачвараў. А замацаваны на каменнай падстаўцы шост с конскім чэрапам Масевіч абвесціў чыста беларускім артэфактам. Такім чынам, паводле запісаў Паўла Шпілеўскага, айчынныя пастухі падчас начлегу бараніліся ад злога духа Кумельгана, які шкодзіў статку. Конскі чэрап увасабляў галоўнага ворага Кумельгана, іншага духа па мянушцы Вазіла. Той быў падобны да чалавека, але з конскімі вушамі і капытамі, і дапамагаў зберагчы коней і ад хваробаў, і ад дзікіх звяроў.

Багута ўявіла, як два духі б'юцца за лёс табуна на паляне, у святле поўні, брыкаючы адзін аднаго капытамі (у Кумельгана яны, напэўна, таксама ёсць), і ўявілася гэта так падобна да паказальнай сутычкі цыркавых барцоў у паласатых трыко, што разабраў смех.

У другім пакоі выявілася шафа, набітая старой адзежай, зусім недарэчнай у панскім доме: кофты, андаракі, нагавіцы – выцвілыя, падраныя, смярдзючыя... Усё паношанае, належала зусім розным людзям: жабраку, паненцы, старому, немаўляці... Сакрэт патлумачыла прышпіленая да дзіцячай вязанай, калісьці зялёнай, кофтачкі акуратная цыдулка: рэч была з сурокам, ад якога дзіця памерла... Пазначаны год, вёска, імя дзіцяці, прозвішча вядзьмаркі... Мяркуючы па ўсім, артэфакт здабыў дзед сённяшняга ўладальніка.

Нават апантаныя навукай археолаг ды этнограф палічылі за лепшае паганую шафу адразу зачыніць і больш у той пакой не заходзіць, а вальнадумца Калоцкі яшчэ і перахрысціўся некалькі разоў у дзвярах.

Вось такі тут катыльён... Апошні, самы шалёны, танец балю...

Даследчыкі стаялі ў вітальні каля сваіх скрынак у некаторай разгубленасці. Міхал Калоцкі дык яшчэ і мокры, як карабельны пацук – выходзіў запрагаць каня. Масевіч адчайна перхаў у рукаў, намагаючыся рабіць гэта незаўважна. А на двары бушавала сапраўдная бура. Лес за агароджай з ваўчынымі пысамі выў і трашчаў, быццам між дрэваў ішла знішчальная вайна. Але чакаць не выпадала – бо і так надвячорак, яшчэ прамарудзяць, ноч заспее ў дарозе, нават да бліжэйшага жытла не дацягнуць.

У канцы калідора зноў бразнулі дзверы. Граф павольна кульгаў да гасцей, унурыўшы галаву. Багуслава паспрабавала ўявіць яго ў ролі прафесара, выкладчыка Венскага ўніверсітэта, за кафедрай... Дарэмна. Куды лягчэй – у экспедыцыі, з ружжом за плячом.

А на другім плячы – стракаты папугай, які крычыць: "Піястры! Піястры!"

Калі пан Шымон падняў вочы, Багуце падался, што яны неяк пацямнелі і падазрона блішчаць.

– Добра, я... не звер. Усё-ткі. Можаце заначаваць. З умовай – будзеце сядзець у левым крыле, дзе пасяліліся, нават у калідор не высоўвайцеся.

Для натуральных патрэб продкі закупілі ў кожны пакой дыхтоўныя такія начныя вазы. Хлеб, вяндліну, ваду бярыце с сабой. Вячэрніх пасядзелак пры свечках і клавесіне не будзе.

Ды не, не падалося. Шкляны бляск склеры, пашыраныя зрэнкі, ноздры перабітага носа, амаль падобнага да італійскага, уздрыгваюць, пальцы, даволі прыгожай формы, нібыта перабіраюць клавішы... Багуслава надта добра ведала такія сімптомы. Ах-ха-ха, спадар заолаг, дык вы на какаіне сядзіцё? Ну ясна, чаму вас усё раздражняе.

– Яшчэ раз паўтараю: што б ні адбывалася ў гэтым доме, хоць вайна Белай і Чырвонай Ружы, гэта не вашая справа, да раніцы вы сядзіце ў сваіх пакоях.

Памаўчаў, утаропіўшыся ў нейкую кропку, не слухаючы падзякаў ды запэўніванняў, дастаў з кішэні нагавіцаў бутэлечку са шкла колеру цёмнага бурштыну, адсёрбнуў нейкай бурды з вохкім пахам, прыслухаўся да ўласных адчуванняў, схаваў напой зноў у кішэню, развярнуўся і моўчкі сышоў.

Дакладна, какаініст са стажам.

Ніхель ніякага знаку дачцэ не падаў – значыць, ноччу нічога ўчыняць не плануе. Затое Калоцкі, які нібыта спецыяльна затрымаўся ў калідоры, каб застацца з Багуславай сам-насам, раптам, нахіліўшыся, прашаптаў:

– Ночы восеньскія доўгія і страшныя. Вы не будзеце супраць, калі я складу вам кампанію? Хаця б ненадоўга...

Багуслава зазірнула ў сінія вочы, не зразумець – наіўныя альбо ілжывыя, позірк хуценька пераскочыў на бронзавы падсвечнік с жоўтай манастырскай свечкай у руцэ фатографкі. Ашалеў магістрант? Калоцкі загаварыў хутка, як бы баяўся, што яго перапыняць:

– Не падумайце, панна Багуслава, што я намякаю на штосьці непрыстойнае. Вы – мая валькірыя... Ну, вядома, я трохі страціў галаву, і калі б вы былі да мяне хоць трохі схільныя... Мы ж з вамі людзі без забабонаў... Але я буду шчаслівы, калі вы дазволіце проста паразмаўляць з вамі, ратуючыся ад гэтай страшнай самоты і прыгнятальнае атмасферы...

Ага, паразмаўляць. Вершы Надсана пачытаць. На свечку разам падзьмуць. Багуслава саркастычна пасміхнулася. Аднак не чакала такога спрыту ад археолага. Ён, відаць, спадзяецца, што вядомая рэвалюцыянерка падтрымлівае рэвалюцыйныя погляды на адносіны палоў?

– Не ўпэўненая, што гэта добрая ідэя.

Калоцкі працягваў нешта вуркатаць, шчыра так, даверліва, чырванеў, запінаўся... Папраўляў шалю на плячах Багуславы, дакранаўся нібыта выпадкова да яе рукі. Якая-небудзь пераспелая прыгажунька здалася б. Багуслава, у прынцыпе, сапраўды не мела тут забабонаў. Не павінна была мець. У свой час Ніхель, калі заўважыў, як падрослая падапечная мэнчыцца, не разумеючы, што з ёй адбываецца, адкуль салодка-шчымлівы цяжар пад лыжачкай, што такое цьмяна-грахоўнае мроіцца, даў ёй пачытаць кнігі па жаночай фізіялогіі і некалькі добрых раманаў – Дастаеўскі, Бальзак, Гі дэ Мапасан, Заля... Раман “Мадам Бавары” Флабэра Багуславу проста абурыў – ну што за курыца тая Эма, няўжо не магла знайсці сабе карысны занятак? Толькі і шукала, да якога б мужыка прысмактацца, не разумеючы, чаму яны па чарзе стараюцца пазбавіцца ад паразіта, няхай гэта і чароўная амяла. Жульен Сарэль са стэндалеўскага “Чырвонага і чорнага” падаўся ёй куды больш блізкім... Прыкідвацца і ненавідзець яна таксама ўмела. Ну а самы прыклад, вядома, належала браць з герояў “Што рабіць?” Чарнышэўскага,

сапраўднага змагара і пакутніка. Вось толькі Багуслава не прызналася б нікому, што тэкст пакутніка чамусьці здаецца ёй куды больш бляклым і менш кранае, чым напісанае здраднікам Дастаеўскім.

А потым Ніхель патлумачыў, што выбрыкі юнага арганізма, у аснове якіх усяго толькі інстынкт размнажэння, могуць перашкодзіць Справе. Варта натуральныя патрэбы задавольваць. У шэрагах партыі не месца цнатлівым паненкам, якія чырванеюць і страчваюць прытомнасць пры кожным непрыстойным намёку. У людзей валявых і апантаных ідэяй жаноцкасць са слабасці павінна ператварыцца ў зброю.

Маладых людзей, з якімі можна здабыць першы пачуццёвы досвед, Багута не прыгледзела. Ніхель вельмі проста прапанаваў свае паслугі. Выканаў усё старанна, як выконваў кожнае заданне. Багуце не было непрыемна. Старэйшы таварыш пастараўся, каб ёй не было і няёмка, каб іх адносіны не змяніліся. Некалькіх разоў хапіла. Багуслава развіталася з ілюзіямі і непатрэбнай сарамлівасцю.

Ніхель ніколі больш не спрабаваў укласці падапечную ў ложак, дурных намёкаў між імі не ўзнікала. Гэта было, як бы Багуце спатрэбіліся лекі, і ён іх даў. Дзяўчына ведала, што варта захацець, Ніхель зноў старанна і клапатліва выканае інтымны рытуал...

Але ёй не хацелася.

Відаць, гэтак некаторыя бацькі абараняюць дзяцей ад небяспекі стаць п'яніцамі: цягнецца малое да чаркі з гарэлкай – ну, на табе... Пі... Што, не смачна? Заперхаўся, зароўся? Ну вось і добра, другі раз павек не захочаш.

Штопраўда, двойчы Багуславе прыйшлося скарыстаць набыты досвед, выступіць у ролі спакусніцы. Выпадковы каханак, турэмны афіцэр, быў адзіным ключом да вызвалення таварыша. Другі, багацюшчы расфуфыраны князь, мусіў стаць добрым прыкрыццём і правесці ў палац губернатара, які ахоўвалі, як золата Нібелунгаў.

Гэта была праца, доўг і неабходнасць. І асабісты выбар Багуты, добраахвотная ахвяра – Ніхель і другія таварышы ніколі б не змусілі яе. Гэтак жа, як ім у галаву не прыходзіла пагарджаць ёю за выкананае заданне. Як сцвярджаў "Катэхізіс рэвалюцынера", напісаны "бесом" Нячаевым, "рэвалюцыянер – чалавек асуджаны. У яго няма ні сваіх інтарэсаў, ні справаў, ні пачуццяў, ні прыхільнасцяў, ні ўласнасці, ні імя. Ён адмовіўся ад свецкай навукі, пакідаючы яе наступным пакаленям. Ён ведае толькі навуку разбурэння, для гэтага вывучае механіку, хімію, бадай што медыцыну. Ён пагарджае грамадскім меркаваннем, пагарджае і ненавідзіць цяперашнюю грамадскую маральнасць".

Тое, што прасіў Калоцкі, было марнаваннем эмоцый і цялесных сілаў.

Сагнутая ўдвая постаць археолага, які прыхіліўся да сценкі, спрабуючы ўздыхнуць пасля ўдару пад лыжачку, адкідвала дзіўны цень на даўно не пакрываны лакам паркет, падобны да ценю сярэднявечнай гаргуллі.

Лупіў па чарапічным даху злосны кастрычніцкі дождж, тужліва шумеў лес, час ад часу выбухалі прыпозненыя грымоты, перхаў у ложку этнограф Давыд Масевіч, хрыпеў у калідоры пабіты археолаг Міхал Калоцкі, глядзеў у цемру вачыма з пашыранымі зрэнкамі кульгавы граф, шчэрылася за хмарамі поўня.

У маёнтку Жухавічы наставала ноч.

## Раздзел чацвёрты. Ноч абуджае звера

Згодна павер'яў байнінгаў, аднойчы поўня апусцілася на зямлю, і яе злавіла жанчына. Нябёсная госця вырвалася, але на яе паверхні засталіся тлустыя плямы ад жаночых пальцаў.

Зразумела, поўня ў байнінгаў, маленькага дзікага народа аднаго з астравоў Новай Гвінеі, была мужчынскага полу. А значыць, сэнс адзін: жанчына – гэта бруд і небяспека быць злоўленым.

Багуслава ледзь не прыбіла тады, у сталоўні, Каганецкага, які, пасміхаючыся, распавёў гэтую гісторыю, час ад часу дэманстратыўна пазіраючы на непамытыя кубкі, пра якія Адзіная-У-Кампаніі-Кабета і не думала паклапаціцца.

І зараз поўня пасылала на зямлю нябачныя хвалі з-за шчыльных хмараў, якія для яе не больш, чым павуцінкі для паляўнічага, што шыбуе па лясной сцежцы. Час "цыганскага сонца" ва ўсе эпохі лічыўся спрыяльным для ўсялякіх нетутэйшых праяваў. І цяпер у доме штось грукатала, разбівалася... Але не воляю прывідаў. Відаць, гаспадар зацята нішчыў спадчыну. Абкурыўся ці нанюхаўся, відаць...

Пры гэтай думцы Багуце страшэнна захацелася курыць. І хацелася зрабіць гэта на свежым паветры, дзе не смярдзіць склепам і адсырэлымі пярынамі. Фатографка не цярпела замкнутай прасторы ад часоў пансіёна. Яна нават устала і патузала рамы вакна, за якім усё гэтак жа бушавала залева: марна. Іх не расчынялі, магчыма, з часоў чырвоных абцасаў і пудраных парыкоў. Выйсці ў калідор? Забаронена...

Дзесьці пачуўся звон разбітага шкла, а потым – стрэл. Стралялі ў доме, з ружжа – механічна вызначыла Багута. Трохі счакала – ніводныя дзверы не рыпнулі, ніхто з яе спадарожнікаў не наважыўся праверыць, што здарылася, хаця, мусіць, і папрачыналіся.

Ну і хай сабе ляжаць. Багуславу заўсёды злавалі правілы і забароны, навязаныя ёй чужымі людзямі. Калі б Бог слухаў пастуха, уся чарада паздыхала б. Нігілістка прыхапіла цыгарэты, абхінулася шаллю і рашуча паклала руку на мядзяную ручку дзвярэй, зробленую ў выглядзе... не, не ваўчынай морды, а звычайнай ружы. Галоўнае – рухацца бязгучна.

Ну а калі ўжо апынулася ў калідоры, парушыла правілы – дык якога лесуна хавацца? І Багуслава, намагаючыся ўсё-ткі ступаць ціха, адправілся туды, дзе грукатала, ірвалася і страляла і адкуль цягнула смуродам сярэдняй велічыні пажарышча.

У каміне "шаманскага" пакоя палаў агонь. Языкі полымя ледзь не выскоквалі вонкі, узбуджаныя багатай здабычай. Граф у кашулі і скураной камізэльцы сядзеў перад камінам проста на разасланай на падлозе мядзведжай скуры, спінай да дзвярэй, меланхалічна браў з гімалаяў дзядоўскіх і бацькоўскіх экспанатаў, што груваздціліся па левую руку ад яго, па адной рэчы і скормліваў агню. Быццам качагар, які пільна падтрымлівае агонь у топцы парахода, што плыве скрозь начную буру. Прыстаўленая да сцяны, адпачывала сякера, з дапамогай якой занадта вялікія прадметы бесцырымонна распалавіньваліся. Шкло ў створцы аднаго з вокнаў было разбітае, у пакой залятаў парывы мокрага ветру і шум дажджу. Ружжо, што стаяла злева ад вакна, сведчыла, што стрэл не прымроіўся.

Граф трохі павярнуў галаву, рэзкія цені падкрэслілі абрысы запалай шчакі, выліцы, упартага падбароддзя прадстаўніка эксплуататарскага класу.

– Так і думаў, што калі і з'явяцца праблемы, дык з вамі, мадэмуазэль. Вы проста не ў стане трымаць слова?

– Я хачу выкурыць цыгарэту, – халодна цэдзячы словы, прагаварыла Багута, звыкла чапляючы на сябе маску – на гэты раз яна пераймала адметную паненку, якую пабачыла ў піцерскай багемнай кавярні. Тая заўсёды прыходзіла ў чорнай сукенцы шчыльна па фігуры, у гаржэтцы, з падведзенымі сурмой вачыма, рухалася лена і ўладна, а калі курыла, манерна трымаючы муштук, выцягвала доўгую шыю, быццам змяя рыхтавалася ўджаліць.

Струменьчык дыму цыгарэты спалохана выцягнуўся ўбок ад павеваў мокрага ветру.

Граф неахвотна ўзняўся з падлогі і стаў перад госцяй – здаецца, наркатычнае ап'яненне ў яго зменшылася, толькі стома ды туга ў рысах.

– Як бачыце, тут нават крэсла няма, вам прапанаваць. Дымна. І вакно разбітае. Ідзіце курыць у свой пакой.

– Затое попельніцы не трэба, – працягнула Багута і дэманстратыўна стрэсла попел проста на падлогу, засмечаную, як пасля візіту рабаўнікоў.

Пан Шымон злосна паглядаў на нахабную паненку, заўважна нервуючыся.

– Дакурыце – і сыходзьце. Вы не павінны тут быць.

І вярнуўся на сваё месца перад камінам, дэманструючы нежаданне падтрымліваць нават бачнасць этыкету. Падумаеш! Багуслава ўселася на падлогу непадалёк, дацягнулася вольнай рукой да кучы экспанатаў, ухапіла нейкі скураны скрутак і шпурнула ў агонь. Скрутак затрашчаў, задыміў, стаў курчыцца, як жывы... А што, можа, у ім злы жрэц калісьці зняволіў беднага духа? Каганецкі скасавурыўся, сціснуў сківіцы, але нічога не сказаў.

Нейкі час яны моўчкі сядзелі, па чарзе кормячы агонь, як жрацы паганскага капішча.

– І ўсё-ткі я не разумею вас, пан Шымон, – парушыла маўчанне Багуслава. – Здаецца, адукаваны чалавек, і дапускаеце такое... Няўжо вы не можаце давесці сваім землякам, што пярэваратняў не бывае, прынамсі, вы – не ваўкалак? Чаму яны так у гэтым упэўненыя?

Каганецкі кінуў у камін штосьці падобнае да лапця.

– Вам хочацца маёй споведзі?

Лапаць сам па сабе падскочыў на вуголлях, нібыта апрануты на нагу з капытом. Багуслава зацягнулася цыгарэтай. Што агульнае было ў графа з яе таварышамі – непатрэбна ў размовах захоўваць усе гэтыя рэверансы, ветлівыя іншаказанні, якімі абараняюцца адзін ад аднаго людзі, каб не пакрыўдзіць, не наклікаць на сябе чужой злосці.

– Было б цікава.

– Я хіба раблю ўражанне чалавека, які направа-налева распавядае пра сваё асабістае жыццё? – лена абурыўся Каганецкі, памаўчаў. – Але, відаць, містычныя дэкарацыі і самота прыгняталі яго больш, чым ён жадаў паказаць, і граф, прымружыўшы вочы і прыслухаўшыся да чагосьці, замест таго, каб зноў праганяць госцю, прамармытаў: “Час яшчэ ёсць”, і прапанаваў:

– Мена. Па справядлівасці. Я расказваю штосьці пра сябе, а вы – пра сябе.

Багуслава выдыхнула дым, паназірала, як ён растае ў паветры, быццам легкадумныя мроі юнацтва пра сусветную місію.

– Паспрабуем. Вы – першы.

Заолаг паварушыў вуглі качаргой, і яны ўспыхнулі з новай сілай, быццам агонь жадаў пакусаць нахабнае жалеза, якое даткнулася да яго вантробаў.

– Я вам казаў, што маю маці загрызлі ваўкі, калі яна вярталася ў экіпажы дамоў праз лес. Дык вось, я тады быў з ёю.

Багуслава нават забылася на маску ракавой жанчыны.

– Фурман загінуў адразу, я бачыў, як яго зваліў на дарогу звер, хапануўшы за горла. Помню, як ірваліся і хрыпелі коні, і лілася кроў з іх ранаў. А потым маці накрыла мяне сабой, і больш я не памятаю нічога. Засталося толькі... вось...

Граф закасаў левы рукаў, і Багуслава пабачыла на жылістай руцэ з напружанымі венамі пабялелыя шнары – сляды іклаў. Нешта яе падштурхнула пацягнуцца да іх пальцамі – учынак дурны, няветлівы і для Багуты неверагодны... Заолаг уздрыгнуў, зараз жа адняў руку, пазбягаючы дотыку, і апусціў рукаў.

– І так ўзнікла легенда, што вас пакусаў ваўкалак?

Каганецкі сядзеў, апусціўшы галаву.

– Пасля гэтага выпадку ў мяне развілася эпілепсія. Кадук, як кажуць у нашых мясцінах. Прыступы паўтараліся рэгулярна, я нават не мог паступіць у гімназію, да пятнаццаці гадоў вучыўся дома, у наёмных настаўнікаў. Толькі калі бацька ажаніўся з пані Антанінай, яе брат змог падабраць лекі, якія мне дапамаглі... Праўда, не да канца.

Багуслава абмерыла паглядам графа, мімаволі шукаючы сляды хваробы. Ён здаваўся дастаткова дужым, не параўнаць з Давыдам Масевічам. Але ж падучка была ў многіх вядомых людзей, трывушчых і ваяўнічых, і ў Юлія Цэзара, і ў Напалеона.

– Ну, эпілепсія... Вы ж не валіцеся з пенай на вуснах кожную гадзіну. Каб пераканаць людзей, што ў вас не сядзіць нячыстая сіла, дастаткова схадзіць на службу ў храм, да споведзі, да прычасця. Пераадолейце ўжо сябе як-небудзь.

Багута сказала тое, што параіў бы і Ніхель. Каганецкі павярнуў галаву ганарыста, як маршалак сойма да дробнага шляхціца, які верашчыць з апошняй лаўкі “ліберум вета”.

– Мне не трэба сябе пераадольваць у тым сэнсе, у якім вы разумееце. Я хаджу ў храмы. Малюся. Вера ў Бога закладзеная ў чалавеку. Францыск Асізскі лічыў, што Госпаду моляцца, як умеюць, і дажджавы чарвяк, і ластаўка, і воўк. Але калі я толькі зайду ў тутэйшую царкву, жывым не застануся. Мне не дазволяць такога кашчунства.

Багуслава адчула, што субяседнік не перабольшвае.

– Ну і ну, што ж вы такое натварылі ў сваім бурлівым мінулым?

Граф нахіліўся да каміна і кінуў у агонь яшчэ адну вядзьмарскую кнігу – студэнты завылі б пры відовішчы такога злачынства. Чароўная кніга загарэлася, як і які-небудзь звычайны, закроплены атрамантам падручнік па граматыцы, полымя абыякава гартала старонкі.

– Бацька ўжо быў жанаты з пані Антанінай, мы ўсе знаходзіліся ў царкве, на літургіі. А мне было кепска... Так кепска – як ніколі, нягледзячы на лекі доктара Боўнара. Усё плыло ў вачах, гукі зліваліся ў нейкі злосны шэпт: “Уцякай, уцякай...” Магу прысягнуць, што нехта прамовіў мне проста над вухам: “Прэч адсюль, звер”. І, разумееце, страх... Паніка. Жывёльная. Толькі напалоханая жывёла можа ўчыніць такое, як я. Выскачыў з храма пасярод службы, расштурхаўшы людзей, праз вакно. Якое размяшчалася высока, у якім ззяў вітраж... Напэўна, я інстынктыўна і памкнуўся на святло з прыцемку храма. Не пытайцеся – нічога не памятаю, акрамя крыкаў, страху, болю. Мяне знайшлі ў лесе толькі праз тыдзень, прычым

са зламанай нагой я ўмудрыўся зайсці даволі далёка. Праз год памёр мой бацька. Яшчэ праз пару гадоў я з'ехаў адсюль назаўсёды.

Багуслава кінула недапалак у камін.

– Н-да, легенду пра ваўкалака ў царкве, які выбівае вакно, я чула. Дык пасля таго выпадку вы і кульгаеце?

– Гэта перашкаджае мне не больш, чым зламаны нос, – з сумнай вясёласцю прамовіў граф. – Ну, цяпер ваша чарга... Што самага паганага вы ўчынілі ў сваім дзяцінстве?

– Забіла аднакласніцу ў пансіёне.

І зарагатала, закінуўшы галаву. Самы лёгкі шлях схаваць страшную праўду – выстаўляць яе напаказ, як грубы жарт. Каганецкі памаўчаў, на нейкі час варухнулася трывога – раптам паверыў? І Багуслава хутчэй распавяла іншае. Таксама праўдзівае.

– Мы з маці жылі ў Табольску, у доме, падзеленым на адсекі, як карабель. Карабель, які пацярпеў крушэнне пасярод ільдоў і снягоў. У кожным такім адсеку тулілася сям'я кагось з катаржанаў. Адны прыехалі па зняволеных сваякоў з пачуцця доўгу, другія з вялікай любові, альбо проста не было куды падзецца, і нават Сібір і разбойніцкае асяроддзе падаваліся не страшней прышласці на радзіме. Мая маці кіравалася каханнем. Нездарма зусім юнай паехала, не разважаючы, за чалавекам старэйшым, фактычна – малазнаёмым, узяла там жа, на катарзе, шлюб, нарадзіла мяне... І амаль адразу стала ўдавой.

Багуслава зіркнула на Каганецкага: той неадрыўна глядзеў у агонь.

– Роднага бацьку я не памятаю. Ніхель – прыёмны... У мяне было мала цацак. Нешта выразанае з цурбачкоў, улетку – лялькі, скручаныя з лапушыны. Але мяне заўсёды вабіла вострае, бліскучае, небяспечнае. У наш дом часта заходзілі жандары. У аднаго з іх быў маленькі пісталет, бліскучы, з інкрустацыямі – накладныя перламутравыя фігуркі звяроў. Як мне хацелася мець тую прыгожую цацку!

Багуслава тужліва ўтаропілася на шаманскі бубен, які глядзеў са сцяны, быццам пляскаты твар волата.

– І я сцягнула пісталет, калі жандар сядзеў за сталом у нашым бараку і частаваўся "паднашэннямі". Дзеля гэтага чырванатварага тыпу з абвіслымі вусамі, у якіх заўсёды застравала капуста, жыхары, а імі былі ў асноўным жанчыны, скідаліся з апошняга на гарэлку, назапашвалі самага смачнага, адрываючы ад сваіх дзяцей. Бо залежалі ад ягонай волі, ад ягонага настрою. Я сунула пісталет у сваю хованку: у канцы агульнага калідора, пад сляпым вакном, трэснула падлога, і дошчачка лёгка вымалася. Але жандары выдатна ведаюць усе хітрыкі паднадзорных. Яны пераварочвалі і трэслі наш дом-карабель, як пралля мокрую бялізну ў тазіку. І знайшлі пісталет.

Багуслава прыкусіла зубамі завусеніцу на ўказальным пальцы, адарвала... Бязважкі шматок скуры прыліп да губы, і фатаграфка змахнула яго на затаптаную падлогу, быццам хацела хоць маленькай частачкай сябе адкупіцца ад нябачных суддзяў.

– Я нічога нікому не сказала. У доме плакалі і вылі, мужчын арыштавалі, жанчын цягалі на допыты, маю маці таксама. Сівелі валасы, дабаўлялася сінякоў... А я маўчала. Двое суседзяў зніклі. А мяне цікавіла толькі, што пасля аднаго з іх, слесара, застаўся кронцыркуль, які я цішком падабрала, і на нейкі час гэтая рэч, металёвая, з вострымі кончыкамі, замяніла мне страчаны пісталет. Па-мойму, я так і не ўсвядоміла, што нарабілася з-за мяне.

Вецер выў.

Агонь трашчаў.

Каганецкі ўсё маўчаў...

Дурны вершык... Дурны вечар... Дурная кабета, развязала язык. У пекле балбатлівых прымушаюць лізаць распаленыя патэльні.

Гаспадар нарэшце прамовіў:

– Колькі вам было год?

– Пяць... Магчыма, шэсць.

Халодны павеў з вакна – гарачы дым з каміна...

– Вы надта рэфлексіўная. Вы не павінны займацца тым, чым займаецеся.

Большага глупства нельга сказаць, графчык. Рэфлексіўная...

– Не ўспрымаеце жанчыну-фатографа?

– Я пра іншае. Анархізм, нігілізм, сацыялізм... Гэта не для вас. Вас гэта ламае, змушаючы быць не тым, кім ёсць. Вы, што б з сябе ні строілі, звычайная кабета, чуллівая, цікаўная і даверлівая.

Багуслава зноў засмяялася б, каб так не раззлавалася.

– Вы агент ахоўнага аддзялення, граф? Усіх падазраецё ў сацыялізме?

Калоцкі кінуў на фатографку кароткі позірк і зноў утаропіўся ў вагонь, быццам бачыў там рудую ваўчыцу сабе да пары.

– У мяне ёсць сябар-сацыяліст. Я не перашкаджаю яму верыць у тое, у што ён хоча. Пакуль гэта не шкодзіць іншым людзям. І я здольны зрабіць высновы пра перакананні чалавека па асобных выказваннях. Няўжо вы з бацькам лічыце, што калі ўсё ва ўсіх адабраць і раздзяліць пароўну, настане агульнае шчасце? Ведаеце, я веру Генрыху Гейнэ, які сказаў: “Дзіўная справа! Ва ўсе часы нягоднікі намагаліся замаскаваць свае гнюсныя ўчынкі адданасцю інтарэсам рэлігіі, маральнасці і любові да Айчыны”.

Кроў кінулася ў твар Багуславе не ад сэнсу слоў, а ад тону, якім яны былі прамоўленыя – быццам субяседнік звяртаўся да ўбогага, які думае, што знойдзенае ім шкельца насамрэч каралеўскі дыямент.

– Я веру, што несправядліва, калі той, хто працуе ўсё жыццё – галадае, а той, каму пашчасціла нарадзіцца панам, шалее ад багацця, створанага чужымі рукамі.

Агонь успыхнуў, патрабуючы новай ахвяры. Каганецкі ўстаў, пацягнуўся па сякеру і адным ударам раскалоў драўлянае прыстасаванне, падобнае да хамута. Часткі адправіліся ў камін.

– Я, помніцца, гаварыў вам, што жывёлы не менш маральныя, чым людзі. Але няроўнасць і несправядлівасць таксама закладзеныя ў будову свету. Вам ніколі не прыходзіла ў галаву, чаму дзеці пачынаюць красці раней, чым гаварыць? Калі мысляры даведаліся, што малпы дзеляцца адна з адной ежай, замілаваліся. Вось яно, братэрства ў прыродзе! Але назіранні заолагаў удакладнілі: дамінант статка кідае рэшткі ежы тым, хто перад ім прагінаецца, каб прынізіць. Можа кінуць – і некалькі разоў забраць. Каб ведалі сваё месца. У прыродзе няма роўнасці, панна Ніхель.

Граф паклаў сякеру, скрыжаваў рукі на грудзях і цешыўся сарказмам.

– Аднойчы правялі эксперымент. Пасадзілі павіянаў у вальер і навучылі іх рухаць паважнік, каб зарабіць жэтоны, якія можна абмяняць на ежу. І што? Адны зараблялі жэтон, другія яго выпрошвалі, трэція адбіралі. Тыя, што працавалі – напэўна, вы б назвалі іх пралетарыямі? – спрабавалі накапіць заробак, высільваліся. Але ў хуткім часе пераканаліся, што назапашанае ў

іх усё адно адбяруць. І сталі працаваць без усякага энтузіязму, не больш, як на адзін жэтон, які адразу праядалі. Вось гэта і ёсць ваш сацыялізм. Грамадства, якое тупа працуе дзеля свайго банана ў дзень, бо больш не дадуць. Адрозненне ад малпаў у тым, што людзям можна ўнушыць, што калі ўсе жывуць аднолькава кепска – гэта справядліва, а тыя, хто адбірае лішняе – змагары за справядлівасць. А тады можна давесці, што гэта і ёсць шчасце. А ў тутэйшых людзей адна мара, мажа, чулі прымаўку: каб можна было быць узімку катом, улетку пастухом, а на Вялікдзень папом.

Багуслава ўскочыла, не ў змозе далей слухаць гэты насмешліва-халодны голас.

– Вы проста цынік!

– А вы наіўная дзівачка. Усё, цыгарэту, як бачу, вы дапалілі. Ідзіце ў ложак.

Пульс б’ецца ў скронях – гэта ад гневу. Развесіла вушы, слухаючы гатычны сентыментальны блёкат пра хворага хлопчыка. А тут ёсць толькі бессардэчны прыгнятальнік.

– А вы данесяцё пра свае беспадстаўныя падазрэнні ў паліцыю?

Каганецкі ганарыста ўскінуў галаву:

– Я не даносчык. Ідзіце і спіце спакойна. Ды пакіньце ж мяне ўрэшце, эмансіпэ.

Апошняя фраза ў яго вырвалася, як ад адчаю. Зноў адвярнуўся, падставіў перабіты нос халоднаму мокраму ветру, што заляцеў праз разбітую шыбу.

Вядома, гэта было б самым разумным – сысці... Але каб за мярзотнікам засталося апошняе слова? Багуслава, якую трэсла ад раздражнення, пачала прыладжваць новы папяровы цыліндрык, набіты бязважкай атрутай, у муштук... Вось выкурыць яшчэ гэта, і сыдзе. Хай панервуецца гаспадар. А той рэзка павярнуўся да нахабнай паненкі і прагаварыў скрозь зубы:

– Яшчэ крыху – і я вырашу, што ваша прамаруджванне – гэта завуаляванае запрашэнне саставіць вам кампанію ў ложку.

Калі ён спадзяваўся, што госця ад абразы збяжыць, дык моцна памыліўся. Кроў у скронях запульсавала так, што з-за яе шуму Багуслава не пачула б і сурмы апошняга суда. Цела само ведала, як абыходзіцца з ворагам.

Але чамусьці граф не ператварыўся, як малады Калоцкі, у падабенства гаргуллі, скурчыўшыся ад трапнага ўдару пад лыжачку. Затое рука Багуславы аказалася перахвачанай у запясці даволі моцна.

Вось цяпер мара прыкласці пана Шымона пысай у падлогу мела ўсе падставы спраўдзіцца. Але, як уласціва палкім марам, пачала рассейвацца, быццам дым над полем Ватэрлоа перад вачыма Буанапартэ. Фатографка забылася, што хацела абысціся “выхаваўчым” штуршком і кідалася на праціўніка, як раз’ятраная тыгрыца. Але вывераныя захваты і ўдары не дасягалі мэты, кульгавы псеўдаваўкалак лёгка сыходзіў, уварочваўся, перахопліваў... Напэўна, збоку гэта нагадвала вар’яцкі танец. Пад нагой у нейкі момант хруснуў муштук з недапаленай цыгарэтай.

А смуглявая пыса захоўвае ўсмешку!

У Багуты сам сабой апынуўся ў руцэ стылет. Знаёмая ятрасць, ад якой не раз перасцерагаў Ніхель, звужала сусвет да адной ненавіснай кропкі, якую хацелася неадкладна зрабіць крывавай. Вось ужо на запалай шчаце ваўкалака драпіна... Але Багута сама не ўцяміла, як апынулася прыціснутай спінай да дужага цела, насычанага жывёльным спрытам не менш, чым

ейнае, а выкручаная рука выпусціла стылет. Туман патроху разамгляўся. Багуслава адчувала за сабой паскоранае біццё сэрца мужчыны, напятасць ягоных цягліцаў, гарачае дыханне над вухам... Так не павінна быць! Яна шалёна ірванулася, але Каганецкі моцна трымаў валкірыю ў абдоймах, прыціскаючы да сябе, жалезныя пальцы ледзь не ламалі ейнае запясце.

– Я ж расказваў вам пра жывёлаў, якія не ўжываюць на поўную моц іклы і кіпцюры, калі б'юцца з адзінапляменнікамі, – прагаварыў задыханы голас. – Цяпер вы пераканаліся, што жывёлы мудрэй за вас?

– Пусці! – ірванулася Багута, мецячы ворагу абцасам у нагу – халера, на ім боты з высокімі халявамі, і з адчаем разумела сваю слабасць. Якая была і ў тым, што... так, прызнайся – нейкая сутнасць у табе атрымлівае насалоду – вось так стаяць, прыціснутай да чужога дужага цела, якое пахне дымам і палыном, і не хочацца вырывацца... Ганьба!

– Пушчу, але напачатку адплата. Шчырасць – за шчырасць, метка – за метку...

Пра што ён? Багуслава не паспела спалохацца, як адчула, што яе кусаюць... – ці цалуюць? – у шыю. Гэта было так недарэчна, асабліва гарачая млосная хваля, якая прайшла па целе ад пацалунку, што фатографка праз істэрычны смех толькі прамовіла:

– Я думала, вы пярэварацень, а не вурдалак!

– Я таксама думаў, што вы не кідаецеся на людзей з нажамі ні з поля вецер, – нарэшце адарваўшыся ад яе, прагаварыў Каганецкі, не аслабляючы захвату, і ад ягонага дыхання, што варушыла валасы на патыліцы, па скуры... як гэта пішуць у раманах? Прабегліся мурашкі? Цікава, як пан заолаг гэтых мурашак апісаў бы, іхнія паводзіны, знешнія характарыстыкі, колькасць лапак і спосабы размнажэння... Хаця... гэтым жа энтамолагі, здаецца, займаюцца, а ён мае справу з істотамі буйнейшымі.

– Супакоіліся? Можна вас адпускаць без небяспекі апрытомнець каля катла са смалою, з якога тырчаць ногі грэшніка?

На шыі дакладна застаўся выразны такі юлёвы след... Гэта ж граф за драпіну на шчацэ! Так... па-дзіцячы... А яна ж яго ледзь не зарэзала...

Як заўсёды пасля прыступаў шаленства пачынаўся адкат – што нарабіла, якія наступствы...

– Вось якія кавалеры вам па гусце, шаноўная панна Багуслава!

У голасе Міхала Калоцкага, які застыў у дзвярах скульптурай Немезіды мужчынскага полу, гучалі пагарда, нянавісць, крыўда... Грымучая сумесь, якая не можа не ўзарвацца.

Каганецкі нарэшце расціснуў рукі, і Багута адскочыла, мімаволі прыкрываючы далонёй вільготны след графскай помсты.

– Не думаў, што вас прывабліваюць пашкоджаныя мазгамі арыстакраты!

Археолаг выглядаў сапраўды як вялізны пакрыўджаны дзіцёнак, пульхныя вусны ўздрыгвалі. Вось жа... самцы! Прычым і справы ім няма, што самка... пардон, эмансіпаваная жанчына ніводнаму перавагі не аддавала, і ўвогуле – акрамя як кулаком пад дых, нічым адорваць не збіралася.

– Не забывайцеся, шаноўны, што вы ў маім доме! – граф, спрабуючы аднавіць дыханне, сцёр кроў з падрапанай шчакі, хутчэй сказаць – размазаў. – Стрымайце свой язык, іначай я знайду магчымасць вас заторкнуць. Вярніцеся ў пакой.

Калоцкі злосна зіркнуў на Багуславу, але супакойвацца і не збіраўся. Сарвалі на вачах дзіцяці апошні калядны пернік з елкі...

– Я памятаю, што вы – гаспадар і робіце нам ласку. Таму і папярэджваю. Вы не ведаеце, з кім звязаліся. Гэтая дамачка заб'е вас, не паморшчыцца.

Ну, археолаг, няўжо нават на навуку сваю каштоўную забыўся, пад пагрозу экспедыцыю ставіць, так усе дамовы рваць!

– Мяне не так лёгка забіць, пан Міхал, – спакойна прагаварыў граф.

– Ды каб вы ведалі, шаноўны, што гэтая асоба з сябе ўяўляе, наўрад у вас рука паднялася б яе абняць.

Вось як, а сам, значыць, пераадолеў бы грэблівасць?

– У яе рукі па локаць у крыві! Што, няпраўда, мадэмуазэль? Гэтая паненка – забойца!

Калоцкі цяпер не крычаў, а нібыта выплёўваў словы – і ад гэтага яны гучалі больш важка, і нечакана балюча. Пан Шымон брывом не зварухнуў.

– Я таксама забойца. І што цяпер?

– Цяпер мы ўсе адправімся ў ложкі, да раніцы не так шмат часу, – ветлівы спакойны голас Ніхеля быў, нібыта лінула на галовы халодная вада. Сычы – не сычы, давядзецца астыць.

Падобна, выканаць загад гаспадара не выходзіць са спальняў не ўдалося гэтай мілай ночкай нікому.

Халодны позірк фатографа слізгануў па скрываўленай шчаце графа, ускудлачанай Багуславе і пляме на яе шыі, спыніўся на стылеце, які ганебна валяўся на падлозе. Тонкія бровы Ніхеля з дакорлівым недаўменнем прыўзняліся... У якія б ні ўвязаўся легкадумныя гульні, зброя – гэта сур'ёзна. Гэта тычыцца Справы. Багуслава змрочна ступіла наперад, падчапіла наском чаравіка стылет, падкінула, і вось ужо ён, бліснуўшы ў паветры, як плотка, схаваўся ў рукаве кардыгана. Каганецкі на гэтую дэманстрацыю толькі хмыкнуў. А ў Калоцкага, здаецца, таксама пачаўся “адкат”, як у Багуславы – пасля патопу эмоцый, якім дазволіў сябе паглынуць, усведамляеш наступствы. Мяркуючы па трывожных паглядах у бок фатографа, спацелы, як пасля лазні, Міхал гадаў, ці не прыб'юць яго на месцы. А тут яшчэ прыбег захутаны ў плед Масевіч, з хворым румянкам на шчоках, і накінуўся на сябрука:

– Зноў? Як у слонімскай экспедыцыі? Ты што, не можаш свой юр хоць на дзень закілзаць? Я апошні антыкварны том Ляконта прадаў, каб фурманку наняць, а ты ў чарговы раз за першай жа спадніцай саскочыў?

Вось як, а з выгляду археолаг добра выхаваны гімназіст, а не Казанова... Хто б дзятла ведаў, каб не ягоны нос... Калоцкі пачаў нешта мармытаць, Багуслава, намагаючыся не глядзець у бок графа, згрэбла з паркета рэшткі свайго ўлюбёнага муштука, сунула ў кішэню. Няма чаго рэчы, да якой краналіся яе вусны, гарэць у адным каміне з усялякай д'ябальшчынай. Шаманскі бубен паныла пазіраў на бясчынства, дождж ліў, як слёзы ў расчуленага п'яніцы, агонь у каміне, дажоўваючы апошнія ахвяраваныя яму праклятыя скарбы, губляў ятрасць, а граф Шымон Каганецкі, страціўшы цярпенне, раптам зароў, як Галіяф на габрэйскае войска:

– Прэ-эч!

І нават за ружжо схапіўся.

– Гэць адсюль усе! Балаган! Сярод павіянаў у шлюбны перыяд спакайней! Ледзі Макбеты, Атэлы, Ягі, Гамлеты мястэчковага разліву... На поўню сумленнаму ваўкалаку павыць у самоце не дадуць. Можа, перастраляць вас усіх, каб не мучыліся філасофіяй?

Ніхель супакаяльна падняў рукі.

– Сыходзім, сыходзім!

Апошняе, што бачыла Багута, калі зачыняла за сабой дзверы ў шаманскую залу – пан Шымон Каганецкі стаіць, схапіўшыся рукой за лоб, і бязгучна рагоча, ажно згінаецца напалам.

Фатографка падняла павышшэй каўнер, каб схаваць вурдалацкі пацалунак, і, адчуваючы сябе праштрафленай гімназісткай, падыбала ў ложак, пра які сёння начулася брудных намёкаў.

Балаган, сапраўды.

## Раздзел пяты. Вяртанне ў Жухавічы

Каралева Бона Сфорца вельмі ганарылася тым, что прывучыла “дзікуноў”, жыхароў сваёй новай краіны, есці гароднiну і зеляніну – бо ў Польшчы ды Вялікім Княстве галоўнымі на стале былі хлеб ды мяса. Траву грызці? Ад галадухі толькі! Яшчэ італійка прывезла ў Польшчу ды Літву моду на сукенкі з прыадкрытымі грудзямі, відэльцы і разнастайныя атруты, а калі ўцякала ў Італію, пасварыўшыся з сынам, забрала з сабой куфры, набітыя золатам ды каштоўнасцямі, і назаўсёды засталася для ліцвінаў “Боначкай, што звезла золата бочачку”.

Калі б па гэтай дарозе, ад Жухавіч да горада Б*, валакчы яшчэ і куфры з золатам, захраслі б падарожныя да маразоў. Нават фотаапарат і скрынкі з выкарыстанымі бромжэлацінавымі пласцінкамі даводзілася прытрымліваць аберуч, бо брычку неміласэрна гайдала па калюжынах, як карабель у шторм.

Добра, што дождж спыніўся – але ён і так нарабіў бяды, прыпадобніўшы месцамі Беларусь да далёкай італійскай Венецыі. Прынамсі, калі колы з шумам рассякалі брудныя лужыны і вада амаль даставала да дна брычкі, Багуслава шкадавала, што іхні экіпаж – не човен. Весялей было б плысці ды распяваць пад узмахі вясла, чым так ехаць па гразі ў паныла-варожым маўчанні. Толькі Масевіч, захутаны ў плед, перхаў, ды Ніхель час ад часу насвістваў вясёлую нямецкую песеньку. Там, дзе шлях праходзіў паўз балота, давялося вылезці з экіпажа, бо надта ж страшна хадзіла пад коламі гаць.

Уладальнік Жухавіч нават развітальнай прамовы не палічыў гасцей вартымі. Моўчкі зачыніў за імі вароты, развярнуўся і рушыў да свайго змрочнага дома, набітага чарадзейнымі прадметамі. Валасы, звязаныя на патыліцы, матляліся між лапатак, як ваўчыны хвост, на плячы вісела ружжо.

Багуслава, высунуўшыся з-пад навеса брычкі, глядзела ўслед кульгавай постаці, і надта паскудна было на душы, як бы падаравалі штосьці дарагое, крохкае, а ты сам яго ўпусціў, адкінуў, не разгледзеўшы толкам, не ўсвядоміўшы каштоўнасці.

Не пра тое думаеш...

Урэшце, яшчэ два месяцы, і здзейсніцца акт помсты, які іх арганізацыя рыхтавала некалькі гадоў, і брат каранаванага тырана разам са сваім выжлам, адказным за смерць адважных юнакоў, будуць пакараныя, і гэта змусіць падціснуць хвасты, задумацца аб магчымай кары іншых катаў і паразітаў. І гібель чалавека ў канфедэратцы, якому Багуслава так і не паспела прамовіць “тата”, яшчэ на трохі станецца недарэмнай.

Але ўнутры ўсё ледзянела ад трывогі – ці не правaліла яна заданне сваімі паводзінамі? Тым, што справакавала Калоцкага на выкрыццё, і залішне сама адкрылася перад графчыкам? Кармэн знайшлася... Шлюбныя

танцы са стылетам... Таварышы не даруюць. Сама сабе не даруе. Праўда – як ракі, бо чырвоная юшка...

Яны з Ніхелем адсталі ад брычкі, каб перагаварыць без лішніх вушэй. Вядома, Варакса адчытаў падапечную за страту раўнавагі – рэвалюцыянер не павінен паддавацца пачуццям настолькі, каб губляць ці пускаць у ход без патрэбы зброю. Багуслава паныла згаджалася, мімаволі нацягваючы вышэй каўнер з таго боку шыі, дзе смылеў сіняк, ганебнае сведчанне яе слабасці, і з жахам чакала словаў – усё адмяняецца, сведкаў прыбраць...

– Не пераймайся, – раптам менш жорстка сказаў Варакса. – Нашым планам нічога не перашкодзіць. Студэнты атрымаюць свае фотаздымкі – і з'едуць. Наш правал – іх смерць, яны гэта ведаюць.

Фатографка пераскочыла праз глыбокую калюжыну і ледзь чутна з палёкай уздыхнула.

– А граф той усё роўна не жыхар, – спакойна працягваў Ніхель, і кроплі восеньскага бруду сцякалі па халявах ягоных ботаў, хаваючы глянец скуры. Сэрца Багуславы нібыта прапусціла пару тактаў сваіх доўгіх скокаў.

– Чаму?

Ніхель амаль весела глядзеў у шэрае неба, якое вызірала праз мокрыя лапіны соснаў, што звесіліся над дарогай ненадзейным шатром.

– Звярнула ўвагу, што за лекі ён п'е? Нават па паху магу вызначыць – атрута. Калі не атруціцца, дык яго прыстрэляць у бліжэйшыя дні – бо лезе на ражон, як спецыяльна дражніць мужыкоў. Ёсць там адзін зацяты, лічыць жухавіцкага пана вінаватым у смерці сына, якога задралі ваўкі.

– Калі ты пра гэта ўсё даведаўся? – недаверліва папыталася Багута. Ніхель пасміхнуўся, падкруціў вусы, якія трохі абвіслі ад вільготнага паветра.

– Адно з правілаў падпольшчыка – найперш збіраць інфармацыю. Памятаеш, мы прыпыніліся па дарозе ў карчомцы Ёселя? Некалькі манетаў, ветлівасць і адсутнасць грэблівасці – і ўсе мясцовыя плёткі ў кішэні.

Багута прыпомніла, як Ніхель, які і ўгаварыў студэнтаў заехаць у гэтае тлумнае месца, дзе падаюць някепскія клёцкі з ялавічынай, знік з вачэй на паўгадзіны, нават за стол не сеў.

– А калі не прыстрэляць і сам сябе не прыкончыць да канца тыдня, дык здадуць нашага баявітага графа ў памятовую вар'ятню.

– Хто? Якім чынам? Ён жа прафесар! Вядомы вучоны! – разгубілася Багуслава.

– Прафесар? – Ніхель пасміхнуўся, стрэсваючы з плашча некалькі хвіляў восеньскага дня, утвораных з рудога ліста, ігліцы і дажджавых кропляў. – Ты сама ў гэта верыш? Прынамсі, тут ніхто не верыць. Шаленец, бажаволак, валацуга, чарадзей, вядзьмак – інакш не называюць. У вар'ятні, звязаны мокрымі рушнікамі, будзе даводзіць, што ён вучоны. Эт-но-лаг... — Ніхель фыркнуў, і Багута зразумела, граф яго моцна раззлаваў. – Дырэктар лячэбніцы – ягоны сваяк, брат памерлай мачыхі, Людвіг Боўнар, падаў прашэнне аб прымусовым зняволенні няшчаснага вар'ята – у тым выпадку, калі той добраахвотна не пагодзіцца палячыцца.

– І спадчына Каганецкага дастанецца добраму доктару, – прагаварыла Багута. Ніхель нахмурыўся.

– Якая нам справа? Няхай сабе паны грызуцца, як пацукі ў залатым слоіку. Ты ж сама ўпэўнілася, граф агрэсіўны неадэкватны неўрастэнік.

Нікому не хочацца за гарачы камень схапіцца. Багуслава вытрымала выпрабавальны позірк Ніхеля, не змяніўшыся з твару. На тым размова была скончаная.

Сядзіць недароблены ваўкалак адзін пасярод стодаў ды шаманскіх бубнаў, паліць чароўныя кнігі, адстрэльваецца з вокнаў ад нябачнай нянавісці, і калі знікне ён у адной з павятовых бальніцаў, каму справа? Магчыма, дзесь у Аўстрыі, ці ў афрыканскіх саванах і джунглях, і ёсць у Каганецкага сябры і паплечнікі, але хто з іх выберацца ў гэтую глухамань, на ўскраіну дзікай імперыі, каб адшукаць сляды дзівакаватага заолага? Тым больш, цалкам магчыма, што ён і сапраўды ўсё пра сябе выдумаў – лекцыі, экспедыцыі, універсітэт... Ці мала такіх самадзейных недавукаў, рыцараў дарогі, выдаюць сябе за вучоных? Не з такой фізіяноміяй, аднак.

А ў грудзях як бы засела нешта вострае. І як наяве чулася спакойнае, прамоўленае ў адказ на істэрычныя абвінавачванні Калоцкага: "Я таксама забойца. І што?" І ні ценю грэблівасці, падазронасці, якія няўмела хаваў палкі заляцаннік Міхал Калоцкі, гэткі чысты юнак, які апускаецца да самадайкі з усведамленнем высакароднасці і самаахярнасці свайго ўчынку.

Мястэчка Б* сустрэла іх такімі ж бруднымі, калюжнымі вуліцамі, панылым гарланнем пеўняў, гергатаннем гусей ды яшчэ далёкай бязладнай музыкай – рэпетаваў аркестр пажарнай часткі. Трубач увесь час даваў недарэчную трэль, нібыта зрываўся голас у падлетка, і тады мелодыя перарывалася, а праз нейкі час немудрагелісты марш пачынаўся наноў са здзіўляючым энтузіязмам.

Гусей у мястэчку Б* разводзілі шмат, нібыта спадзяваліся, што яны выратуюць горад, як у свой час Рым, ад невядомых нападнікаў.

Нападнікі даўно ўзялі тут, што хацелі, а патэнцыйныя дзюбатыя ратавальнікі заканчвалі свой лёс на калядным стале, напханыя яблыкамі і чарнаслівам, і гэтак жа абыякавыя да перспектывы быць з'едзенымі, як тутэйшыя жыхары.

Брычка спынілася каля кніжнай крамы, у вітрыне якой былі раскладзены запыленыя, век нікому непатрэбныя томікі. Яны жывапісна ляжалі ля падножжа гіпсавай скульптуры Мінервы, багіні ведаў. Тая туліла да магутнага цела неразумных дзетак, увасабляючых чалавецтва, што цягнецца да асветніцтва. Мясцовыя жыхары празвалі гіпсавую цётку ў тозе "Манькай-булачніцай". Рэальная шматдзетная Манька аднойчы нават учыніла вэрхал, спрабуючы змусіць уладальнікаў крамы прыбраць ганебнага свайго двайніка, бо яна сама, прыстойная ўдава і ўладальніца даходнай пякарні, ніколі не ходзіць басанож і загорнутай у анучу, і дзеткі яе апранутыя, як належыць. Але сустрэлася з чэрствасцю і паганымі ўсмешкамі, праўда, якія насмельваліся праяўляць толькі калі шаноўная ўдава паварочвалася абшырнай спінай.

У гэтым жа доме, дзе крама, на другі паверсе, жыў Давыд Масевіч – крама належала сваякам ягонай маці. Пакуль шчуплы этнограф, змучаны дарогай, перагортваў перад носам Ніхеля вялікі разлінаваны сшытак з перапісанымі пад нумарамі сфатаграфаванымі экспанатамі, і тлумачыў, што самае важнае, што найперш друкаваць, Багуслава саскочыла з брычкі, бо ногі сцерхлі, і лена пачала вывучаць вітрыну. Вочы спыніліся на зеленаватым томіку з залатымі цісненымі літарамі на вокладцы: "Prof. Simon Kogoneckij. Tierisches Verhalten in der Wildnis. Vena". Побач ляжала яшчэ адна кніга той жа акадэмічнай серыі, з тым жа імем аўтара, пад красамоўнай назвай "Prof. Simon Kogoneckij. Beziehung zwischen Tieren. Das sogenannte Böse", "Адносіны між жывёламі. Так званае зло".

Багуслава глядзела на гэтыя тамы і чула толькі ўласны пульс. Значыць, гэта праўда... Ён не маніў, кульгавы граф, асуджаны на кулю, атруту ці вар'ятню.

Калоцкі дапамог фатографам выгрузіцца, намагаючыся не глядзець на Багуславу. Рамэа недароблены яшчэ ўмудраўся строіць з сябе пакрыўджанага! Багута злосна падхапіла скрынку з негатывамі, якую належала аднесці ў лабараторыю ў сутарэннях.

Так, наўрад цяпер удасца калі наведаць Жухавічы.

Кульгавая постаць аддаляецца ў бок праклятага дома...

Гарачае дыханне над вухам, чужыя моцныя пальцы змушаюць выпусціць стылет...

Як ён казаў, вера ўласцівая любой жывой істоце? Укладзеная ў нас ад нараджэння? Тады, Госпадзе, даруй сваім неразумным дзецям, што заблукалі сцежкамі звера заміж таго, каб ісці да Цябе! Уратуй яшчэ адну няшчасную душу...

Фатографка спускалася па крутых прыступках у лабараторыю. Так нельга пакідаць. З любога становішча ёсць выхад... І пальцы самі сабой расціснуліся. Скрынка ўпала на прыступкі і з грукатам пакацілася ўніз. Зверху паказаўся спалоханы твар Калоцкага:

– Што з вамі, панна Ніхель?

– Са мной нічога... – напружана прагаварыла дзяўчына. – А вось з вашым скарбам, пане археолаг, шчыра прашу прабачэння, не ўсё добра.

Калоцкі ледзь не благаў: пасля рэвізіі пры чырвонай лямпе высветлілася, што дзесьці палова выкарыстаных шкляных пласцінак з бромжэлацінавым пакрыццем пабіліся, частка трэснула... Выявы паганскіх стодаў, шаманскіх бубнаў, калядных масак безнадзейна зніклі. Ніхель змрочна глядзеў то на Багуту, то на panішчаныя, як казна Рэчы Паспалітай пры Панятоўскім, негатывы. Калоцкі ўчапіўся дзвюма рукамі ў кудзеры, і ў ягоных паглядах на валькірыю свяцілася сапраўдная нянавісць:

– Унікальныя выявы! Столькі працы! Мы так не дамаўляліся!

– Што ж, думаю, што змагу выправіць хаця б частку наступства сваёй няўклюднасці, – халодна прагаварыла Багуслава. – Дамова ёсць дамова. Я неадкладна вярнуся ў Жухавічы і сфатаграфую па другім разе ўсё, што змагу. Графа ўгавару як-небудзь. У сшытку ж перапісаныя ўсе нашы здымкі?

Вочы Калоцкага загарэліся надзеяй:

– Хоць штосьці аднавіць! Хоць стоды з галавой каня засняць! Той вар'ят многае, напэўна, панішчыў, але, спадзяюся, не ўсё.

– Суправаджаць мяне не трэба, я ўмею кіраваць коньмі, – рашуча сказала Багуслава, і на твары Калоцкага адбілася палёгка. Ніхель злосна ўтаропіўся ў падапечную.

– Ты ўсведамляеш, што нават калі выехаць проста цяпер, даедзеш, калі зусім сцямнее? Ты забылася, якая дарога? Што, калі кола зляціць, вось паламаецца?

– Я не стану чакаць. Урэшце, да раніцы ў маёнтку можа не застацца ніводнага экспаната, – Багуслава з крывой усмешкай зірнула на археолага, той збляднеў і пацвердзіў, што цягнуць час не варта, што ён будзе вельмі ўдзячны і што дзеля навукі варта ахвяравацца...

Багута не стала выслухоўваць далей гэты пафасны блёкат і выйшла з лабараторыі. Была б яе воля –ніводнай выявы з чараўніцкай калекцыі не засталося б, як і самой калекцыі. Галоўнае – трэба прыхапіць з сабой пабольш зброі і патронаў.

Ніхель перастрэў дзяўчыну ў дзвярах, нагружаную, як на вайну.

– Не рабі глупстваў. Каганецкі цябе можа на парог не пусціць. А ты

падумала, што станеш рабіць, калі знойдзеш ягоны труп? У паліцыю звернешся?

Наравістаму пуга не паможа. Багуслава ўпарта пазірала светлымі вачыма з цёмным абадком вакол райка, а нецярпенне паліла знутры, як воцату глынула.

– Гэта работа. Не затрымлівай мяне. Я ўсё вырашыла.

Ніхель з прыкрасцю прастагнаў і насунуў на галаву дарожны капялюш.

– А я спадзяваўся пасядзець увечары ў цэбры з гарачай вадой, адмыцца, адагрэцца...

І рашуча скамандаваў:

– Пайшлі! Толькі па дарозе заскочым да Ёселя, прыкупім з сабой што перакусіць. І па булкі да Манькі-Мінервы заедзем. Падтрымаем гандаль шаноўнай удавы і ўласныя стомленыя містыкай арганізмы.

У такія моманты Багуслава на нейкі час верыла, што ў яе ёсць нармальная сям'я, і цяплела на душы. Праўда, невядома, радавацца ці трывожыцца, што з ёй адпраўляецца Варакса. Гэтак ангельская каралева не ведала, чаго ёй чакаць, калі запрасіла на службу піратаў кшталту Дрэйка. Іспанскія караблі тыя зладзюгі, вядома, патопяць, але ж і свайго купчыну пад ветразямі ці прапусцяць? Служэнне навуцы і дапамога заняпалым атожылкам арыстакратычных родаў не ўваходзілі ў спіс задачаў пана Вараксы Ніхеля.

Тым не менш яны выправіліся, заехаўшы яшчэ і ў аптэку Герца, адкуль Варакса выйшаў з цэлым мяшком лекаў, і дарога была гэткай жа цяжкай, гразкай, здрадлівай, і яе аднойчы перабег заяц. Вялізны, руды, ён няўклюдна выкідваў даўжэзныя заднія лапы, і быў ці хворы, ці надта стары. Ужо толькі ад адной такой кепскай прыкметы многія павярнулі б назад... А тут яшчэ і сцямнела, і дождж пасыпаўся, як гарох, хоць і блізка не быў такі ятрасны, як колішняя залева. Ліхтар, які матляўся на круку спераду брычкі, разганяў цемру ледзь-ледзь, абы не ўбіліся ў дрэвы. Няшчаснага каня падганяць было шкада. Адзін раз нават не туды збочылі – давялося вяртацца паўвярсты. Агароджу маёнтка заўважылі толькі тады, калі конь стаў перад замкнёнай брамай.

Але замкнёнай не на засаўкі – а на замок, які вісеў на тоўстай дужцы, зачэпленай за ланцуг, які з'ядноўваў два прэнты. Замок абыякава пазіраў адзіным вокам адтуліны для адсутнага ключа.

Гаспадара няма!

Пустэча маёнтка адгукнулася пустэчай у душы. Але Ніхель, з дапамогай ліхтара ўважліва агледзеўшы дарогу і замок на варотах, запэўніў, што зачыніцца дзікі гаспадар мог і знутры. Але, як ні гукалі, спрабуючы перакрычаць вецер, ніхто адчыняць не збіраўся. Давялося самім... Ніхель умеў і ангельскі сейф ускрыць – аднойчы таварышы з партыі спецыяльна нанялі аднага вядомага медзвяжатніка, сівога інтэлігентнага дзядка, падобнага на дзьмухавец, дзеля практычных заняткаў. У Ніхеля, патомнага зыгаршчыка, выявіліся прыродныя здольнасці да гэтай справы.

І хутка нязваныя госці патрапілі за агароджу з ваўчынымі пысамі.

У канцы прысады больш не гарэў трывожны агеньчык. Затое свяціўся чырвонымі злавеснымі вуголлямі круг на двары, быццам куточак пекла, паволі паміраючы пад дажджом. Ясна – гаспадар данішчаў калекцыю. Не пашанцавала студэнтам.

Варакса трымаў напагатове пісталет, Багуслава кусала вусны: ці жывы пан Шымон? Тое, што ён не з'ехаў, пацвярджала, што ледзь заўважныя сляды на гразкай сцежцы былі толькі ад іх ранішняй брычкі, ды і конь

графскі, белы, як туман, па-ранейшаму фыркаў у стайні, накормлены і дагледжаны, і вуголле ў вогнішчы яшчэ не патухла...

Дзверы ў будынак таксама аказаліся зачыненыя. Звычайныя госці пацалавалі б замок ды сышлі.

Напалохалі харта апалай іглiцай. З гэтай перашкодай управіліся яшчэ лягчэй.

У доме смярдзела дымам і жудасцю. На крыкі ніхто не адзываўся. Вырашылі разысціся, каб хутчэй абшукаць дом. Варакса запаліў газоўку, якую знайшлі ў вітальні, Багуслава ўзяла зняты з брычкі ліхтар-кажан... Рука чамусьці дрыжэла, і цені, здавалася, трэсліся ці ад жаху, ці ад рогату.

– Знойдзем труп – у паліцыю ісці нельга, – халодна заявіў Ніхель. – Прыдзецца сляды замятаць.

– Яго не так проста забіць! – прашыпела Багуслава, у якой ад словаў Вараксы сціснулася сэрца.

– Толькі ў памяць пра твайго нябожчыка-бацьку дапамагаю дзявочым глупствам... – прагаварыў Ніхель і рушыў на другі паверх.

– Пан Шымон! Дзе вы?

Гаспадар не знайшоўся ні ў водным пакоі. Можа, ён і сапраўды выбег з дома? Носіцца па лесе, напіўшыся атруты, ці зваліўся пад кустом? Пакуль не развіднее, не знойдзеш.

Ліхтар высвеціў у куце сталоўні, сярод якой больш не ўзвышаліся захутаныя ў радно стоды, абраз Маці Божай Адзігітрыі. Вусны самі сабой варухнуліся:

– Калі ласка... Я не вартая... Я забойца... Я душу сваю загубіла... Але гаспадара гэтага дома – пашкадуй. Ён надта няшчасны.

Багуслава шаптала ціха-ціха, сама не разумеючы, чаму ёй так невыносна думаць пра смерць чалавека, які ёй зусім чужы. Якога яна сама яшчэ нядаўна хацела забіць. Святло ліхтара высвечвала сумныя вочы Багародзіцы, у якіх было дараванне для ўсіх. Прыступкі да неба...

А ёсць жа прыступкі ўніз... Багуслава ўспомніла, што Каганецкі спускаўся ў сутарэнні ў канцы калідора.

Тое, што абабітыя жалезнымі палосамі цяжкія дубовыя дзверы не былі зачыненыя, абнадзейвала. Ніхель спрактыкавана пакруціў у руках цяжкі замок з вытанчанымі дэталямі, які бездапаможна павіс на адчыненай дужцы, ацаніў дыхтоўную працу. Ангельскія майстры, не кожны злодзей узламае!

Яны спускаліся ўніз. Святло ліхтароў высвечвала атынкаваныя сцены ў пацёках, там, дзе тынкоўка асыпалася – цагляную кладку з аксамітнымі швамі моху...

Не было ні скарбаў, ні нават экспанатаў кшталту тых, што меліся наверсе, хіба некалькі пастаўленых адна на адну скрыняў у левым куце. Вялікае пустое памяшканне з калонамі, у якія былі ўмураваныя крукі, жалезныя кольцы. На адных нават ланцугі віселі, як у гатычнай вязніцы.

– Проста дэкарацыі для “Шыльёнскага вязня”... – прамармытаў Ніхель.

Багуслава адыйшла ўправа і раптам ускрыкнула...

– Што такое? – падскочыў Ніхель, бо ягоная падапечная не мела звычкі ўскрыкваць ад узрушэння. Але і сам застыў на месцы:

– А матачкі мае...

Ля сцяны стаяла клетка, гэтак у рост чалавека. З тоўстых прутоў, якія яшчэ не страцілі бляск. У клетцы, проста на вільготных камянях, тварам да сцяны, ляжаў той, каго яны шукалі. Побач блішчэла пустая бутэлечка з цёмнага шкла.

Не варушыцца... Багуслава, як у сне, паднесла руку туды, дзе на яе шыі яшчэ адчуваўся пацалунак.

Ніхель прысеў перад дзверкамі, таксама зачыненай на цяжкі ангельскі замок – у такую можна было толькі паўзком патрапіць, і падчапіў доўгую каляровую нітку, прывязаную да прэнта. На канцы матляўся ключ.

– Цікава, выходзіць, сам сябе зачыніў, і ключ на нітцы адкінуў падалей. Калі на нітцы – значыць, збіраўся адсюль выходзіць.

Пан Варакса працягнуў руку ў клетку, якая была даволі вузкай, шырынёй дзесьці метр, прыклаў пальцы да шыі замкнёнага, на якой блішчэў срэбны ланцужок.

– Жывы!

Яны выцягнулі графа з клеткі – той так і не апрытомнеў, павалаклі наверх. Ніхель насмешна лаяўся, якія ж цяжкія гэтыя арыстакраты, таму, відаць, што крыві народнай напіліся, і не забыўся, перш чым сысці з сутарэння, пакласці ў кішэню бутэлечку з-пад падазроных лекаў.

Графа звалілі на ложак у першым-лепшым пакоі, які быў адчынены. Здаецца, тут жыў Калоцкі. Пакой быў большы за той, дзе пасялілася ў першы прыезд у Жухавічы Багута, і быў больш "жывы", чым астатнія. Мусіць, аж да самага прыезду страшнага ваўкалацкага графа тут месцілася сямейная пара прыслугі – трэба ж камусьці прыглядаць за маёнткам. Акрамя вялікага ложка, была яшчэ канапа, абцягнутая сінім трохі выцвілым паркалем, шафа, камода, застаўленая таннымі парцалянавымі статуэткамі. Амальгама ў люстэрках трумо пачала адслойвацца, ад чаго ўтварыліся жаўтлявыя плямы, падобныя да выцягнутых твараў.

Варакса перавярнуў Каганецкага на бок і скамандаваў Багуце:

– А цяпер, калі хочаш, каб твой граф прачнуўся, трэба зменшыць дозу атруты ў ягоным арыстакратычным арганізме.

Прывесці нядаўняга вязня да прытомнасці, каб даць лекі, прачысціць страўнік, не ўдалося, і Ніхель упароў у графскую вену, якраз побач са шнарам ад ваўчыных зубоў, укол.

– Усё, больш нічога зрабіць не магу.

Палюбаваўся відовішчам – непрытомны граф дыхаў ледзь чутна, кашуля выгвазаная, пад заплюшчанымі вачыма цені, зрэнкі, як пераканаўся фатограф, прыўзняўшы павека, пашыраныя так, што вочы здаюцца чорнымі... І паблажліва-насмешна прамовіў да Багуты:

– Ну вось табе твая цацка, забаўляйся. А я пайшоў уладкоўвацца. Трэба ў печку дроваў ці кніжак падкінуць, а то так усё выстыне, што не заснем.

І акуратна зачыніў за сабой дзверы.

Шчокі Багуславы запалалі ад сораму і гневу. Можа, тады і яна для Ніхеля цацка? Нічога забаўнага ў гэтай сітуацыі няма. Канешне, наіўна было спадзявацца, што Вараксу можна падмануць маніпуляцыяй з негатывамі. Ён зразумеў яе зацікаўленасць лёсам кульгавага арыстакрата, яшчэ калі папярэджваў пра панскую грызню ў слоіку. Што ж ён задумаў? Нашто насамрэч прыехаў з ёй сюды чалавек, які, на памяці Багуты, ніколі нічога не рабіў дарэмна, але толькі з карысцю для Справы – менавіта так, з вялікай літары... Як другія прамаўляюць "Бог".

Але зараз трэба клапаціцца пра іншае. Па ўласным дачыненні да морфію ды іншых рэчываў, што даюць здрадлівыя хвіліны шчасця і самазабыцця, Багуслава пераканалася – калі чалавек пасля дозы па-за свядомасцю, нічога не зробіш, пакуль сам не адаспіцца, не адмарыць належнае.

Галоўнае, каб прачнуўся... Багута асцярожна намацала пульс – гарачая,

аднак, рука, і цяжкая, нават цяпер адчуваецца, колькі ў ёй сілы. А пульс таненькі, як нітка добрай пралллі, і часты.

А гэта вялікае спакушэнне – глядзець на моцнага і гордага чалавека, мацнейшага за цябе, які знаходзіцца ў бездапаможным стане, у прыніжэнні, у тваёй уладзе... Ты зараз можаш зрабіць з ім усё, што захочаш – і ён ніколі не даведаецца. Багуслава прысела на край ложка, правяла пальцам па носе мужчыны, які ляжаў перад ёй – палец акрэсліў выёміну злева, на пераноссі... Профіль старога ваяра, так бы мовіць. У эпоху мячоў і дзідаў, напэўна, не было мужчыны без адмецінаў на твары. Вось гэтую драпіну на шчацэ пакінуў нядаўна стылет адной неўраўнаважанай рэвалюцыянеркі. У праёме кашулі паблісквaў ланцужок. Багуслава расхінула каўнер, зноў асцярожліва, як злодзей, – на ланцугу вісеў праваслаўны крыж. Веруючы пераварацень, аднак. І срэбра не баіцца.

На ілбе Каганецкага блішчэлі ў цьмяным святле лямпы дробныя кроплі поту.

Фатографка рэзка прыняла руку, якой пацягнулася была да ілба мужчыны.

Што яна робіць...

Нават тады, калі давялося прымаць заляцанні турэмшчыка ды князя, не было так сорамна. Было... непрыемна, як на прыёме ў доктара, часам гідка, але падтрымлівала ўсведамленне слушнасці ўчынку, ды што там – быў нават гонар за свой подзвіг, за ахвяру дзеля справы рэвалюцыі. Яны, выбранцы, вышэй за звычайную мараль.

Цяпер апраўданняў не мелася. Бо... непрыемна не было, наадварот... Зусім-зусім наадварот... А забаўляцца, як з цацкай, з непрытомным чалавекам... Багуслава ўскочыла, разгублена гледзячы на смуглявы зблажэлы твар. Лепей знайсці Ніхеля...

Ясна было адно – пакідаць хворага без прыгляду нельга. Можа ванітамі захлынуцца, могуць сутаргі пачацца. Ды і недарэмна ж ён сябе, мусіць, у клетцы замкнуў. Ніхель яшчэ раз уздыхнуў і прапанаваў заначаваць у адным пакоі з патэнцыйным ваўкалакам.

– Урэшце, я неаднойчы з катаржнікамі-крымінальнікамі побач спаў, якія маглі зарэзаць за адну цыгарэту. Ні разу не падлавілі.

Багуслава, згараючы ад сораму пры ўспаміне, як рукі нібыта самі цягнуліся дакрануцца да непрытомнага гаспадара маёнтка, рашуча заняла месца на канапе, і Ніхелю давялося падзяліць ложак з графам. Гэта не павінна было стацца нязручным, бо ложак памерам з невялікі карабель. А праводзіць ночы ў небяспечным месцы, сплючы па чарзе, інквізітарам рэвалюцыі даводзілася часта.

Але нішто не парушыла спакой Жухавіч да самай раніцы. Толькі поўня часам цьмяна свяцілася, як бяльмо, праз хмары. І пад гэтым хворым паглядам, падобным на пагляд са здымка пост-мортэ, варушылася ўнізе, як магільныя рабакі, чорнае голле дрэваў, і фыркалі коні, і выплывалі здані, звыродлівыя пародыі на жыццё... І апошняя ў вёсцы вядзьмарка, скурчаная і сцямнелая, як чарнакорань, дакладна ведала, што да наступнага маладзіка памрэ. Доўга і пакутліва. Бо ніхто не прыйдзе патрымаць яе за руку, каб пераняць згубную шатанскую сілу.

Гэта была ціхая рамантычная ноч.

*(Заканчэнне будзе)*



Васіль Макарэвіч



...Павернецца
Паэт, нібы мядзведзь,
У небе, пад Вялікаю Мядзведзіцай...

# Атлант

***Аптымістычная араторыя***

*Памяці Анатоля Вялюгіна*

***1***

Ля тома том
Змог высака ўзысці
І да паднеб'я ўзняцца пірамідаю.
А як грудок нам на кладах знайсці,
Што ліўнямі з дажджамі
Перамытыя?

Такім, як ён,
Хоць мелі і грахі,
Адводзяць месца віднае, прэстыжнае.
А тут скрозь лапухі, што лепяхі,
І куст лазы, нібыта бомж,
Не стрыжаны.

Гляджу з сябрамі
З-пад рукі кругом –
Дзе ад яго прытулку знак ці меціна?
Мо зарасла магілка быльнягом,
А ці вятрамі знесена
І змецена?

Няўжо пад гэтым
Скрыўленым слупком
З бадзёраю і хвацкай эпітафіяй
Ляжаць ён застанецца век вяком,
Душу у вырай выправіўшы
Птахаю?

Туман не раз
Тут грэўся, то залеў
Ды блытаўся, зваваўся густа рэдзямі.
А хто сказаў, што склеп ці маўзалей
З граніту будзе для яго
Узведзены?

Ён слова быў
І чарадзей, і маг.
Яно зіхцела пад пяром і танчыла.
Чаму ж тады з граніту саркафаг
Майстры каменных спраў
Не адмастачылі?

Ён знаў сабе
Сапраўдную цану.
І не дружыў з крамолаю і ерассю.
Ды прах яго ў Крамлёўскую сцяну
Хаваць ніхто не думаў
І не мерыўся.

Спазнаўшы
Непярэліўкі шматкроць
І помнячы ўсё блізкае і дальняе,
Гісторыю садзіў ён насупроць
З ёй размаўляў з душою
Спавядальнаю.

Хаця падчас
Крыўлякай-каляёй
Ішла і пакідала скрозь адмеціны, –
Каму мог болей верыць, як не ёй,
Гісторыі, – дапытлівай
Кабеціне?!

І колькі раз
На ўсім сваім вяку,
У цішыні, то ў гуле, бы ў завоіне,
Выразна чуў ён “Слова аб палку...”
Баяна голас, лірніка
І воіна.

Пасля ад рання
Шчыраваў за двух.
І поле сеч, ад рытвін і да рытвінкі,
Ды баявых баталій грозны дух
У склад уводзіў і радкоў,
І рытмікі.

Ніколі
Не даходзіў да абраз,
Хаця начамі ані мог ён выспацца, –
У спрэчках браўся загрудкі не раз,
Знаходзіў праўду разам
З летапісцамі.

Ці не таму
Так моцна даўніна,
Нібыта футра з каўняром
андатравым,
З густою праўдай сённяшняга дня
Была ім сшыта вошчанаю
Дратваю.

Узніме птаства
Гвалт глухі ў галлі, –
Ну як яго, з задзірыстай задорынкай,
Сябры адвезці ў гэты кут маглі,
Што бонзы лічаць для сябе
Задворкамі?!

Ці ж не яны,
Бы ў німбе залатым,
У сівізне густой, з акцёрскай позаю,
Забыўшы на фальшывай славы дым,
Ледзь на каленях перад ім
Не поўзалі.

Дарма, што днём
Цадзіліся дажджы
І кроквы густа набрынялі з сохамі,
А ў вершах іх, бы клёпкі у дзяжы,
Радкі брынчалі дробна,
Як рассохлыя.

І ледзь пярун,
Што не гасціў даўно,
У хмарах біў з маланкаю-ударніцай,
Здавалася, што й рыфмы, да адной,
Рассыплюцца і ўмомант
Раскідаюцца.

А ім было
Не да радкоў скупых,
Бо шчыраваць патрабавала місія
На форумах высокіх гарадскіх,
І быць на розных сходах
І ў камісіях!

Ды ўсё ж,
Не дасыпаючы начэй, –
Так прагнулі яны, да славы галыя,
Каб вершы ўсюды як мага ярчэй
Высвечвалі іх званні
І рэгаліі!

А слова ім
Насуперак скажы, –
Які не быў бы рызыкант і ўдаліца,
Хаця не раскрыжуюць на крыжы, –
Праперчаць на чарговай
Засядалаўцы!

Таму асадку
Ў пальцы беручы
І часу не губляючы ні каліва,
Сціскаў радкі ў тугія абручы,
Каб сярод іх і кропелька
Не канула!

Пасля шчыпаў
З паднеб'я зор цвікі,
Дзе Млечны Шлях ішоў
і плыў разораю.
Ды ў строфы заганяў іх на вякі, –
Няхай гараць, зіхоткія,
Сузор'ямі!

Шчасліўцам быў,
Абраннікам нябёс, –
Дарогі іншай не хацеў і выбара.
Ды мігам лёс пайшоў наперакос,
І так, што небасхілы ўсталі
Дыбара.

Чаго дзівіцца?
Калі ўдарыць шторм, –
На моры не да нітак, не да гузікаў!
Быў абнаўлення час, і час рэформ,
І дырыжорства новага,
І музыкі!

Здзіралі шыны
З ржавых абадоў –
Рваннё ляцела ўбакі з ачоскамі!
Перабудова йшла з перабудоў –
Ці баразну даворвалі
Хрушчоўскую?

Пад нейчы твіст
Ці завугольны свіст
Ад раніцы капаў рыдлёўкай яміну
Галоўны завадатар-рэфарміст,
На лобе з метай Каіна
І плямінай.

Уніз, на дно,
Зваліць збіраўся друз,
Каб не пускацца ўкруга і аб'ездамі.
А выйшла так, што колішні Саюз
З былой уладай апынуўся
Ў бездані.

І подзвігі
Жывых і не жывых,
Герояў нават сілуэты з ценямі,
Хто крочыў па дарогах франтавых,
Былі пераацэнены
І – ўцэнены.

Нікога
Не ўзвялі на эшафот
Шаптаць нідзе не вымушалі пацеры.
Ды нават у Крамлі алмазны фонд
Па колькі раз наўсцяж
Пералапацілі.

Ад верху
Перарылі аж да дна,
Каб з нейкаю фальшываю акрасаю
Жамчужына, а хоць бы і адна,
Ў сапраўднае багацце
Не закралася!

І ўзнагароды
Спрэс парою той –
Ці думалі, а што з мінулым
станецца? –
Ад медаля да Зоркі Залатой
Прайшлі, канечне, пера-
Атэстацыю.

І ён, паэт,
Папаў пад той каток, –
Ідзі і давядзі, а хоць на выселках,
Што ў ступе анідзе ваду не тоўк,
І не па блаце узляцеў
Так высака?

А можа, ўсё-ткі
Прагнуў ён чыноў,
Што, славу за палу усюды ловячы,
Паўфуры закупіў дзесь ардэноў,
На Камароўскім рынку
Ці ў Ждановічах?

Як ні шкада,
А прошламу – гамон,
І колькі правіл зменена-зыначана!
А што там да кладоў, то пантэон
Дзеля эліты новае
Прызначаны.

Літфонд – багач,
Ды ўсё ж такі не Форд,
Хаця падобны чымсьці ён да татуся.
А што мог парабіць васпан літфонд
З правамі тымі, што ён меў,
І статусам?!

Здаецца, ўзяў
З касірамі аглух,
Нікога слухаць не хацеў, не мерыўся.
Нібы ў паэта не было заслуг
І золата радкоў зусім
Не мелася.

А ён маўчаў,
Мудрэц і жыццялюб,
І знацца не хацеў
з былой апрыччынай.
Ды ўпотайкі куткамі цвёрдых губ
З мітрэнгі пасміхаўся
Непрывычнае.

Хіба ён мог
Паджылкамі дрыжаць,
З-за вохры з нейкаю
фальшывай пемзаю,
Што давядзецца на кладах ляжаць
Без пазалоты пышнай
І пампезнае.

Яму не трэба
З срэбра ланцугі,
Каторымі, нібы на роднай дзедзіне,
Яго б гасподы пышнай берагі
Былі з магілай навакол
Абведзены.

Не думаў ён
Пра помнік, што скалой
Мог да нябёс узвысіцца і ўскінуцца.
Каб нейкі чмут з высокай пахвалой
Над ім варочаў, нібыта жорны,
Сківіцы.

Ён за плячамі
Столькі меў гадоў,
Каб веры даць –
няхай даруе божачка! –
Што ёсць клады дзівосныя з кладоў,
Дзе ажываюць і ўстаюць
Нябожчыкі.

Нашто ж яму
Кагосьці зневажаць,
Калі патрапіць на магілкі простыя?
Хіба не людзі з краю ў край ляжаць,
Сярод лясной гамонкі,
Як на востраве.

Дамоў ён
Выпраўляецца з гасцей –
Здаецца, што сама дарога мосціцца!
І сярод простых быць куды прасцей,
Без хітрыкаў багемных
Ды і ўмоўнасцей.

Ну хіба там,
Нібы на дне марскім,
Дзе ні дарог, ні пуцявін са сцежкамі,
Не знойдзецца пракуда той, з якім
Ён словам перакінецца
З усмешкаю.

Было ва ўсіх
Жыццё, нібы аўрал.
Жылі з душой адкрытаю і тварамі.
Калісь і бацька з'ехаў на Урал,
Каб побач жыць, дружыць
Са сталяварамі!

## 2

Біёграф знае,
Што хадзіў з сяўнёй,
З драздамі на начлезе часта гутарыў.
На свет з'явіўся ў вёсцы пад Сянно
І ў цёткі самапасам рос
На хутары.

Чуў – сакатаў
Ды цмокаў сакавік,
І глухнуў лес ад строкату сарочага.
Па голлі ў пушчы гойсаў лесавік,
Апоены вясною
І сурочаны.

І слухаў,
Як ад Буга да Курыл
У воблаку густога пуху з пер'ямі,
Сячэцца на таку сярпамі крыл
Світаннем цецяручая
Імперыя.

Направа – шлях!
Наўзбоч – два азярцы!
А ля дарогі – беразак з калінаю.
Кране ляшчыннік летам – лузанцы
На плечы хлынуць залатымі
Ліўнямі.

Натчэ світанне
Павучын-красён,
З узорамі квяцістымі, навейшымі.
А раннем маладзік між дзвюх сасён,
Гайдаецца, бы ў гамаку
Падвешаным.

І ў ім юнак,
Што меў ён толькі сіл,
Гайдаўся гэтак, як умеў разгойдацца,
Каб высягнуць за гнуткі небасхіл,
Калі як след світанне
Распагодзіцца!

З кагортаю
Сяброў-таварышоў,
Абходзячы, як далей, пену мыльную,
Хоць не наўпрост, але ў жыццё ішоў
Ён крокамі, здаецца,
Сямімільнымі.

Не пахваляўся
Дружбакам раднёй.
А слухаў, як звінеў вясною жаўранак.
Ды з тым вучыўся ў школе ён адной,
Хто стане потым ля стырна
Дзяржаўнага.

Дай іншаму
Адразу ў дзве рукі
Такі вось шанец, вось такія козыры, –
Дзе цёк ручай, там хлыне плынь ракі,
З расінкі ўмомант разальецца
Возера.

А ён, паэт,
Не з пашлякоў-дзяляг,
Што так цалялі, каб з вужоў –
у сокалы! –
Ды мець з дзяржаўнай
дачай "Кадылак"
І апякунства у вярхах
Высокае!

Драмала ціш,
Ці гойдаўся прасцяг, –
Не зналі нават чуйныя сейсмолагі, –
А ён ішоў шторанку наўпрасцяк,
Як да варштата, да стала
Пісьмовага.

Туман світальны
Больш і больш радзеў.
А сонца вокны праціралa, кратала,
Каб праз іх, бы ў тэлескоп, глядзеў,
Што лінзы меў амаль
Тысячакратныя!

Алмазы слоў
З-пад роднае страхі
Знаходзіў ён і ў горадзе, за вокнамі.
Іх ледзь прыладзіць у ніты страфы, –
Як ад здзіўлення свет увесь
Завойкае!

Знаходак тых
Вакол аж цераз край, –
Завалены стол імі і запруджаны.
Ад рання рыйся ў іх ды выбірай
Такую, каб зіхцела,
Як жамчыжына.

А знойдзе рыфму –
Знікне ўмомант столь,
І не паспее ён як след агледзецца,
Як сядуць побач, за пісьмовы стол,
Сышоўшы з неба, зорныя
Мядзведзіцы.

Мог не адно
Пяро за дзень ступіць.
Ды палам слоў, хаця вятры гарланілі,
Ільдоў арктычных глыбы растапіць,
А ўслед і маразы турнуць
З Грэнландыі!

І, як гравёр,
Ён адчуваў, нябось,
Калі хмурынка дзесь аэрапланіцца,
Што так шчыруе, ажно шкло нябёс
Во-во за шыбай, нібы воск,
Расплавіцца.

З агнём нязнаным,
Што шугаў з вачэй,
Схіляўся ён хвілінай тою самаю,
Як над казною сквапны казначэй,
Над строфамі, у зліткі
Спрасаванымі.

Ні разу ён,
Здаецца, не хварэў.
І быў з сяброўкай-музаю у наступе.
А падпільнуе грып – лячыў харэй,
Ды часам дактыль ратаваў
З анапестам.

Ён бачыў,
Колькі у жыцці прарэх
І колькі балбатні наўкол ілжывае,
Даўно абрыдлай, як сабачы брэх,
У спешцы за пасадай,
То нажываю!

Каб вочы мог
Любы крыкун разуць,
Што быў у догмы
аж да пят закованы,
Збіраўся ім такое сказануць,
Магчыма, больш куды,
Чым рызыкоўнае.

Радок, бывала,
За радком, як шво,
На аркуш клаўся, бег,
нібы на прывязі.
А тут пад рукі слова не ішло
І рыфма не давалася
Капрызная.

І па лядку,
Што ўжо мароз-сугней,
І вуліцы, і тратуары вымасціў,
Ступаў у "Вока мутнае", каб гнеў
Хаця б крыху у ім сарваць
І вымесціць.

І з залай,
Што хадзіла хадуном,
Нібы з лясной і чаднаю выжарынай,
Стаўляў карчму адразу ўгору дном,
А ўслед – і неба з Вегай
І Стажарамі.

І грозны Марс,
Што бомкаў у званы
Ды не згаджаўся з паэтычнай тэзаю,
Ён тузаў так, што, хоць і бог вайны,
А лез у кут, забыўшы ўсе
Прэтэнзіі.

А задавака
З хітрых задавак,
Як ні лаўчыў, як убакі ні кідаўся,
Ды рукі ўверх – здаваўся Задыяк,
Бо зручны момант дзеля хвата
Выдаўся.

Нашто ўжо быў
Хітрушчы Скарпіён, –
Здавалася, й на цалю не памыліцца! –
Нырав у зорны быльнік з крапівой,
Каб апасля не чыкільгаць
На мыліцах.

І, меўшы сілы
Ўдосталь, пра запас,
Якой не змерыць і паднебнай мераю,
Ён клаў там на лапаткі й Валапас,
Пад воплескі Меркурыя
З Венераю.

І пад канец
Без крыку і пагроз,
З усіх бакоў паволі, быццам нехаця
З рыштункам аглядаў ён Зорны Воз,
Каб прагрымець у небе
І праехацца.

Каштан цягнуў
Цераз вакно галлё,
Хацеў ён вэрхал
супакоіць збольшага,
Дзе ў цыгарэтным дыме скрозь гуло
Рознакаліберных паэтаў
Зборышча.

Ніхто не ведаў,
Дзе тут вір, дзе брод.
А дзе чакае сцежачка з калюгамі.
Чамусьці пільна ўсе глядзелі ў рот –
Чакалі слова мудрае
Вялюгіна.

І ён, зірнуўшы
Ў нейкі дальні кут,
Руку ускідваў нечакана з кульцяю
Ды ў грудзі біў, – паэзія вось тут,
Як самародкі золата –
Ў Якуціі!

А раніцай –
Навін сто карабоў,
Якіх з гадамі для яго не менела.
Кружыў шастом у небе галубоў,
Прывезеных аж з дымнае
Туркменіі.

Здаецца,
Ад нябёсаў меў ключы.
І радаваўся разам з жонкай-любкаю,
Калі сядалі ўміг на два плячы,
Зляцеўшы з неба галубы
З галубкаю.

А вечарам
Душа аж ззяла зноў,
Калі ў тэатры ў пінжаку на лацкане
Медаль лажыўся ў рад ля ардэноў
І зала гучна у далоні
Ляскала.

### *3*

Паездкі на Каўказ
То ў дымны Крым,
Дзе нагадала варажбіткай чаіца, –
Калі занадта шэнціць у адным,
То ў іншым рвецца і бядой
Сканчаецца.

Сямейнае
Хацеў ён шчасце мець,
Забыцца на гаркоту палыновую,
Не знаючы ні каліўца, што смерць
На кожным кроку жонку
Падпільноўвае.

Не раз па ёй
Званілі ўжо званы,
Ціш ранішнюю гойдалі і тузалі.
Бо выйшла з дзён апошняе вайны
Са шнарамі на целе
І кантузіяй.

Ці помніў хто,
Як шугануў пад столь
І ўзняў яе ў тэатры – ліха матары! –
Падпольнае расплаты гнеўны тол,
Прызначаны для Кубэ –
Гауляйтэра!

Той выбух біў
У сэрца ёй даўно, –
Здавалася, ў душы ён калупаецца, –
Няўжо з прадажнай хеўрай заадно
Была падчас фашысцкай
Акупацыі?

Няпроста сажу
Вымыць дабяла,
Як і давесці перапечку-пэцкалю,
Што ў ворагаў на службе не была, –
Хоць і лячылі дактары
Нямецкія!

А праз паўвека
З ярасцю двайной, –
Няўжо нічога так і не змянілася? –
Шэпт падазроны чуўся за спіной,
А ўслед яшчэ і сыканне
Змяінае.

Набухлы стынню,
Спаў-драмаў карніз,
Трамваі не ўсчыналі какафонію,
Калі наўпрост яна сяганула ўніз
З бяссонніцай цераз акно
Кухоннае.

Хто знае,
Чулі галубы ці не,
Калі згасалі зоркі ўжо лампадамі,
Як, жах і крык стаіўшы, па сцяне
Яна слізгала і маўкліва
Падала?

Туман густы,
Нібыта дзённы смог,
Дыханне ветра гойдала і гушкала.
А ў дома-гмаха, як дзіцё, ля ног
Яна znямела пералётнай
Птушкаю.

Над горадам
Світанак залацеў
І небакрай узяўся ўжо акалінай,
Калі паэт па лесвіцы зляцеў
І побачкі укленчыў
Непрыкаяны.

Не помніў,
Як глядзеў на тратуар,
З чырвонаю і недарэчнай лужынай.
Не пазнаваў і жончын родны твар,
Што раптам стаў далёкі
І адчужаны.

Над ёю Свіслач
Плёскала крылом.
На раны халадком світанне хукала.
А ўжо праз скрыжаванні напралом
З трывожнаю сірэнай мчала
“Хуткая”.

Бяда з вачэй
Не выціснула слёз.
Над ямінай стаяў з такою мінаю,
Бы на плячах на могілкі ён нёс
Жалобны дзень з глухою
Дамавінаю.

Апошні раз
На родную глядзеў,
Глытаў гаркоту з нечуванай горыччу.
Дачку скрамсанай
кульцяй да грудзей,
Як птушанятка, па-бацькоўску
Горнучы.

Ці знаў тады,
Знямеўшы ад жуды,
Што у жыцці ягоным
гэтак станецца, –
Праз колькі год знячэўку назаўжды
Ён і з дачушкай любаю
Расстанецца.

Так, як ідзе
Іголка ўбок са шва,
З кватэры бацькі,
з-за стала са скацеркай,
Дачка знячэўку
ў белы свет сыйшла,
А там – і на клады, услед
За мацеркай.

У люстра гляне –
Выцвіў, сшэрхнуў чуб.
Гадоў таксама, як панесці ў рэзгінах!
І – цяжка рухнуў ён на дол, як дуб,
Пілой бядот бязлітасна
Падрэзаны.

Нябожчыка
Святар не адпяваў.
І з тых харомаў, дзе раней,
як правіла,
Піў, па глытку з кілішка адпіваў, –
Яго сябры ў апошні шлях
Адправілі.

Нібы аркестр,
Узвыў праспект-скразняк,
Ды захлынуўся музыкаю гучнаю.

Нябожчыку махаў услед вішняк,
Дзе жыў ён колісь, з вуліцы
Чыгуначнай.

З-за далечаў
Глядзела Белавеж
І роднае Сянно з Уздой і Жлобінам,
Як пілаваў асфальт наўпрост картэж,
Плыў па завулках з цішаю
Жалобнаю.

Адзеўшы
З пазументамі камзол
І вочы прыкрываючы далонькаю,
Картэж хаўтурны вёў вяшчун-анёл
Туды, дзе ціхлі могілкі
Далёкія.

І недзе ўжо,
Відаць, на схіле дня
Адчуў з асенняе лістоты, пошумам,
Як холадам дыхнула ўміг са дна
Ягонае прыстанішча
Апошняе.

Усцяж з цэменту
Пліт, бы крыг, рады, –
Пагодзіла ці ў небе непагодзіла.
Якога рангу могілкі-клады, –
Такое пахаванне
І праводзіны!

Відаць, руку
Прыклаў там сатана
З адданымі памочнікамі-блазнамі, –
З труной, што ні рабілі, а труна
Не тоўпілася ў яму
І не ўлазіла.

Важдаліся
З ёй зноўку так і сяк,
Аж потам абмываліся ды мыліся!
Яна ж ішла чамусьці наўскасяк,
То на дыбкі раптоўна
Станавілася.

Рабілі птушкі
Над ляском кругі,
І бачылі, як трунары касцістыя
Нарэшце ў ямы цеснай берагі
Труну ўшчамілі сілай
Ды заціснулі.

І ўдарылі
Па веку камякі,
Ззалелыя і холадам набухлыя.
Нібыта ў дзверы камні-кулакі,
Прыцяжна загрымелі
Ды забухалі.

Труна стаяла
У блізкіх уваччу
Сярод асенняй лісцвяное замеці.

А стук у века чуў ён ці не чуў –
Ніхто павек пра гэта
Не дазнаецца.

### *4*

Тут, дзе слупкі
Сядзяць, нібы карчы,
Што робіць ён,
                    ніхто не здагадаецца, –
Бушуе так, як за сталом карчмы,
Альбо ў труне, бы ў гамаку,
Гайдаецца?

Не вызначыць,
Які там гарызонт,
А хоць аб камень галавой бабахайся!
Ды ўсё-ткі з-за турботаў і згрызот
Яму, відаць, сягоння
Не да Бахуса!

Сто раз на дні
Няўседаю з няўсед,
Да века прыпадае
                    вокам шчыльненька.
І з падзямелля зноў глядзіць на свет
Праз вузкую, нібы маршчынка,
Шчылінку.

Ах, каб наноў
Сустрэцца з кулікам,
І з пчолкаю са слюдзянымі
                                        крыльцамі!
Ды грымне ён аб дошкі кулаком
І, як ад болю ці абразы,
Скрывіцца.

Хоць голаў
Славы не кружыў дурман,
Якой спаўна было яму адпушчана, –
Ах колькі іх, гадоў і дзён, дарма
На вецер у багемным чадзе
Пушчана!

І з-за банкетных
Тостаў ды прамоў,
З якімі аніхто пасля не лічыцца,
Магчыма, тузін, а ці больш, тамоў
Са скрухай на паліцах
Не далічыцца.

Па-новаму
Цалік бы мог вярнуць,
Узрушаны, яршысты, ускалмачаны!
Ды хіба можна час назад вярнуць,
Перарабіць гарошыну
Ці мачыну?

На цішу тут
Ён летам – багацей,
Зімою лютай – на сумёты снежныя!
Для лежняў, можа, і ляжаць лацвей,
А ён не з тых, каго празвалі
Лежнямі!

Ад самалёта –
Ў небе след, бы шво.
Дзе ўчора бліскавіцы йшчэ змяіліся.
Ах, колькі дрэў пад воблакі ўзышло,
Ах, як і самі воблакі
Змяніліся!

І не пазнаць
Пісьменніцкі саюз
У доме, побач каля парка Горкага,
Дзе носіцца па лесвіцах сто муз
І ў вокны заглядае парк
З вавёркамі.

Тут знаў і вецер,
З лайдакоў лайдак,
Кідаючыся ў цемрыве, бы ў прысаку:
Фальклор і мова родная – Клондайк,
Дзе прыіск залаты зіхціць
Ля прыіска.

І ледзь у небе
Жураўліны клін,
Што ў вырай адлятае і маркоціцца,
Крылом легенд дакнецца і былін, –
Як самацветы долу ўраз
Пакоцяцца.

З вясны-красны,
Ад саменькіх грамніц,
Калі вада яшчэ не ўзніме ляманту,
Майстры-гравёры браліся граніць
Алмазы і жамчужыны
З брыльянтамі.

Не дзеля нейкіх
Сквапных барышоў
З ёй, музаю-гарэзаю, бы панначкай,
Праз ноч радкі чаканіў Куляшоў,
Граніў з алмазаў строфы
Пімен Панчанка.

Не адцягнуць,
Бы ў смагу ад карца,
Ад Бібліі, рукой святою пісанай.
Узбліснуць навізною адкрыцця
Радкі з майстэрні Гаўрусёва
З Пысіным.

І з вострым
Дзёрзкім пёркам, як нарог,
Уласную сцяжыну ўдалеч торачы,
Ды сербануўшы халепы з дарог,
Ішла, дзярзала муза
Сербантовіча!

Мільгалі дні,
Бы ў колах куксы спіц,
Альбо ў нябёсах воблачкі пярэстыя?
Хто ж эстафету змог іх падхапіць?
Няўжо баптысты ці яшчэ
Пярэхрысты?

Ну што вы?
Хай ратуе Бог святы!
Ці мала спадкаемцаў з выхаванцамі?!
Ды сярод рознай сквапнай
драбнаты
Яны сабой не надта
Выхваляюцца.

Палалі зоры,
Як мільён кастроў.
Гады ішлі, спяшалі балаголамі.
Ступілі смела ў шэрагі майстроў
Пашкоў, Мятліцкі і Камейша
З Голубам.

А хто яшчэ?
Іх два ці тры, не больш!
Не варта называць імёны хроснікаў.
Бо могуць узраўсці і ўзняць дэбош
Сераднячкі адвечныя –
Зайздроснікі!

І сярод тых,
Хто, быццам на кані,
І вершыкамі з прозай забаўляецца,
Спытай ціхом ці, як гарлан, гукні –
І пратэндэтаў сотня ўміг
Аб'явіцца!

А – пра сябе?
Ў паэзіі не госць.
І семя не ўзрасціў, здаецца, кволага.
Ды мой радок захрас, нібыта косць,
У сквапным горле хвата-
Фармаколага.

А што яшчэ?
Хоць і сказаць хачу
І на скрыжалях крэда
выбіць долатам,
Ды ўсё ж зацята, з болем, прамаўчу,
Бо слова – срэбра, а маўчанне –
Золата.

Ад творцаў
Сёння аж гудзе Парнас,
І не прайсці з-за асцюкастых кепікаў.
Палітры з палітурай пра запас
Хапае ў нашых лірыкаў
І эпікаў.

Дык на які
Маліцца ўсё ж абраз,
Дзе гліну і падзол араць, як прэрыі,
Каб з намінантаў выбіцца хоць раз
У лаўрэаты Нобелеўскай
Прэміі?!

Перш трэба нам
Пад кнігаўкі – кі-гі! –
Такое адмастачыць пёрка кончыкам,
Каб ад здзіўлення ў небе ўсе багі
На ногі падхапіліся
І ўскочылі!

І з Марса
І сусвету ўсіх канцоў,
Дзе у пашане сёння стыль мадэрнавы,
Адправілі б ганцоў дый пасланцоў –
На Фрунзе, пяць, – за нашымі
Шэдэўрамі!

І без казённых
Тэлеграм, дэпеш,
Завабіўшы ўсіх музыкай і танцамі,
Наладзілі б мы з імі перш-наперш
Агульнай зорнай кнігі
Прэзентацыю.

Пачаставалі б
Сокам з-пад бяроз,
Забыўшыся на промахі з прарэхамі.
Ах, толькі б удалося зрушыць воз, –
А там ужо само пайшло б,
Паехала.

З дарогі змёўшы
Дробны друз і лом,
А трапіліся б – то й слупы саляныя! –
Чаму б сяброўства нам тугім вузлом
Не завязаць, напрыклад,
З марсіянамі?!

На мове нашай –
Ну нашто латынь? –
Без джаза і без грому рэстараннага
Наткалі б строф адметных, залатых
Ды з музыкаю спеўнай
Пастаральнаю.

Пад снегу
Ці зямное восі скрып,
Каб вераю мы ўсе змаглі акрыліцца,
Перш вывучылі б зорны іх
санскрыт,
Ну а яны – тутэйшую
Кірыліцу!

Пакінуўшы
Ў нябёсах зыркі след,
Над тэлевышак снасцямі і мачтамі
Сягнула б, выйшла проста у сусвет
Святое слова нашай мовы
Матчынай.

І там дапала б
Ледзь не ў кожны кут,
Пявучае, крынічнае, канкрэтнае!
А што, калі б адбыўся з цудаў цуд –
І мова наша стала б
Міжпланетнаю?!

І ледзь гукнуў бы
Ў тэлефон: "Алё!",
Дымком смугі вячэрняе акураны, –
Як праз вясновых бліскавіц галлё
Шчырунне адгукнулася б
З Меркурыя.

Даруйце,
Валапас і Задыяк,
Не мне збіваць абцасы ўжо
з падэшвамі.
Хай пада*ю*ць між зор умоўны знак –
Спатканне прызначаюць
Маладзейшыя!

Гарыць і ззяе
Месяц, як абраз.
Сцяжыны і ў сусвеце так закручаны,
Магчыма, прыйдзе калісь гэткі час,
Што будзем разам танчыць
На заручанах.

І на зямлі
Засведчыць кожны клён,
Устаючы над сшэрхлымі калюгамі,
Што гэта ўсё заслуга, шчодры плён
Клапатуна і шчыруна
Вялюгіна.

Святочным днём
Імклівым, быццам вір,
Што прыйдзе, верым,
і на нашу вуліцу,
На ўвесь сусвет – і глыбіню, і шыр –
Ён зможа пасміхнуцца
І расчуліцца!

У музы ён
Адхлання не прасіў,
І не даваў душы узяцца раскаю.
Алімп пацвердзіць: нездарма насіў
Ён пры жыцці і званне
Адміральскае!

Пакуль жа ўстане
З бронзы манумент, –
Яго імя, да зор святлістых высячы,
У бліскавічных сполахах камет
Мы у нябёсах выб'ем
А ці высечам!

***5***

Хто змеціць
А хоць зблізку ці здаля,
Як дня падвода рэжа дол па ступіцы.
І ўрэшце рэшт на два бакі зямля
Разыдзецца няспешна
І расступіцца.

Лазовы куст
Хітнецца ўбок нябось,
І дугі броў звядзе на пераносіцы,
Калі пабачыць, як углыб нябёс,
Нібыта прывід, дамавіна
Ўзносіцца.

Ды ў вышыні
Пад грукат перуна,
Што ў сіні веснавой адтае-вытае,
Між цугу аблачын плыве труна,
Маланкамі, бы стужкамі,
Спавітая.

Павернецца
Паэт, нібы мядзведзь,
У небе, пад Вялікаю Мядзведзіцай, –
Так хоча вокам пільным паглядзець:
А што на свеце робіцца
І дзеецца?

Ідзе урост,
Ажно трашчыць, сасняк, –
Настолькі густа дол угноен цэзіем.
А творца, ён трывожыцца, дзівак, –
Ну як яго там вотчына,
Паэзія?

Віхурыць бель
Чаромхавых завей.
А побач, дымам і бядой акураны,
Чарнобыль страхавіты, нібы змей,
Нямее у дратах са смертнай
Курыяй.

Ледзь дымам пырхне
Ўверх чацверты блок
І парашутам клуб яе раскрыліцца, –
Як нават твар у перыстых аблок
Перасмыкнецца сутаргай
І скрывіцца.

Адзеты зверху
Ў саркафаг-бетон,
Устаў ён над прыціхлай акваторыяй.
Чарнобыль – тысяча сто першы том
Тутэйшай пракаветнае
Гісторыі.

Дасюль вуглее
Паднябесны строп,
Радыяцыйным ззяннем запалонены.
А мы, як ні грабём з радкоў і строф,
Не выграбем ніяк свінец
З палоніем.

І рыфма
Час ад часу б'е ў хамут,
Зусім не хоча слухацца, нахабніца.
Ды лезе ўсё ж радок праз каламут,
Дарма што, як астматык,
Задыхаецца.

Хто б з музай
Не глынуў на брудэршафт,
Нібы з прынцэсай знанаю і файнаю?
У лірыцы даўно не той ландшафт,
Зыначылася нават флора
З фаўнаю!

Стагоддзе скрозь
Грыміць, нібы тартак.
Хвароба падступае, то хваробіца.
І справы ў нас ідуць зусім не так,
Не тое штосьці дзеецца
І робіцца.

Нам рваць бы
З долу ў ярасці дубы,
Браць мафіёзі за каўнер і злодзеяў.
А мы бяромся з гвалтам за чубы
З-за рыфмы, у застоллі недзе
Знойдзенай.

Паэзія –
Халера, што з халер, –
Калі ў любві гарачай пераконвае –
Да строф і да радкоў, як да галер,
Мацней, відно, ад ланцуга
Прыкоўвае.

Хоць не змушала
Дыбаць след у след, –
Хто з нас, за хапатліваю і кемнаю,
Ў юнацтве не імчаўся ў белы свет,
Не лез у пекла са смалой
Пякельнаю!

Каб смагай
Не гарчыў душу палын,
Труху адмёўшы заадно з мякінаю,
Ах, колькі казак, песень ды былін
Яна шчаслівa у вяках
Пакінула!

З тых помных дзён
У бездань колькі вод
Сцадзілася і беззваротна канула!
Няўжо пайшла паэзія на звод?
А ці дасюль у небе б'ецца
Каняю?

Галіны ўверх
Сіл развінуць стае
Паэзіі святому дрэву зорнаму, –
Карэннем магмы ледзь не дастае,
А кронай – Шляху Млечнага
Разорыны!

А вымкне верш
Умомант з-пад пяра, –
Пасля агню і перуноў Чарнобыля,
Здаецца, выйшаў ён з-пад тапара, –
А пад фуганкам пабываць
Не собіла.

Да кніжкі,
Як прынаду і падман,
Паэтка фота галяком прышпільвае.
А што там робіць муза ў кіяўлян,
Як Папялушка і шчырунння
Пільная?

Хоць хмарку,
Што птушынае пяро,
У неба над Чарнобылем падкінула,
Ды так, як праз вякі ішоў Дняпро,
Ідзе і сёння наўпрасцяк
Да Кіева.

А ў Кіеве,
Што ні паэт, то – бард!
Таму, калі з гітарай пастараюцца, –
З падмосткаў клубаў і начных эстрад
Грымяць, крыляюць песні
З пастаралямі.

У кнігах строф,
Бы ў лядзе пнёў-карчоў
А ці на птушкаферме інкубатараў!
Не трэба тут заезджых рыфмачоў
І хітрых графаманаў-
Гастарбайтараў.

Выдатна сёння
Ведаюць, між тым,
Што ад Палесся і да мора Чорнага,
Інтым таемны больш не той інтым –
Пазбыўся ён былой абгорткі
Чортавай!

Старую рану,
Пэўна, ўсё ж крану, –
Абрыд матыў пра малаткі адбойныя!
Дзе дыфіцыт быў колісь, у Крыму, –
Удосталь сёння лірыкі
Любоўнае!

Там, дзе базальт
Гарыць ярчэй слюды,
І б'е Арагва ў бераг, як і білася, –
Дажджы не змылі Пушкіна сляды
І Лермантава памяць
Не згубілася.

Купала мчаў
Сюды праз каламуць,
Спяшаў да цішы гойнае
прычоўніцца,
Каб ні цкавання, ні брахні не чуць,
Ад тузаніны як хутчэй
Ачомацца.

Каля курорта
Скрозь гудзе курорт
І з поснай сухамяцінай не мірыцца.
Таму і ходзіць, быццам зух, Эрот, –
Сябе ён богам пачувае
Ў лірыцы.

А толькі тост
Прамовіць ён, Каўказ –
У рост ідзе-ірвецца вольха-карліца!
Гадаць навошта: лепш ці горш у нас
З паэзіяй, а хоць бы
І на каліўца?!

Струменіць пах
На цэлы свет мускат,
Кактэйль задуха цягне праз саломіну.
А, як там дзесь, за сотні вёрст, Масква
З багемай і акрасаю
Салоннаю?

Хоць столькі вёрст,
А – як падаць рукой!
І ў ёй, пад хмарак светлымі паромамі,
Гудзе не менш сто сорак саракоў
Святочных цэркваў з рознымі
Харомамі.

Ад цяжару
Скрыпіць зямная вось.
Старызны з навізной цераспалосіцца.
Са шкла, як з лёду, айсберг-хмарачос
Ля хмарачоса да нябёс
Узносіцца.

Дыхне, здаецца,
Свежасцю марской.
І ледзь праз поўдня
сонца перакуліцца,
Паэт над стольнай знізіцца Масквой,
Каб паглядзець, што робіцца
На вуліцах?

Хіба даўно,
Пад посвіст скразнякоў,
Хоць плошча ў галалёд
бывае коўзкая,
Паўзлі прыблуды з чатырох бакоў,
Да манумента лезлі
Маякоўскага.

Ды зноў і зноў
Пад перазвон званіц,
Не перастаўшы пад нагамі блытацца,
Так праглі манумент на дол зваліць,
Як Коласа з Купалам –
Бум-Бам-Літаўцы!

Тых блазнаў,
Што таўкліся перад ім,
У гарнітурах, выкрайкі шчыгульнае,
Мог аглушыць ён басам грамавым
Ды растаптаць падэшваю
Чугуннаю.

А ён, трыбун,
У бронзе не застыў,
А звысака зірнуў на вэрхал
з галасам, –
Што крыкуны, падціснуўшы хвасты,
Па завуголлях моўчкі
Разбягаліся.

Нам радасці няма чаго таіць, –
У згодзе вечна з музаю капрызнаю,
На месцы тым жа ён, гарлан, стаіць,
З вачэй паглядам пільным
І пранізлівым.

Вялюгін узмахне яму рукой
З-пад аблачынак,
навакол развешаных.
Цяпер на плошчы заціш ды спакой,
І галубы буркочуць
Па-ранейшаму.

З-пад неба паўзямлі і больш відно –
І гарады, і ўсе куткі мядзведжыя.
Не дрэмле Орша, рупіцца Сянно
І Нарач дні праз невады
Працэджвае.

Каля Бабра
Лясок, а можа, гай,
Вятрыска да лістка узяў і вычысціў.
А вунь пагорак, як вясной бугай,
Прыўстаў крыху на ногі
І – набычыўся.

У плынь Дняпра,
З пясчаным дном, ракі,
Дзе кружыцца ў віры лісцё апалае,
Глядзяць падоўгу з берага Ляўкі –
Апошняе прыстанішча
Купалава.

Ледзь чмель
Кранецца ранішняй струны
І залунае гук сасмаглы-высмаглы, –
Як у цішы густой каўчэг труны
З-за небасхілу выплыве
Ды высягне.

І зноў крылом
Да лёгкага крыла,
Не зачапіўшы ні бяроз, ні кусцікаў,
Туды, адкуль нячутна і ўсплыла,
Труна, як прывід, неўспадзеў
Апусціцца.

Патоне ўміг пад шэрым валуном
І знікне той дарогай і калейкаю.
Аж куст заходзіць побач хадуном,
З лісточкамі, па-веснавому
Клейкімі.

Ды сыйдзецца над ёй знямелы дол,
І стане, чысты, як мятлой падмецены.
А ты зноў стой ды і глядзі наўкол, –
Грудок грудком зямлі –
Магілкі меціна!

Вяслуюць дні ды цэдзяцца дажджы
З развагаю і думнасцю прагматыкаў.
А праз дрыжанне ранішняй імжы
Глядзіць на іх паднеб'е
Багаматкаю.

І недалёка,
Недзе на мяжы
Магілак і зямлі, амаль нічыйнае,
Дрыжаць кусты, нядаўнія бамжы,
З прапіскаю тутэйшаю,
Айчыннаю.

*2004. 2013*

Віктар Карамазаў



...ён бачыў кроплю ранішняй расы,
празрыстую і трапяткую, бачыў,
як у той расінцы мянялася святло,
то ўспыхвала і ззяла, то цьмела і згасала...

# Святло з вышыняў божых

*Дзве навелы*

## Макі

Мастак прачнуўся, убачыў насупраць ложка ў кутку акна светлую плямку і захваляваўся. Адкінуў коўдру, усхапіўся, адчыніў акно ў сад. Дрэвы, кусты, кветкі стаялі ў ранішняй смузе, у срабрыстым ультрамарыне апошняга дыхання ночы. Зірнуў на неба: яно было прыкінутае шэрай посцілкай з тым самым срабрыста-ўльтрамарынавым дымком. Дзе ж святло, што ў хату праз акно глядзела?

Спяшаючыся, апрануўся ды выйшаў у сад.

Шэрань на небе і на зямлі была ўжо не тая, што пад раніцу, калі, прачнуўшыся першы раз, выходзіў на ганак і гадаў, ці спыніцца да раніцы імжа, ці выблісне на небе сонца. Быў свой настрой, вядома, і ў шэрых колерах, у імжакі, мог іх пісаць таксама. Але калі б не макі, што расцвілі ў садзе, каб не туга па сонцы і каб не Клод Манэ са сваімі макамі.

Прайшоў праз сад, спыніўся на палянцы. Макі яшчэ хаваліся ў смузе, але ён ведаў іх капрызы — ім трэба сонца, каб загарэліся, як макі ў француза.

Калі хтосьці з сяброў пытаўся, што піша, ён толькі ўсміхаўся ды маўчаў. Казалі: ну, вядома, жывеш у вёсцы – пішаш хаты, лес, птушак, полег коней. Так, ён жыў у роднай вёсцы, у сваёй хаце, блізка бачыў лес, поле, птушак, пісаў як быццам іх, але ж не іх. Шукаў настроі ў прыродзе, якія нечакана ўзнікалі і знікалі, такія ж нечаканыя будзілі ў ім пачуцці, зліваліся з яго настроямі і валадарылі не толькі ім, а і прыродай навакольнай, светам.

Учора яны з Марыяй, жонкай, калі ўжо вёска спала, вярнуліся з Мінска. Ехалі туды на два-тры дні, а пабылі дзень – назад вярнуліся. Адразу, як пераступіў парог, зайшоў у майстэрню, узяў падрамнік новы, далонь прыклаў да палатна, да грунту – цяпло адчуў, нібы ад бохана, які нядаўна з печы. Паставіў палатно да сценкі і доўга перад ім стаяў, пакуль Марыю не пачуў:

– Што не кладзешся? Дождж аціхае, распагодзіцца, напішаш свае макі. Усё атрымаецца, што выпакутаваў.

Яна таксама была мастачка, пісала не горшыя, як ён, пейзажы, кветкі і разумела яго пакуты. Пісаць увесь час настроем цяжка. Сёння адзін настрой, заўтра другі, у прыродзе і ў мастака, а тут і непагода, дождж дзень пры дні. Яшчэ бывае так: як пішацца, здаецца, што гэта твая лепшая работа, а напішаш – зусім не тое. Знайшоў як быццам і кампазіцыю што трэба, спыніў цікавае імгненне ў прыродзе – хіба ж тут не начуе жывапіс, які шукаў у натуры? Не – зноў сумненні. Куды схаваць работу, каб хтосьці не ўбачыў? Перапісаць адразу? Але былі і прынцыпы свае, ні ў кога не пазычаныя: пісаць настрой пейзажны адразу ад пачатку да канца, за адзін сеанс, як не паспеў – другі раз з палітрай не падыходзь да палатна. Хай застаецца незакончаным. Каб не было ілжы. Лепш змоўчаць, недагаварыць, як сылгаць. Ідзі зноў у прыроду і назірай, шукай. Знойдзеш – не гарачыся, адразу за палітру не хапайся, пільнуй свой для матыву час, углядайся ў яго з усіх бакоў, у розныя гадзіны дня, пры розным асвятленні. Гуляй з матывам, як кот гуляе з мышшу, яе злавіўшы.

У вачах, калі стаяў насупраць палатна і думаў, заззяла плямка светлая. Вышэй узняў галаву і ўбачыў, што з гушчару за дрэвамі праз голле адным брывом, краёчкам, у майстэрню заглядае жаданае нябеснае свяціла. Схапіўшы палатно, выбег у сад.

Сонца яшчэ хавалася, але яго акрайчык з-за хмары высунуўся і павялічваўся. Сад атуляўся залацістай вохрай і цяплеў. Ружовыя пялёсткі макаў, яшчэ ў бутонах, былі абвешаныя кроплямі расы, у якіх таіліся зямныя ізумруды, блакітны туманок. Кідаючы пагляды то на неба, то на макі, мастак падумаў, што час бяжыць і сонца не стаіць на адным месцы, усё мяняецца на небе, на зямлі і, каб на палатно пакласці ранішнія макі, трэба спяшацца. Паставіўшы мальберт на тое месца, якое раней прыгледзеў, выклаў на палітру фарбы, якія падказалі макі, і ўсё, што зранку трымаў у думках, усё дарэшты, акрамя макаў, сплыло з вачэй і з галавы. Цяпер ён бачыў толькі макі і тое, што ўплывала на іх формы, пластыку, на колер, ствярала каларыт, загадзя бачыў гульню сонца з макамі, як карагодзіла яно вакол кожнае кветкі, як кожную распальвала, будзіла тыя з іх, што позна спалі, згорнутыя ў бутоны, выпроствала кожны пялёстачак, прасвечвала і сагравала, да кожнай кветкі прымярала вопратку, сваю да кожнай, але з усімі аднаго тону. У кожнай кветцы меўся быць свой настрой, мастак жа

настрой кожнай і заўважаў, і разумеў, бо гэтымі настроямі пісаў і жыў. І непакоіла цяпер хіба толькі адно: на кветцы, найбліжэйшай да яго, буйной, падобнай на кубак з чырвона-залацістым дарагім віном, ён бачыў кроплю ранішняй расы, празрыстую і трапяткую, бачыў, як у той расінцы мянялася святло, то ўспыхвала і ззяла, то цьмела і згасала, як менела расінка. Яна знікала? Гэта трывожыла, бо мастак ведаў, што калі расінка знікне, кветка страціць свой каларыт, ранейшыя абрысы, сваю празрыстасць і сваю душу, знікне загадкавая смуга вакол яе і тое самае адбудзецца з іншымі макамі, з травою вакол іх, з самім паветрам, са святлом нябесным. Паветра, святло, макі застануцца, але будуць іншыя, у іх будуць іншыя настроі і тыя іншыя настроі азмрочаць душу мастака, бо яна не зможа адразу пазбавіцца настрояў, якімі жыве. Мастак трывожыўся за лёс пейзажа і спяшаўся закончыць яго раней, чым знікне тая кропля.

Ці паспеў? Як быццам... Але...

Хіба мастацтва ведае мяжу ў пошуках красы?

Яшчэ раз глянуўшы на сонца, ён без вялікай радасці, нібы з папрокам самому сонцу, зняў палатно з мальберта, паставіў на зямлю ў цень ад яблыні і адышоў, прысеў на бервяно.

Падышла Марыя. Паглядзела на яго макі, спытала:

– Ты сёння сабою задаволены? Усё, бачу, атрымалася, як ты хацеў, у настроі раніцы.

– Не ведаю.

– Мне твае макі падабаюцца.

– А макі Клода Манэ ты памятаеш? Поле макаў пад Аржантоем. Якое там асвятленне?

– Не гэтакае, як у цябе. Там сонца высокае, чырвань дэкаратыўная, а ў цябе мяккая, з расою, раніца. У цябе больш імпрэсіі, чым у імпрэсіяніста Клода.

– Ну... не трэба, не супакойвай. Ты ведаеш, як я люблю французаў. І Клода, і твайго П’ера Банара, люблю іх лёгкае дыханне на палотнах. Пішу сваё, а чую, бывае, як дыхаюць яны мне ў карак.

– Іх любіш больш за Бялыніцкага-Бірулю?

– Біруля свой. Ён дыхае мне ў твар, не ў карак. І гэтакі Жукоўскі. Наш, паляшук. У кожнага сваё. Гэтак павінна быць. Як і ў прыродзе. Адзінства разнастайнага. Гармонія. Краса.

– Ідзі ў хату. Будзем снедаць.

Яна пайшла, а ён за ёю не спяшаўся. Сядзеў на бервяне, глядзеў на свае макі, хату, акно ля ганка. Бацьку нібы ў акне ўбачыў. З вайны вярнуўся моцна зранены, а тут хата згарэла, трэба будавацца. Ляжаў, даваў, як на вайне, каманды, што рабіць, рабіла ўсё маці з дзецьмі. Гэтак і хату паставілі новую, і макі пасеялі.

Бацька радаваўся: прыгожа. І ў той радасці памёр. А ён, Мікола, як вывучыўся на мастака, напісаў карціну “Салдаткі”. Жанчын-удоў пасля вайны было шмат, ён іх разумеў, як разумеў маці, і пісаў. А яшчэ пісаў маці каля акна ў хаце: стаіць, глядзіць на дарогу за акном, як чакае адтуль мужа ці сына, а на стале, на белым абрусе, гарлач з малаком і бохан хлеба, Пачынаў у мастацтве з жанравых карцін, з партрэтаў, потым пайшоў у пейзаж, а цяпер, калі шмат чаго зразумеў у жывапісе, узяўся за кветкі, хоць іншыя мастакі ішлі наадварот — ад кветак ды пейзажаў да тэматычных карцін, партрэтаў. Не гэтак атрымалася, як у людзей.

Паснедаўшы, вынес на ганак новае палатно, падняў перад сабою, паглядзеў праз яго на сонца. Святло нідзе не прабівалася, грунт быў без браку. Апусціў палатно на лаўку і побач заўважыў сумку, з якой выглядалі жывыя парасткі, абсыпаныя прыгожым смарагдавым лісцем. З гэтай сумкай жонка была ў Мінску.

– Марыя?.. Што ў цябе за кветка ў сумцы? Якая пластыка! Ты дзе яе знайшла?

– А я сама не ведаю, як называецца. На Камароўскім рынку мне, прадаючы, казалі, ды я забылася.

– Ну, назва — не галоўнае.

– Ты назвы кветак усё роўна забываеш.

– А мне трэба не назвы. Іх няхай ведаюць батанікі, пісьменнікі. Мяне прываблiваюць пластыка і колер, тон. Назву мы і самі прыдумаем. Як назавем?

– Манэ?

– Бірулька?

– Як зацвіце, кветка сама падкажа назву. Можа, гэта будзе Станіслаў Жукоўскі?

– Ці проста Станіслаў.

– Ты ўжо настроіўся яе пісаць?

Ён усміхнуўся з гэтай хітрасці, узяў палатно, яшчэ раз паглядзеў на неба ды і падаўся ў сад.

Марыя глядзела яму ўслед і гадала: навошта ўзяў новае палатно? Адно напісаўшы, ад таго яшчэ не астыўшы, не мог адразу пачынаць другое. Не задаволены тым, што зрабіў? Будзе пісаць макі пры іншым асвятленні? Але ж хацеў пісаць расу на маках. Якая цяпер раса?

Яна вярнулася ў хату, падышла да акна і глядзела ў сад. Бачыла, як муж стаяў каля сваіх макаў, як узяў палітру і пэндзлем падмалёўваў у пейзажы, як адышоў ад яго і выціраў анучай пэндзаль, палітру з пэндзлямі клаў у эцюднік, павесіў эцюднік на плячо, з ім і з новым палатном падаўся за сад у поле. Там каласілася жыта. Яно было яшчэ зялёнае, але сонца залаціла, надавала выгляд даспелага. Праз жыта вяла дарога ў бліжэйшы лес, спачатку падымалася на ўзгорак, потым з узгорка кацілася ў лагчыну, і калі Мікола знік за ўзгоркам, як растварыўся у жыце, Марыя падумала, што недзе там, яшчэ да лесу, ён ці не нагледзеў новы матыў. Пісаць сёння хутчэй за ўсё не будзе, ад макаў не астыўшы, але той дзень, калі ў ім выспее новы настрой, ужо напэўна адчувае і хоча ўбачыць той матыў, хоць вокам прыкінуць кампазіцыю, бо з гэтага звычайна пачынае новую работу і часта кажа, не столькі каму-небудзь, як сабе самому, каб помніць: пакуль не знойдзеш цікавую кампазіцыю, фарбы на палітру не выкладай, без яе пейзаж не атрымаецца, .

Але... як з макамі? Іх ці закончыў? Апошні мазочак на палатно паклаў ці не паклаў?

Марыя зноў выйшла у сад.

Пейзаж стаяў у ценю на ранейшым месцы. Яна паставіла яго да дрэва, на святло, села на бервяно, дзе сядзеў Мікола, углядаючыся ў свой пейзаж, і ў куточку палатна, унізе справа, заўважыла тое, што адразу змяніла яе настрой: тонкім пэндзлем там былі выведзеныя два словы: Мікола Ісаёнак.

Цяпер Марыя глядзела на пейзаж ужо з іншымі адчуваннямі і думкамі.

Гэта былі не зусім тыя макі, якія расцвілі на сонечнай палянцы. У гэтых, на палатне, была свая прыгажосць. Былі ў іх краса і праўда жывых кветак, і разам з тым была загадка, якой не мелі макі ў натуры. Яе хацела зразумець, бо ў ёй хавалася загадка не толькі мастака, але і мужа, яго не заўсёды зразумелых ёй настрояў.

## Бабіна лета

Кветак ужо не было ні ў кога, у гародчыках ды садочках адцвілі нават познія астры і мальвы, дзе самі па сабе палеглі ды пасохлі, а дзе прыбітыя да зямлі бязлітаснымі дажджамі ды вятрамі, халадэчаю апошніх дзён восені, і толькі ў Марыі, у Ісаёнчыхі, як яе называлі ў вёсцы, буяла, не зважаючы на халады, бабіна лета. Ідучы ад суседкі, яна спынілася каля сваёй хаты, загледзелася на кветкі і зноў, як учора і пазаўчора, заўважыла пчолак.

– А божа мой! – цяжка ўздыхнула. – Зіма на носе, усё жывое пахавалася ў дуплах, норах, вуллях, а гэтыя яшчэ пасуцца. Які ж тут ужо мёд? І кветкі ад холаду скачанелі, і пчолкі ледзь поўзаюць макрушчыя. Што з імі рабіць?

Кветкі былі ліловыя, блакітныя, белыя, але чаму цяпер, у халады, пчолы сядзелі на ліловых, ніводнай не было на белых, на блакітных? Няўжо яны таксама, як і яна, мастачка, адчуваюць ліловы колер цёплым, а белы ды блакітны халоднымі? Няўжо ў ліловых кветках ім цяплей?

Зайшоўшы ў хату, запаліла ў грубачцы. Села на мамін зэдлік і дзверцы адчыніла, загледзелася на агонь, як любіць ён бярозавыя дроўцы. Каленям горача зрабілася — адсунулася і зноў глядзела, як агонь шалеў, матляючыся між паленцаў. Чаму, надумала, усе кажуць, што агонь чырвоны? Якіх толькі ў ім колераў няма. Ёсць сінія, блакітныя, зялёныя, аранжавыя, жоўтыя, фіялетавыя. А хто палічыць усе адценні кожнага, нават чырвонага? Хто смелы, каб іх усе, імгненныя, заўважыць? І дзе яшчэ іх столькі ўбачыш, на якой карціне, у якога мастака?

Усхапілася, узялася выкладаць з шафы матуліны вышываначкі і на агонь забылася.

А дзень кароткі. Пакуль напаліла грубачку, зварыла бульбу ў чыгунку, накарміла катоў, Ваську ды Мурку, сабак, Рыжыка ды Цюбіка, прыбрала ў хаце, яшчэ раз перагледзела маміны вышываначкі, заслала ложкі яе квяцістымі пакрывальцамі, рушнічкі развесіла, як на выставе, адшукала свой любімы, таксама мамінымі рукамі выштукаваны зялёны абрусочак, накрыла ім стол у сваёй малой майстэраньцы, меншай за Міколаву, але утульненькай, дык ужо і дзень сатлеў, як тыя вуглі ў печы. Села каля акна, задумалася. Думала пра маміны рукатворы, як яна справілася столькі зрабіць, працуючы ў школе настаўніцай, ды яшчэ хатнюю гаспадарку трымаючы ў сваіх руках? Колькі красы ўклала ў кожную рэч. Красу бачаць усе, хто не сляпы, але ж мала хто нават з мастакоў, якія вучыліся гэтаму і самі вучаць па каледжах да акадэміях, адважваецца ўжыць у сваіх творах гэтакае каляровае багацце. Іншы апраўдваецца тым, што бачыць пейзаж у срэбры і піша срэбрам, іншы прыхільнік золата, а ў мамы ўсе колеры, якія ёсць у прыродзе. Бывала, Мікола ў яе дапытваецца: “Ну як вы мірыце паміж сабою столькі красачак? У кожнай свой нораў, адна з адною то цалуюцца, то спрачаюцца. Як можна ўсе сабраць у адзін букет?” А яна — і з радасцю, і з гонарам: “У мяне яны не спрачаюцца, жывуць

дружненька". Ён зноў: "Як могуць белыя мірыцца з чорнымі — святло і цені? Ці чырвань і блакіт — цяпло і холад? Як гэта ўсё зліць у адзіным каларыце". Яна — з усмешкаю: "Пра гэта я не думаю. Я адчуваю..."

За вокнамі ў цемры хтосьці завывае. То вые, то змаўкае... Вые грамчэй, даўжэй. Ажно ў акне шыбка, на зіму не абмазаная, брынчыць. Марыя сядзела каля цёплай грубачкі ды слухала: можа, то прыйшоў у вёску ды вые воўк? Суседку ўспомніла – забегла ў хату: "А ты адна? Табе адной не сумна? Ой не люблю я гэтакую восень, яе дажджы, халады. Тады маркотна, нудна". Падумала: хай сабе восень, дажджы, холад за акном, але ж у хаце цёпленька – хіба гэта адчуеш, калі за вокнамі і сонечна, і горача? Ваўкі ці вецер выюць? Ім трэба — хай павыюць. А як не выюць — тады хіба ў хаце лепш як там, на волі? І не бяда, калі адна. Ніхто не дурыць галавы, у душу не лезе, з думак не збівае. У душы і думках столькі перажытага, яно і адышло як быццам, забылася, але ж не дзелася нікуды, жыве у табе, чаму б не успомніць, яшчэ раз не перажыць? Вось... дзверы адчыніліся, заходзіць у хату тата, кепку знаёмую перад сабой у руках трымае, кладзе на стол, а ў ёй суніцы першыя, яшчэ з расой. А то стаіць ля печы і сыпле з меха ў міску ліноў, адных ліноў. Яны жывыя, скачуць, залацістыя, аж у хаце ад іх светла, сонечна. І на душы святлее.

Дзень позняй восені кароткі, затое ночка доўгая, сны доўгія і думкі доўгія. То сніла тату, а то, прачнуўшыся, ляжала і думала пра маму, як яна ездзіла аднойчы ў раённы гарадок на настаўніцкую нараду. Была зіма. Нарада скончылася позна, мяцеліца круціла, пазамяла дарогі снегам, а да вёскі вёрст дваццаць, нават болей, і ні машыны, ні каня ў яе бок. Як ноччу адной ісці? І раптам – калгасны бензавоз. Спыніўся – шафёр знаёмы, але ў кабіне, з ім побач, на адно месца тры чалавекі, адзін на адным, і кузава няма, замест яго бочка жалезная з бензінам ці саляркай. Залезла на бочку верхам, аберуч абхапіла наліўную гарлавіну, каб не зваліцца, і паімчалі. Прыехалі у вёску, а як злезці з таго каня, калі прымёрзлі да жалеза рукі, ногі? Выймалі на марозе маму з вопраткі, а вопратку пасля ўжо ад бочкі аддзіралі. Жывая засталася, адтала, нібы ільдзінка, і ўжо назаўтра ўсім хвалілася, вясёлая, як на кані жалезным ехала. Жыць гэтак, як жыла сама, вучыла і дзяцей; не паспытаеш горасці – не будзеш ведаць радасці. Ад гэтай мудрасці і каларыт на вышыванках: цяплынь і холад, святло і цень заўсёды разам.

Прачнулася Марыя ранкам – няма ахвоты ўставаць, нават расплюшчваць вочы. Але ж у хаце светла? Ці у заплюшчаных вачах святло – падман? З-пад коўдры ўсхапілася — адразу да акна. А там – снег? На плечы кофту ўскінула, уступілася ў боты з мужчынскіх ног, на ганак выйшла. Ну так, усё пад снегам і ані следу блізка, нават кацінага альбо сабачага, снег усюды малады, нярушаны. Вярнулася ў хату, знайшла свае валёначкі, зноў выйшла за парог: як там пад снегам кветкі? Увесь куст схапіла ў бярэма, зваліла з яго снег сабе на ногі — дзе пчолкі? Ніводнай не знайшла. Няўжо да снегу паспелі заляцець у вулей? Нажніцамі ўсе кветкі зрэзала, прынесла ў хату, у ваду апусціла, у вазу, на стол паставіла. Як адышла далей, спінай да цёплай грубкі прыхінулася ды адным позіркам адтуль акінула майстэраньку ва ўсім яе святле ад снегу за акном, краскі са сваіх месцаў зрушылі і паплылі ў вачах, нібы рассыпаўся ўвесь кветнік, свой і мамін, што на абрусочку. Схапілася за грубачку, бо і падлога паплыла з-пад ног. Хутчэй на зэдлік села.

Акно з начы было заснежаным, як пасля замеці. Ачулася, у акно глядзела сонейка, сняжынка кожная на шыбках лавіла і адбівала ў майстэрню

яго святло. Марыя бачыла, як загараліся агеньчыкі ўсялякіх колераў на кветках, у празрыстай вазе і на абрусочку, адчула, як пацяплела ў яе на сэрцы. Ціхутка, каб не парушыць усё жывое ў майстэраньцы і за акном неасцярожным крокам, рухам, гукам, каб не згубіць і хваляванні, якія поўнілі душу і сэрца, усю яе істоту, выйшла на тэраску, адтуль прынесла лёгенькі мальберт, паставіла на тое месца, дзе сядзела, каля грубачкі, і на яго — падрамнік з палатном бялюткім, чыстым. Стаяла перад ім, глядзела на яго, на палатно, і думала, ці той гэта памер, што трэба, ці змесцяцца на ім не толькі кветкі, свае і маміны, але і боскае святло, што ў акне, разам са снегам за акном, з плямкамі сонейка на першым, такім цнатлівым снезе, як усё раскласці, нічога, што хвалюе, не згубіўшы? Пытанні і сумненні ўзнікалі і знікалі, зніклі апошнія, і тады Марыя з палітрай падышла бліжэй да палатна. Спяшацца не было куды, дзень быў наперадзе, хоць і нядоўгі, праца не стамляла, захапляла, нішто, акром размовы са святлом і колерам, не турбавала галавы і сэрца, забылася на ўсё астатняе, на Цюбіка, на Мурку, на Рыжыка, на Ваську і нават на Міколу. Паўдня мінула – як адна гадзіна. Але калі ўжо рукі апусціла, калі палітра з пэндзлямі ляжала на стале і ўжо яна, мастачка, сядзела ў кутку майстэрні каля цёплай грубачкі на зэдліку, углядалася ў сваю новую работу, адчула, што нечага ў ёй не хапае. Было як быццам усё, што думала ўкласці у палатно, і кветкі атрымаліся, якія бачыла і адчувала сэрцам, годна зліваліся па тону, па каларыту з маміным абрусам, і адчуванне дня было, яго святло ды чысціня ў акне, і ўсё ядналася, адно з адным, адно ў адным глядзелася не толькі колерам, яго адбіткам, але дыханнем, і ўсё ж сказаць, што яна, мастачка, была ў нацюрморце ўсёй душой і сэрцам, не магла. Было як быццам усё і нечага як быццам не хапала, каб сказаць: гэта — маё, я тут уся. Што яшчэ трэба? Душою адчувала, але маўчала думка. Чакаць Міколу? Ён паглядзіць – што-небудзь скажа. А раптам тое, што якраз трэба?

– Чаму зноў чорны вінаград?.. Работа светлая, а вінаград?..

Усхапілася:

– Мікола? – азірнулася.

Не, не было яго. Падманулася? Гэтак раней пытаўся, неаднойчы, і кожны раз яна адказвала, быццам сама не ведае, чаму ў яе ў кожным нацюрморце з кветкамі ёсць чорны вінаград, што, пішучы, не думае пра гэта, пісаць ці не пісаць яго, і чаму заўсёды чорны. Цяпер, пра усё гэта падумаўшы, зноў узяла палітру са стала. На ёй былі патрэбныя ёй фарбы: бялілы, цёмны сіні кобальт, светлая вохра, умбра. Паклала плямку ў нацюрморт пад вазай з кветкамі, на абрусочак, не плямку — вінаградзінку, як і заўсёды цёмную, але не чорную, з умбраю кобальт, з бокам святлейшым, залаценькім, падобным на адбітак ад ліловых кветак, і рысачку яшчэ святлейшую ад снегу за акном. Тая ягадка паклікала другую да сябе, а дзве — яшчэ адну: Бог тройцу любіць.

Мікола прыехаў пад вечар. Як адчыняў вароты, у гараж ставіў машыну, Марыя не чула, сэрцам і думкамі прыкіпеўшы да нацюрморта. Пачуўшы, калі ўжо быў у калідорчыку, ішоў у сваю майстэрню, здагадалася, што яго нервы сёння – кіпень. Выйсці насустрач, хоць словам супакоіць? О не, не тыя хваляванні, каб слова супакоіла. Лёг першы снег, як божы дар, а ён, мастак, другі дзень за рулём у Мінску: цяпер ужо супакоіць толькі раніца, як сонейка ўзыйдзе, акрамя іх – нішто, ніхто, няма той іншай сілы.

Захваляваўся ў Марыі на каленях Цюбік. Пакуль на зэдліку ля грубачкі

сядзела, углядаючыся ў свае імпрэсіі, шукаючы ў іх нейкі здрадлівы або яшчэ нябачны, у душы сціхлы мазочак, сядзеў ціха і ён, не варушыўся, быццам усё тое, з ёю разам, перажываў, і раптам усхапіўся, саскочыў на падлогу, заскігатаў. Што здарылася? Яна таксама ўсхапілася і азірнулася: Мікола? Цюбік стаяў ужо ля яго на задніх лапах, пыскаю лавіў руку гаспадара, а гаспадар, не заўважаючы ні пестуна калматага, ні жонкі, вачыма ўставіўся ў палатно, і твар яго ў гэты час мякчэў, расцвельваўся, як трапіўшы з марозу ў цяпло. Спытаў:

– Ты што зрабіла?

Яна падумала, што ён абураны, убачыўшы ў вазе кветкі, якія хацеў пісаць — цяпер толькі ўспомніла — у халодным каларыце пад першым снегам. Аж разгубілася: пра тое як магла забыць і зрэзаць кветкі? Чым апраўдацца?

– Ды я... Іх снег засыпаў, не відаць было. І пчолак пахаваў. Я іх пашкадавала. Шукала.

– Якіх пчолак?

– Ты іх не бачыў хіба на кветках? Ты сам не шкадаваў?

– Ды не пра пчолак я, пра нацюрморт. Як ты ўсё гэта напісала?

– А што?.. Што тут у мяне не так, Мікола?

– Ды так, усё так, як трэба, як можаш ты адна зрабіць. І маму ўспомніла, яе зялёны абрусочак, і пчолак уратавала.

– Не ўратавала, не паспела. Шукала іх пад снегам у кветках, не знайшла. Маглі яны паспець схавацца ў вулей?

Ён па-ранейшаму ўглядваўся ў нацюрморт, як штосьці ў ім шукаў, і тое, што яна пра пчол сказала, як не пачуў у палоне напэўна іншай думкі. Марыя ведала яго няпростую натуру. Калі што ўразіла ці абурыла, не праглыне цішком, не змоўчыць, хоць і адразу, як агонь, не ўспыхне, паносіць нейкі час у сабе, абдумае і ўжо тады дасць волю тэмпераменту, усё скажа.

Цяпер доўга не думаў:

– Ты за мяне смялейшая.

Яна зноў насцярожылася:

– Не разумею я цябе, Мікола.

– Ты сабе верыш. А я ўсё сумняваюся. Ты кветкі пішаш – у іх раствараешся, знікаеш, а я ўсё яшчэ вучуся, як напісаць пейзаж, каб у ім ніхто не бачыў майго поту, каб там была адна свавольная прырода, мной не прыручаная, дзікая.

Марыя паўтарыла:

– Не разумею.

– А што тут разумець? З Мінска выехаў ледзь сонейка ўзышло, пакуль прыехаў, спаліў бензіну бак, ганяў машыну па лясах, палетках, шукаў матыў у прыродзе з першым снегам, каб быў мне па душы, па думцы. І што прывёз? Ніводнага эцюда. А ты ад хаты не адышла на крок і ў цябе ўжо які пейзаж!..

– Ніякага пейзажа. Звычайны нацюрморт.

– Ну, не кажы. Колькі зімовага святла, паветра, чысціні ад маладога снегу.

– Дзе ты тут бачыш снег?

– А за акном. Усе твае кветкі, увесь інтэр'ер прасветлены мяккім першым снегам. Я гэты снег шукаў увесь дзень, а да цябе ён сам прыйшоў у майстэрню. Дык што гэта такое? Ці гэтакі твой талент, ці нейкая яшчэ загадка?

– Смяешся ты з мяне, Мікола? – як яна абурылася. – Які тут талент? Якая тут загадка? Тут, можа, доля бабская?..

– Доля?

Адно гэтае слоўка яго збянтэжыла. Рот шырака адкрыў, хапіў паветра, закашляўся і цяжка дыхаў, не ведаючы, што тут яшчэ падумаць і сказаць.

– Ну так, мая такая доля.

– Якая доля?

– А як і маміна. Звычайная, як у кожнай бабы. Вам, мужчынам, бог даў усе вакол дарогі, усе лясы, палеткі, вы вольныя казакі, а што даў бабам? Кожную да свае хаты прывязаў, да печы, да акна, каб сядзелі, варылі, шылі, мылі, прыбіралі. Хіба не так?.. Што ты маўчыш? – казала ўжо як за ўсю вёску, за ўсіх жанчын.

Муж успыхнуў:

– Але ж ты не проста баба, ты мастачка!

– Дык што з таго? Мастачка ці не мастачка, а як ад хаты адарвацца, калі тут трэба накарміць, дагледзіць Мурку, Ваську, Рыжыка і Цюбіка, цябе таксама?

– Хацела б іншай долі?

– Ды не, Мікола, іншай не хачу. У кожнага яна свая. Навошта іншая, калі ў мяне тут печачка, мальберт, акенца. Мала святла? Але яшчэ ніхто ніколі не сказаў, што яго мала на маіх карцінах, эцюдах, нацюрмортах.

Раніцай, калі яна ўсіх накарміла, памыла посуд і прыбрала ў хаце, зайшла ў майстэрню, каб свежым вокам, якое на пачатку дня ўсё бачыла вастрэй, зноў паглядзець на нацюрморт: чаго ў ім не хапае? Там ужо стаяў Мікола, углядаўся ў кветкі. Хацелася спытаць у яго пра тое самае, пра нацюрморт, што свежым вокам бачыць ён, якую, хоць адну, загану. І не паспела – ён спытаў:

– Адкуль з'явілася ў нас лета бабіна? Як мы з табою пачыналі жыць, яго тут не было і не было ні ў кога ў вёсцы. Ты яго сеяла, садзіла? Ці, можа, мама?

– Гэтак пыталася ў мяне і мама. Яна не сеяла і я не сеяла. Спытай у кветак. Іншы ніхто не скажа. Самі насеяліся.

– Як самі?

– Як самі і растуць. Хто даглядаў іх, як ружы ці півоні? Ніхто ні разу не прапалоў, у засушлівае лета не паліў, не падкарміў, не падвязаў, каб не палеглі ў навальніцу. Цвітуць сабе ўсю восень, у халады, снег ці мароз. Таксама хіба гэта не доля бабіна?

Мікола выслухаў Марыю, прамоўчаў і павярнуўся тварам зноў да нацюрморта, вачыма прыкіпеў да плямак вінаграду: навошта ён тут, чорны, дзе сонечныя кветкі, бялюткі і чысцюткі снег, святло з вышыняў божых?..

І раптам убачыў на белым снезе чорную варону, тую, у якой аднойчы Сурыкаў, мастак, знайшоў сваю баярыню Марозаву.

Аж скалануўся.

Ён ведаў, як аналогіі кульгаюць, але цяпер адчуў і тое, як яны ратуюць.

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць свайго сталага аўтара
**Віктара Карамазава** з васьмідзесяцігоддзем
і зычаць яму моцнага здароўя, аптымізму,
душэўнае трываласці і божага святла!

Славамір Адамовіч



...і сціскалі хто піку,
хто камень,
хто ствол...

# Штосьці не так

### *АВАНТУРЫ МАЙГО ПАХОДУ Ў МАР'ІНАГОРСКУЮ ПУБЛІЧНУЮ БІБЛІЯТЭКУ*

Штосьці не так, я вам скажу, яй-богу!
У бібліятэцы думаў кніжку ўзяць (каб пачытаць).
А мне адлуп: у нас крадуць з парогу,
таму ніяк не можам мы вам даць.

Ну гляньце самі, вось у вас прапіска:
Мінск, Ландэра, 76-60.
Згадзіцеся, ад Пухавіч няблізка.
А калі што, як нам вас адшукаць?

Камандзіровачным мы не даём на рукі.
Вось, калі ласка, вам чытальны зал.
Тут цішыня, ніякіх шумаў-гукаў,
хоць цэлы дзень выходзьце у астрал...

І я пайшоў, скрыгочучы зубамі, –
"камандзіровачны" без права пачытаць.

Не, штось не так у гэтым Краі з намі...
А д'ябал ува мне: пара страляць!..

* * *

Зігзагі Валерыі Куставай
(рухавай такой дзяўчынкі)
лаўлю я сталымі вуснамі,
гатовы да дзёрзкіх учынкаў.
Валерыя, хопіць кусціцца!
Пара вырастаць у дрэва,
каб узгадаваць Беларусіка,
а лепей – цэлую хеўру!..

* * *

І зноў нядобра на душы...
адзін, як пень у лесе...
А мо за далягляд шашы
пакрочыць напрадвесні?

А можа, на Майдан
і там
залатвіць кулю ў грудзі?
А можа, з пікай на таран
ці ў дзень святы, ці ў будзень?..

Ізноў нядобра мне ўва мне... –
я прагну Волі!..
І выйсце – толькі у Вайне
і ачышчальным Болі!..

Мяне Багрымавы кажан
абраў, каб сесці,
і я даўно праклёнаў жбан
узяўся несці...

Ды з кожным днём усё цяжэй
быць выродкам у зграі...
і гонар мой – ніжэй, ніжэй...
І – чую – выгараю...

А мне не хочацца згарэць
і не пабачыць плёну...
І я крычу: даволі! гэць!..
Але маўчаць мільёны...

### *КІЕЎ, 19.02.14*

Тут учора сышліся ў смяротным двубоі
украінец Шаўчэнкі і савецкі хахол,

і ніхто не хацеў адступіцца без бою,
і сціскалі хто піку, хто камень, хто ствол.

Аж пакуль не парвалася ніта цярпення,
і пайшоў схід на захід, і біта на шлем;
нехта страціў прытомнасць, а нехта сумленне...
пазыўныя паблытаўшы з хваляй FM.

І пайшло-панеслося Марыінскім паркам,
па Грушэўскага вуліцы цераз Майдан
рэха-пошчак вайны грамадзянскай упартай,
як з Усходу на Захад расейскі прапан...

*00:59, 20.02.2014*

## *ВЕРСІФІКАТАРАМ*

Не выдумляйце – слухайце ў сабе,
як узрастае ровень крывацёку.
І дзесьці у закаркавым гарбе
напяўся мускул як сігнал да ўцёкаў.

А ты салдат, ты абяцаў стаяць
і больш за тое – рухацца наперад,
і галаву варожую адцяць...
ты абяцаў сабе не на паперы.

Не выдумляйце – слухайце нутро,
сярэдзіну, напятыя вантробы,
якія чуюць волю і астрог,
каб захаваць жыццё сваёй асобы...

## *МІКОЛУ КАНДРАТАВУ ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ 10.01.2014 НА ПАЭТЫЧНАЙ ВЕЧАРЫНЕ*

ў менскай бібліятэцы імя Цёткі
сухенькі, сівенькі,
яшчэ не стары паэт,
і вершы яго,
як зерне з сявенькі,
выкульваюцца у свет...

## *З НАГОДЫ МІМАЛЁТНАГА ДЫСПУТУ НА ФУРШЭЦЕ Ў ЛЕТУВІСКАЙ АМБАСАДЗЕ Ў МЕНСКУ-ЛІТОЎСКІМ*

За тых, што секліся з масквою,
пілі мы, п’ём і будзем піць
па 50, не больш за тое,
астатні ж час мы будзем жыць!

І кожны ўзняты намі келіх
з цяжкім ламаннем у касцях
зрыгне масква на тацы з гжэлю
і ляжа пад ліцвінскі сцяг!

### *…АД “НАРОДЦА”*

Хай не ведаем мы гісторыі
і да мовы ніяк не вернемся,
ды лічыць нас дурнымі гоямі –
гэта ўсё ж правальная версія.

Так, мы самі свой крыж згарусцілі,
нам і несці яго, пакуль
не надыйдзе пара экзекуцыяў
і зачыстак пад нуль.

Так, мы самі, бо надта ж наіўныя,
надта ж любім, каб іншы хто
ураджаі збіраў нашаніўныя
і маркеціў “Заготскот”.

Так, мы самі ідзём у паліцыю,
і ў міліцыю, і ў АМОН,
ёсць у нас падпісанты петыцыяў,
ё і тыя, хто крыкне “Рубон!”

Так, мы самі такія нязграбныя,
хоць “народцам” людзей назаві...
Толькі памяць у нас маштабная,
як успомнім – будзе крыві...

### *НАРЭШЦЕ ПАДКЛЮЧЫЛІ ДА МАЙГО ДАМКА ПРЫРОДНЫ ГАЗ*

Сёння прыйшла зіма
супольна з прыродным газам.
Такія справы, зямляк,
астатняе – іншым разам.

За гэты зямельны дух,
што з нетраў суседніх рвецца,
народы ірвуць трыбух
адно аднаму, і – сэрцы.

І наш галоўны зямляк
за кожны кубовы метар
здае нас, нібы шклатару галяк,
з неверагодным імпэтам...



Уладзімір Дамашэвіч



...імперыі заўсёды распадаюцца,
вось і надышоў час
распасціся Расейскай....

# Электрычка Мінск – Баранавічы

***Апавяданне 1994 года***

Дарогі не люблю, але часам воляй-няволяй трэба ехаць. Вось і сёння па абедзе сабраўся на электрычку. На вакзале – як у разварушаным мурашніку: не размінуцца, не прайсці, народ з торбамі, з чамаданамі, з рукзакамі за плячыма кіруе ці на пуці, да цягнікоў, ці адтуль, дзе толькі што спыніўся цягнік і з яго высыпалі пасажыры, што прыехалі са Стоўбцаў, Маладэчна або Пухавічаў.

Ля гадзінніка на будынку вакзала вісеў расклад цягнікоў, тут звычайна стаялі людзі, вывучалі маршруты, некаторыя запісвалі час адпраўкі сваіх цягнікоў.

Па інерцыі я глянуў на тое месца і не пазнаў яго: сёння там нікога не было, не было і вывескі з раскладам. Што такое? Не светавым табло, якое было недалёка ад гадзінніка, патрэбнага мне цягніка не значылася, нібы яго засакрэцілі.

Убачыў маладога міліцыянта ў новай беларускай форме,

спытаўся, чаму такія перамены, але ён толькі пацiснуў плячыма – быў не на службе, без звычайных сваіх атрыбутаў: пісталета і гумовай палкі, без рацыі. Давялося ісці ў касы, хоць касіры даведак не даюць, і пытацца, куды знік мой цягнік. Касірка сказала праз зубы, што электрычка на Баранавічы цяпер адпраўляецца з Інстытута Культуры.

Вось яно што! Добра, што яшчэ ёсць час.

Іду ў метро і праз некалькі хвілінаў я ўжо на станцыі Інстытут Культуры. І тут народу шмат, хоць і менш, чым на галоўным вакзале. Лета ў самым разгары, людзі з горада едуць да сваякоў у вёску – памагаць у працы, каб нешта зарабіць, шмат хто едзе на свае агароды і дачы. Людзі стаяць ля самых рэек на тым месцы, дзе павінен спыніцца цягнік, на засмечанай вузкай пляцоўцы, паставіўшы свае клункі, цярпліва чакаюць, паглядваючы на свае гадзіннікі. Завязваюцца размовы між часовымі суседзямі. Гавораць пераважна пра спёку, якая ў гэтым годзе не дае людзям жыцця: вясна сырая, дажджлівая, а летам засушыла зусім, усё стала сохнуць і вянуць, каб не было вялікага недароду.

Разгледзеўшыся, бачу, што стаю ля невялічкага карчакаватага пенсіянера, мо на гадоў колькі старэйшага за мяне: у шэрым касцюме, на лацкане пінжака ордэнскія планкі – чалавек, па ўсім відаць, заслужаны, ветэран вайны і працы. Белая кепачка ад сонца няспрытна сядзіць на яго круглай галаве, сівыя рэдкія валасы выбіваюцца з-пад кепкі ля вушэй, але стрыжка кароткая, як у былых вайскоўцаў.

Я крадком углядаюся ў яго, гадаю: мо настаўнік (былы), мо журналіст (таксама былы), мо вайсковец, калі меркаваць па кароткіх валасах? Але не павінен недаростак быць вайскоўцам, у нас звычайна такія хлопцы заставаліся ў вёсцы ды пасвілі кароў.

Вось той, што ў мяне быў злева і гаварыў з маладою жанчынаю, дык выглядаў сапраўдным вайскоўцам: і форма на ім вайсковая, афіцэрская, без пагонаў, і росту вышэй за сярэдні, і выпраўка, і з твару прыемны: смуглявы, нос роўны, велікаваты, вусны цвёрдыя, валявы падбародак. Па ім відаць, што ён трохі нападпітку, але меры не перабраў, не развязны, а трохі падвяселены.

Урэшце нашае доўгае чаканне скончылася: падышла электрычка. Людзі адразу кінуліся да дзвярэй, хоць і ведалі, што адтуль будуць выходзіць пасажыры. Іх ледзь прапускалі праз вузкую шчыліну ў натоўпе, нецярпліва падганялі тых, хто засядаў з вялікімі торбамі, лаяліся і сварыліся, а тыя, што сыходзілі, не заставаліся ў даўгу – на слова адказвалі двума. Апошніх, хто трохі прамарудзіў, прыцiскалі ў тамбуры і зусім не давалі выйсці – такі быў вялікі націск натоўпу. Тут, здаецца, не трэба было ісці – цябе проста нясло, цягнула, як хуткая рачная плынь нясе бервяно ці што іншае.

Мяне падштурхнулі некалькі разоў, я апынуўся ў тамбуры, а потым і ў вагоне, які ўжо быў запоўнены, заставаліся сям-там адзіночныя месцы, але і тыя былі заняты – няйначай, для кагосьці свайго ці знаёмага.

Прайшоўшы першыя купэ, я апынуўся на сярэдзіне вагона і ўбачыў сваіх суседзяў па пероне: яны ўжо сядзелі. Невысокі пенсіянер у белай кепачцы сказаў да мяне:

– Садись, старик, вот место, – і паказаў ля сябе рукою, зняўшы з лаўкі невялікую спартыўную торбу аранжавага колеру.

Былы вайсковец сядзеў насупраць мяне, таксама ля праходу, а ля вокнаў размясціліся маладыя кабеты і хлопец, відаць, студэнт.

Людзі, між тым, яшчэ ўсё цягнуліся ў вагон, хоць сесці ўжо не было дзе, і яны, разгледзеўшыся, або станавіліся дзе-небудзь у закутку, або пераходзілі ў суседнія вагоны, валочачы за сабою свае цяжкія і вялізныя сумкі ды клункі.

Асабліва шкода было людзей старэйшага веку, якія не маглі супернічаць з маладымі ў сіле і спрыце і заставаліся апошнімі. Іх ніхто не запрашаў садзіцца, не саступаў свайго месца: кожны думаў толькі пра сябе, пра свой камфорт. Яшчэ маглі прачытаць мараль: сядзі дома, старая ці стары! Чаго табе ездзіць? Білеты бясплатныя для пенсіянераў? Нічога, хутка прыйдзе прэзідэнт, дык адменіць Кебічавы прывілеі, будзеце сядзець дома!

Самыя цяжкія хвіліны – перад адпраўкаю, бо кожны нібы баіцца, што цягнік не пойдзе ці пойдзе, чаго добрага, не ў той бок, куды трэба. А калі ўжо колы загудуць пад вагонамі, калі пейзаж за вокнамі заварушыцца, слупы стануць бегчы назад, – тады робіцца неяк лягчэй: ты едзеш туды, куды табе трэба!

Я атрымаў пенсію ў Мінску і ехаў у Клецак, дзе мы з жонкаю жылі летам “на дачы” – у доме яе бацькоў, якія ўжо на тым свеце: бацька даўно, а маці – нядаўна, гады тры назад. Яна і адпісала сваей дачцэ хату і соткі з садам і агародам.

– Ну вот, наконец, тронулись, – уздыхнуў з палёгкай мой сусед, і невыразны твар яго трохі ажывіўся, калі цягнік плаўна пабег па рэйках. – Небось, тебе повезло, что я захватил лишнее местечко, – звяртаючыся да мяне, сказаў сусед у белай кепачцы. – Видишь, сколько людей стоит? – павёў ён галавою на кароткай шыі, па вагоне. – Сегодня что-то людно очень: кто в гости, кто из гостей... Я вот еду от сына из Минска. А ты, небось, тоже был у кого из детей? – спытаўся ён бесцырымонна ў мяне, ужо ў каторы раз ужываючы сваё характэрнае расейскае “ты”.

– Амаль што адгадалі, – каб не ўдавацца ў дэталі, адказаў я. – А за месца – шчыра дзякую, бо і праўда – давялося б стаяць.

Сусед уважліва паглядзеў на мяне сваімі маленькімі бясколернымі вачыма – я адразу не зразумеў – чаму? А потым даўмеўся – што гавару па-беларуску. Усіх расейцаў гэта здзіўляе: як тут яшчэ ўцалеў нейкі тубылец, што гаворыць па-свойму? Няйначай, зацяты нацыяналіст, бо звычайныя беларусы адразу пераходзяць на расейскую мову ў гутарцы з расейцамі.

Аднак жа пра гэта ён прамаўчаў, а спытаўся тое, што звычайна пытаюць пасажыры-спадарожнікі адзін у другога:

– Ты в Барановичи?

– У Баранавічы, і яшчэ трохі далей...

Ён нібы расчараваўся, што не адгадаў, і працягваў гутарку, бо, відаць, маўчанне цяжка пераносіў:

– А я в Барановичи. У меня там семья. – І паправіўся, патлумачыў: – Фактически, жена и я, дети далеко отсюда.

– У мяне ў Баранавічах поўна сваякоў, усё збіраюся калі зайсці, ды нешта не выходзіць... А куды вам? – спытаў я ў былога вайскоўца, каб не адгароджвацца ад яго.

– Мне да Гарадзеі, – адказаў сусед па купэ, – прыязджаў у сталіцу па грашовых справах.

Маладыя цяпер звычайна маўчаць. А старэйшыя неяк хутка асвойваюцца, не могуць доўга сядзець моўчкі, тым болей, што пагаварыць ёсць пра што. Галоўная балючая тэма – цэны, цяпер вось – выбары прэзідэнта,

прайшоў першы тур, які нічога не даў, хоць нечакана для ўсіх вылучыўся Лукашэнка.

Яны і сталі абмяркоўваць яго, як на якім сходзе ці мітынгу. А электрычка адмервала кіламетры, мяняла станцыю за станцыяй: Курасоўшчына, Памыслішча, Пціч...

– Лукашенко – комсомальчик, рано ещё ему в президенты, – гаварыў сусед у белай кепачцы. – У Кебича большой опыт работы – хозяйственной и партийной, а этот – летун, на одном месте год-два поработает – и перелетел. Мне такие люди не нравятся.

– Вы кажаце, што ў Кебіча большы вопыт работы, – загаварыў былы вайсковец, прыгладзіўшы свае кароткія русыя валасы, – А дзе той яго вопыт відаць? Колькі гадоў ён корміць нас абяцанкамі, а нічога не мяняецца.

– У яго большы вопыт адурманьваць людзей, – падтрымаў я былога вайскоўца. – На гаспадарчай і партыйнай рабоце натрэніраваўся... Мне цікава, чаму нашыя людзі прайшлі міма сваіх – і даволі яркіх лідэраў?

– Кого ты имеешь ввиду – своих? БНФ и Шушкевича, да? – павярнуўся да мяне сусед у белай кепачцы.

– Якраз іх, – кіўнуў я і ўсміхнуўся сам сабе, што БНФ і Шушкевіч цяпер успрымаецца як адно цэлае.

– Да потому что со своим языком лезут, потому что хотят порвать всякую связь с Россией! Вот почему от них народ отвернулся, – закончыў мой сусед у белай кепачцы.

– Але ж партыя камуністаў якраз “с языком не лезет”, і саюза з Расіяй не збіраецца разрываць, аднак жа за яе кандыдатам народ не пайшоў зусім, – уставіў я свае меркаванне.

– Этого их кандидата никто не знал и не знает, хуже даже Малофеева. Кто за ним пойдёт? Нужна личность! – усклікнуў сусед у белай кепачцы і ўзняў угару паказальны палец, кароткі і пракураны.

– А Лукашэнка – личность, асоба? – спытаўся я ў апанента. – Як асоба ён, як і Новікаў, не раўня Пазняку і Шушкевічу, аднак жа...

– З-за антыкарупцыйнай камісіі ён пайшоў угару, з-за свае смеласці, – сказаў былы вайсковец. Ён, мо каб падтрымаць мяне, гаварыў таксама па-беларуску, і даволі добра. – Народ наш хоча справядлівасці, а Лукашэнка абяцае аб’явіць вайну зладзеям, прахадзімцам, хабарнікам, усялякім спрытнюгам, што будуюць сабе катэджы – палацы за народныя грошы.

– Вы вельмі правільна сказалі, – падтрымаў я былога вайскоўца. – Каб не гэтая камісія, Лукашэнка нават не трапіў бы ў супернікі да Кебіча, і тады ў Кебіча быў бы шанц стаць прэзідэнтам. А цяпер гэтае месца яму не свеціць.

– Ещё неизвестно, – не здаваўся мой сусед у белай кепачцы. – У него опять же опыт выборной борьбы, у него власть, у него все рычаги. И если он не сваляет “ваньку”, он может победить этого неопытного комсомольчика Лукашенку.

– Грубасць і ашуканства, чым увесь час карыстаецца Кебіч, ужо ўсім абрыдла, – зазначыў былы вайсковец. – Трэба прыдумаць нешта новае, чаго мы яшчэ не каштавалі.

– Вот он и придумает, быть не может, чтобы он так просто ушёл со сцены.

– Дзвярыма ён можа бразнуць, але што гэта дасць. Каго вельмі спалохае? – спытаўся я.

– Того же Лукашенку! Разве может предколхоза или совхоза вдруг стать руководителем государства? Это же фантастика, фантасмагория какая-то!

– А кухарка, якая, па Леніну, павінна ўмець кіраваць дзяржаваю? – спытаўся былы вайсковец.

– Красивые, а, лучше сказать, пустые слова, – махнуў рукою мой сусед у белай кепачцы.

– Раней, гадкоў пяць назад ці трохі болей, вы такіх слоў не сказалі б, шаноўны ветэран, – засмяяўся я з яго запозненай смеласці.

– Возможно, – кіўнуў галавою ветэран, – но если не умеешь – не берись. А так можно всё испортить. И если он станет президентом, так и будет. Вот увидите! У меня глаз верный, снайперский.

– А калі не Лукашэнка, а Шушкевіч? – спытаўся ў яго былы вайсковец.

– Шушкевич – болтун, много говорит, а делает мало. Мягкий, очень виляет – то на русском, то на белорусском, то влево, то вправо.

– А каб раптам Пазняк? – спытаўся я.

Цікава было пачуць думку незнаёмага і не свайго для Беларусі чалавека. Калі ён толькі гаворыць шчыра, адкрыта, а не хітруе.

– Да что вы! Это же фронт! Это диктатура! Это... гражданская война, наконец! – спалохаўся мой сусед.

Я ўсміхнуўся, былы вайсковец насупраць таксама засмяяўся – такой рэакцыі я не чакаў ад ветэрана!

– Вы прайшлі ваенны фронт, а цяпер вас палохае мірны. Чаму? – спытаў я ў суседа-ветэрана. – А ведаеце, што фронт – гэта французскае слова, і азначае яно лоб? Дык чаго нам яго баяцца? І, наколькі я ведаю Пазняка, ён зусім не ваяўнічы, ён супраць крыві, ён толькі прынцыповы і ўпарты там, дзе справа ідзе пра незалежнасць Беларусі. Чаго ён цярпець не можа, дык гэта адступніцтва ад свайго, беларускага, незалежніцкага, што складае аснову дзяржавы. Вось за гэта яго і не любяць камуністы, якія прадалі вам, расейцам, сваю нацыянальную гордасць і чалавечую годнасць і пайшлі да вас на службу...

Мой сусед ажно ўскочыў на ногі, узмахнуў рукамі, хацеў нешта сказаць, але я спыніў яго:

– Сядайце, сядайце! І супакойцеся. Я бачу, што вы не згодны са мною, гэта вашае права, але Пазняка вы бачыце такога, якім яго намалявалі, ці, праўдзівей, размалявалі камуністы. Але гэты грубы партрэт-фальшыўка не падобны да арыгінала на ўсе сто працэнтаў. Беларусаў вы, расейцы, увесь час палохалі палякамі, увесь час засланялі ад іх, але ў той жа час далучалі нас сілаю да сябе, ні кроплі не турбуючыся, хочам мы гэтага, ці не. Праўда, некаторыя хочуць жыць пад вашаю апекаю, але ўсе свядомыя беларусы ўжо даўно ў вас расчараваліся і хочуць жыць самастойна. Першы сярод іх – Пазняк. Гэта, я вам кажу, сапраўдны лідэр: разумны, цвёрды, дальнабачны. Ні адзін з сённяшніх лідэраў у Беларусі не можа з ім зраўняцца. Але ўся бяда ў тым, што многія нашыя людзі глядзяць на яго праз чорныя камуністычныя акуляры – і таму ён выглядае такім страшным. Наш народ даверлівы, ён яшчэ не адкінуў ад сябе путаў камуністычнай прапаганды. Але час робіць сваё, людзі пачынаюць бачыць праўду... Я так

думаю, што калі нашыя людзі размінуцца з такім лідэрам, як Пазняк, дык могуць размінуцца і са сваім лёсам.

Тут толькі я зразумеў, што шмат гаварыў.

– Прабачце, што так доўга стаяў на трыбуне.

Некаторыя пасажыры, што сядзелі бліжэй да нас, прыслухоўваліся да спрэчкі, мо нехта нешта і зразумее з карысцю для сябе, але ўсё роўна – гэта кропля ў моры. Мне стала нават няёмка за сябе.

Паўзу тут жа скарыстаў сусед у белай кепачцы.

– В оценке Позняка не согласен с тобой полностью. Если придёт Позняк, судьба Белоруссии станет непредсказуемой. Он сделает её или колонией России, или Америки, или вообще Израиля...

– А мо варта паэксперыментаваць? Усё Расея ды Расея. Хай прыйдзе хто-небудзь іншы, хоць бы тая Амерыка. Каб было з чым параўнаць, – уклеіўся я ў яго ўзнёслую тыраду. – Чаму вы лічыце, што толькі адна Расея мае нейкія правы на Беларусь, і больш – ніхто?

– Да потому, что Беларусь – это Белая Русь, есть ещё Малая Русь и Великая Русь, и так было испокон веков, ещё от Киевской Руси пошло! Неужели ты этого не знаешь? – спытаўся ён у мяне з вачыма, поўнымі шалёнай злосці.

– Усё гэта імперскія баечкі, шаноўны ветэран, і яны для таго пушчаны на свет, каб вы, расейцы, мелі падставы вызваляць нас і далучаць. А на самой справе нашыя тры народы спакон веку ішлі сваімі дарогамі, мелі свой гістарычны лёс, хоць былі і застаюцца сваякамі, як тыя французы, італьянцы, гішпанцы, хоць бы па мове, калі не па гістарычным лёсе.

– Да если бы мы, россияне, вас не освобождали, так вы ещё были бы под ярмом литовцев или поляков. Это мы дали вам независимость, а вы... Да и сама Польша, не забывайте, входила в состав Российской империи, и Финляндия, и Прибалтика. А теперь вы все уже отворачиваетесь каждый в свою сторону. А кто вам дал свободу и независимость, если не мы? – пытаўся ён у мяне.

– Проста ў вас ўжо сталі кароткія рукі, і мы ўсе паступова вызваляемся з вашых моцных абдымкаў. Усяго толькі! Каб у вас была сіла нас утрымаць, вы нас не выпусцілі б, не пашкадавалі б. Жыццё ідзе і робіць сваю справу – імперыі распадаюцца, а кожны народ, нават маленькі па колькасці, хоча жыць незалежна, сваёй сям'ёю, не хоча служыць нейкаму там дужэйшаму "брату".

– Вот вы получили независимость – из наших рук, запомните! – и как же вы её использовали? Вы же не можете стоять на своих ногах, потому что у вас нет элементарных условий, чтобы эта независимость крепла. У вас нет, например, энергоресурсов! А у России они есть! Должны вы это учитывать? Должны, если у вас есть головы на плечах.

– Гэта мы ўлічваем, але трэба весці гандаль на роўных, а не так, як раней – бралі і ў нас не пыталіся пра цэны.

– Да это мы вас кормили, спадары, а не у вас брали.

– Каб так было, як вы кажаце, вы нас даўно адпусцілі б на волю. А так трымаеце, як сабаку на ланцугу. Яшчэ і цяпер, хоць мы лічымся ўжо незалежнымі... А слова "спадар" дарэмна вымаўляеце з іроніяй! Вы думалі, калі яго бальшавікі затапталі ў гразь, дык яно ўжо не ўзыдзе? Узышло, і да народа дойдзе, бо гэта нашае слова, ад слова "гаспадар", а вы, бальшавікі, цярпець не можаце гаспадароў, вы шанавалі толькі "товарищей

пролетариев", якія нічога не мелі і квапіліся на чужое... Але век чужым не пражывеш, трэба і сваё мець, гэта значыць, зарабіць сваім мазалём. Вось я пагляджу, як скончыцца ў вас нафта, чым вы жыць будзеце?

– Не плачь, проживём без вашей помощи, ещё проситься будете обратно, да мы еще подумаем, принимать ли, – перайшоў на ганарысты тон мой сусед у белай кепачцы. І тут мне як стукнула ў галаву.

– Пачакайце, пачакайце! Дык хто вы – грамадзянін Беларусі ці Расеі? Вы з Баранавіч ці з Кастрамы?

– А почему ты вдруг спросил? – здзівіўся мой сусед і нават трохі як бы спалохаўся.

– Ды таму, што вы разважаеце, як расіянін з Разані ці Кастрамы, а не як грамадзянін Беларусі. Вы нават не заўважаеце, што засталіся на вялікадзяржаўных, імперскіх пазіцыях, як стаялі дзесяць, дваццаць і пяцьдзясят гадоў назад! Нічога для вас не змянілася! Ці змянілася? Як па-вашаму?

– Да, переменилось, ты прав... Но...

– Мо не надоўга? Так вы хацелі сказаць? Прызнайцеся шчыра, былы дырэктар рускай школы ў беларускіх Баранавічах.

– Да, подобная мысль у меня была, что тут греха таить? – і на твары яго, дагэтуль самаўпэўненым, прамільгнуў цень няёмкасці.

– Вось бачыце, як вам цяжка прывыкнуць да вашага новага статуса! Па духу вы яшчэ вялікарос, а па пашпарце – грамадзянін незалежнай Беларусі. І сын ваш, калі ён жыве ў Менску – таксама.

– Да, и сын тоже...

– А не хочацца вам на радзіму, назад? – спытаўся я напрамую, мо і нявветліва.

– Как-то не думал над этим вопросом...

– Вось бачыце! Значыць, у Беларусі вам някепска жывецца. Ніхто на вашыя правы не пасягае. Мову – язык – мо і давядзецца падвучыць, га? Не грэх было б, каб і вы нашу ведалі. Мы ў Беларусі, ды ведаем вашую, расейскую, а вы ў Беларусі не хочаце ведаць ні слова беларускага. Пра што гэта гаворыць? Што вы з вызваліцеляў паступова перараслі ў акупантаў, зрабілі з нас паднявольных...

– Ты опять со своими оккупантами! Ну какой я тут был оккупант? Какой?

– А вось вы былі дырэктарам школы ў Баранавічах. Якой школы: беларускай, рускай?

– Русской...

– Бачыце, рускай! На якой мове гаварылі з вамі настаўнікі, у большасці сваёй беларусы, і вучні таксама? Натуральна, што на вашай, расейскай, а не на беларускай, як трэба было б, каб тут была Беларусь, а не калонія Расеі. Вось і ваша рэальнае двухмоўе! А ўсе гавораць толькі па-расейску!

– В языках разницы не вижу! – заславаў сусед у белай кепачцы. – Русский все понимают – и хорошо!

– Значыць, беларускі можна і выкінуць? Ды каб не было розніцы, як вы кажаце, дык усе гаварылі б па-беларуску, і вы таксама, бо тут Беларусь! Аднак жа вы прымусілі ўсіх нас вывучаць прывезеную нам з Расеі мову! А вось як мы цяпер хочам, каб вы сталі вывучаць нашую, дык вы кажаце, што мы вас гвалтуем, навязваем вам сваю мову! Мы проста хочам быць дома гаспадарамі. Мы ў сябе дома, а вы ў гасцях, але вы гэтага не

хочаце прызнаваць. Вам падабаецца тое, што было дагэтуль. А тое, што было – ужо сплыло. Так ці не?

Сусед у белай кепачцы маўчаў, нешта думаў, відаць, шукаў трапнага адказу.

– Ты столько наворочал в одну кучу, что не разобрать, где ноги, а где голова... Я только понял, что вы хотите быть равными со всеми... Но разве это возможно? Так или иначе, но вы от России будете зависеть, значит, равенства не будет...

– Вось мы і не хочам залежыць ад Расеі, бо ведаем, што яна зноў возьме нас у свае абдымкі.

– Мало что вы не хотите! А куда вы от этого денетесь? Кто вам даст, как давала Россия?

– Дарма яна не давала, дарма яна толькі брала, вось у чым розніца. А мы хочам браць, ці лепш сказаць, купляць па выгадных цэнах.

– А где вы найдёте таких дураков? С позволения сказать, покажите, назовите?

– Знойдзем! Не дураков, а партнёраў! Каб наш Кебіч не трымаўся так моцна за "старэйшага брата", мы ужо даўно знайшлі б... Ды мы калі возьмем з Расеі плату за ўвесь транзіт, што ідзе праз нашы землі на Захад, дык мы палову свайго бюджэту пакрыем!

– Ну, чего вы захотели! Этого вам никто не позволит!

– А мы ні ў кога і пытацца не будзем. Хай толькі прыйдзе да ўлады цвёрды прэзідэнт, не такі, як Кебіч, што стаіць на задніх лапках перад Чарнамырдзіным. Лепш сказаць, не на лапках, а на каленях... Анекдот чулі, як Кебіч прывёз ад Чарнамырдзіна футру сваёй жонцы? Футра тая аказалася надта кароткая, а Кебіч кажа: дык я прымяраў там, была як мае быць. А жонка кажа: не забывай, што ты на каленях стаяў, вось чаму футра здалася табе як мае быць.

– Да, анекдот сочинить легче, чем дойти до истины, – адказаў на гэта мой сусед у белай кепачцы.

– Гэта так, але ісціну пры жаданні знайсці лягчэй, чым сваю долю, – зазначыў я.

– Что значит – долю? Часть?

– Не частку, а долю – судьбу.

– Да, судьбу поймать тяжело... А вот истина в чём, по-вашему?

Тут ужо мне давялося задумацца.

– Мне здаецца, у тым, каб кожны народ будаваў сабе жыццё сам, без падказак збоку і без сілавога, крый Божа, умяшання. Толькі ў такім разе народ зможа пабудаваць сабе шчасце. Інакш – ніколі!

– Очень просто у тебя получается, – засумняваўся мой сусед. – Очень даже просто.

– Якраз гэта няпроста. Вельмі шмат цяпер развялося дарадцаў – саветчыкаў, памочнікаў і розных сілаў, гатовых умяшацца ў чужыя справы і пачаць перарабляць-перакройваць іх на свой капыл. І тады ўсё бурыцца і ляціць у тартарары. Вось так!

Ветэран у белай кепачцы нічога на гэта не адказаў. І не дадаў.

Тут у спрэчцы адбыўся нейкі як перелом. Што ні кажыце, а абодва дыскутанты стаміліся, прайшла гадзіна ці болей, цягнік ужо даўно прамінуў Койданава, Негарэлае, набліжаўся недзе да Коласава, а там блізка і Стоўбцы – палова дарогі.

Трэба аддаць належнае дыскутантам: ні адзін з іх не выйшаў нават у тамбур на перакур, выходзіў толькі былы вайсковец, ён курыў. Да таго ж ён неяк натуральна выбыў са спрэчкі, толькі паглядваў на заўзятых пенсіянераў і часам пасмейваўся сам сабе.

А два пенсіянеры сядзелі, як цвікі, і нікуды не рыпаліся, хоць, на добры лад, іх проста трэба было б развесці ў розныя бакі, каб не ірвалі адзін аднаму нерваў.

Падсвядома яны абодва гэта разумелі, але ні адзін не хацеў саступаць, хоць месца ў вагоне ўжо было поўна, бо людзі паступова выходзілі амаль на кожным прыпынку, а садзілася мала. І каля іх, у іхнім купэ, са старых пасажыраў засталіся толькі яны ўтраіх з былым вайскоўцам, а моладзь уся памянялася. Пра што ідзе спрэчка, яны ўжо не ведалі, а мо нават і не цікавіліся: што ім да спрэчкі нейкіх там ветэранаў?

Але вось зайшоў у купэ былы вайсковец, неяк асцярожна сеў на сваё месца, прытрымліваючы правую нагу, нібы яна яму балела.

Тут і ўзяў яго на цугундар ветэран у белай кепачцы.

– Что-то я вижу – ты, брат, уклоняешься от политической жизни нашего коллектива, – пачаў ён як стары палітрук. – Я имею в виду наше купе. Тут мы вдвоём сражаемся за истину, а ты что-то остаёшься в стороне. Нехорошо! А ещё афганец, – жартоўна-сур'ёзна паўшчуваў ён былога вайскоўца.

– А адкуль вы ведаеце, што я афганец? – здзівіўся той.

– Да слышал я ваш разговор там, на перроне, с той чернявой молодкой, что возле тебя стояла. Сначала я подумал, что это твоя жена, а потом понял – просто попутчица... Да и правую ногу ты что-то осторожно ставишь, видно, задело её у тебя. Али неправда?

– Вока ў вас сапраўды снайперскае, і слых яшчэ не падводзіць. “Не стареют душой ветераны” – як у той песні пяецца. Быў я на Афгане, і паранены быў, гэта праўда, – пацвердзіў былы вайсковец.

– Вот видишь, вот видишь, – узрадаваўся, як дзіця, мой сусед у белай кепачцы, – “мы ещё повоюем”, как в той песне поётся, мы ещё кое-что да значим. Но это между прочим, как говорят. А вот ты не сказал, не рассказал, что за грошовые дела тебя приводили в столицу, если не секрет, – успомніў ён словы былога вайскоўца на пачатку дарогі.

– Сакрэту тут ніякага... А грашовая справа такая. Аддаю дачку замуж, трэба даць падарунак на вяселле. А які я магу даць падарунак? Толькі грошы. А ў мяне не рублі, а даляры. Сказаў бацькам, а яны ў адказ: у нас тут даляры не ў пашане, мы прывыклі да рублёў, усе ў нас даюць рублямі, а не далярамі. Што зробіш, калі людзі так прывучаны? Вось і паехаў я ў банк, зрабіў заяўку, адразу не далі, сказалі прыйсці праз тыдзень.

Сусед у белай кепачцы паківаў дакорліва галавою:

– Напрасно послушался родителей, хотя, как сын, ты должен их слушаться. Они тебе плохой совет дали. Вернее, себе, твоей дочери. Рубли – очень неустойчивая валюта, особенно зайчики, а доллар – всегда в почёте.

Былы вайсковец задумаўся, паправіў пасму валасоў, што спадала на лоб, потым сказаў:

– У мяне таксама былі такія думкі, ды нешта не захацелася пярэчыць бацькам. А цяпер трэба будзе пагаварыць з імі яшчэ раз, мо і згодзяцца.

– Хотя бы уже на российские рубли они согласились, и то лучше, – працягваў мой сусед. – А эти зайчики очень ненадёжный зверёныш: глядишь – он есть, глядишь – его уже нет.

Ён памаўчаў, паглядзеў у мой бок, ці буду я пярэчыць. Я знарок прамаўчаў. Пад коламі вагонаў моцна загулі рэйкі: я глянуў у вакно і ўбачыў, што мы праязджаем па мосце праз Нёман, толькі што прамінулі Стоўбцы. Хутка і Гарадзея, тут былому вайскоўцу выходзіць...

– Да, я забыл спросить, и ты сам обходишь этот вопрос: а как тебя ранило? Легко, тяжело? По виду ты как будто парень что надо. Да?

А былы вайсковец коратка ўсміхнуўся.

– З выгляду так сабе, а стукнула мяне моцна. Асколкам ад ракеты, у паясніцу, пашкодзіла правую нырку, давялося выдаляць. Цяпер жыву на адной, але і правая нага нешта робіцца як чужая. І пабольвае, – патлумачыў былы вайсковец.

– Но ты ещё в погонах? – спытаўся ветэран.

– Толькі нядаўна скінуў. Быў за мяжою, там шмат нашай тэхнікі, дапамагаў асвойваць. Паверыце ці не, але нядаўна прыслалі мне “Форда”, як падарунак за добрую службу, – пахваліўся былы вайсковец.

– Ну, тебе повезло! Молодцы твои начальники, не забыли о сослуживце! Однако! Что ты с этим “Фордом” делать станешь?

– Што? Асядлаю і буду ездзіць. Я ўмею, – адказаў ён.

– Конечно, конечно! Жену на базар возить будешь, да?

– Не, не буду, тут вы не адгадалі... Выйшла так, што пасля ранення мая жонка не захацела са мной жыць, – сумна сказаў былы вайсковец.

– Ох, ты! – усклікнуў мой сусед у белай кепачцы. – Ну и жена же у тебя, прости господи! Да я такую бы за сто вёрст обошёл! Ты прости, что я так говорю, но просто слов нет, чтобы не выругаться. Я думал, что только в ту, нашу войну, были такие жёны, что бросали инвалидов, а, оказывается, и теперь они не перевелись. Вот чёртово племя, прости господи!

Можа, трохі грубавата, мо трохі бесцырымонна, але мой сусед-ветэран выказаў якраз тыя пачуцці, якія ахапілі і мяне, калі я слухаў ад былога вайскоўца скаргу на свой лёс. Фактычна, ён не скардзіўся, не наракаў, не лаяўся, як наш сусед, відаць, ён перажыў усё гэта ўжо даўно, і, напэўна, перажыў глыбока, бо, па ўсім відаць, чалавек ён далікатны, чулы, якому вельмі і вельмі баліць.

Мы яшчэ трохі паахалі, паохалі, паспачувалі былому вайскоўцу, і ён развітаўся з намі – у рэпрадуктар прагучаў голас машыніста, што наступная станцыя – Гарадзея. Тут заўсёды выходзіць шмат людзей, бо гэта ўсё тыя, хто кіруе на Нясвіж, на Клецак і далей на поўдзень – за Клецак, тут яны перасядаюць на аўтобусы.

Мы ў нашым купэ засталіся ўдваіх. Я думаў, што мы ўжо не будзем вяртацца да ранейшай гутаркі-спрэчкі, але памыліўся. Яна ўсчалася з новаю сілай. І пачаў яе мой сусед у белай кепачцы.

– Но ты скажи, какой народ! Ему рубли подавай! Доллары ему не подходят! – вярнуўся ён да няскончанай тэмы з грашыма. – Не понимают, что их этот зайчик – это фикция, он сегодня есть, а завтра – его нет!

– Чаму вы так лічыце? – здзівіўся я.

– Да не я один так считаю. Многие умные люди так считают. Что это всё временно – эта игра в независимость. И я, если говорить откровенно, против этих независимостей, суверенитетов, против нынешних границ,

которые нас поделили по живому телу... Вот я с женой в Барановичах, сын в Минске, одна дочь в Риге замужем, другая – в Ташкенте, тоже с семьёй. За билет более полмиллиона надо платить, чтобы повидать внука! А тут ещё всякие визы нужны, тоже плати! Так зачем это мне? Да и не только мне, тысячи людей таких, как я.

– А вы думалі калі-небудзь над гэтым: навошта такое рассяленне народаў? Чаму сёння вас, расейцаў, так параскідала па ўсім свеце? Ды ці толькі расейцаў! Хіба нас, беларусаў, меней? А якая каму ад гэтага карысць?

– Это обусловлено экономикой, политикой. Таков стиль сегодняшней жизни – я так бы ответил на твои вопросы. Это всё нормально, иначе просто нельзя, такова жизнь.

– А я лічу, што тут адна голая палітыка, эканоміка тут ні пры чым. Бальшавікі хацелі растварыць ўсе меншыя нацыі ў вялікім расейскім моры. Вось яны і перамешвалі нас, пераганялі з месца на месца, нават цэлыя народы перасялялі. Каб адарваць ад каранёў, ад свае зямлі, каб мы былі як тыя амерыканцы, для якіх Амерыка – іх родны дом, бо зямля там усё роўна не іхняя, яна чужая, індзейская, а яны адкуль-небудзь прыехалі. Вось ваша сям'я і разляцелася па ўсім вялікім Саюзе, і цяпер вам кепска, вам межы замінаюць. А мне – не замінаюць, бо мая сям'я жыве дома, у Беларусі, і нікуды ехаць не збіраецца, бо не трэба...

– Ты хочешь сказать, что мы, россияне, захватчики, оккупанты, да? Всё вокруг захватили, а теперь вот у нас всё забирают? Поэтому нам и плохо, да?

– Канечне, так. За ўсё, што калісьці дасталося дарма, за ўсё гэта трэба плаціць – ёсць такая народная мудрасць. І вось вашыя дзеці ўжо расплачваюцца за вас. Яны ўжо не дома, у Расеі, а недзе за мяжою, у гасцях: у Латвіі, у Беларусі, ва Узбекістане. А вашыя ўнукі ўжо нават будуць гаварыць на мове таго народа, сярод якога жывуць, хоць вы лічылі, што да гэтага ніколі не дойдзе, што вы самі будзеце вучыць усіх "великому и могучему".

– Ну, конечно, вы из БНФ хотели бы всех загнать в свои национальные квартиры – русскоязычных я имею в виду, а самим тут распоряжаться всем, что нами нажито. Но где вы были, уважаемые, когда мы, россияне, освобождали вашу Белоруссию, почему вы тогда...

Я не вытрымаў і перабіў суседа:

– Прабачце, мы адны былі пад акупацыяй з вашай ласкі, а другія ваявалі і клалі галовы са сваю Беларусь і за вашую Расею таксама. І што вы нас вызвалілі, гэта зусім не так. Мы вызваляліся разам, і наш народ у працэнтных адносінах страціў больш сваіх людзей у той вайне, чым ваш, расейскі, вы гэта ведаеце таксама.

Сусед скептычна ўсміхнуўся, паківаў галавою, нібы кажучы: а як жа, вы самі вызваляліся, ці разам вызваляліся, але каб не мы, вы яшчэ сто гадоў вызваляліся б, а потым спытаўся у мяне:

– Но руководящей, направляющей силой был кто?

– Расейскія камуністы, – тут жа адказаў я.

– Нет, не согласен! Был весь российский народ, который объединил и возглавил движение. Откуда шли все указы, приказы, распоряжения? Из Москвы, из Кремля!

– У Маскве, у Крамлі, сядзеў тыран і яго слуп, адтуль яны пасылалі расейскі народ і ўсе іншыя народы Саюза на вялікую бойню, каб уратаваць

свой крывавы рэжым, а не вызваляць нейкіх там беларусаў, украінцаў ці эстонцаў... Сапраўдныя вызваліцелі робяць так: вызваліў і пайшоў, а вы жывіце, як хочаце. А вы прагналі захопніка і засталіся на яго месцы, пачалі наводзіць свае расейскія парадкі.

– А вы хотели, чтобы мы дали вам отстроить своё националистическое гнездо, не считаться с интересами такой великой державы, как Россия?

– Вы лічыце так: калі без Расеі, дык ужо і "националистическое", а не проста беларускае ці якое там гняздо, дзяржава. Вам ўсё можна, вы усё правільна робіце, а ніхто больш, апроч вас, нічога не ўмее. Вось ён, ваш вялікадзяржаўны шавінізм: толькі вы ўмееце і павінны кіраваць усімі! Вось за гэта вы і паплаціцеся ўрэшце, вось за гэта вам і паказалі на дзверы ў цэнтральнай Еўропе: Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Чэхаславакіі, Балгарыі. Вы не можаце без вялікадзяржаўнага дыктату, вы не ведаеце, што такое дэмакратыя.

– Да, Горбачёв показал демократию, вот и поплатились мы, в первую очередь россияне, вот и развалил великую державу, которую сотни лет собирали россияне, клали за это головы. А тут ещё три деятеля: Ельцин, Кравчук и Шушкевич – довершили дело...

– Імперыі заўсёды распадаюцца, вось і надышоў час распасціся Расейскай. Можаце плакаць, можаце бедаваць, але ад гэтага нічога не зменіцца – як вы самі казалі, гэта натуральны працэс. Добра яшчэ, што гэтае разбурэнне абышлося без вялікай крыві. І гэта мо якраз дзякуючы таму ж Гарбачову і Ельцыну, якіх вы ганіце. А іх мо якраз трэба хваліць!

– Конечно, вы будете хвалить, памятники им ставить – как освободителям от российского гнёта... Но вы ещё вспомните не раз этот гнёт, когда вам на шею наденут ярмо похлеще прежнего! Может быть, даже свои, самостийники, незалежники, как вы теперь говорите.

– Вам увесь час здавалася, што без вас мы прападзём, таму вы ўвесь час нас вызвалялі, памагалі, вучылі жыць. Але вызвалялі вы нас ад нас саміх, памагалі сабе за наш кошт, вучылі жыць па-вашаму, адвучалі ад нашага, свайго... Дзякуем вам за такую навуку, абыйдземся без яе. І думаю, што будзем жыць не горш, чым жылі пад вашаю апекай, вось толькі выберамся з-пад абломкаў імперыі, расчысцім зямлю, засеем добрым насеннем... І будзем жыць! А вы нас не шкадуйце! Лепш пашкадуйце свой народ, параскіданы па свеце. Хай ён збіраецца на сваю бацькаўшчыну, хай адбудуе свой разбураны дом. А то вам усё не было калі, вы думалі пра сусветную рэвалюцыю, вас цікавілі ўскраіны, а цэнтр – як-небудзь пасля. Вось ён і апусцеў, стаў развальвацца. Якія вашыя вёскі, хто ў іх застаўся? Усе падаліся ў свет шукаць шчасця: у Беларусь, на Украіну, на Каўказ, у Прыбалтыку, яшчэ – далей! А для каго гэта? Для Расейскай імперыі. Але яе больш няма... Жывіце, як усе людзі, і суседзі вам скажуць за гэта дзякуй, калі вы не будзеце ўмешвацца ў іх парадкі.

Сусед у белай кепачцы глянуў на мяне з варожасцю ў вачах. Калі б гэта было не ў электрычцы, а ў якім іншым месцы, ды і каб час быў ранейшы, ён, відаць, учапіўся б мне ў горла. І відаць, каб зубы былі свае, а не ўстаўныя, пенсіянерскія, скрыгануў бы імі ад злосці. А што цяпер?

– Да, поговорили мы здорово, поставили все точки над "і"... Первый раз вижу такого ярого националиста, прости за откровенность, – падсу-

маваў гутарку мой сусед у белай кепачцы. Бо мы праехалі ўжо Крошын, ці Крашын – так больш правільна, радзіму паэта Паўлюка Багрыма, які тут жыў і пахаваны на сваіх могілках.

У тон яму я адказаў:

– А я – такога інтэрнацыяналіста, з дазволу сказаць, які хацеў бы, каб увесь свет гаварыў па-расейску, і каб ездзіць можна было хоць у Ташкент, хоць у Берлін, хоць у Рыа-дэ-Жанейра, калі там жыве хто-небудзь са сваякоў, які служыць у арміі-вызваліцельніцы.

Гэта былі як бы апошнія словы на развітанне. Сусед у белай кепачцы першы ўзяў сваю спартыўную торбу і паволі падаўся да выхаду.

За вокнамі былі Баранавічы. Я ўздыхнуў з палёгкай. Скончылася доўгая дарога. Скончылася доўгая блытаная гутарка, якая так глыбока ўзварушыла пачуцці.

Але ў мяне быў час супакоіцца. Мяне яшчэ чакала дарога да Клецка.

---

Калі гэтае апавяданне было падрыхтавана да друку,
прыйшла жалобная вестка аб смерці
Уладзіміра Дамашэвіча.

Няхай зямля Вам будзе пухам, Уладзімір Максімавіч...

Аксана Данільчык



...рыбінымі вачыма

пазірае прастора...

# Пытанне інтэрпрэтацыі

## *СЭРЦА*

прачытаныя кнігі
раскіданыя па покрыве зямлі,
перамяшаныя з вадой, небам і глінай
нагадваюць з вышыні птушынага палёту
рэшткі разбітага сэрца

яго накрываюць аблокі сваімі далонямі
яго абдымае туман сваім подыхам
каб затрымаць у жыцці яшчэ на некалькі імгненняў

і пакуль глеба робіцца цёмна-барвовай
думка ператвараецца ў маленькую кропку
якая то затухае то слаба міргае

на гэты маячок злятаюцца шэрыя ястрабы
робяць некалькі павольных кругоў

і адкрываецца раптам чыстае поле
на якім не засталося нават словаў
бо словы пайшлі за сэрцам

*rem verba seqdentur*

* * *

у той час як мае пальцы стукаюць па клавіятуры
быццам кроплі дажджу па вадасцёку
выбіваючы мелодыю думкі

неба ўсмоктвае горад
у барвовую расколіну
што падзяляе яго на дзве паласы

па залатой паласе скачуць залатыя вершнікі
пераскокваюць праз вогненную раку
і знікаюць за тонкай чырвонай лініяй

на чорнай паласе вянуць чорныя ружы
засыпаюць сваімі пялёсткімі далягляд
за якім нічога не бачна

ні еўропы ні беларусі
ні заняпаду ні адраджэння

толькі пыл што калаўроціцца на месцы горада
які праваліўся ў неба

вось ён канец цывілізацыі

а нехта спрабаваў дакрычацца

* * *

твая памяць – срэбная сетка
ў якую заплываюць чырвоныя рыбкі ўспамінаў
з цягам часу яна робіцца рэдкай

чырвоныя рыбкі
вольна заплываюць вольна выплываюць
а віхуры залацістых плыняў іх у паветра ўздымаюць

твая памяць – срэбная сетка
якая ўжо нічога не можа злавіць
павесь яе на сцяну ля пірса

хай сушыцца пад сонечнымі промнямі
аздабляючы шлях да мора

рыбінымі вачыма пазірае прастора

* * *

калі я пішу я быццам выходжу на паверхню
быццам застаюся без вопраткі не глядзіце на мяне
я сама ў сабе мой голас робіцца бязгучным
а жэсты незразумелымі так пішацца музыка
ў паветры працятым стрэламі хмарачосаў але
ці засталося ў ім месца для музыкі можа быць
у ім ёсць месца толькі для
аднаго маўчання

напішы напішы боль ты ведаеш якое яго
гучанне

боль гэта не крык боль гэта камень гэта
скамянелая кроў якая нікуды не рухаецца
прынамсі здаецца што яна болей не рухаецца
гэта скажоныя выявы якія набываюць
гратэскныя формы і боль павялічваецца
да неверагодных памераў выходзіць за межы
агульнапрынятых нормаў ён палохае ён не
імкнецца схавацца але цела працягвае з болем
змагацца здрабняючы яго на часцінкі рассыпаючы
на палавінкі да стадыі поўнага ігнаравання

дзеля таго каб працягваць жыць без неабходнасці
даказваць права на ўласнае існаванне

* * *

пчолы мядовыя стварэнні
кружаць вакол мяне
вязнуць у мядовых рэках
цёмна-залатых жоўта-васковых
павольна-густых
нараджаюцца ў іх і паміраюць

мураш з-пад лісціка мяты
ўглядаецца ў соты
на якія падзелены свет
дзе свядомасць балансуе
паміж неўсвядомленым быццём
і яго рэальнымі праявамі

што ёсць мая вінаватасць
што ёсць вінаватасць іншага
кветкавы пылок
сабраны ў каморках сотаў

жоўты вохрысты залаты
васковы бурштынавы
чорны

сублімацыя
несмяротных/смяротных джалаў
прыхаваных у цёмным кутку

* * *

бэзавыя птушкі на жоўтых кветках
узніклі ў той момант
калі мае павекі здрыгануліся
і я вярнулася з нечаканага палёту

разбураная псіхадэлічнасць уяўленняў
яшчэ доўга нагадвала пра сябе
кожны раз калі я закрывала вочы

я памятала як узмахвалі крыллем
бэзавыя птушкі на жоўтых кветках
пакуль з мяне выскрабалі душу

о святло і таямніца боль і асалода
двухаблічная памяць
з падступнай усмешкай прыгажосці

## ***ВАДА ЗА АКНОМ***

праз туман
праз усе адценні шэрага
праз усе адценні срэбнага
падсвечанага слабым сонцам
ззяюць іх шчыты
паблісквають іх дзіды
чуюцца іх крокі
чуюцца іх спевы
ўрачыстыя як літургія

праз туман
праз усе адценні шэрага
праз усе адценні чорнага

прасвечанага начнымі паходнямі
святло дрыжыць на вадзе
святло прабіваецца праз ваду
уздымаецца з дна ракі
дзе сваё пахавалі золата
і пайшлі шукаць сабе славы
дзеці туману нібелунгі

ці ўсе тыя рэкі
пераліваюцца адна ў адну
ці ўсе тыя туманы
пераходзяць адзін у адзін
ці ўсе тыя песні
распавядаюць пра адну гісторыю
пра адзін пярсцёнак
пра адну здраду
пра адно забойства

так гэта мы
самазнішчальныя
дзеці туману
бясконцага
як гэтая зіма

* * *

гладкае як камень аблашчаны морам
неверагодна моцнае ў абмежаванай прасторы
несувымерна далёкае
неадпаведна прыцягальнае
незнаёмае і разам з тым пазнавальнае

цела антычнага бога на старажытным малюнку
на сучасным фотаздымку
мастацтва і стылізацыя
арыгінал і яго імітацыя

і ў гэтых культавых стварэннях
стварэннях культу
цела і не толькі
ты можаш не бачыць вобразаў
а дыхаць няўлоўным водарам
глыток паветра
і ўсё знікае

і застаецца праекцыя
цела і ягонага ценю

на матрыцы тваёй свядомасці
рэальнае і жаданае
застылае ў нерухомасці
але ўнутрана неспакойнае
нібы твой уласны адбітак у люстры

а ўсё астатняе пытанне інтэрпрэтацыі

так казаў Заратустра

* * *

пераменная хмарнасць не пакідае дрэвам
ніякіх магчымасцяў аднаўлення
зеляніна каштанаў робіцца цёмнай
каб потым наблізіцца да стадыі поўнага
вынішчэння

сонца быццам загнаная мыш
шукае шчыліну праз якую магчыма выйсці
але зрок ужо болей не той
як на пачатку лета ў нейкім забытым калісьці
першакрокі ў нязнаную бытнасць магчыма
спыніць
пакуль нічога яшчэ не разбіта
чужыя сусветы спачатку захопліваюць мяне
пасля выштурхваюць са сваіх арбітаў

я гляджу на самую сябе як праз шкло
як праз покрыва мройнага ранку
мне на плечы злятаюцца ў чорнай смузе
птушаняты-падранкі

я не бачу святла не таму
што заплюшчыла вочы
а таму што злуюся бы тысяча восаў ці проста
як адзін скарпіён перад тым як на ворага скочыць

* * *

завяжы на памяць вузел
толькі не зацягвай

каб нечакана не сціснула горла
пятля

* * *

мара аб паэтычным слове будзіць мяне сярод ночы
я прадзіраю вочы і разглядаю начны краявід за акном
выгляд зімовага гораду нейкі жабрацка-сірочы
і гэтаксама жабрацка-сірочы кожны асобны дом

цені ад поўні кладуцца галінамі дрэваў
рух пачынаюць па шэрай бетоннай сцяне
фары машынаў то злева направа то справа налева
іх калыхаюць у нейкім злавесным паўсне

мара аб паэтычным слове курчыцца ў дальнім завулку
драпае сцены і болей не можа маўчаць
я выпускаю паўсонныя думкі з зацішных прытулкаў
і пачынаю за імі нібыта здалёк назіраць

можа валькірый палёт ці палёт маргарыты
ветрам узняўся і дзверы ў суседні сусвет адчыніў
перада мною світанак паўстаў як разгорнуты світак
дзе засталіся сляды маіх словаў таму хто мяне не прысніў

## *АДЧУЖАНАСЦЬ*

на панцыры вогненнага дракона нечаканая прахалода
ляжу ухапіўшыся за выступы гарбаносыя
парослыя мохам і не адчуваю як вогненная прырода
выплёўвае з нетраў ягоных полымя безгалосае

калі напаўзаюць яшчары неба грамадай паніклаю
калі накіроўваюць тонкія стрэлы вятры-паляўнічыя
ён млява ашчэрвае пашчу з чырвонымі ікламі
і радасна забаўляецца з новай раптоўнай здабычаю

я на яго спіне трапляю то ў пекла то ў выраі срэбныя
малюнкам на лускавінах любуюся быццам мапаю
мне не відаць як абсалютна больш непатрэбныя
падаюць мёртвыя ксеніі[1] побач з вялізнай лапаю

мне не відаць як на скуры платанаў чарнеюць абпаліны
як пад цяжарам ягонай хады камяні разбураюцца
і як дыхання ягонага вынік аддалены
вогненным веерам па-над азёрнай вадой уздымаецца

[1] “Ксеніі” – “дарункі гасцям”, таксама цыкл вершаў Э. Мантале.

Міхась Южык



...Сяргей ціхутка
падсунуўся да Маліноўскай,
завёў руку пад коўдру
і абмацаў тугое сцягно...

# Людная вуліца

***Фантасмагорыя***

**1**

Ніна Маліноўская нецярпліва правяла позіркам таксі. У гэтай пацёрханай жоўтай "Волзе" паімчаўся на вакзал яе муж Андрэй. Там ён сядзе ў цягнік і паедзе ў камандзіроўку ў Маскву — на некалькі дзён. Андрэй сам захацеў, каб Ніна не адвозіла яго на сваёй машыне. У яе зранку балела галава, і чулы муж, нягледзячы на пратэсты жонкі, забараніў ёй сядаць за руль.

Як толькі таксі выехала з двара, Ніна паднялася ў кватэру і ўзяла тэлефонную трубку.

— Ну, ён паехаў, — прамовіла яна праз колькі секунд. — Толькі глядзі, каб на пляцоўцы нікога не было, калі будзеш званіць.

У зале яна прысела ў крэсла перад акном і задумалася. На двары пачынаўся халодны кастрычніцкі дождж. Першыя яго кроплі ўпалі на шыбу, а затым забарабанілі ўсё смялей і смялей.

Трэба б было падняцца і ўключыць электракамін, бо станавілася халодна. Але замест гэтага Ніна ўзяла з часопіснага століка пульт і націснула кнопку. Злева ад яе загарэўся вялізны, з метровым экранам, тэлевізар. Яна выключыла гук і бяздумна прагарнула некалькі праграм. Спынілася на музычным канале, зрэшты, так і не ўключыўшы гук. Ёй было вельмі сумна, і нават хуткае спатканне з Сяргеем не радавала.

У свае дваццаць дзевяць Ніна Маліноўская моцна расчаравалася ў жыцці. Яна была замужам за Андрэем Сцяпанавічам пяць гадоў, жыла забяспечана, нідзе не працавала, магла задавальняць многія свае прыхамаці і, тым не менш, пакутавала на дэпрэсіі. Яны насоўваліся на яе раптоўна, на адзіноце, і тады трэба было хутчэй выскокваць з гэтай вялізнай кватэры, бегчы да сястры ці да шматлікіх прыяцелек, ісці ў цырульню і рабіць новую прычоску... Ці проста сядаць за руль “Вольва” і матацца па горадзе. Адным словам, нешта рабіць, неяк ратавацца.

Дзяцей у Ніны не было, дый яна не хацела іх, аб чым яшчэ да вяселля папярэдзіла Андрэя Сцяпанавіча, які быў старэйшы за яе на дваццаць гадоў. Мужа такі варыянт не збянтэжыў. Ад ранейшага шлюбу ў яго меліся дзве дарослыя дочкі. Ніна ж мужавых дачок знелюбіла, і яны, адчуваючы гэта, вельмі рэдка з’яўляліся ў бацькавай кватэры.

Першыя гады сямейнага жыцця Ніна не магла нарадавацца на сваю долю. Муж працаваў у Акадэміі, вёў адразу некалькі навуковых распрацовак, пад якія атрымаў выгадныя кантракты. Грошай у іх хапала. Гэта было якраз тое, пра што Ніна марыла: жыць у ахвоту, мець мужа, які амаль не бывае дома, і распараджацца сваім часам як ёй уздумаецца.

Але такое шчасце не звалілася на Ніну з самага неба. О не! Яго трэба было чакаць, каваць уласнымі ручкамі. Нездарма ж да дваццаці чатырох гадоў, нягледзячы на вельмі прывабную знешнасць, Ніна знарок не выходзіла замуж. Хаця прэтэндэнтаў на яе руку і сэрца хапала. Але на “кандыдата ў мужы” не цягнуў ніводзін. А вось Андрэй Сцяпанавіч цалкам яе задаволіў. Інтэлігентны, забяспечаны, унураны ў сваю працу, абсалютна не раўнівы. Ды яшчэ не патрабуе ад Ніны дзяцей.

Яна была настолькі шчаслівая па першым часе замужжа, што аж тры з паловай гады не шукала сабе палюбоўніка. Невядома, ці з’явіўся б у яе Сяргей, каб не выйшла ўсё неяк само сабой, амаль без яе хацення. Неаднойчы, калі Ніна знаходзілася без мужа ў розных кампаніях, яе дамагаліся мужчыны: і вядомыя, і заможныя, і нават адзін славуты спартсмен... Да ўсіх яна была абыякавай. А потым – за вечар знюхалася, можна сказаць, з абы-кім: з мужавым падначаленым. Адбылося гэта на мужаў юбілей, у іх дома. Уся лабараторыя тады прыйшла віншаваць...

Пачуўся званок у дзверы, і Маліноўская ўздрыгнула.

## 2

— Хто? — дзеля праформы спыталася яна, хоць пэўна ведала, хто мусіў стаяць за дзвярыма.

— Свае, — пачуўся знаёмы, вясёлы голас.

Праз імгненне Сяргей Чувыловіч не проста стаяў перад Нінай, а, абняўшы, прыцiскаў да сябе і цягнуўся да яе вуснаў. Але Маліноўская вырвалася з юрлівых абдоймаў.

— Чаму без званка па дамафоне? Ці дзверы былі адчынены?

— Не, з людзьмі прашмыгнуў, — адказаў Чувыловіч. Ён кінуў складзены мокры парасон на паліцу для абутку. Не згінаючыся, скінуў туфлі. — Дзе тапкі? — спытаўся гаспадарскім тонам.

— Я табе сто разоў казала – мужавы тапкі не для цябе! Няма іх, у рамонт аднеслі.

Сяргей засмяяўся.

— У рамонт... Схавала, так і кажы. Добра, дай тады хоць што на ногі.

Маліноўская адкрыла шафку, сагнулася, корпаючыся там, выцягнула паношаныя тэпці. Пакуль яна гэта рабіла, Сяргей, спакушаны яе паставай, абхапіў яе ззаду і пачаў лашчыць...

— Пусці, не цяпер жа! — Ніна адштурхнула Сяргея і кінула тэпці яму пад ногі. — На, насі, і памятай маю дабрыню.

Сама пайшла ў залу. Села ў крэсла.

— Ну дзе ты там? — гукнула праз нейкі час.

— Я спярша ў душ, Нінок! — данёсся да яе голас ужо не з калідора, а ад кухні. — Успацеў у тралейбусе – гадзіна пік, а тут яшчэ дождж, халера яго бяры!..

“Халера *цябе* бяры!” — падумала Маліноўская. І тут жа заўважыла, што апошнім часам робіцца ўсё больш прыдзірлівай да палюбоўніка. З свайго немалога вопыту яна ведала – такое раздражненне ёсць пачаткам канца. То бок Сяргееў лёс ужо вырашаны і разрыў паміж імі адно справа часу. Дый хопіць, думала Ніна. І так ледзь не паўтара гады з ім.

Але ж ведала яна таксама, што не расстанецца з Чувыловічам, пакуль не падшукае яму замену. А гэта не так проста. “Кандыдатаў” хапае, ды вось паспрабуй знайдзі сярод іх людскага, такога, які б па першым поклічы ляцеў да яе, ды слухаўся, ды потым не хваліўся сваімі поспехамі перад сябрамі... Сыдзешся з каторым, а ён яшчэ да законнага мужа раўнаваць пачне. Ну іх у пекла. Лепш з праверанымі людзьмі мілавацца – з тым жа Сяргеем.

А Нініна цела, здаецца, дасягнула свайго росквіту, і пяцідзесяцігадовы муж не ў змозе адгукацца на ўсе яе прыхамаці. Маліноўская, колькі сябе памятае, была далёка не фрыгіднай жанчынай. Апошні ж год яе апетыты яшчэ больш выраслі. Бывала, проста трасе ўсю ад адной думкі пра... Ну, ды хай.

Дык вось, на тым мужавым юбілеі і сышлася яна з Чувыловічам — зусім для сябе нечакана. Какетнічала, праўда, яна з усімі тады. Восем мужчын, помніцца, было ў іх. Але ў асноўным сямейнікі, сталыя. Толькі двое маладых, нежанатых. Адзін зусім хлопчык, таго грэх спакушаць. Ну, і Сяргей, на выгляд за дваццаць пяць, з жанчынамі вопытны — Ніна такіх з першага позірку пазнае. Танцаў і нічога такога ўвесь вечар не ладзілася. Народ жа сур’ёзны, навукоўцы. Як распачалі мудрагелістыя размовы, так пра ўсё і забылі. А Сяргей на кухню бегаў — то пакурыць, то Ніне падмагчы чагосьці адтуль прынесці. Прымаў ён ад яе вялікую талерку з смажанай гуссю — і адну руку Ніне на талію паклаў нібы няўзнак. А талерка цяжкая, Ніна яе аберуч трымае на ўзроўні грудзей, чакае, пакуль Сяргей возьме. А ён пад талерку толькі адну руку падвёў, а другой — пяшчотненька так яе за талію, ды пагладжвае, ды прыцiскае. Ніне, каб вызваліцца, руку яго зняць, трэба было гусь кудысьці паставіць... Сышліся позіркамі і прачыталі ўзаемныя жаданні. Тут жа, на кухні, дамовіліся аб сустрэчы. І ўжо праз два дні Ніна была ў Сяргеевай двухпакаёўцы на Карла Маркса. Наўпрост

сярод белага дня, у той час, калі муж шчыраваў на працы – ён заўсёды заседжваецца дапазна. А Сяргей, пасланы ім жа, Андрэем Сцяпанавічам, сваім начальнікам, на адно прадпрыемства — раней управіўся.

І пайшло з таго дня, і паехала.

Доўга думала потым Ніна, чаму яна так успыхнула, калі Чувыловіч паклаў ёй руку на талію. І вырашыла, што даўно, з самага юнацтва, патаемна жадала над сабой нейкага гвалту. Каб нехта моцнай рукой абняў яе, другой падхапіў пад калені, падняў і панёс, горача і нецярпліва дыхаючы ў шыю. Яна б адбівалася, але дужыя рукі сціскалі б яе ўсё мацней і мацней... Ніхто з мужчын, з якімі яна жыла да замуства, не спраўдзіў гэтую яе мару. Усё занадта далікатна яны рабілі. Ці то паважалі яе, ці то баяліся. Па натуры яна чалавек уладарны. А хацелася быць слабай, бездапаможнай...

Вельмі хутка высветлілася, што Чувыловіч хоць і быў высокі, і нецярпліва-гарачы – аднак зусім не мужчына-воін, не мужчына-гаспадар, не мужчына — грубы валадар сваёй палюбоўніцы. Ніна з першых жа спатканняў прывычна перахапіла ініцыятыву і круціла ім, як хацела. Каб канчаткова не расчаравацца, давялося яго праваказаць, нават загадваць – каб хапаў яе на рукі, доўга насіў, а затым груба валіў на ложак... Але нішто так і не пераўзышло па сіле тое адчуванне, якое яна зазнала тады, на кухні, з цяжкай талеркай на руках і з яго рукою на сваёй таліі.

## 3

Паказаўся Сяргей – з мокрай прычасанай галавою, з непадпаленай цыгарэтай у зубах і, галоўнае, у дамашнім халаце Андрэя Сцяпанавіча.

— Ну і холад тут у цябе, — папікнуў ён Ніну. — Няўжо нельга было абагравальнік уключыць.

З гэтымі словамі ён пстрыкнуў пераключальнікам, і пакой заліло барвовае святло электракаміна. Маліноўская моўчкі назірала за яго дзеяннямі. Сяргей апусціўся ў крэсла насупраць, узяў з часопіснага століка запальніцу, прыкурыў і прыгожа выпусціў дымок.

— Я ж цябе прасіла не курыць у пакоі, — падала нарэшце голас Ніна. — Што як муж твае недакуркі ўбачыць?

— Не бойся, Нінок, — Сяргей перакінуў нагу за нагу. — Твайго крата чатыры дні не будзе. Прыбяромся, паспеем.

— Угу, паспееем... Я паспею, а ты толькі смеціць тут будзеш.

Сяргей прапусціў гэта міма вушэй, зацягнуўся, збіў попел.

— Нінок, ты нават не ўяўляеш, як я хацеў цябе пабачыць. О, каб ты ведала, як твой законны мяне дастаў за апошні тыдзень. Усё чапляўся па розных дробязях: тое перарабі, гэта падпраў. То на завод пашле, а потым на паўдарозе звоніць і адмяняе, трасца яго бяры....

Ён зрабіў паўзу і хітравата падміргнуў Ніне:

— Ну, затое цяпер я адыграюся.

— Гэта як, калі не сакрэт?

— А вось як! — Сяргей раптам ускочыў, кінуў цыгарэціну ў папяльнічку і падступіўся да Маліноўскай.

— Дурань! — прыглушана ўскрыкнула яна, калі Сяргей, схапіўшы яе за руку, выцягваў з крэсла; праўда, у яе голасе ўжо чуліся гуллівыя ноткі.

Калі Сяргей нёс яе ў спальню, па дарозе цалуючы ў грудзі, яна горача абвівала яго за шыю і тулілася шчакой да жорсткіх кучаравых валасоў...

Тут, пакуль палюбоўнікі займаюцца сваёй прыемнай справай, варта даць трохі ўвагі асобе Сяргея Чувыловіча. Родам ён з аднаго ляснога мястэчка, дзе нават не было чыгункі, і гэта стварала маласвет, што жыў па сваіх спаконвечных законах. Адзінай адметнасцю гарадка з'яўляўся піўзавод, які забяспечваў не толькі раён, а і ўсю вобласць напоямі неблагой якасці. Ці не палова дарослых гараджан працавала на гэтым прадпрыемстве, і чаго здзіўляцца, што амаль усе яны былі прывычна пітушчымі. Гены, што любяць перадавацца з пакалення ў пакаленне, уплывалі на агульны інтэлект гарадка, не павышаючы яго, — гэта як мінімум. Ва ўсякім разе, ні Сяргей, ні яго бацька высокім інтэлектам не вызначаліся. Зрэшты, пра Чувыловіча-старэйшага можна гаварыць толькі па чутках, паколькі пажыў ён з Сяргеевай маці нядоўга, гадоў пяць, а затым сеў у турму за хуліганства. Было гэта яшчэ пры савецкай уладзе. З абшараў Расеі, дзе адбываў пакаранне гэты таварыш, ён так і не вярнуўся. Таямніцу яго далейшага лёсу Сяргеева маці дбайна ахоўвае ад староннiх вушэй.

Адным словам, рос Сяргей тыповым бязбацькавічам. Любімчык маці, а таксама шматлікіх цётак і стрыечных сясцёр, якія яго занадта апекавалі, хлопчык выгадаваўся і рушыў па далейшым жыцці гэткім “дамскім улюбёнцам”. Неяк сам сабой прыйшоў досвед, што гэтая роля вельмі зручная. Сяргей з першых класаў сябраваў пераважна з дзяўчаткамі. З хлопчыкамі не гуляў – цураўся іх грубасці і агрэсіі. Аднакласнікі за гэта яго не любілі і адначасова патаемна зайздросцілі, бо нават самыя нахабныя і дужыя хлопцы нярэдка губляюцца ў атачэнні дзяўчат, прагнуць, але не ўмеюць з імі блізка сысціся. Сяргей, са сваёй абаяльнай і крыху жаночай знешнасцю, пачуваўся сярод аднакласніц як рыба ў вадзе. Быў ён высокі, з пышнымі кучаравымі валасамі, з добрай, крыху дурнаватай усмешкай на твары, з мяккімі далонямі і доўгімі далікатнымі пальцамі. Ён заўсёды быў для дзяўчат сваім, а дакладней, “сваёй” — гэткай сяброўкай, ад якой выпраменьвалася нейкая прывабная энергія. Па меры сталення Сяргей стаў для аднакласніц яшчэ больш жаданым і блізкім. Ён па-свойску наведваўся ў госці да дзяўчат, запрашаў іх да сябе, і заўсёды кожнай было з ім цікава. З хлопцамі ён не сябраваў ажно да апошніх класаў. Праўда, пагарда і зайздрасць аднакласнікаў да Сяргея паступова перараслі ў павагу. Бо калі першыя прыгажуні школы былі з Чувыловічам запанібрата, у ім мусілі прызнаваць мужчынскія вартасці. Сёй-той з хлопцаў нават пачаў карыстацца яго паслугамі, каб бліжэй пазнаёміцца з каторай дзяўчынай. Ну і, зразумела, сам Сяргей не губляў дарма часу. Неяк няўзнак яго стасункі з аднакласніцамі з проста сяброўскіх перарасталі ў значна цяплейшыя, цяснейшыя, гарачэйшыя. Звычайнае пацісканне рук перацякала ў абдымкі, пацалункі ў зацішлівых месцах. Як непазбежнасць прыйшло і канчатковае, тое, для чаго і прыдумала прырода падзяліць людзей на два полы. Праўда, здарылася гэта ранавата — Сяргею не было і пятнаццаці. Ну, ды не бяды, у паўднёвых краінах дзяўчатак замуж з меншых гадоў выдаюць.

І ўсё ж адносна ранні пачатак палавога жыцця, а таксама выключна жаночае і дзявочае атачэнне пазбавілі Сяргея галоўнага — вастрыні адчуванняў пры першым знаёмстве з процілеглым полам. У юнацтве жанчына не з'яўлялася для яго таямніцай, як для большасці аднагодкаў. А таму не прайшоў Сяргей праз фазы закаханасці, трывогі ды сораму. Ён так нікога і не вылучыў для сябе з атачэння прыкладна тузіна дзяўчат, з якімі працягваў сябраваць ажно да выпускнога балю, і з якімі (з усімі)

умудрыўся мецць інтымныя справы. Што дзіўна, дзяўчаты, ведаючы пра гэта, не сварыліся між сабой, не раўнавалі – напэўна, Сяргей Чувыловіч даўно ператварыўся для іх у прадмет іхняй агульнай уласнасці. Прытым многія з дзяўчат, асабліва ў апошнім класе, адшукалі сабе хлопцаў і круцілі з імі раманы, дзе бушавала сапраўднае мора страсцей чалавечых. Мора, аж да дваццаці васьмі гадоў так і не зведанае Сяргеем.

Яго школьны выпускны атэстат аказаўся неблагі. Сяргей паехаў у сталіцу паступаць, ды не абы-куды, а ва ўніверсітэт – вучыцца на фізіка-электроншчыка. Паступіў, скончыў і быў накіраваны ні многа ні мала ў Акадэмію навук, дзе цяпер паспяхова піша — і ўжо блізкі да заканчэння — дысертацыю.

Як паступіў? Пашанцавала з білетам. А на кантрольнай па матэматыцы суседка па парце, хутка разабраўшыся з сваімі задачкамі, памагла і Сяргею. У знак удзячнасці ён потым некалькі разоў цалаваўся з ёй у гарадскім скверы. Зрэшты, у сур'ёзны раман гэта не перайшло.

Як вучыўся? Ужо на другім курсе знайшоў сабе дзяўчыну сярод аднакурсніц, дачку вельмі багатых бацькоў. Увайшоў у давер, пажаніхаўся, на трэцім курсе пабраліся. Бацькі падарылі маладым кватэру. Так, тую самую двухпакаёўку на вуліцы Карла Маркса. На першым часе і маладая жонка, і яе заможныя бацькі былі ў захапленні ад Сяргея. Па іх пратэкцыі малады муж і зяць быў уладкаваны ў Акадэмію навук пасля атрымання дыплома. Ды праз пяць гадоў сямейнага жыцця надарыўся скандал, потым яшчэ адзін, і яшчэ... Пакрысе ўзаемная любоў Сяргея, жонкі і яе сям'і ператварылася ў нейкую зацятую, шэкспіраўскую нянавісць. Паколькі выгнаць Сяргея не ўдалося (яго на сваю бяду там прапісалі), абражанае сямейства вымушана было аддаць яму цэлую кватэру, пагрэбаваўшы судзіцца, дзяліцца – "абы з вачэй прэч".

І вось ужо два гады жыве Чувыловіч – кум каралю – у цэнтры сталіцы. Працуе ў Акадэміі, піша дысертацыю пад кіраўніцтвам славутага навукоўца Андрэя Сцяпанавіча Маліноўскага, у падзяку за што цешыць і песціць ягоную жонку. Раней палюбоўнікі сустракаліся ў Сяргеевай двухпакаёўцы – там, само сабою, і бяспечна, і спакойна. Аднак цяпер да Сяргея прыехала з правінцыі маці. Яна, пенсіянерка, нярэдка наведваецца да сына. А ён, трэба прызнаць, сын клапатлівы, водзіць яе па дактарах на кансультацыі, уладкоўвае на амбулаторныя лячэнні, здабывае лепшыя лекі, два разы ў санаторый пасылаў...

## 4

Палюбоўнікі ляжалі ў шырокім сямейным ложку. Над Чувыловічам свяціўся таршэр, бо ўжо апусціўся ранні кастрычніцкі прыцемак. Маліноўская ж над сабой святло не ўключала. Яна ляжала на спіне, з заведзенымі за галаву рукамі, коўдра ледзь прыкрывала грудзі. Сяргей жа нацягнуў коўдру па самы падбародак.

— Нінок, ну што ў вас за абагравальнік такі, далібог... Цяпла ніякага, адзін шум. Няўжо *гэты* не мог нічога лепшага тут паставіць?

— Прабач, што ён не паклапаціўся, каб табе тут утульна было. Мала, што яго жонка цябе саграваем, — пажартавала Ніна.

Сяргей змаўчаў, узяў з тумбачкі келіх з чырвоным віном. Няспешна яго асушыў, наліў яшчэ.

— Ты будзеш? — спытаў у Маліноўскай.
— Не. А ты на прасціны не налі. Не адмыеш потым.
Сяргей прыкурыў цыгарэту.
— І з попелам акуратней, — працягвала прыдзірацца да яго Маліноўская.
Аднак Сяргей добра ведаў жаночую натуру і ніяк на гэта не рэагаваў. Ніну ягонае маўчанне, тым не менш, раздражняла.
— Не разумею, як можна ненавідзець чалавека, які столькі для цябе робіць! — прамовіла яна.
— Ты гэта пра свайго мужа? — усміхнуўся Сяргей. — Дык і я яму нямала раблю. Напрыклад, суцяшаю і забаўляю жонку, калі ён у ад'ездзе.
— Пашляк...
— А ведаеш, калі ён такі харошы, чаго ты мяне, такога благога, да сябе дапускаеш?
Ніна не адказала.
— І не думай, што ён такі ўжо для мяне дабрадзей. Ну, кіруе маёй дысертацыяй, дык за гэта ўсе сокі выціскае, выкарыстоўвае на звычайных пабягушках...
— Не *кіруе* тваёй дысертацыяй, а *піша* дысертацыю за цябе, — удакладніла Маліноўская.
— Няхай так. Але... — Сяргей запнуўся. — Але, калі на тое пайшло, ведаеш, чаму так адбываецца? Бо ён не церпіць нічыёй самастойнай думкі, прывык усім навязваць сваю волю. І каб я спрачаўся з ім па кожнай пазіцыі, дысертацыя ніколі б не напісалася. А так ужо ўвесну, дасць Бог, абаранюся.
— Канечне, было б дзіўным, каб ты не абараніў дысертацыю Андрэя Сцяпанавіча, — з'едліва заўважыла Маліноўская.
Сяргей хацеў ёй запярэчыць, але замест гэтага наліў сабе яшчэ сухога віна. Неўзабаве ён адчуў, што крыўда прайшла, а ўзнікла здаровае і нястрымнае жаданне... Сяргей ціхутка падсунуўся да Маліноўскай, завёў руку пад коўдру і абмацаў тугое сцягно сагнутай нагі. Затым умелая яго рука са сцягна слізганула на жывот, павольна прайшлася па ім і дабралася да грудзей...

## 5

Пасля вячэры на кухні Маліноўская з Сяргеем селі ў зале перад тэлевізарам. Гук быў сцішаны да мінімуму. Чувыловіч, усё ў тым жа халаце свайго шэфа, разняволена раскінуўся ў фатэлі, выцягнуў ногі да электракаміна.
— Ну, хоць пакой нарэшце прагрэўся, — сказаў ён, закурваючы. — Як уяўлю, што заўтра зранку трэба па гэтай сырасці і халадэчы на працу перціся... Адно добра, што *твайго* не будзе. Не давядзецца ў яго адпрошвацца, каб маці ў бальніцу звазіць. А то вечна прыніжае мяне сваімі допытамі: што, ды куды, ды на колькі часу, каго, для чаго...
— Ты сабраўся маці класці ў бальніцу? — спыталася Маліноўская.
— Ды не, на кансультацыю. З прафесарам дамовіліся. Так што буду я ў цябе заўтра не раней, як у сем вечара. Ці пазней нават.
— Не будзе цябе тут заўтра, спадар Чувыловіч, — раптам адказаў яму прыглушаны, басавіты, знаёмы і разам з тым страшэнна чужы голас.

Палюбоўнікі анямелі. У Сяргея недакурак выпаў з пальцаў і тлеў на падлозе.

— Так, вы не аслухаліся, шаноўныя! — зноў пачуўся гэты жудасны, вантробны бас. — Ні ты, Чувыловіч, ні ты, Маліноўская, больш ніколі не зможаце мяне падманваць у гэтай кватэры. Сёння тут апошняя ваша сустрэча.

— Божа, хто гэта?! — жаласліва ўскрыкнула Ніна. – Хто гэта, Сяргей?! — яна ўскочыла з крэсла.

— Не палохайся так, Нінульчык! — адказаў ёй усё той жа голас, што ішоў невядома адкуль. — Гэта я, твой любы муж, Андрэй Сцяпанавіч. Няўжо не пазнала?

— Ты?! — Ніна камечыла на грудзях квяцісты начны халат.

— Я, даражэнькая. Проста голас мой прапушчаны праз апаратуру і зменены. Ён ідзе на калонкі. Дзе знаходжуся я сам — вам ведаць не трэба. Але паверце – усе вашы рухі мной кантралююцца. Таму не раю, — у голасе з'явілася пагроза, — рабіць рэзкія і неабдуманыя дзеянні. А раю спярша мяне выслухаць.

Голас Андрэя Сцяпанавіча знік на некаторы час, які падаўся палюбоўнікам вечнасцю. Сяргей сядзеў спалатнелы, ніжняя сківаца яго падрыгвала.

— Ну што ты маўчыш, Сяргей! — падскочыла да яго Ніна і штурханула ў плячо.

— А і праўда, — адгукнуўся ёй замагільны бас, — нешта не чую я голасу нашага зухаватага залётніка, майго адданага падначаленага Сяргея Чувыловіча. Прашу цябе, Сяргейка, скажы пару словаў.

— Н-не, я ўсё... у м-мяне ўсё нармальна... — ледзь выціснуў з сябе Чувыловіч.

— Ну і выдатна! Жоначку сваю я ўжо чуў. Цяпер наладжаны кантакт і з яе палюбоўнікам. Нінульчык, сядзь, мая мілая, насупраць свайго каханага. Не мітусіся.

Маліноўская паслухмяна апусцілася ў фатэль.

— Вось і цудоўна. А цяпер прыступаем да справы. Вы папаліся, мае дарагія. Папаліся, як шкадлівыя школьнікі. Шанцаў уцячы ў вас няма. Дзверы надзейна зачыненыя мною, ключ звонку тырчыць у трэцім замку. Тэлефон адключаны. Твой, Ніна, мабільнік сёння чамусьці перастаў зараджацца. Ты гэта ўжо, канечне, заўважыла. А твой, Сяргейка, мабільны і наогул учора згубіўся. Памятаеш, ты яшчэ ўсю лабараторыю перавярнуў, яго шукаючы...

— Не! Я не дазволю так са мной размаўляць! — нечакана падхапіўся з крэсла Сяргей і ўзняў сціснутыя кулакі на ўзроўні грудзей. Яго бледны твар пайшоў яркімі чырвонымі плямамі. — Я не дапушчу, каб з мяне здзекаваліся! – закрычаў ён, — Ніна, я сыходжу!

Чувыловіч кінуўся ў вітальню. Неўзабаве адтуль пачуліся праклёны:

— Чорт! Ён нас тут на самой справе зачыніў!

— Нінульчык, — не суніма ўся нябачны муж, — а ну хутчэй бяжы да свайго кавалера. Скажы, каб замоўк, калі хочаце выйсці адсюль жывымі і здаровымі.

Ніна схапіла Сяргея за руку і, як дзіцё, пацягнула за сабой. У зале яны селі на ранейшыя месцы.

Раптоўна патухла святло. Не толькі верхняе. Сам сабой выключыўся і тэлевізар.

— У цемры лепш успрымаюцца словы, — данёсся да палюбоўнікаў голас мужа. – Ці не чуеш ты, Ніна, салодкі, з бэзавым дамешкам, водар? Прынюхайся, калі ласка.

Маліноўская з трывогай уцягнула ў сябе паветра. Спачатку яна нічога не заўважыла, аднак праз некалькі ўдыхаў стала ўлоўліваць пах, у якім сапраўды было нешта кветкавае. Жах агарнуў яе. Сяргей па-ранейшаму маўчаў.

— Андрэй, ты хочаш нас атруціць?! Апамятайся, што ты робіш!

— Не бойся, Нінуля. З вамі нічога не здарыцца, калі будзеце паслухмянымі. Газ я пусціў маленечкую дозу. Цяпер кранік у балоне ўжо закрыты. Каб табе, Ніна, было спакайней, можаш падняцца і адчыніць фортку.

Маліноўская з радасцю скарысталася гэтым дазволам. Толькі б застацца жывою!

— А цяпер пра тое, чаго мне ад вас хочацца, мае дарагія, — працягваў муж. — Я з задавальненнем назіраў сёння вашыя забавы ў маёй спальні. Вы малайцы — працуеце творча, з агеньчыкам. Асабліва спадабалася мне, Нінуля, пазіцыя, калі ты знаходзілася на партнёры. Ты нагадвала зухаватую вершніцу, якая імчыць на порсткім кані ў неабсяжную далячынь... Крыўдна толькі, што сённяшнім вечарам вас мог бачыць адзін я.

— Што ты хочаш зрабіць? — палахліва прашаптала Маліноўская, прынюхваючыся да паветра – ці не ўзмацняецца бэзавы пах.

— У мяне ўзнікла жаданне, каб і астатнія людзі, а не толькі я, пабачылі вас у вопратцы Адама і Евы. Такая ўжо мая старэчая прыхамаць. Буду лаканічны. Пад крэслам, на якім ты, Ніна, сядзіш, знаходзіцца скрутак доўгай, трывалай вяроўкі. Прывяжаце яго адным канцом да батарэі. Толькі вяжыце добра, старанна. Затым расчыніце акно і па вяроўцы спусціцеся на вуліцу. Гэта не страшна – усяго трэці паверх. Ды і цёмна, народу не так многа, як удзень...

— Голымі?! — ускрыкнула жонка. — Андрэй... злітуйся!

— Так, Нінулік, голымі, — пацвердзіў нябачны бас.

— Я не палезу! — раптам з адвагай выціснула з сябе Маліноўская.

— Тады ты, мусіць, не разумееш, што адбываецца. Газ, які ты нюхала, нервова-паралітычны, ён забівае за некалькі секунд. Я выпусціў самы мізэр, а вы ўжо адчулі яго. Калі ж кранік адкрыецца напоўніцу — вы загінеце непазбежна, нават калі высунецеся па пояс з адчыненага акна. Газ пранікае ў поры цела.

— Андрэй, я цябе малю — не рабі гэтага!

— Чаго — “гэтага”, галубка мая? Наадварот, спусціцца ўніз голымі з трэцяга паверха — гэта мізэрная плата за жыццё, якое я вам падарую. Вам не сорамна было падманваць і няславіць мяне — не саромцеся і народу на вуліцы. Зрэшты, досыць маралі. Вось Сяргейка, адданы мой падначалены, відаць па ўсім, згодны са мной. Бо маўчанне — знак згоды. Так, спадар Чувыловіч?

— Я палезу, — глуха і хрыпла прамовіў нерухомы Чувыловіч.

— Малайчына! За гэта я цябе не толькі не звольню, — пацвельваўся голас, — а давяду да ладу тваю дысертацыю, якую мы ўвесну паспяхова з табой абаронім. Я люблю верных і паслужлівых людзей, Сярожка. Толькі вось партнёрка твая мяне засмучае. Трэба ўжо разматваць вяроўку, а яна ўсё сядзіць. Непарадак! Зрэшты, для цябе, Ніна, — так і быць — я падрыхтаваў запасны варыянт. Калі ты так баішся спускацца голаю, мо-

жаш гэтага не рабіць. У спальні, пад ложкам, дзе вы кахаліся, ляжыць складзены для цябе чамадан. Там мінімум рэчаў, твае дакументы, грошы, на якія ты зможаш зняць кватэру па першым часе. Ці, можа, Сяргейка цябе прытуліць. Адным словам, Нінуля: выйшаўшы з кватэры праз дзверы, ты ўжо ніколі сюды не вернешся. Калі ж праз акно галяком — лічы, што гэтага вечара не было; будзем жыць, як жылі.

— Дзверы ж зачынены, — з надзеяй азваўся Чувыловіч, якога яўна зацікавіў такі паварот.

— Не, Сяргей. Для цябе запаснога варыянту няма. Толькі праз акно, у адзенні Адама, — астудзіў яго нябачны Андрэй Сцяпанавіч. — І паспяшайся!

## 6

Пасля гэтых слоў Чувыловіч ускочыў і кінуўся да крэсла палюбоўніцы; укленчыўшы, пачаў шнырыць пад ім у цемрадзі. Хутка дастаў адтуль ладны скрутак.

— Я б уключыў святло, аднак вырашыў, што вам няёмка будзе пазіраць адно аднаму ў вочы. Хаця... калі пажадаеце...

— Не трэба! — закрычала Маліноўская. — Мы спусцімся так.

Яе каханак ужо завіхаўся каля батарэі, прывязваючы вяроўку.

— Не забудзьце добра праверыць. Паторгайце перад спускам, — параіў клапатлівы муж.

Сяргей Чувыловіч, карыстаючыся яго парадай, патузаў вяроўку, затым расчыніў акно. Маліноўскую дзівіў спрыт, з якім ён рыхтаваўся да спуску. На палюбоўніцу Сяргей зусім не звяртаў увагі. Увобмірг распрануўся дагала, перакінуў вяроўку цераз падваконне, высунуўся на вуліцу, каб праверыць, ці дакранулася яна зямлі. Пры гэтым бессаромна падставіў Ніне свой аголены зад.

“Божа мой!” — пранеслася ў галаве Маліноўскай.

А Чувыловіч зусім прывычна, як скалалаз, пералез падваконне і пачаў спускацца. Ніна нясмела падышла да акна. Унізе пасля нядаўняга дажджу блішчаў тратуар. Сяргей, спрытна перабіраючы рукамі, быў ужо на ўзроўні другога паверха. Яго заўважылі прахожыя і пачалі спыняцца. Нейкі дзядзька нават ухапіў ніжні канец вяроўкі, каб памагчы смельчаку. Неўзабаве Сяргей быў на зямлі. Яго голае цела бялела сярод апранутых у шэрае, цёмнае, людзей. Нехта ўскрыкнуў. Хтосьці тонка і прарэзліва, па-блазенску зарагатаў. Адна жанчына працягнула Сяргею газеціну. Той хапатліва разгарнуў яе і затуліўся. Праслізнуў скрозь натоўп і пачаў перабягаць вуліцу. Газеціну ён прыціскаў да сцёгнаў, аднак яна закрывала толькі ягоны перад.

“Госпадзе, які сорам!” — прашаптала Ніна, уявіўшы, што праз колькі хвілінаў яна сама апынецца ў такім жа становішчы.

Яе нават не ўразіла, не пакрыўдзіла тое, што Сяргей не застаўся на месцы, каб памагчы ёй спускацца, каб трымаць вяроўку і пераняць на зямлі.

— Табе трэба спяшацца, Нінуля, — нагадаў ёй мужаў голас, які ў час спуску Чувыловіча быў прыціх. — Я цяпер не магу бачыць твайго вернага сябра, але здагадваюся, што яго ўжо след прастыў. Не бядуй — прахожыя цябе падстрахуюць.

— Я не магу! Няўжо ты такі бессардэчны, Андрэй!

— Так, мне непрыемна, каб вабноты маёй жонкі бачылі староннія людзі. Так, я перажываю, каб ты не сарвалася... Але адзінае паслабленне, якое магу табе даць, — гэта спускацца не зусім голай, а ў начной сарочцы. Спадзяюся, яна на табе? Карацей, памятай маю дабрыню. А спусціўшыся, бяжы стрымгалоў у пад’езд, у нашых дзвярах тырчыць ключ, павернеш яго і ўвойдзеш. Усяго якіх сем хвілінаў ганьбы — і будзеш жыць, як жыла.

Маліноўская рашуча змахнула з сябе халат. Падышла да падваконня. Народу ўнізе стала ўдвая больш. Людзі задзіралі галовы, прагна пазіраючы на яе акно.

— Давай, Нінуля, не цягні. Бо збягуцца ахоўнікі правапарадку. Арышт. Участак... Ну!

Ніна ўхапілася аберуч за вяроўку, завяла правую нагу, каб стаць на падаконне. Нехта войкнуў унізе. У той жа час прарэзліва зазванілі ва ўваходныя дзверы.

Маліноўская кінула вяроўку, саскочыла з падваконня на падлогу і пабегла праз цёмную кватэру ў пярэднюю. Званок не сціхаў – нават як быццам мацнеў. Ніна ліхаманкава круціла, торгала ручку і не магла адчыніць дзверы. “Ключ! Ключ з таго боку!” — успомніла яна і адразу падумала, чаму той, хто звоніць, не бачыць утыркнутага ў замок ключа.

— Ключ павярніце!!! — залямантавала яна. — Ключ!!!

...Тузанулася ў крэсле, ачнулася і ўбачыла перад сабой цёмную сцяну, па якой бегалі размытыя плямы. Ніна павярнула галаву налева – святло зыходзіла ад тэлевізара, што працаваў з выключаным гукам. Яна са здзіўленнем агледзела залу. Акно зачынена. Па шыбе лупасіць дождж. Ніякай вяроўкі, што вязалася да батарэі, няма. Дый сама Ніна ў сукенцы, не голая...

Званок у дзвярах змоўк, але адразу ж азваўся мабільнік на часопісным століку. Ніна схапіла яго і ўбачыла нумар Сяргея Чувыловіча.

Яна не стала адказваць. Выключыла тэлевізар і на дыбачках падышла да акна. Зірнула на вуліцу. Ішлі па тратуары рэдкія прахожыя. Бурчалі легкавікі. Праплыў, распырскаўшы лужыну, доўгі аўтобус...

Званок у Нініным мабільніку, што быў аціх, зноў ажыў. Яна асцярожна адхінула шторыну і ўбачыла – на тратуары з паднятай галавой і паднесеным пад вуха мабільнікам стаіць Сяргей Чувыловіч і ўглядаецца ў яе вакно...

Маліноўская ціхенька адышла ўглыб залы.



Васіль Барысюк



...Цёплае цела вабіць.
Гэта напраўду?
Мабыць...

# Дай, Божа, ізноў абнадзеіцца...

* * *

Балюча стамлёнае сэрца
ідзе да канца.
Дзень, месяц, год.
Мы знікнем.
А ўсё – застанецца.
І добра,
што не наадварот.

* * *

Поначы ў гэтым горадзе
можна сутрэцца з мінулым,
толькі сабе падораным,
з тым, пра якое не чулі,
з тым, што было найпершае –
без усяго на прыкмеце.

Праўдаю самай лепшаю
сненне табе назавецца.
Памяць малюе здрадліва –
марна падлічваць прыступкі
там, дзе яшчэ не падалі
крокаў хлуслівыя гукі.
Стомлены час памыліцца,
зблытае ўсе вымярэнні.
Не разбярэш кірыліцы –
і сам сябе ты сустрэнеш
недзе на цёмнай вуліцы,
ветліва скажаш: “Дабранач”.
Ён на цябе прыжмурыцца:
пэўна, сустрэліся рана.
Толькі на самым досвітку
цені з’яўляцца зноў будуць –
свой станеш клікаць посвістам,
згодны хаця б на прыблуду.
Потым – разлік з фартунаю.
Варта было б азірнуцца.
Можна сустрэць мінулае –
Толькі б змагчы размінуцца.

* * *

Сарвецца вецер з дахаў птахам.
Скупой сняжынкай да шчакі
зіма прылашчыцца. Як плаха,
на храм апусцяцца гракі.

І жабракі падымуць вочы,
не апусціўшы вецця рук,
а з неба нехта й не захоча
адвесці позірк зноў у брук,

дзе пыл, паперчыны, абутак,
на розны густ ды звыклы пах,
жывуць па распарадку сутак
у састарэлых гарадах.

Паветра ў цэнтры спрэсавана
прасторай, часам, мітуснёй.
Тут багна. Горад не падманны,
дзе вязне крок на бруку мой

ад тысячаў слядоў і ценяў,
што праз стагоддзі не сышлі

і спажылі тваё імгненне,
і засталіся на зямлі.

І горад подых твой падзеліць
на ўсіх: хто будзе, быў і ёсць.
Задыханы і ацалелы,
ты ўжо не назавешся: “Госць”.

* * *

Ты прагнуў спыніцца –
і вось ён, прыпынак:
вечар пусты і ціхі,
атручаны драбязой паўсядзённасці,
нудным дажджом
і
напрыканцы
знянацку
прастрэлены яблыкам наскрозь.
Так што праз дзірку ў пустэчы
бачна, нібы ў люстэрку,
адно і тое ж
з абодвух бакоў.

* * *

Недзе побач яно:
блукае пад вокнамі,
наступае на цень мой
і дзьмухаўцамі раскідвае
пахі знаёмых рэчываў
і нанова адкрытых рэчаў.
Дзіўнае,
яно вынікае з нечага,
што знікае з прывідных сненняў,
дзённых гравюр,
недаспаных ранкаў
і аптычных падманаў вечара.
З’яўляецца і перашкаджае
адчуваць далонямі
толькі цёплыя грудзі
і лініі таліі.
Побач яно,
і як махляр запраўскі,
перамешвае з’явы рэальныя,
падмяняе паняцці
і мае заўсёды
туза на запас.

Блефую.
Ад безвыходнасці.
А яно ў адказ,
ледзь варухнуўшы вуснамі,
выдыхае
“Пас...”

* * *

Не,
сустрэцца нельга
з сабою былым.
А найгорш,
што й праз імгненне
ты ўжо будзеш другім.
А гэта –
зусім не эвалюцыя,
а проста
скачкі па прыступках:
без розніцы –
ці ўніз, ці ўверх –
пакуль не скончацца
пралёты.

* * *

Захіні мяне ад сцюжы:
ён суровы – гэты снежань.
Ён зіме адной належыць,
маразам і цемры служыць...

Захіні мяне ад скрухі:
дзень – кароткі, цень – даўжэзны,
на вакне вазончык чэзлы
праклінае завірухі...

Захіні мяне ад болю:
снег і вецер слепяць вочы...
Я прашу – ніхто не хоча
ратаваць мяне з няволі.

Толькі час зіму пужае
і знішчае штохвілінна –
шлях няўмольны і бязвінны.
Неадчайны, я чакаю...

* * *

Спрабуючы адхапіць
неба кавалак –
спачатку сіняга,
потым зорнага
ці хмары хаця б,
ці кроплі з яе,
ці проста ўдыхнуць
паветра паслянавальнічнага –
я нават не думаю
і нават не мару
пра тое, чаго не стае
на гэтай зямлі,
дзе цяжка і добра
хаця б удыхнуць
неба кавалак.

* * *

Змярканне ізноў пачынаецца...
А мы ў гэтым дні – ці былі?
Ніколі нішто не змяняецца
на гэтай няпэўнай зямлі.

І ўчынкі, і мары звяраюцца
з сістэмаю каардынат,
што толькі у адзінак збываецца –
звычайна, стагоддзі назад.

Такія прывязкі мізэрныя –
да часу і да бунтароў:
інакш не бывае ў зняверaных,
зняможаных неўладароў.

Шаленства! Мы – толькі прыгонныя!
Праз сотні гадоў прарасло
здагадкай гаротна-галоднае
нікім не забытае зло.

І вось ужо лёсам зламаная
істота брыдзе ў небыццё...
Але ж нараджэнне давала нам
надзею на проста жыццё.

Няўжо яна болей не вернецца –
усмешкаю, цёплай слязой?
...Дай, Божа, ізноў абнадзеіцца,
будзь побач, хоць побач, са мной...

* * *

Сябры па-ранейшаму
пішуць вершы:
хтосьці – збольшага,
нехта – зменшага.
Спрачаюцца:
хто горшы, хто лепшы,
трэці, другі ці першы...
Цудоўнае глупства –
гаворка пра словы,
што нехта згубіў выпадкова,
хтосьці шчасліва знайшоў,
а хто і выцягнуў з лёгкіх,
скрывавіўшы рукі па локці.
Такім асаблівы рэспект:
іх боль выклікае эфект –
кругі на вадзе.
За імі брыдзе
і дасылае праклёны
лоўчы стамлёны,
прагнучы хвалі спыніць,
а потым вылавіць верш,
забыўшы пра тое,
што ж там было найперш.

* * *

Шэрым туманным ранкам
буду тваім каханкам.

Цёплае цела вабіць.
Гэта напраўду?
Мабыць...

Хто ж усталюе меру
ўласнаму недаверу?..

Вось і шукаюць двое –
кожны ў сабе спакою.

* * *

І толькі так – з гадамі разумееш,
што ўсё было атрымана ў крэдыт,
і не ў дзіцячых кніжках бармалеі –
наўкол цябе праз аднаго – бандыт.

І кожны хам з апломбам і прыгожа
распавядае пра грахі твае:
яго працэнты, тэрміны трывожаць,
асноўны доўг спакою не дае.

Ты вінны ўсім – і кожны спаганяе:
штуршкі ў хадзе, падрэзкі на аўто...
Нарэшце думка праз гады (жывая!),
што ўсе яны – ніхто, а ты – нішто.

Нішто? І з гэтым трэба жыць? А трэба.
Зруйнуецца стары трывалы свет.
Хай ні вады, ні хлеба...
Будзе неба.
На небе – Бог.
Пад Богам – чалавек.

проза

Ксенія Шталянкова



...цікава, а ён зразумеў,
што гэтым вечарам
быў маім анёлам?..

# Сітуацыя POST

***Імпрэсіі***

### Фрустрацыя

Мне тры гады. Я еду ў вазку па парку. Мяне коцяць бацькі, кожны ўзяўшыся за ручку са свайго боку. Яны аб нечым гутараць. Я таксама хачу паўдзельнічаць у размове і паварочваюся да іх, устаўшы на каленцы. Я адкрываю вусны, каб прамовіць штосьці, на мой погляд, вельмі разумнае, але замест словаў з роту вылятае чупа-чупс, які я дагэтуль засяроджана смактала.

Ён падае паміж маімі бацькамі на зямлю. І я бачу, як ён аддаляецца ад мяне, самотна лежачы на сцяжынцы...

Замест гэтай страты мне набываюць чырвоны паветраны шарык у выглядзе сардэчка. Шарык напоўнены геліем, таму ён весела бадзяецца па-над маёй галавой. Яго прывязваюць да падлакотнічка майго вазка. Я шчасліва ўсміхаюся шарыку, размазваючы слёзы і соплі па твары. Ён робіцца маім найлепшым сябрам, але каля нашага пад'езда мяне чакае здрада. Шарык адвязваецца ад падлакотнічка.

Ён адвязваецца і ляціць у неба, вышэй і вышэй. Я бачу, як ён аддаляецца ад мяне, рэзка вылучаючыся сваёй чырванню на тле шэрых аблокаў. “Бляха-муха, як з тым чупа-чупсам”, – меланхалічна думаю я, бо зрабіць больш мудрую выснову ў гэтым узросце яшчэ не магу.

## Без назвы

Усе ўжо амаль разышліся. Галерэя зачыняецца праз паўгадзіны, а я ўсё чакаю сваіх сяброўак, якія спазняюцца. Але я паабяцала дачакацца, таму стаю ў куточку каля ўласных работ на выпадак, калі хтосьці падыдзе і штосьці спытае. Можна было б і не стаяць, а прайсціся па памяшканні, але кафляная падлога вакол мяне тлуста намазаная палымяна-чырвонай нявысахлай гуашшу, а мне шкада парадных туфляў, што да таго ж някепска пасуюць па колеры да вынікаў перформансу, які тут адбыўся. Таму я пакуль застаюся на сваім некранутым фарбай астраўку.

Насупраць мяне калона, якая перашкаджае назіраць за тым, што адбываецца ў галерэі. Са свайго кутка я бачу толькі ўваход з правага боку, дзе гадзіну таму мітусілася шмат наведнікаў, сярод якіх складана было вызначыць асобных людзей, ды разбураны стол з напоямі і пачастункам каля вакна злева. Яшчэ я бачу дзіўнага хлопца, які часам грае тут на старым разладжаным фартэпіяна, што, здаецца, ёсць аб’ектам інтэр’еру галерэі, як той велізарны куфар, у які ўціснуты ўвесь хлам, пакінуты са шматлікіх папярэдніх выстаў.

Дакладней сказаць, я не столькі бачу, колькі чую, як грае гэты хлопец, бо фартэпіяна стаіць якраз насупраць калоны, і каб убачыць яго, мне трэ вызірнуць з-за сцяны. Але відаць усё роўна кепска і трэба цягнуцца, каб убачыць яго цалкам, таму, каб не паваліцца, я абмяжоўваюся слыхам. Калі хлопцу надакучвае граць, ён уздымаецца і крочыць па галерэі. Тады я бачу яго.

Аднак тое, што я бачу, не супадае з тым, што я ведаю. Ён адначасова па-мужчынску непрывабны са сваёй занадта светлай скурай, тонкім станам і падоўжанай шыяй, але і вачэй ад яго я адарваць не магу. Свядомасць пачынае выдаваць нейкую сярэднявечную лухту, бы я ўжо дзесьці бачыла гэтыя залатыя валасы і вялікія сумныя вочы. Ён са шчырай цікаўнасцю і нават нейкім дзіцячым здзіўленнем назірае за нешматлікімі наведнікамі, што засталіся ў галерэі. Мне карціць падысці да яго ды пра штосьці спытаць, але на сэрцы робіцца трывожна, і я не адважваюся, а толькі моўчкі пазіраю на яго. Ён зноў знікае за калонай, і па сціхлай галерэі нясецца рэзкае бомканне нястройных гукаў.

Здаецца, фарба падсохла ўжо, і, не ў змозе больш стаяць на адным месцы, я тупаю па нечым чужым “жыцці і каханні”, распэцканым па падлозе. Нудотна бадзяюся ад адной работы да другой і раптам бачу, што на стойцы фартэпіяна пакінуты невялічкі альбом з малюнкамі. Я і забылася, што ён таксама мусіць сёння выстаўляцца, спачатку падумала, што гэта тэчка з нотамі.

Перш чым я паспяваю гэта ўсвядоміць, я апынаюся побач з музыкам. Ён засяроджана глядзіць на ўласныя пальцы, якія зухавата рухаюцца па клавішах, і, відаць, яго гэта забаўляе, бы дагэтуль ён не здагадваўся, што можа і так. Раптам ён паварочвае галаву да мяне, не спыняючы грання, і пытаецца нечакана глыбокім голасам:

– Хочаш паглядзець?

– Не, я лепей паслухаю, – разгублена адказваю я і раблю некалькі крокаў назад, баючыся перашкодзіць яму.

Ён грае штосьці вельмі знаёмае, ці гэта мне толькі здаецца, ці можа гэта толькі я чую, што ён грае нейкі рэгтайм, ці ўвогуле яго бачу толькі я...

– Ну, нарэшце! Прабач, мы так затрымаліся! Селі на “соты”, а ён не едзе... – празвінелі над маім вухам галасы сябровак, разбураючы маё захапленне. – Ну, паказвай, дзе твае?..

Я са шкадаваннем адыходжу ад фартэпіяна і вяду іх у свой куток. Нешта блытана распавядаю і паказваю. Галерэя ўжо амаль зачыняецца, я кажу пра тое сяброўкам, і мы подскакам перасоўваемся па памяшканні ад адной работы да другой, каб паспець агледзець выставу цалкам, пакуль нас адсюль не выштурхалі. Мы спыняемся каля апошняга экспанату, каб перавесці дых. Я зноў бачу яго. Ён стаіць побач і глядзіць на нас, крыху нахіліўшы галаву і ўзняўшы бровы. Яго тонкія вусны ледзь заўважна варухнуліся ці то ў мімалётнай няўлоўнай усмешцы, ці то ў адказ самому сабе на нейкую думку.

Сяброўкі цягнуць мяне ісці кудысьці разам з імі, і я лаўлю апошні позірк хлопчыка-анёла.

Я выходжу пад дробны вераснёўскі дожджык. Сэрца рвецца з грудзей, і я разумею, штосьці ў маім жыцці ўжо ніколі не здарыцца. Штосьці я прапусціла. Прапусціла назаўсёды, і яно ўжо ніколі не паўторыцца.

Мне сумна.

P.S. Цікава, а ён зразумеў, што гэтым вечарам быў маім анёлам?

## Сітуацыя POST

– Цяпер трэба разабрацца, як нам дзейнічаць. Галоўнае – логіка! Шэрае рэчыва, шэрае рэчыва... Клетачкі, – мармытаў Пуаро, намагаючыся захаваць сур’ёзны выгляд.

– Лепей зірніце на ўласныя боты! – раздражнёна кашлянуў Фёдар Міхайлавіч. – А то ўсё “клетачкі-клетачкі” яму.

– Я кажу, папера ў клетачку, ці вы не заўважылі, мсье Дастаеўскі? – з выклікам паглядзеў на яго Пуаро і ўзяўся адціраць насоўкай прыліплую да лакавых штыблетаў кроў. – Мне заўжды здавалася, што вы мусіце быць пільным да дробязяў.

– Я і ёсць пільны да дробязяў!

– Але я пільнейшы! Шэрае рэчыва...

– Гера, Гера, не ганашыцца! – адгукнуўся з кута Конан-Дойль, перадаючы рукапіс Караткевічу. – Вы толькі паслухайце, што тут напісана: пісталеты збройнага завода Фабержэ!

– Пісталеты? – ледзь не задыхнуўся Дастаеўскі. – Не, ну я, вядома, чуў, што яго яйкі захоўваюцца ў Збройнай палаце...

– Яйкі? – ажывіўся Пуаро. – Фі! А астатнія часткі цела дзе пахаваныя?

– Ну, што вы хочаце – немчура, – з пагардай прамовіў сэр Артур, далікатна абыходзячы галоўнае пытанне.

– Асабіста я не разумею, пры чым тут сярпы... Якая тут насамрэч сувязь? – не вытрымаў Караткевіч і кінуў стос, які ён трымаў у руках, на падлогу.

– Я таксама з самага пачатку задаваў сабе гэтае пытанне, – Пуаро

падхапіў некалькі аркушыкаў і прыняў тэатральную паставу. – Якая ж сувязь паміж усімі гэтымі фактамі?

– І якая ж? – усе паднялі на яго поўныя спадзеву вочы.

Пуаро абвёў прысутных пераможным позіркам.

– АНІЯКАЯ!!! – закрычаў ён і выхапіў з-за пазухі бутэльку херасу.

– Нешта ён перанерваваўся, – давяральна шапнуў Фёдар Міхайлавіч Уладзіміру Сямёнавічу. – Дарэчы, зямляк, як лічыце, што рабіць з гэтым?

– Спаліць! – умяшаўся ў іх размову Конан-Дойль, падкінуўшы некалькі аркушаў уверх.

– Ой не, гэта нельга, – пакруціў галавой Караткевіч. – А то яшчэ Міхал Апанасавіч завітае...

– Тады скарыстаць па прызначэнні! – рагатнуў Пуаро.

– Гера, вы маўчыце! – пагразіў яму сэр Артур. – Вы ж выдуманы.

– Сапраўды, што вы тут робіце, калі вы персанаж і, больш за тое, не нашых твораў? – патрабавальна спытаў Дастаеўскі.

– Пффф, – п’яна захіхікаў Пуаро. – Вунь Конан-Варвар увогуле англец...

– З гэтым не паспрачаешся, – кіўнулі адзін аднаму Караткевіч і Дастаеўскі і накіравалі да сэра Артура падазроныя позіркі.

– Вы б лепей думалі, што з доказамі рабіць! – абражана раздзьмуў ноздры сэр Артур і рэзка адвярнуўся, накіраваўшыся да стала. – Дарэчы, пячэньцаў ніхто не хоча?

– Я хачу пячэньца, – нудна прабурчаў Пуаро, тулячыся да сценкі лбом.

– А ёсць? – падаў голас Дастаеўскі.

– Ну, – прахрумстаў Дойль. – У яе тут увесь стол у пячэнні.

– Ну, разумнік! – ухваліў яго Караткевіч. – Яшчэ след ад зубоў свой пакінь, каб нас потым знайшлі, як Фокса.

Дойль заціх, а потым сеў наўпрост на падлогу каля стала і ціхенька заплакаў.

– Ды годзе табе, – прымірэнча кінуў яму Караткевіч. – Ужо ж нічога не зробіш. Фёдар, давай, вырашай, што рабіць. Бабулькі па тваёй частцы.

– Ну што, усё пакінуць як ёсць, каштоўнасці забраць, схаваць пад каменем, потым павініцца, – паціснуў плячыма Дастаеўскі.

– Не, гэта зусім не маніфік, – прагугнеў Пуаро. – З першым пунктам я згодны, а астатнімі прапаную манкіраваць.

– Ай, праўда. Хто нас знойдзе! – павесялеў Дойль і бадзёра высмаркаўся ў плюшавы абрус.

– Ну, глядзіце, – папярэдзіў Фёдар Міхайлавіч. – Мне мой варыянт больш падабаецца.

– І мне таксама мой, – па-дзіцячы ўсміхуўся яму Пуаро.

– І мне мой, – крэкчучы, узняўся на ногі сэр Артур.

– Цудоўна! Вось нарэшце і дамовіліся! – зухавата падхапіўся з крэсла Караткевіч і працягнуў руку па паліто і капялюш. – А то мне яшчэ на коннае пола сёння. Стасік трэнерам паклікаў...

Яны хуценька сабраліся і, весела смеючыся і перакідваючыся жартамі, пайшлі, пакінуўшы пераблытаны і расфармаваны рукапіс на падлозе побач з масіўнай пішучай машынкай маркі “Ундэрвуд”, што цяпер замяняла галаву бабульцы-графаманцы, якая, паўпрыкрытая плюшавым абрусам, ляжала пад сталом.

## Never let me down again[1]

Ён прачнуўся ад нечалавечага лямантy. Расплюшчыць вочы сілаў не было. Здавалася, нават ад лёгкага руху павекаў яго галава разарвецца на тысячу драбнюткіх кавалкаў. Але ж слухаць гэты лямант таксама няма ніякіх сілаў. Ён варухнуў рукою і скінуў катб з матраца. Апынуўшыся на падлозе, той сваіх руладаў не спыніў.

Акрамя галавы балелі яшчэ і ногі. Ён чамусьці спаў у туфлях. Пры чым у тых, якія звычайна абуваў толькі для самых парадных нагодаў. Матрац жа быў засцелены. Але вызначыць, чаму атрымалася як першае, так і другое ў сувязі з першым, ён не мог.

Здолеўшы сесці, ён сцягнуў туфлі. Яму адразу палягчэла, але памяць не вярнулася. Ён агледзеў пакой: мяркуючы па эклектычнасці ўбрання яго кватэры, гулявоніў ён дома. І некалькі сутак запар. Але з кім і чаму, прыгадаць не атрымалася.

Усё ж такі набраўшыся смеласці адарвацца ад матраца, ён пацягнуўся на кухню. Там на маміным чэшскім сервізе, які яна падарыла яму на наваселле год таму, яго чакаў селядзец з дымам: нейкая падла (а ён падазраваў, што на гэтым месцы мог апынуцца хто заўгодна, уключаючы і яго другое “Я”) паўтыркала недапалкі наўпрост у скрыдлікі рыбы.

Вырашыўшы пакуль не засяроджвацца на пытанні, хто гэта зрабіў, што зараз было цалкам неістотна, ён папіў сам, памяняў ваду ў паілцы ката і насыпаў таму сухога корму. Кот нервова завуркатаў і накінуўся на ежу. Трохі паназіраўшы за ім, ён яшчэ раз зірнуў на селядзец і, адчуўшы, што пакуль не ў стане распачаць дзеянні па яго ліквідацыі, пацягнуўся назад.

Да калонак кампутара быў падключаны плэер. Відаць, праграма мінулых дзён была шырокай. Але з чаго ж усё пачалося? Ён націснуў на гузік і адразу пачуў гнюсны голас:

I'm taking a ride
With my best friend
I hope he never lets me down again[2]...

На яго абрынуліся ўспаміны зусім нядаўніх (як ён спадзяваўся) падзеяў.

Яны ездзілі да агульных сяброў ці то на нейкі дзень нараджэння, ці то на іншае свята. Яна так шчаслівa ўсміхалася яго тонкім жартам, проста памірала ад рогату, калі ён, абкруціўшыся боа строіў з сябе яе ўлюбёнага прыдурка-Гэана. Калі ён вёз яе ў таксоўцы дадому, яна прытулілася галавой да яго пляча, і рукі яго самі сабою пацягнуліся, каб з усім імпэтам прыціснуць яе да сябе, яна сказала:

– Ведаеш, так добра мець сябра-гея!

Яшчэ імгненне ён не мог сцяміць пра каго ідзе гаворка ў такі далікатны момант, але яна дадала:

– Нават не ведаю з-за чаго мы маглі б пасварыцца... Ну, толькі калі ты пачнеш адбіваць у мяне хлопцаў!

Яе залівісты смех быў апошнім, што ён памятаў.

---

[1] Назва песні брытанскага гурта “Depeche Mode”.

[2] “Я еду разам з маім лепшым сябрам, спадзяюся, ён мяне не расчаруе зноў...” (*анг.*).

## Papialushka begins

Жыла-была на свеце Папялушка. На самой справе ў яе было нармальнае імя, а таксама прозвішча і імя па бацьку, але з прычыны таго, што ёй падабалася выдаваць з сябе ахвяру, у якасці ніку на паштовай скрыні яна абрала менавіта гэты. Таму ў гісторыю яна ўвайшла як Папялушка, а не якая-небудзь дэкадантная дзяўчына па мянушцы Cherry-Chicky, як гэта было тады модна.

Усё пачалося з таго, што Папялушку разам з яе мяккацелым таткам кінула мама. Яна паехала некуды ў замежжа, знайшла сабе новага багатага мужа, нарадзіла новых прыгожых дзетак і часам дасылала Папялушцы фоткі з радасцямі свайго новага жыцця. Падарункаў да фотак мама ніколі не дадавала, таму Папялушка выколвала фоткам вочкі і ўсім казала, што яе мама памерла.

Калі татка вырашыў зноў ажаніцца, Папялушка наладзіла яму абструкцыю. Усім лялькам, якія ёй дарыла мачыха, а таксама лялькам, якія належалі дзвюм дочкам мачыхі, яна адрывала галовы. Калі Папялушка трохі падрасла, то час ад часу аб’яўляла галодныя забастоўкі і знарок мардавала сябе цяжкой працай, каб мачыху часцей выклікалі ў школу. Са сваімі псеўдасястрычкамі яна зрабіла так: тыя ўсё не страчвалі спадзеву з ёю пасябраваць, і Папялушка аднойчы прапанавала ім дапамагчы з хатнім заданнем. Яны ўсцешыліся і пагадзіліся. Папялушка нават настойвала на тым, што сама напіша ўсю работу, прычым тры разы. Дзве дурнічкі былі гатовыя на што заўгодна, толькі б улагодзіць Папялушку. На наступны дзень Папялушка прынесла ў школу поўны попелу заплечнік і недвухсэнсоўна ківала настаўніцы ў бок сястрычак з выкананым хатнім заданнем, напісаным яе адметным почыркам з завітушкамі, калі розніца паміж літарай “д” і “б” у кароткіх словах кшталту “для” і падобных да іх вызначалася выключна з кантэксту. З той пары нік Папялушкі ператварыўся ў эмацыянальна насычанае абразлівае слова.

Нарэшце Папялушцы прыйшоў час рыхтавацца да выпускнога балю. Мачыха два тыдні цягала яе па крамах, яны нават зладзілі паездку ў бліжэйшую еўрапейскую сталіцу, каб знайсці для дзяўчыны сукенку па гусце. Дайшло да таго, што Папялушка абрала такі дарагушчы ўбор, што яе сястрычкам выпала купляць дзве сукні па цане адной з пазамінулагодняй калекцыі. Усё было б нічога, але трэба ж было знайсці і адпаведны абутак, а Папялушка мела вельмі нестандартную пульхную ножку з растапыранымі ў розныя бакі пальцамі. Мачыха зноў павяла яе ў дарагую краму, але Папялушка са словамі: “Не фацэтна!” – збегла ад яе да сваёй забулдоніхі-хроснай. У той яна знайшла старыя смярдзючыя боты высокакалгаснага стылю і, з асалодаю ўяўляючы спачувальныя позіркі аднакласнікаў, пачала нацягваць іх на ногі. У хроснай нага была маленькая і ссохлая, таму боты балюча ціснулі Папялушцы. Але яна вырашыла, што ў такім выпадку глытанне слёз будзе мець больш натуральны выгляд, і, цалкам задаволеная, пакульгала да школы.

Калі пачалася дыскатэка, Папялушку запрасіў патанчыць самы прыгожы хлопец, з-за якога яе аднакласніцы ўжо заключалі пятую мірную дамову. Відаць, Папялушка прывабіла яго сваёю неардынарнасцю. Зрэшты, і на запрашэнне яна адрэагавала не так, як іншыя дзяўчаты. На вачах ва ўсіх Папялушка пачала адбівацца ад хлопца нагамі (хаця яна таксама дапамагала

сабе і рукамі). Калі яна самазабыўна лупцавала яго па нырках, гадзіннік якраз прабіў дванаццатую ночы і ў актавую залу ўварвалася міліцыя. Тут Папялушка была вымушаная знікнуць з балю, нічога не пакінуўшы свайму прынцу, акрамя мярзотнага смярдзючага бота.

Хлопец "зняў пабоі", а яго бацькі пачалі актыўна шукаць таямнічую гаспадыню бота. Але ім так і не выпала знайсці суд на Папялушку, бо калі ёй прымералі бот, яна так адчайна ўпіралася, што нават паламала тры пальцы на правай назе (хаця мералі на левую), за што сама падала зыск на ўсю шалёную сямейку хлопца.

Кажуць, што тыя, каб выплаціць Папялушцы кампенсацыю за маральную і фізічную шкоду, усё ж здолелі знайсці заможную дзяўчыну, якой бот такі падышоў па памеры.

## Наконт тэхнік загадвання жаданняў

...Самая простая – на вейках. Вырываеш, кладзеш на далонь, загадваеш жаданне. Застаецца толькі як след дзьмухнуць, бо калі вейка прыліпне да скуры, дык пра гэтае жаданне можна ўжо не марыць, лепей перафармуляваць яго ці загадаць іншае. Таму рэкамендуецца падмацоўваць эфект дадатковым здзьмухваннем дзвюх-трох веек запар. Калі вейкі ўжо не выдзіраюцца ці іх не засталося, дык можна быць упэўненым, што загадванне спрацуе. Але трэба папярэдзіць, што вейкі не разлічаныя на маштабныя жаданні і працуюць толькі ў дачыненні да дробязяў.

Іншая справа – тунэлі. Яны ніколі не спрацоўваюць. Нават калі праехаць з затрыманым дыханнем усе 500 метраў.

Тэхніка загадвання па схеме "калі X, дык будзе Y" звычайна спрацоўвае. Але наадварот. Таму тут трэба не заблытацца ў адмоўных прычынах і выніках. Справа логікі.

Многім падабаецца загадваць жаданні на дзень народзінаў – на свечках. Але гэтая тэхніка вельмі адносная і ненадзейная. Жаданні здзяйсняюцца нерэгулярна, праз раз, часам толькі часткова. Бывае, што здзяйсняюцца толькі ў наступным годзе ці калі ўжо непатрэбна. Бывае, што лепей бы ўжо і не здзяйсняліся. Таму скарыстоўваць такую тэхніку загадвання непажадана, бо магчымыя пабочныя эфекты з боку нервовай сістэмы: падчас і пасля задзьмування паўстае хваравітае пачуццё адказнасці за абранае жаданне – такая ж магчымасць выпадае толькі раз на цэлы год і нельга загадваць якую-небудзь лухту. Таму лепей абысціся на дзень уласных народзінаў без гэтага сумнеўнага рытуалу. У якасці разнастайнасці такой тэхнікі таксама існуе рытуал загадвання жаданняў паміж адзінаццатым і дванаццатым бомам курантаў на Новы год. Тэхніка мае мноства варыяцый, але высілкі, патрачаныя ў выніку кароткага часу загадвання, звычайна кепска ўплываюць на якасць фармулёўкі і здзяйснення.

Знарок для тых, хто адчувае ніякаватасць падчас загадвання апісанага вышэй тыпу, падыдзе наступная альтэрнатыва. Жаданні можна загадваць і штодзень аб 11:11, 22:22 ці 0:00, у такім выпадку адсутнічае непажаданы сімптом хваравітай адказнасці. Усё проста: калі не паспееў загадаць жаданне за хвіліну паміж 11:11 і 11:12, то можна проста як мае быць падрыхтаваць патрэбную фармулёўку да наступнага разу паміж 22:22 і 22:23 і гэтак далей, галоўнае ўвогуле не забыцца на жаданне праз паўсутак.

Для аматараў сімвалізму і семантычных аспектаў семіётыкі ў прасторава-

часавых вымярэннях можна прапанаваць тэхніку загадвання верагоднасці і якасці спаўнення пэўных жаданняў (хутчэй можна аднесці да памежнай з варажбой практыкі) па слоўніку ці кнізе (газеце, часопісу, тэлефонным даведніку, геаграфічным атласе, інструкцыі да лекаў ці лічбавых прыбораў). Аднак трэба адзначыць, што тут не заўсёды адразу здагадаешся, што маецца на ўвазе, таму такая тэхніка патрабуе значнага досведу. Напрацаваць досвед можна рэгулярнай практыкай такой тэхнікі.

Але ж самае простае, калі чагосьці хочацца,– гэта сесці пасярод пакоя, скласці пальцы пэўным чынам у фічку, якая завецца мудрай, і мэтанакіравана мармытаць сваё пажаданне. Павінна здзейсніцца на 100 адсоткаў. Галоўнае, што амаль нічога не трэба рабіць.

## Жыццё з задранай галавой

Я выйшаў з пад’езда. Надвор’е было так сабе: у вочы непрыемна дзьмуў вецер, на галаву крапала. Шапкі ў мяне няма, капялюш, ратуй Божа, я не нашу прынцыпова, але, нягледзячы на імжу, я ўсё роўна вырашыў не парушаць традыцыю, якую завёў з самага першага дня, як пасяліўся ў гэтым шматпавярховіку.

Вось ужо восем год запар, кожную раніцу я выходжу на двор, каб прабегчыся. Здаровы лад жыцця, зарад бадзёрасці з самага ранку – добры настрой на ўвесь дзень. Хаця нельга сказаць, што такое надвор’е, як сёння, спрыяе добраму настрою. Ну ды годзе, затое з усімі астатнімі справамі парадак.

На дварэ ўсё як зазвычай. Паміж легкавікамі ні прайсці, ні праехаць. Бабулькі-вар’яткі ўжо прымушаюць сваіх гаротных унучкаў маршаваць вакол кветнікаў. Старанныя офісныя працаўнікі дбайна паляць каля сваіх асобных уваходаў. Якраз пад маімі вокнамі. Вунь каля сметнікавага бака качаецца котка-дурында. Вось ужо агідныя істоты. І знаходзяцца ж іх прыхільныя аматары. І аматаркі. Тыпу дамачак, што актыўна лайдачаць у гэтых офісах і працуюць над памнажэннем папуляцыі мярзотных коцікаў зноў-ткі каля майго пад’езда.

Я накіраваўся да выезду з двара. У нас там скверык цераз дарогу – ідэальнае месца для ранішняга шпацыру і разумовай канцэнтрацыі. Мне насустрач ідзе нейкі мужчына з сабакам. Трэ так збочыць, каб яны мяне не заўважылі. У мяне вельмі нацягнутыя адносіны з сабакамі. Яны, вядома, трохі лепей за котак, але не нашмат. А часам і ўвогуле нават дурнейшыя. Таму намагаюся з імі не перасякацца.

Д’ябал. Заўважылі. Гэты сабака бяжыць наўпрост да мяне. Ажно вачэй не адводзіць. Ужо і пашчу разявіў. Што мне рабіць? Што рабіць? Што?! Я ж баюся сабак!!! ААААААААААААААААААААААААААААААА!

Мама!!! Ён нюхае мяне! Нюхае, нюхае!

Цьху ты, і я ж сабака таксама! Я абрыкаў нахабніка, што падскочыў да мяне – хай таксама баіцца – і на ўсіх чатырох кінуўся на пошукі гаспадара. Дзе ён там красуецца, ланцужком пагойдвае, пакуль мяне ледзь не зжэрла гэтая пачвара. Давай ужо прышпільвай мяне, хадзем дамоў!

Усё-ткі нейкі няўдалы дзень сёння.



Ігар Канановіч



...Падману я цябе.
І табе спадабаецца.
Праўда!..

# Скачок да сонца

### *ВЯСНА ПРЫЙШЛА*

Вясна прыйшла, нібыта пад прымусам,
У гэту бледна-шэрую тугу.
Пан Красавік! Хоць ты парадуй "плюсам"!
Вясна прыйшла – паверыць не магу!

### *НАЧНОЕ ДЗЯЖУРСТВА*

Увечары
вецер-пастух
пагнаў статак хмараў
на поўдзень.

Ох і дояць жа там
бліскавіцы!

### ПРАДВЕСНЕ

Гэты сонечны захад, дзе хмараў разлёт,
Абяцае сезон неспакою!
У вачах, адчуваю, ламаецца лёд.
І зіма адыходзіць. Слязою...

### ТРАВЕНЬ

Травень.
Гудзе, шамаціць,
варушыцца
кляновая цытадэль.

### ПАПЯРЭДЖАННЕ

Не падстрэліць сумленне, калі прапаўзу ля яго...
Не спрацуе, як міна, дасведчанай мамы парада...
Падману я цябе. Проста, травень пайшоў з берагоў...
Падману я цябе. І табе спадабаецца. Праўда!..

### ПРЫНЦЫПОВАЯ ВОСЕНЬ

Дрэвы
толькі разводзяць рукамі:
“Мы памерлі –
прабачце!”

Дождж,
змыўшы фарбы,
змывае
і веру ў жыццё...

У брудным акне
электрычкі –
прынцыповая восень...

### ШЭРЫ ДОЖДЖ

За акном бадзяецца
шэры дождж.
Відавочна, шукае мяне...

### СКАЧОК ДА СОНЦА

Шэпт захаплення
імклiва бяжыць па сметнiку:
падскочыў да сонца
вясёлы,
адважны пакет!

### РАЗВIТАННЕ З ПРАФЕСIЯЙ

Даўно маглi з праблемай разабрацца.
А сёння можна проста ставiць крыж.
Настаўнiка загналi у жабрацтва –
Зарэзалi прафесii прэстыж.

Квiтнеючай не зробiцца краiна,
Пакуль чыноўнiк – майстар балбатнi,
Пакуль настаўнiк – бедная скацiна,
Якую кормяць пугай дзень пры днi.

I вырашыў нарэшце: пакiдаю,
Iначай горкi лёс не абмiне...
Прафесiя – галоўная, святая –
Iдзе на дно. На шчасце, без мяне...

### ПАДГАНЯЮ НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ

Падганяю наступны дзень –
Так наiўна, па-чалавечы...
Там – прытулак маiх надзей.
Там – гаючай зары сустрэча.

Па нягодах пракладваў гаць.
Не аднойчы ламаў дарогу.
I, здавалася, пакахаць
Я не здолею больш нiкога...

Бо ўзрываў i палiў масты,
Праклiнаючы прывiд шчасця,
Каб раз’юшаным i пустым
На заснежаны дол упасцi...

Хай на дно асядае дрэнь.
Хай пакажа “арла” манета.
Падганяю наступны дзень,
Дзе – чаканыя сэнс i мэта...

### ПЛАЦІНА

Старэйшы пляменнік
выпытвае,
адкуль у мяне шчарбіны.

Крык неаднойчы
шалёна імкнуўся на волю,
ды, наляцеўшы на сцятыя створкі шлюза,
сыходзіў назад...

А малому адказваю:
“Еў шмат салодкага,
Стасік!”

### ЗНАК ЯКАСЦІ

Знайшоў у мікрасхемах брак,
Хоць вечар меў не тую мэту...
Што ж, ёсць “хай тэк”, а ёсць “хай так!” –
Цяпер я разумею гэта.

### ФОЛЬК І МЕТАЛ

Захмялелыя Фольк і Метал
шалеюць у пакоі заўзята:
распілі маё сэрца да дна!

### АЛЕ

*Прысвячаецца сп-ні Вользе Спірыдонавай*

Натхнёнасць забітая пазачарговым надрывам.
Як хворы, аловак бяздзейна ляжыць на стале.
Маё адраджэнне чакае ў каханні. Шчаслівым.
А тое каханне – за кручамі жорсткіх “але”...

Але песімізм не займее трывалай прапіскі
У сэрцы маім. Хоць яно выгарала не раз.
Бруіцца сцяжына – у свет ледзь вядомы, няблізкі.
Ёсць права на шчасце. Ёсць вера, надзея і час.

### ПАЎНОЧНЫ СХІЛ

Кайлом чараўніцы Самоты
драблю
паўночны схіл Цішыні...

Настрой,
пераліўшыся ў намаганні,
знікае ўвесь.

І толькі тады
гарэзліва ўспыхвае
першымі залацінкамі
верш...

### *ПРАПАНОВА КЛАСІКА*

Ты жадаеш намацаць аснову?
Прагнеш сонца на сённяшнім дне?
Заслужы беларускую мову.
І пачуеш яе ад мяне...

### *МУЗЫЧНЫЯ КАМПРЭСЫ*

Раблю музычныя кампрэсы:
Курортны – лёгкі, цёплы – джаз.
Наўзбоч ганебна-звыклай п’есы
Зусім няблага баўлю час.

Па-за прыгнётам актуалій
Плыве лянотны летні дзень.
Нарэшце на патрэбнай хвалі.
І нават для сяброў – нідзе...

### *ТРЫ СЯСТРЫ. НАДЗЕЯ*

Падманулі Вера і Любоў.
Іншыя цяпер жыццё і цацкі.
Страціўшы прыхільнасць берагоў,
Сцяг ператвараецца ў пірацкі...

Вера і Любоў. Былыя дні.
І калі адтуль цяплом павее –
Курчыцца і вые ў глыбіні
Лютая, бязмэтная Надзея...

### *НІКОЛІ*

Так, прыгадаю пэўных момантаў красу –
І зноў пакліча ненажэрнае балота...
Я часам гад, але, павер, не прыпаўзу:
Мінула садамазахічная ахвота.

Я ў вернай музыцы тапіў самоты дні
І ўсё-ткі выйшаў з гэтай жорсткай, смешнай ролі.
Любоў, Каханне – гэта служба Чысціні.
А паміж намі не было яе ніколі...

### *АФЕКТ*

...Нешта ў сэрцы кальне – так, што цемра
патушыць аблокі.
Так, што радасны ліпень
арктычнай пустыняй дыхне.
Зварухнуліся, значыць, надзеі і веры абломкі.
Бач, вайна за каханне яшчэ ўспамінае мяне!..

** * **

Няма навін сярод навін.
І справа – Бог, а злева – сплін.
І я ў сябе ізноў краду.
Пайду.

### *ЦІШЫНЯ*

Кожнаму – свой пакой,
і толькі
цішыня –
адна на дваіх...

### *БЕЛАРУСКАЯ АЎТАЭПІТАФІЯ*

Спадзяюся, па смерці не будзе бязмежна суровы
Найвышэйшы Прысуд, хоць ахвотна і часта грашыў.
Бо ў краіне трасянкі і дрэннай расейскай мовы
Я спяліў Беларусь у пякучай, зацятай душы...

Андрэй Козел



...шукай

сваю сілу...

# Недавершанасць

***Версэты***

### *УСПАМІНЫ*

Мне сніцца мой нябожчык-брат. Ён рады мяне бачыць, як і я яго. Мы хочам быць разам, як гэта было раней, як гэта і павінна было быць.

Мы гаворым з ім пра сям'ю, успамінаем сяброў, не можам адвесці вачэй адзін ад аднаго.

— Працягні мне свае рукі — я раскажу табе, дзе твае памылкі, я скажу табе праўду жыцця, я хачу, каб вам жылося лепей, — прапануе мне мой родны брат.

І я цягну свае рукі да яго рук, я хачу абняць свайго брата, прытуліць да сябе і не адпускаць нікуды. Але чым больш я намагаюся гэта зрабіць, тым больш брат аддаляецца ад мяне; яго словы не далятаюць да маіх вушэй. А сам я раблюся невідушчы, я бачу толькі ўдалечыні, як вусны майго лепшага сябра, майго

брата, нешта шэпчуць мне... і пакрываюцца, з кожным намаганнем сказаць, крывёю...

### У КРАМЕ

Я стаю ў незвычайным для мяне, чароўным месцы, месцы, якога мне так не хапала ў дзяцінстве, — дзіцячай краме.

Незнаёмы хлопчык весела, з імпэтам, выбірае, прымерваючы адну за другой, рознакаляровыя маскі...

...Маскі звяроў і птушак;

маскі звышчалавека і іншапланетніка;

маскі любімых кінагерояў і поп-зорак і яшчэ безліч іншых масак.

Я ў захапленні! Як жа спрытна ў хлопчыка гэта атрымліваецца!

Ён яшчэ не ведае, як з цягам часу, стаўшы дарослым, цяжка пазбавіцца маскі, каб проста быць самім сабою...

### НЕДАВЕРШАНАСЦЬ

Справы, што пачаў, але не скончыў, вяртаюцца да мяне пякучым стосам іншых, новых абавязкаў. Я змагаюся з гэтым кожны дзень і не магу знайсці для сябе палёгкі, бо ведаю пра недавершанасць сваіх пачынанняў.

Змагаюся, як магу, з абставінамі, лянотай, часам, сабою.

Я бяру гліну, каб зрабіць з яе посуд;

запраўляю цеста, каб яно стала хлебам;

ару поле, каб пасадзіць насенне;

шукаю словы, што стануць вершам.

Адчуваю ўсёй сваёй істотай, што радасць ад перамогі над справамі на гэты дзень робяць мяне больш упэўненым, адрозным ад сябе.

І разумею, што я — гэта ўжо не зусім і я цяпер.

### ПАРАЗЫ

Паразы. Яны ідуць за мной на працягу ўсяго жыцця, узнікаючы перыядычна на маёй дарозе ў самым розным абліччы. Бывае, я так і не магу да канца зразумець, што новае здарэнне, якое было са мною ўчора — гэта параза, а ніяк не перамога.

Паразы даюць мне выспятка, поўху, адпускаюць пстрычкі, а могуць, калі гэта вялікая параза, збіць мяне з ног і лупцаваць нагамі.

Пакідаюць паразы
сляды ад юшкі на маім адзенні,
драпіны на маім целе,
шрамы на маім сэрцы,
пытанні ў маёй галаве.

Рагочуць прама ў твар, спрабуючы зачапіць за жывое, абставіны лёсу з маёй бездапаможнасці, з майго няўрымслівага танца-змагання з паразамі...

Ды і адкуль ім ведаць, што з кожнай пераадоленай паразай я станаўлюся яшчэ мацнейшым.

### *ПЫТАННІ*

Аблеплены рознымі пытаннямі, як і большасць
людзей, я іду па нейкім, толькі мне вядомым шляху.
Людзі задаюць мне розныя пытанні, як і я ім:
ці правільна я трымаю лыжку?
ці правільна я забіваю цвік?
дзе можна тут збочыць на Усход?
ці будзе на наступны дзень Заўтра?

Я смяюся з кожнага, хто задае мне гэтыя і іншыя пытанні; я смяюся з сябе, таму што не магу адказаць на многія з іх.

Я смяюся з усіх пытанняў, што задаюць мне людзі, акрамя аднаго:
ці правільна, што мы жывем?

### *СПРАВЯДЛІВАСЦЬ*

Я падымаю вочы ў неба. Я шукаю справядлівасць. Аблокі закрываюць мне агляд.

Я чакаю дажджу,
але сонца бліскае, апякае
мае зрэнкі і шэпча:
“Справядлівасці тут няма”.
Заклапочаны, я іду далей...

Я назіраю за жывёламі. Я шукаю справядлівасць. Але жывёлы жывуць па сваіх законах:
дзе галоўнае выжыць,
проста застацца ў жывых.
Ім не патрэбна справядлівасць.
Заклапочаны, я іду далей...

Я хачу зразумець людзей. Я шукаю справядлівасць. Я працягваю сваю руку суседу, але ён хоча жыць сам па сабе. Тады я даю чалавеку ў абярэмак скарб.

І ён бярэ столькі,
колькі не можа несці,

колькі яму не будзе патрэбна,
баючыся быць горшым
за іншага чалавека.

Я ведаю: чалавек кіне скарб толькі на дарозе, дзе з табою застануцца дабро, якое ты зрабіў, і свае грахі.

Можа, гэта справядлівасць?

Заклапочаны, я іду далей...

## *СІЛА*

Кожны чалавек на раздарожжы, дзе я спыніўся, каб выбраць свой далейшы шлях, тлумачыць мне перавагі свайго напрамку, сваёй сілы. Кожны хоча, каб я збочыў у іх бок.

Адзін паказвае мне сваю фізічную сілу і кажа, што ў гэтым і ёсць сіла.

Другі дэманструе свае разумовыя здольнасці і веды і кажа, што гэта сапраўдная сіла.

Трэці дае мне памацаць паперкі, якія называе грашыма, спрабуючы пераканаць мяне ў тым, што акрамя іх ніякай сілы не існуе.

І толькі невідушчы стары моўчкі ідзе прама. Ён неахвотна тлумачыць, калі я яго даганяю і пытаю, чаму ён не збочыў:

— Не кожная сіла ёсць сіла;
не кожная сіла можа быць сілай табе.

Нават самы слабы чалавек можа ўтрымацца, павіснуўшы на абрыве ў прорву, калі яго трымае жах.

Шукай сваю сілу...

## *ПТУШКА І ДРЭВА*

Як лепшыя сябры жылі недалёка ад вёскі птушка і дрэва.

Дрэва дало прытулак птушцы: тут было яе гняздо, дзе яна ратавалася ад залевы, ветру, марозу; голле дрэва закрывала птушку ад палаючага сонца.

Птушка, у сваю чаргу, дапамагала чым магла свайму сябру: збірала гнілыя галінкі і лісце ля самага камля; абараняла дрэва ад караедаў і шашаля.

Прыйшоў чалавек. Узяў сякеру. Ссек дрэва. Птушкі больш няма...

# “Працяжнік, за якім няма даты”

## *Сучасная грузінская паэзія*

**Ната ІНГОРАКВА**

***АДМОВА***
***Даты забытыя***

Не будзем называць Яго імёнамі,
спярша пераканаемся самі,
што Ён існуе.
А потым пераканаем астатніх.

Будзем гуляць на задворках свету,
дзе спакой і шум
падзялілі між сабой прыналежныя займеннікі:
мой,
твой,
яго.

Тут паміраюць раней, чым радасць паспее выспець,
а ўсмешка тут – толькі размінка для вуснаў.

Тут нельга час прывязаць да запясця,
яго забіванне зрабілася нашым заняткам,
і яго падзялілі прыналежныя займеннікі:
наш,
ваш,
іх.

Тут няма тонкіх месцаў і рвецца зусім не ў іх.
Тут толькі хуткасць, дарожныя знакі – адмененыя,
і прыпынак
“Ўратаваць сябе”
прапушчаны.

*Укладальнік – Андрэй ХАДАНОВІЧ.*

Тут трэба адзін раз наважыцца
і сказаць Богу – не.

### ІЛЮЗІЯ

Гэта не падобна
да ценю, што варушыцца на сцяне,

і не падобна да звычайнага сну,
дзе можна змяніць дату смерці,
пераблытаўшы лічбы.

І гэта не тое,
калі словы – апельсінавы фрэш
ці
гарачы, вязкі шакалад,
што драпае горла.

І не тое,
калі не хочаш злучыць
і вымавіць словаў,

бо думаеш – так застануцца.

Гэта не ростань

з надпісам:
“Налева пойдзеш – няшчасце знойдзеш,
направа пойдзеш – няшчасце знойдзеш”.

Гэта проста дарога,
дзе стома возьме цябе на спіну

і, калі больш не захочаш паміраць адна,

няважна хто,
няважна чаму,
няважна дзе

прыйдзе да цябе і чалавечым голасам
нязмушана й лёгка
скажа:

я з табой.

### КАДР

...І пакуль я была вандроўніцай,
хацела ўва сне разгадаць таямніцу
і таемна хацела любоў разгадаць.

Вывучала як яна пішацца
паводле арфаграфічнага.
У тлумачальным
знайшла яе вызначэнне.
Слоўнік сінонімаў падказвае,
што яе можна назваць па-рознаму.
Слоўнік замежных словаў кажа,
што яна існуе і ў іншых мовах.
Слоўнік геаграфічных назваў паведамляе,
што яна распаўсюджаная паўсюль.
Энцыклапедыя вядомых людзей
выявіла:
усе на яе перахварэлі.

Нягледзячы на ўсе тлумачэнні,
я не спазнала цябе,
хоць ты паказала мне,
што ты не проста шчасце –
ты веды пра шчасце;

што кожны раз цябе трэба
каштаваць асцярожна,
як слодыч,
якім частуешся ўпершыню;

што калі ад цябе адны пытанні
і ніякіх адказаў,
то трэба сысці

і

з табой застануцца толькі словы,
бо іх існаванне
засведчанае.

Яны хаваюць сакрэт.

“...і калі жыццё працягваецца,
і ў цябе ёсць гісторыя,
і той, каму можна яе расказаць...”

Далей – як у фільме...

Канец.

## *ЗДЗІЎЛЕННЕ*

Госпадзе,
Любоў апярэдзіла мяне –

яна першая
прызналася табе ў любові.

Гэта значыць,
ты – існуеш.

Мы сталі больш блізкія.
Размаўляем на ты.

Гэта значыць,
мы прызнаем:
трэці тут лішні.

Бачу:

вось Бог,
вось ты, мой Госпадзе.

Трэба пачынаць нанава.

Гэта значыць,
ты мусіш мяне навучыць,

як прачынацца,
як засынаць,
як пісаць,
як гаварыць з табой,
як зрабіць, каб ты прачытаў
і пачуў мяне;

як жыць з табою – і з іншымі,
як падманваць сябе – і астатніх.

Гэта значыць, прызнацца:
калі ўсё скончана
і рай – апошні з даляглядаў, гэта

тупік.

## *DELETE*

Не кажы, толькі пішы мне.
Лягчэй з напісаным.

Можаш вылучыць колерам,
а потым выдаліць,
як акрабата, перакінуць, куды захочаш.

Словы набраліся паслухмянасці.

Яны сведчаць,

што смерць з чужога досведу
і смерць ад чужой рукі –
нашмат лягчэйшая;

што паміж вылучэннем слова
і яго выдаленнем
адлегласць мізэрная;

што аператыўная памяць захоўвае слова
настолькі,
колькі часу яно
было разам з табой.

Словы адчуваюць:
пакуль ён вандруе, –
смерць спадарожнічае яму.

Мы
складаем дарогу,
пакідаем вершы, як знакі,
і думаем:
хто яшчэ йдзе за намі,
акрамя часу?

Споведзь – тое ж самазабойства,
і свае думкі цягнуць цябе ў дрыгву.

Дарога вядзе

да абрыву.

*Пераклала з грузінскай Алеся БАШАРЫМАВА*

## Ніка ДЖАРДЖАНЭЛІ

* * *

Не еш маё сонца.
Не будзь сонцаедкай.
Не будзь боскай акулай.
Не будзь блакітным кашмарам.
Не будзь нават не ведаю кім.
Нібы ў капелюшы набакір
сядзіш, заклаўшы нага за нагу, і смакуеш
марозіва ў адкрытай пустой кавярні.
Не еш маё сонца.
Ва ўсмешцы тваёй выбухаюць залатыя бурбалкі.
Ты крадком азіраешся вакол.

Аблізваеш вусны.
Не еш, не еш маё сонца!
Яно паддаецца лыжцы, якую трымаеш,
тваім зубам і языку
і не пячэ табе рот.
Ды яно атруціць цябе... І я не змагу ўратаваць... Спыніся...
Не еш.

## *ПАРУ СЛОВАЎ ПРА АЭРАПОРТЫ*

З раніцы можаш устаць і па завядзёнцы паехаць у аэрапорт.
Не абавязкова, каб ты там працаваў ці кудысьці ляцеў.
Аэрапорт – гэта добрае месца для роздумаў.
Аэрапорты ў чымсьці прывабнейшыя за палёты.

Яны больш за ўсіх набліжаюць нас да аблокаў.
На першы погляд, галоўнае ў іх – гэта слова “палёт”.
Насамрэч, хай нават яно і ўзляціць у нябёсы,
яго апярэджваюць словы “каханне” й “разлука”.

Аэрапорт падобны на нейкі чысцец:
калі чаканне палёту – нібыта маленькі ўзлёт,
а сам твой палёт можа яшчэ й не адбыцца,
то ты тут пакуль не ў паветры, але ўжо й не зусім на зямлі.

Гэта месца такое цудоўнае, што цудоўная і дарога туды,
і транспарт, якім ты едзеш па гэтай дарозе,
і кіроўца, які сядзіць за стырном. Цудоўны і сам ты –
на заднім сядзенні ці побач з кіроўцам.

Калі, прыехаўшы ў аэрапорт, ты хоць трохі не робішся лепшым,
табе трэба пайсці да псіхолага ці пагутарыць са святаром.
Значыць, не разумееш, не адчуваеш элементарнага,
значыць, маеш сур’ёзныя ўнутраныя праблемы.

Мяне заўсёды цікавіць, якія яны, супрацоўнікі аэрапортаў,
па-за межамі аэрапортаў, у іншых месцах,
якія пытанні яны абмяркоўваюць, як смяюцца і плачуць,
што адчуваюць пад чарамі закаханасці.

Думаю, што ад іх так лёгка не адмахнуцца.
Яны падобныя на дактароў, што лекуюць плыняй паветра,
або на музыкаў аркестра, які ўжо даўно распаўся,
але яны памят*а*юць і ведаюць болей за іншых.

Прыемна, калі ты можаш ляцець, але не ляціш.
Прыемна перабываць у аэрапорце,
думаючы пра тое, што наша зямля нішто іншае,
як адзін велізарны аэрапорт.

## КАТАВАННЕ МУЗЫКАЙ

Ты ўключаеш музыку.
А сама застаешся нябачнай.
Гэтая музыка пра цябе й пра мяне.
Пра тое, як мы сустрэліся,
хоць насамрэч не сустракаліся,
а перадусім пра тое,
як мы не зможам сустрэцца.
Яна ледзяшамі звісае са столі
і капае на падлогу.
Яна затапляе маю прастору.
Яна ўваходзіць мне ў рот і ў ноздры.
Яна ўва мне б'ецца хвалямі, быццам начное мора,
і я нашу гэта мора.
Ты катуеш мяне музыкай,
ты ладзіш мне Гуантанама й Абу-Грэйб.
Я закрываю вушы рукамі,
і між пальцаў у мяне пачынае сачыцца кроў.
Я гляджу ўверх, укленчыўшы.
Мае вочы закаціліся.
Ты бачыш толькі бялкі.
І памыляешся, калі думаеш, што глядзіш мне ў вочы.
Ты ўсё дадаеш і дадаеш гуку,
і нешта кажа мне,
што ў гэтай гучнасці няма межаў.
Я ўжо не знаходжу сабе месца
і гойсаю ўнутры той прасторы,
плошча якой такая маленькая,
што не вартая таго, каб яе адзначыць.
Але раней ці пазней,
калі ўрэшце ад катавання
яператваруся ў інструмент катавання,
ты адпусціш мяне, ты не мецьмеш іншага выйсця.
І я працягну блуканні па тых жа лясах і ярах,
дзе блукаў і дагэтуль.
Буду гучаць для тых, на каго быў раней падобны.
Пакуль мяне не заглушыць хтось,
у каго не будзе нічога, што мне нагадала б цябе.

## ЯНЫ

Яны сядзяць у цёплых і ярка асветленых рэстаранах,
жаруць, здабыўшы грошы махлярствам, рагочуць,
не думаючы пра тое, што да найбліжэйшых
могілак усяго дзесяць хвілінаў ходу
і што там, у халоднай зямлі, ляжаць мёртвыя,
якія, калі б уваскрэслі й прыйшлі да нас,
абавязкова б адразу звярнулі ўвагу, як блізка
ад могілак нашыя рэстараны.

Штодня яны дазваляюць сабе мільёны паскудстваў
і, як нічога ніякага, лічаць іх ганаровымі справамі,
ім напляваць, што іх дзеці
дзень і ноч глядзяць ідыёцкія блокбастары,
паляць траву і ладзяць віртуальныя кровапраліцці,
а жонкі чытаюць танныя дэтэктывы,
цэлымі днямі п’юць каву, сумна глядзяць у акно
і старэюць, мроячы пра каханне.

Яны гатовы лізаць падэшвы патрэбным людзям,
хлусяць і крывяць душой, шукаючы выгады,
і не ведаюць, што іх дзеці, туляючыся ў абвіслых
джынсах, зрабілі сабе куміраў з нейкіх прыдуркаў,
а ў іх жонак, што вечна дома адны, з’явілася здольнасць
туляцца, нібыта здані, па цёмных пакоях,
гадзінамі размаўляць з уяўнымі кавалерамі,
лашчыць сябе й заходзіцца ў жаласных енках.

## *ВОДСТУПЫ*

***I***

Сонца цягнецца па вуліцы,
учапіўшыся ў сваё праменне,
як у мыліцы.

***II***

Вакол такое святло,
быццам усё не асветлена,
а зацягнута жоўтай скурай.

***III***

Апошнія колькі гадоў
пішу вершы на кампутары.
І паэзія замяняе кактус.

***IV***

Безграшоўе бегае па кішэнях, як прусак.
Часам яно высоўвае галаву з кішэні,
азіраецца па баках і зноў засоўвае яе назад.

***V***

Грошы, як шпалеры, прыляпіліся да сценаў жыцця.
Магчыма, яны й не пахнуць,
але ўжо нават лісце мае пах купюраў.

***VI***

Дзе дабро, а дзе ліха,
праз іх змяшэнне,

стала так цяжка разрозніць,
што, відаць, незваротна забыты смак плода,
сарванага з Дрэва пазнання.
Хто ведае, можа, нас вернуць у Эдэмскі сад.

***VII***

Дайце мне шматкроп’е апоры –
і я больш нічога не напішу,
апроч кароткіх паведамленняў!
А ўрэшце кіну пісаць і іх.

*Пераклаў з грузінскай Андрэй ХАДАНОВІЧ*

## Паата ШАМУГІЯ

### *КАМПРАМІС*

Я веру, што бачыў Бога,
ён стаяў на парозе пошты,
у руках – мая кніга і пляшка чачы.
Я веру: усё, што адбываецца,
анічога не мяняе
і парадак рэчаў застаецца ранейшы.
Я веру, што паэзія
увойдзе ў крымінальную хроніку
і пры канцы навінаў
дыктары будуць у рыфму апавядаць,
як злачынцы бралі банк
або пра забойства на глебе рэўнасці,
або пра нейкі ўчынак
Джастына Бібера,
або, яшчэ горш,
абмяркоўваць ягоную кар’еру,
а прагноз надвор’я
ператворыцца ў буколіку.
Я веру, што каханне
часам сапраўды існуе –
вось як твой пацалунак узбагачае
эксклюзіўную гісторыю майго цела.
Я веру, што ў наш час
гуляць у зло
сумна
і толькі дэпрэсіўныя банкіры
практыкуюць гэта.
Я веру, што чалавек здольны
памерці некалькі разоў за дзень
(без перспектывы ўваскрэснуць)
і гэта зусім не шляхетны ўчынак.
Я веру, што смерць – ганебны кампраміс

і веру ў гэта, бо той,
хто кіруе ёю,
памёр.

### *LA-SANG*

Мы мусім зразумець,
што паэзія –
гэта проста мяняць рэчы месцамі
і – анічога іншага,
а калі мы прагнем большага,
яно прыходзіць,
але яно ўсё адно меншае за паэзію.

### *БІБЛІЯ КАНІБАЛА*

калі незнарок забіў сябра свайго і згатаваў з яго экзатычную страву,
скажы: Амінь!
і калі досыць у страве каляндры і базіліку, і солі пад густ,
і курэе над сподам гарачая пара, густая, быццам смала,
скажы: Амінь!
і калі запрасіў сяброў, яшчэ не забітых незнарок,
і калі прыйшлі яны і сказалі: Смачна!
скажы: Амінь!
і калі, наеўшыся, заснеш і прысніш сон,
дзе мёртвы сябар незнарок уваскрос,
і б'е цябе, і б'е цябе нажом у грудзі,
і пры гэтым крычыць: Амінь! Амінь!
скажы: Амінь!
і калі ў гневе перарэжаш сцэнарыстаў свайго сну,
і згатуеш новую страву,
каб аддзячыць ім паводле заслугаў іхных,
скажы: Амінь!
і калі надыйшоў экзістэнцыяльны крызіс і хочаш пакаяцца,
і яно, жаданне пакаяцца, доўжыцца й доўжыцца,
быццам французскі пацалунак,
скажы: Амінь!
і калі выганіш гэтае жаданне за дзверы, як котку,
але захочаш пакаяцца, што выгнаў котку,
і гэтае жаданне будзе расці й расці і рабіцца мацнейшым,
і апануе душу тваю і цела,
скажы: Амінь!
і калі адрэжаш частку свайго цела, якая каецца,
і адрэжаш іншую частку цела, якая таксама каецца,
і адрэжаш рэшту свайго цела, якая ўсё адно зацята каецца,
і не застанецца ў цябе аніводнай частачкі цела,
і будзеш толькі душою,
і будзеш спакойны,

і будзеш мёртвы,
і нават вельмі мёртвы,
скажы: Амінь!

## *САМААНАЛІЗ*

паслухайце, мама і тата,
ад сёння я вырашыў стаць добрым сынам,
з годнымі манерамі,
што не пярэчаць універсальным правілам,
а мае ранейшыя выбрыкі схавае цень мінулага
(праз іх мне і так няёмка).
знайду сабе прыстойную прыгажуню-жонку
і мы народзім прынамсі трох дзетак,
а калі Бог будзе літасцівы,
то столькі, колькі ён дасць
(я, у сваю чаргу, буду яму старанна спрыяць).
буду расчульваць душы сваімі лірычнымі вершамі,
і пастаўлю крыж на сацыяльнай сатыры,
пакіну здзекавацца з радзімы,
бо радзіма – гэта святое,
а народ – мудры
(што, вядома, не адно і тое ж,
але фальклорная рошчына калектыўнай логікі
моцна звязвае й гуртуе,
а д’ябал раз’ядноўвае,
што, натуральна, таксама дзве розныя рэчы,
але Боская мудрасць даецца нам намёкамі,
што разбурае ўсе спадзяванні аматараў карэляцый).
і наогул я стану нашмат сімпатычнейшы
і набяру вагу,
бо, паводле філасофскага дыскурсу Гіглы Тварадзэ[1]
мужчына, які сябе паважае, мусіць важыць найменш 75 кг,
і мець рост метр восемдзесят,
і быць здаровым,
каб даць Айчыне біялагічны ўраджай – гронку дзяцей,
і быць соллю гэтай зямлі,
і быць бадзёрым і адважным,
і не пакутаваць ад скаліёзу,
і мець пры сабе ўсе зубы,
асабліва тыя, што відаць, калі смяешся,
і наогул чалавек з самапавагай мусіць быць сімпатычным,
а я несумленна важу 65 кг,
што ёсць доказам бессаромнасці,
і нават, калі б не так, я ўсё адно, нягледзячы на худзізну,
вуглаваты ў рухах, як Бальзак у фразах,

---

[1] Сусед Пааты Шамугіі, з якім паэта звязваюць даўнія складаныя дачыненні.

і не такі ўжо сімпатычны.
але ж – бачыць Бог – я хацеў жыць праведна,
ды, відаць, усё лясне.

### *І ЗНОЎ ПРА ТОЕ, ШТО СМЕРЦЬ – РЭЧ НЕДАРЭЧНАЯ. МЯНЕ НАТХНІЛА РЭАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ, ЯКУЮ Я СЯМ-ТАМ АЗДОБІЎ НЕМУДРАГЕЛІСТЫМІ МЕТАФАРАМІ*

навошта паміраць,
калі існуюць больш цывілізаваныя спосабы
супакоіць сумленне,
напрыклад, напісаць верш,
няхай нават кепскі
(але не настолькі, як гэты),
паскардзіцца на марнасць быцця,
выправіцца на закупы, або да ветру, або ў космас
і ні ў якім разе не выпраўляцца да Абрама на піва.
смерць насамрэч вельмі асэксуальная,
нават не ўяўляю, каго можна сёння ёю спакусіць,
ну, можа, нейкую шаноўную васковую даму
з атавістычнымі схільнасцямі,
а нармальныя жанчыны
у адказ на такі банальны ўчынак
і не змаргнуць.

хіба гэта арыгінальна
пасля ўсіх, хто ўжо сканаў?!

аднойчы ў аўтобусе № 61
жанчына брала квіток і – памерла.
вось так бессаромна ўзяла і памерла.
“ні сораму, ні сумлення”, падумаў я,
і мая кроў
ударыла ў зрэнкі
шкадобай і ярасцю.

### *ЛІНГВІСТЫЧНАЕ КОЛА*

і так адвеку:
я раблюся словам, што звязанае са мной,
і кожным словам, што звязанае са мной,
што нагадвае мне пра цвёрдасць прасторы,
імкнецца прыпадобіць да сябе,
надаць мне абалонку,
падначаліць крохкай логіцы жаданняў.
вось, напрыклад, “нешта”,
або нешта настолькі простае,
як “прэзідэнт”

або “Джэймс Бонд” –
ледзьве паспеўшы вымавіць іх,
я сам раблюся імі
і паралельна з брыфінгамі
адбіваюся ад савецкіх агентаў.
і
я – паэт,
я – блуднік,
я – патрыярх,
я – тэрарыст,
ліберал,
аўтагоншчык,
я – цыркач,
геній і Маці Божая,
сяджу, адчуваючы страх,
перад сэнсамі, якія паспелі ўжо
зрабіцца дадатковымі часткамі
майго цела,
і надвечар мяне ўжо гэтак шмат,
што ўсё губляе сэнс,
а пагатоў – падлікі.
і лятуць з выраю скасаваныя словы,
і натапырваюць пёры,
і з турботнымі тварамі выдаюць нумаркі
кожнаму мне,
і ставяць на ўлік, і аглядаюць,
і наклейваюць марку,
і ператвараюць мяне ў іміджавы тавар,
і ў брэнд, і ў “твар”,
і ў порназорку,
і ў Спілберга, і ў Параджанава,
і ў піва “Heineken”,
і ў апошні крык і піск моды,
і ў Windows Vista,
і ў Галактыёна[1].
*і сяджу на вятрах.*
*і шыю сны з пералётных слоў.*

## ***СПІС***
***(урывак з паэмы)***

я пішу пра тых,
хто зрабіў жыццё
неабходным і прыкметным, як дарожныя знакі,
хто скінуў дэсант страху ў нашыя вочы
і паміж снамі
уштукаваў рэкламнай пярэрваю
страх пачуць грукат у дзверы,

---

[1] Галактыён Табідзэ (1892–1959) – выдатны грузінскі паэт.

хто, быццам пародзістых птушак,
пасяліў у нашых вачах роспач і нямогу,
хто разгадаваў смерць,
хто разгадаваў радасць
і боязь перамогі,
хто прысніў нашу пагрызеную плоць,
і падараваў нам на памяць
пацеркі з нашых сноў,
хто выскачыў з аднаго сну
і не паспеў дабегчы да іншага,
хто змераў адлегласць ад раніцы
да бліжэйшага горада,
хто замініраваў вуліцы вясной,
і раскрыў магчымасці для авантураў,
хто ніколі не быў патрыётам
праз сваю ганарлівасць,
і, нягледзячы на гэта, усё ж пайшоў на вайну,
і страціў нагу,
перспектыву калі-небудзь ажаніцца,
і цыгарэты “Космас”,
што выпалі з кішэні,
калі ён бег па ахопленым полымем лесе,
хто столькі чуйнаваў, што
і цяпер спіць і бачыць, як спіць.
хто прысніў сон, дзе яго красуня-жонка
была прыгожая да знявагі
і, не стрываўшы таго, прачнуўся.

пра іх я і пішу – пра гэтых людзей.

*Пераклаў з грузінскай Уладзімір АРЛОЎ*

## Георгій ШОНІЯ

* * *

Дух горада ваюе са мной,
дух горада забівае мяне.
Гаўно гэтага горада дух,
мой голас вырваны з кантэксту буржуазнага.
Ваюе ён з цела майго,
гучыць ён з цела майго,
трэба распаўсюдзіцца па горадзе,
горад ляжыць у летаргічным сне.

Мы расцем у нашым целе,
бо не прапусцілі нас у жыццё,
бо не маем мы аўсвайсу,
бо думалі мы, што натоўп і грамадства імпліцытна
сінанімічныя словы,

бо наш план на будучыню – ніякіх планаў не мець,
бо гарым мы ўсе дні наўсцяж.

Бо мы расплюшчылі нашыя вочы, без перспектывы заплюшчыць,
бо бог выйшаў з зоны пакрыцця,
бо бацькі зжэрлі ўсё як свінні
і пакінулі нас адных,
і пакінулі нас адных са званом без языка ў ліпкай цішы,
якая ліецца з вачэй стомленай маці,
вочы шукаюць спакою
у горадзе, які ляжыць у летаргічным сне.

* * *

З хваробаў, што існуюць у маёй галаве,
праз індывідуальна-радыкальныя ідэі,
я вылучыў мой намер –
паэзія толькі.

Я веру, што не існуе словаў для пачуццяў,
як не бывае марсіянаў
і вярблюда, які пралез у вушка голкі.
Бачу сонца нават з вагона цягніка ў тунэлі,
і часам я большы, чым проста Георгій Шонія.

Покуль яшчэ раздражняюць манерныя гаваруны
і размовы з Нарцысамі,
рэклама бясконцая, псеўдакасмапалітызм.

Альтруістычная натура не дае мне зрабіцца Габсекам
і ягоным малодшым братам містэрам Батлерам.
Я знайшоў цябе ў душэўных шчылінах,
як надзею на заўтрашні дзень,
як два квіткі з жыцця ў смерць.

Я пішу вершы, а значыць я існую.
Я існую, а значыць я пішу вершы.
Бо паэзія пачынаецца й цягнецца на вякі вечныя.
Гэта чаканне, чаканне чагосьці большага,
і вагоны поўныя пытанняў да сябе самога,
і гэта фікцыя,
і гэта абстракцыя,
і гэта субстанцыя,
і гэта галюцынацыя,
і гэта крэмацыя,
і гэта радыяцыя,
і гэта мутацыя,
і гэта рэінкарнацыя,
і гэта ізаляцыя,
і гэта рэабілітацыя.

І гэта перманентная акцыя супроць тыповай штодзённасці,
і енк у закладзеныя вушы,
бо землятрус далёка-далёка,
бо натуральна, землятрус спозніцца
і ты таксама спознішся,
і Гадо таксама спозніцца,
але ён абавязкова прыйдзе,
тады, калі мы стомімся ад чакання
і пакінем саміх сябе,
і зробімся іншымі,
і ўсё страціць сэнс,
і кожнае слова будзе каменем, кінутым у акіян,
і гэтая бясконцая малітва,
што пераходзіць у трызну,
і гэта будзе фарс іншых без нас.

Але ў гэты час Бог
ссуне аблокі, як фіранкі,
паглядзіць на нас
і будзе ганарыцца.

### *АБСУРДНЫ АБСАЛЮТ*

Бог памёр і нічога
Ніцшэ памёр і нічога таксама
ты памрэш і нічога
нічога ўсяму прыходзіць.

Памылкі ўсе сённяшнія нічога
і заўтрашнія нічога таксама
цыгарэты якія забіваюць мяне нічога
нічога каханне якое мне робіць нічога
нічога расстанне якое мне нічога не робіць
і паэзія таксама тое яшчэ нічога.

Нічога Дастаеўскі Кафка Камю
нічога памяць якая мяне душыць
нічога палітыка якая нас душыць
нічога людзі якія дыхаюць хоць ім і прыйшло ўжо нічога.

нічога знікненне з нашага цела

Нічога Ясенін Гранэлі Блок
і Шамугія таксама нічога
нічога адзінота віно і гарэлка
нічога камунізм майго бацькі
нічога мой неадукаваны лектар
нічога Трыстан дадаізм Тзара
і футурызм Марынэці
і анархізм Наома Хомскага таксама нічога.

Нічога тройца бітнікаў (Керуак, Гінзберг, Бероўз) і Чарлз Букоўскі
нічога Чэ Гевара і Мэрылін Манро
нічога сумнае жыццё што працягваецца
нічога гэты верш якім я дыхаю
і кожная хвіліна без цябе нічога.

нічога, нічога, нічога...

## *КАРАЦЕНЬКІ ВЕРШ ПРА МЯНЕ, ЦЯБЕ, НОБЕЛЯ І, ВЯДОМА Ж, ПРА БОГА*

Усе мае дзеянні бессэнсоўныя
І я губляю здольнасць да рацыянальнага ўспрыняцця самога сябе
(тут дапушчэнне, што я калісьці яе меў, такую здольнасць)
І я губляю рацыянальнае ўспрыняцце прадметаў
І рэчы губляюць цвёрдасць
І робяцца вязкімі
І мой пакой пачынае выглядаць як палатно сюррэаліста

Божа! Ты, які заўсёды маеш рацыю
Заўсёды выходзіш сухім з вады
Нашто табе патрэбны гэты фарс? – Укрыжаванне
Няўжо ж і без яго не ясна?

Я бягу
І падаю
І шукаю, хто мне падасць руку
Нябачную руку
Ты таксама нябачны
Праз гэта я ўздымаюся і бягу.

Я адчуваю, што губляю веру ў сябе
Страх нараджаецца ў маіх вачах
Як жа цяжка мне жыць ва ўласным целе
Але нягледзячы на ўсё гэта я не співаюся
Бо мне гэта вельмі банальна і сумна
Я веру, што калі-небудзь напішу постэкзістэнцыйны раман
За які атрымаю Нобелеўскую прэмію
І стану першым грузінскім пісьменнікам, які яе атрымаў
(толькі калі Паата Шамугія не атрымае яе першы)
І мяне ўзненавідзяць усе іншыя пісьменнікі
І кожны грузінскі пісьменнік пачне мне зайдросціць
Будуць пра мяне распаўсюджваць чуткі
Што я атрымаў Нобелеўскую прэмію з палітычных прычынаў
Што я пераспаў з усімі сябрамі журы
Што гэты (гэтыя) раманы былі напісаныя не мной
Але кімсьці з іх, і г.д.
І яны дадуць мне шмат грошай
Я змагу набыць сабе Ямаху

І набуду дом, далёка, далёка адсюль
Дзесьці на Фіджы
Дзе я буду ўвесь час паліць каноплі
Пісаць раманы пра згубленага “мяне”
Слухаць, як ты граеш на Ямасе
І пры жаданні часам мы будзем займацца сэксам
І мы будзем добрымі, наколькі зможам
Задаволенымі, наколькі зможам
І шчаслівымі, натуральна, наколькі зможам.

### *НІЯКАГА СУ-ЖЫЦЦЯ*

Не думаю, што мушу любіць Радзіму,
Незважаючы
На лічбу (у літрах крыві пралітай маімі продкамі),

Не думаю, што людзей трэба паважаць
Незалежна ад іх пазіцыі,
Вінавацяць мяне ў вузкім разуменні гуманізму
Ці нават у мізантропіі,
А я не думаю, што ліберасты маюць рацыю,
Сам я – сацыял-анархіст.

Не думаю, што Бог памёр!
Ці калі-небудзь існаваў,
Сказаць па праўдзе, мне да аднаго месца!
Я не думаю, што час дада мінуў,
Дада – гэта так! і нават так! так!
Дада – паэзія,
Дада рухаецца ў маім целе,
Цвярозіць думкі, прасякнутыя нікацінам, алкаголем
і іншай трасцай

Не думаю, што з досведам прыйдзе мудрасць!
Досвед – гэта проста прыгожая назва калектыўнай мудрасці.
Не думаю, што твае грудкі найпрыгажэйшыя ў свеце,
Проста ніхто больш не дае іх памацаць,
Не думаю, што ўжо гатовы разглядаць цябе,
Не можа гэта быць неабходнай умоваю,
Не хачу я быць тваім каханкам.
(Таму што каханне – гэта нявызначанасць,
Я заўсёды намагаюся збегчы ад нявызначанасцяў,
Тым не менш гэты верш паўстаў з нявызначанасці.)

Не думаю, што бывае нешта святое,
Апроч маіх уласных эмоцыяў,
Якія паходзяць збольшага ад стомы ў маім целе
І яшчэ з маіх экзістэнцыйных страхаў,
Я пазбягаю іх выказваць...

Я не думаю,
Што паэзія XXI стагоддзя зробіць штосьці істотнае,
Але – да гэтага часу – я не знайшоў лепшага спосабу
Самаідэнтыфікацыі.

*Пераклаў з грузінскай Андрэй АДАМОВІЧ*

## Лаша ДЖАЯНІ

* * *

Стаю між пяці сценаў, застыўшы ў сёмай,
не ў стане абраць чыйсьці бок, у час, як астатнія,
не здолеўшы пераканаць, пакідаюць мяне
сабакам, што парвуць на шматкі маё цела.

Не збягаю, чакаючы ўдачу, або няўдачу,
але найболей – яснасці ў варыянтах.
Хочацца ванітаваць ад бясконцых мітынгаў
і прагі пагромаў – або ўсё-такі збегчы.

І пераможца, які адолее пераможцу,
адолее толькі сябе самога.
Ніхто не ў праве прамовіць: “Гэта мая параза”,
бо гэта – як смерць.

* * *

Калі нават апошні святлафор у горадзе
захварэе на жаўтуху,
як і я – тры гады таму,
мы не спынімся, але і не будзем рухацца –
адно паспрабуем зрабіць гэты крок.

Я паспрабую наноў адчуць цябе,
згадаю пра блуканні ўздоўж мора,
бо памятаю:
ты пахнеш як дзённы брыз.

Сцены аднойчы высахнуць.
Толькі пот і боль,
боль падманутых чаканняў.
Не прыду, каб проста ўбачыць цябе,
бо я й не сыходзіў нікуды.

Выкарыстоўваць не варта дурныя словы,
як і – адно аднаго.
Расправіш свае валасы, нібы крылы,
і мы будзем адны і адно.

Калі нават апошні святлафор у горадзе
захварэе на жаўтуху,
я першым зраблю гэты крок –
у спадзеве, што ты за мною не пойдзеш.

* * *

Зноў я іду па дарозе,
што не здавалася адзінокай.
Вецер дадае зморшчынаў на твары,
і на чэрапе праступаюць імёны
прыгожых жанчын.
Я прасіў, каб Бог пачуў мае просьбы,
нічога такога (як і ў астатніх) –
усяго толькі сухоты і СНІД,
каб лежачы ў дыспансеры, прыгадваць свае радкі.
Валяр'ян меў рацыю –
і валяр'яна ўратуе.

І калі ў пісьменніка напраўду бывае кар'ера,
вяршыняй яе будзе смерць –
у пакутах, вядома ж.
Я лянотна прасіў Бога пра гэта,
ведаючы, што ўсё дарэмна,
бо Ён у мяне не верыць.

Кюветы ўзрытыя маімі радкамі.
На карыес,
што не лекуецца крэмам або бальзамам,
быў я хворы.
Быў – і – я.

Бо, як Гі дэ Мапасан,
чаму б і не... Я нябачны
і прагну толькі смерці,
каб жыць у вачах жывых,
дасягаючы іх думак,
зусім пазбавіцца вагі,
як мэр Тбілісі з гэтай сваёй дыетай.

Ідучы, я чуў,
як бацькі захоплена пляскаюць паэту –
душэўная радня...
І душы родных...

І адзіны знак прыпынку
ёсць маім вызначэннем –
працяжнік, за якім няма даты.
Паэт мусіць быць мёртвы,
ён інакай не можа.

І хай будзе вецер
развіваць валасы, нагадваючы пра аблічча
і імёны, якія я прагнуў забыць.

Вось і ўсё,
што мусіў прамовіць
і адпусціць,
і нават болей, але
мае пальцы стаміліся,
і я стаміўся чакаць, калі Бог пачуе мае просьбы,
ды накіруе мяне ў дыспансер для сухотнікаў
паміраць у модных пакутах.

Галодны і ўзрушаны,
пільнуючы моду смерці,
іду па дарозе
да будучыні.

*Пераклаў з грузінскай Віталь РЫЖКОЎ*

## Аміран СВІМАНІШВІЛІ

### *ПАЛЯЎНІЧЫ Й КАЗУЛЯ НІЯЛА*

Нанга Ніяла, нінга Ніяла
на камяністай сцежцы стаяла.

Я твая сцежка, нанга Ніяла.
Сонечны поўдзень выпусціў джала.

Нанга Ніяла, нінга Ніяла,
летняе неба золатам ззяла.

Я тваё лета й сонца мне мала
ў позірку любым, нанга Ніяла.

З берагу поўня выйшла ад шалу,
ў вочы глядзела, бы запрашала

даць у пазыку ўсё, што музыку
сонца кахання дасць у пазыку.

*Пераклаў з грузінскай Андрэй ХАДАНОВІЧ*

* * *

Маўчання подых стрыманы
імгненне перарве,
Ад бляску золата
марнее вытанчанае вока,
І да мяжы начы і дня
кароль наўрад ці дажыве,
Над мармурам састыне
адбітак сонца адзінокі.

* * *

Трывогу ночы засцілае
сіне-зялёны дым.
Мой човен стомлены
гайдае жарсць вады
з двух мораў.
З глыбокай кроплі выцякае
ноч Басфорам.
Так, скораны, я некалі сканаю —
на гэтым беразе, альбо на тым.

*Пераклаў з грузінскай Віталь РЫЖКОЎ*



**Ніка Джарджанэлі** – паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Тбілісі. Скончыў Тбіліскі ўніверсітэт імя І. Джавахішвілі, факультэт заходнееўрапейскіх моваў і літаратур па спецыяльнасці германістыка. Выкладаў нямецкую мову ў школе, грузінскую – у Маскоўскім лінгвістычным універсітэце. Аўтар кнігі вершаў "Раздражненне ад аксаміту" (2003). Лаўрэат міжнароднай узнагароды "Содружество дебютов" (2008).



**Лаша Джаяні** – паэт. Нарадзіўся ў 1992 годзе ў Галі (Абхазія, Грузія). Студэнт Тбіліскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жыве ў Тбілісі.



**Ната Інгораква** – паэтка і перакладчыца. Аўтарка двух паэтычных зборнікаў, выдадзеных у 2003 і 2011 гг. Перакладала на грузінскую мову паэзію Райнэра Марыя Рыльке. Вершы Наты Інгораквы перакладаліся на рускую, нямецкую, ангельскую мовы. Яе творы стала друкуюцца ў перыядычных выданнях. Працуе галоўным рэдактарам часопіса "Масцаўлебэлі" і анлайн-газеты "mastsavlebeli.ge".



**Аміран (Пака) Свіманішвілі** – паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1974 годзе ў Тбілісі. У 1996 годзе скончыў Дзяржаўны інстытут імя І. Чавчавадзэ. Аўтар кніг: "Пазычанае святло", "Роднае месца", "Я прыйшоў як цень". Памёр у 2014 годзе.



**Паата Шамугія** – паэт. Нарадзіўся ў Абхазіі (Грузія) ў 1983 годзе. Яго родны горад – Галі. Скончыў Тбіліскі дзяржаўны універсітэт. Аўтар дзвюх паэтычных кніг. Лаўрэат прэміі "Саба". Сябра Грузінскага ПЭН-цэнтру.



**Георгій (Гага) Шонія** – паэт, нарадзіўся ў 1991 годзе ў Зугдзідзі (Заходняя Грузія). У 2010 годзе паступіў у Тбіліскі дзяржаўны ўніверсітэт на факультэт бізнэс-адміністравання. Сярод улюбёных пісьменнікаў Георгія: Дастаеўскі, Гесэ, Кафка і Камю.

# Мары Кона



...ніколі ў жыцці
яны не бачылі снег
разгортваюцца
бутоны магноліі...

# Ці не балюча ім так?

## 16 рэбусаў на лета

Калі б я яшчэ вучылася ў школе і вераснем мне давялося б пісаць сачыненне на ўсім нам знаёмую тэму “Як я правяла гэтае лета”, я напісала б пра 16 японскіх рэбусаў, якія мне пашэнціла разгадваць. Менавіта такая метафара вымалёўваецца ў маёй фантазіі, калі ўзгадваю, як я перакладала танкі японскай паэткі Мары Кона.

З Мары-сан мы пазнаёміліся яшчэ ў 2010 годзе ў латышскім горадзе Вентспілсе, куды яна, як і я, прыехала на пісьменніцкую стыпендыю. І хто б мог падумаць, што ў мінулым годзе мая японская знаёмая вырашыць наведаць Мінск? Даведаўшыся пра гэта, я прапанавала Мары-сан выступ, яна ласкава пагадзілася. Заставалася справа за “малым” – перакласці ейныя вершы на беларускую мову. І пачалася праца...

З першага разу можа падацца, што танка (як форма верша) нездарма сугучна слову танк (віду баявой машыны), якое пужае сваёй маналітнасцю і няведаннем, як да яго падступіцца. У перакладзе з японскай “танка” значыць “кароткая песня”, і

*Пераклала з японскай Вольга ГАПЕЕВА.*

*Пераклад зроблены па выданні* 星状六花 *Hoshijo-rokka, 2010.*

*Здымак Вольгі БУБІЧ.*

звычайна выбудоўваецца па схеме, згодна з якой у вершы павінна быць пяць радкоў, у кожным з якіх па 5-7-5-7-7 складоў адпаведна. Лічыцца, што рыфмы ў танках быць не павінна. Я запытала ў Мары-сан, ці так гэта. Яна спачатку не зразумела, а потым патлумачыла, што часам рыфма можа гучаць ненатуральна, "роблена", так бы мовіць, і, адпаведна, штучна, а штучнасць не може быць прыгожай. Вось такая сувязь паміж натуральнасцю і прыгажосцю.

Адметнасцю танкаў Мары Кона з'яўляецца тое, што паэтка, выкарыстоўваючы старую форму пісьма, піша пра самыя актуальныя падзеі: экалагічныя катастрофы і тэхнагенны фактар. Для яе – усё павязана ў прыродзе і, як сама яна адзначае, "мне падабаецца думаць, што калісьці я была сняжынкай на вейку нованароджанага маманцяняці". Такая кранальнасць і светапогляд – і ёсць паэзія, кожны раз датыкаючыся да якой, сэрца сціскаецца ад неверагоднай, але сапраўднай прыгажосці.

Для перакладчыка вялікая ўдача і радасць, калі ёсць магчымасць спраўдзіць некаторыя моманты з аўтаркай, калі можна спытаць незразумелыя да канца рэчы, ці проста стаць чалавекам, які падзяляе таямніцу верша або радка. Інтэрпрэтацыя – тое, на што мы ўсе, як чытачы, маем права, і хто сказаў, што я мушу чытаць гэты верш так, і толькі так, як задумвала яго аўтарка? Слушна. Але ў перакладчыка ёсць пэўная адказнасць перад першакрыніцай. І хоць перакладчык – таксама інтэрпрэтатар, аднак усё ж спачатку ён ці яна мусяць зразумець, даведацца пра задуму/ідэю тэксту і толькі потым, усведамляючы сваю адказнасць за "пераказ", інтэрпрэтаваць. Кожны перакладчык сам вырашае, што яму/ёй пасля рабіць з гэтай таямніцай (якая адкрылася), але адчуванне таго, што ты ведаеш нешта тое, што было пачаткам ці каркасам, пакідае салодкае адчуванне, нейкую дзіўную прыналежнасць да твора і змоўніцкую усмешку ва ўласнай душы.

У паэзіі Мары-сан шмат чаго ўражвае, распавяду толькі адзін прыклад. Танка пра магнолію і снег. Здаецца, і пераклад быў гатовы, і ўсе словы былі зразумелыя, аднак асабіста для мяне заставаўся зазор – мяне хвалявала пытанне, чаму ж бутонам магноліі можа быць балюча разгортвацца, калі раней яны не бачылі снег? Я пішу пытанне Мары-сан, і неўзабаве атрымліваю адказ: калі зімой мала снегу, гэта шкодна для раслінаў, яны не назапашваюць патрэбную ім колькасць вільгаці, і таму ўвесну, як надыдзе час распускацца, гэта можа стацца няпростай (балючай) справай для іх. Такая глыбіня разумення навакольнай прыроды мяне вельмі ўразіла і яшчэ раз нагадала пра тое, што паэтычнасць кароткіх формаў патрабуе асаблівай увагі і часу для таго, каб яе адчуць і зразумець.

**Вольга ГАПЕЕВА**

* * *

кім бы заўгодна
ён мог нарадзіцца, бо
працьму *if** мае
але на маіх руках
ён дзіця чалавека

* * *

хістанне галін
уздымаю галаву

---

* Калі (*анг.*).

дзіця аленя
прыгожымі зрэнкамі
назірае за мною

* * *

узіраемся
адно ў адное, алень
дзе чалавек дзе
у рыфтавай даліне
яны дзве жывёліны

* * *

вельмі павольна
адгарнула старонку
а там спакваля
ў лес тумановы бяжыць
з-пад спуду алянё

* * *

проці мовы і
проці жанчын і мужчын
удых я раблю
тут на зямлі глыбіня
веснавога паветра

* * *

бялёсае штось
у самым куце вясны
нерасталае
кроплямі сочыцца каб
патрапіць у мае сны

* * *

ніколі ў жыцці
яны не бачылі снег
разгортваюцца
бутоны магноліі
ці не балюча ім так?

рабавалі войскі, якім з тылу перасталі вазіць правізію, бо ўвесь транспарт быў заняты падвозам боепрыпасаў – рыхтаваўся «бросок на Балканы». Высялялася даўжэзная 15-цікіламетровая паласа па ўсёй Малдавіі. Але ж заставалася яшчэ і віно, якога таксама было ў кожнага гаспадара і якое нельга было ўзяць на адну фурманку. Віно закопвалі. Але наіўныя былі тыя малдаване – хіба ад савецкага салдата можна схаваць віно? У кожнага салдата пры вінтоўцы быў шомпал, які выдатна выконваў ролю вінашукальніка. Праз якіх дзён дзесяць раскапалі і выпілі ўсё. Часам між п'янымі салдатамі ўзнікалі бойкі і нават перастрэлкі, за віно і за хаты таксама. Гэта калі адны часці яшчэ не з'ехалі, а іншыя прыехалі і патрабуюць жытла. Часта прыязджала палкавое начальства – пракантраляваць і выпіць таксама, пакуль яшчэ было што.

*А. А.:* І доўга ты быў камендантам?

*В. Б.:* З месяц ці болей. Жыў у хаце псаломшчыка, у якога засталося шмат старых рускіх кніжак, і я чытаў там «Так говорил Заратустра» і яшчэ нешта з антычных аўтараў, вядома, у перакладзе на рускую. Хоць і вайна, але цягнула да ведаў, да культуры, якія не дабраліся за мірным часам. Было пагоднае лета, стаялі цёплыя паўднёвыя ночы. І да мяне прыходзіла адна сястрычка з інжынернага, якую я частаваў грэцкімі арэхамі і малдаўскім віном. І мы padoўгу гутарылі пра літаратуру, мастацтва. Яна распавядала пра сваё даваеннае жыццё ў зялёнай Звянігарадцы, адкуль была родам.

Гэтай парой мне споўнілася дваццаць гадоў, яшчэ я не ведаў жанчыны і дужа ашчадна адносіўся да нечаканага пяшчотнага пачуцця. Тым болей першага і гэткага нечаканага. Але неяк прыйшоў незнаёмы лейтэнант, з выгляду старэйшы за мяне, і прадставіўся: "Уполномоченный контрразведки СМЕРШ. Слышали, что такое СМЕРШ?" Так, я што-нішто чуў пра той яго СМЕРШ, але што яму трэба? А яму трэба ведаць пра нашыя адносіны з чырвонаармейцам Насценькай. Бо гэта справа бяспекі. А я, дурань, думаў, што гэта асабістая справа... Але ўсё ж нарэшце аказалася, што асабістая, бо, як пасля паведаміла мне чырвонаармеец Насценька, той смершавец меў на мэце яе перш за ўсё як дзяўчыну. Праз якіх-небудзь дзён дзесяць той інжынерны батальён з'ехаў на іншы ўчастак, і пачалося ў мяне пакутнае, ледзьве не штодзённае ліставанне. Здавалася, увесь сэнс жыцця залежаў ад таго, як хутка будзе ад яе ліст. Але, як правільна зазначана кімсьці, каханне – казачка з заўсёды сумным канцом.

Там жа крыху пазней і ў іншай вёсцы мяне хацелі судзіць. Ужо завялі справу, прыязджаў следчы з вайсковай пракуратуры. А здарылася тое, што мае салдаты ўлезлі ў царкву. З рэлігіяй жа, вядома, як у нас абыходзіліся: то з ёй змагаліся на знішчэнне, то часам адпускалі пятлю на царкоўнай шыі. У вайну якраз адпусцілі, а салдаты таго не ўлічылі, і я разам з імі. Салдаты зламалі замок і ўлезлі паглядзець на святых, а болей – па паперу. Там былі царкоўныя кнігі і ў іх чыстыя старонкі, якія павыдзіралі на пісьмы да бацькоў і жонак; ніякай жа паперы нам не давалі. Курцоў выручалі франтавыя газеты, якія надта цаніліся з тае прычыны, але ж на газетах пісьма не напішаш. Дык вось папы паскардзіліся палітрукам, а тыя – у пракуратуру, і мяне абвінавацілі, што не ўпільнаваў царкву. Але неяк абышлося. Пачаўся вялікі наступ, стала не да царквы, бурыліся гарады і сёлы.

Якраз перад наступам атрымаў першы ліст ад бацькоў – гэта пасля трох год абсалютнага бязвесця. Парадаваўся, што ўсе жывыя, хата не спаленая. Сястру Валю вывозілі ў Нямеччыну, але яна была вёрткаю, сястрыца, і ўцякла з-пад канвою. Яны таксама нічога не ведалі пра мяне і парадаваліся майму лісту, – што жывы. А так за тыдзень да майго ліста атрымалі «пахаронку», гэта праз тыя баі, пад Кіраваградам. Зрэшты, тая «пахаронка» яшчэ мела малапрыемны працяг праз шмат год пасля вайны.

<...>

*А. А.:* Ну, а што ты яшчэ не сказаў? Што б табе хацелася яшчэ сказаць у аповесці? Не якія аповесці напісаць, а вось менавіта, што сказаць?

*В. Б.:* Хацелася б сказаць шмат што, але як? Тут, бачыш, узнікае важная для мастацтва праблема (ці двуадзінства праблемы) – што і як. Калі выразна бачыш – што, дык ніяк не знаходзіцца – як. Добра, калі тое ды іншае гарманічна спалучаюцца, толькі тады і атрымліваецца высокамастацкі твор. Мабыць, гэта вядома кожнаму літаратару, і тады на дапамогу прыходзіць уяўленне. Проста кажучы, метад сачыніцельства. Можа быць, я – больш сачыніцель, але не саромеюся ў тым прызнацца, бо раней за мяне ў тым прызнаўся Хемінгуэй. Ды й Горкага Талстой называў сачыніцелем. Цікава, у якой меры ім быў і сам Талстой, які столькі напісаў на аснове ведаў.

*А. А.:* Тое ж гаварыў і Хемінгуэй.

*В. Б.:* Але мой франтавы вопыт усё ж кепска адпавядае маім літаратурным мэтам.

*А. А.:* Чаму?

*В. Б.:* Ведаеш, гэта ўсё ж мала цікава – баі, скажам. Ну што там? Агонь, смерць. Ты не бачыш, хто цябе забівае, завошта? Так сказаць, ананімная смерць. Літаратуры патрэбны псіхалагізм, а тут які псіхалагізм, калі няма выбару? У нашым грамадстве наогул кепска з выбарам, мабыць, таму і не знайшоў у ёй месца папулярны на Захадзе экзістэнцыялізм. Іншая справа – партызанская рэчаіснасць, калі ў ёй не шукаць вялікую праўду. Сумніўная гэта справа – шукаць праўду на вайне. Ты ж сам пісаў, што як пачынаецца вайна, першаю яе ахвярай падае праўда. Але ў іншых адносінах партызанка дае большыя магчымасці...

*А. А.:* Бо дае прастор для сачыніцельства.

*В. Б.:* Хоць бы і так.

*А. А.:* А што б табе хацелася яшчэ сказаць, бо пакуль не ўдалося ці не паспеў? Наступнымі рэчамі сказаць? Не канкрэтна, а так, у філасофскім плане.

*В. Б.:* Хацелася б на нейкім матэрыяле (не абавязкова на матэрыяле вайны) крануць агульначалавечую праблему жыцця і смерці. Не толькі на ўзроўні ўзаемаадносінаў, а ў нейкім больш абагульненым, абстрактным сэнсе. Канечне, тут шмат напісана ўсімі літаратурамі свету, але разумныя людзі пішуць, што недзе, перад нейкім рубяжом літаратура спынілася і баіцца зазірнуць далей. Відаць, ёсць мяжа пазнання чалавека, перад якой пасуе нават вялікая культура Захаду. Можа, тут быў бы плённы культурасофскі вопыт Усходу? Вядома, не камуністычны Мао Цзэдуна, а хутчэй старажытнага Канфуцыя. А калі з заходнікаў, дык хоць бы Германа Гесэ ці Эрнеста Фенелодза.

*А. А.:* Ясна, ясна...

*В. Б.:* Ёсць у мяне розныя нарыхтоўкі, пражэкты, некаторыя намеры. Хаця, вядома, куды вядуць добрыя намеры...

*А. А.:* Ну, вось я ведаю, каго што мучыць. Напрыклад, Чарнічэнку мучыць нашая сельская гаспадарка. Казько зараз мучыць экалогія. Мяне мучыць: выжывем ці не выжывем. А што цябе мучыць?

*В. Б.:* Мяне цяпер і заўжды мучыла, калі можна так сказаць, праблема свабоды. Найперш свабоды асобы. Яе залежнасць ад соцыўма, ад палітыкі, ад праклятых акалічнасцяў жыцця. Чалавек заўжды сціснуты з двух, а то і з чатырох бакоў самымі рознымі абставінамі, як знешняга, так і ўнутранага кшталту. У тым ліку і маральнага. Вядома, што за мараль нярэдка падаецца падфарбаваны амаралізм, толькі бальшыня людзей не ведае таго. І нават не здагадваецца. Людзі думаюць, што калі гэта ідзе ад навукі, асветы, тым болей улады, дык тое і добра, тое і маральна. Ніколі, я думаю, ў нашым свеце ці ў нашай гісторыі не было гэткіх таталітарных абставінаў, як тыя, што мы перажываем у дваццатым стагоддзі...

*А. А.:* Чалавецтва ці?...

*В. Б.:* Мы асабліва. Пад цяжарам гэтых абставінаў гнуцца цэлыя класы, саслоўі, а то і нацыі. Рэдка які чалавек, прайшоўшы такі жорсткі працэс скрыўлення, захоўвае сваё боскае Я, не ламаецца. Усё тое вельмі драматычна і, мабыць, важна для мастацтва.

*А. А.:* І ў чым ты хочаш пераканаць чалавека і чалавецтва?

*В. Б.:* Ці бачыш якая справа... Пераконваць чалавека, тым больш чалавецтва – марная справа. Я не збіраюся даказваць, што чалавек – гэта гучыць горда, што ён усё можа і створаны для шчасця, як птушка для палёту...

*А. А.:* Так. Што чалавек гучыць горда – гэта не твой дэвіз?

*В. Б.:* Я думаю, болей правільна сказаць, што чалавек гучыць кожны па-рознаму. Чалавек гэты... Увесь сусвет у чалавеку. Але, як ужо сказана, пад грузам знешніх абставінаў ён можа быць і такім, і гэткім. А ідэал чалавека, як сказаў Дастаеўскі, заўсёды супрацьлеглы ягонай натуры, во ў чым праблема.

*А. А.:* Дык вось, што ты хочаш сказаць людзям? Тое, што ў іх закладзены магчымасці перамагчы ўсе свае заганы? Якую ты ставіш сабе мэту? Пасароміць іх? Што вы такія слабакі? Вось ты камандзірам быў, па-рознаму да байцоў сваіх звяртаўся...

*В. Б.:* Не, у мяне не можа быць гэткіх грандыёзных задач. Тым болей, што я не прапаведнік і не авантурыст, я і сам не ведаю, як трэба. Хіба як не трэба – тое я трохі ведаю. Хоць бы з уласнага вопыту. Паказаць чалавеку, які ён ёсць.

*А. А.:* І які ж ён ёсць?

*В. Б.:* Такі, які ёсць. Паказаць без усякіх заклікаў і дыдактыкі.

*А. А.:* Правільна.

*В. Б.:* Каб ён сябе ўбачыў і што-нішто зразумеў. Хоць кропельку, хоць нейкую рысу – найбольш з сябе непрыгожага. Тое, магчыма, дало б надзею.

*А. А.:* А веданне ў цябе ёсць ці ты ў працэсе самой працы пазнаеш чалавека? Ёсць у цябе канчатковае веданне? Ці ты пішаш аповесць і гэтым самым пазнаеш?

*В. Б.:* Ёсць пэўнае разуменне, можа быць, суб’ектыўнае. А канчатковае веданне – у каго яно ёсць? Хіба ў Госпада Бога?

*А. А.:* Ах, вось як! Тады я лаўлю цябе на гэтым. Скажы, што ты загадзя ведаеш пра чалавека? Калі б цябе паклікаў Гасподзь Бог і сказаў: вось я ўжо не магу разабрацца ў гэтым сваім стварэнні, хай яно праваліцца, растлумач ты мне, што такое чалавек?

*В. Б.:* Дык вось зноў паўтараю, я б сказаў яму: о, Госпадзі, у чалавеку, як і ў тваім свеце, такое багацце ўсяго, добрага і кепскага, што калі ты не можаш разабрацца ў ім, дык не разбярэцца ніхто.

*А. А.:* Чаго больш, чаго менш?

*В. Б.:* Як у каго – у залежнасці таксама ад класавай, партыйнай, сацыяльнай прыналежнасці. Адзін чалавек замешаны на дабры, другі пераважна на зле. Потым у кожнага чалавека ёсць пэўная доля таго ды іншага. Канечне, хацелася б, каб добрага было болей, каб яно перамагала зло. На працягу стагоддзяў, мабыць, усе рэлігіі толькі тым і займаліся, але вынік стаўся мізэрны. Стагоддзе таму людзей забівалі тысячамі, а пасля мільёнамі... Напэўна, усё ж самае дзейснае – прымусіць чалавека зазірнуць у сябе, убачыць, які ён ёсць на справе – з усім агідным і добрым, можа, тады ён зробіць які-небудзь выбар. Але ўся бяда ў тым, што чалавек – надта сарамлівая істота і не любіць заглядваць у сябе, тое непрыемна яму і мала цікава...

*А. А.:* Лепей у чужую каструлю зазірне...

*В. Б.:* Менавіта так. Свая каструля для яго – прадмет найбольшага клопату, але не ён сам. Ён сам для кожнага – абсалют, цалкам аўтаномны суб’ект. Дык вось, на маю думку, мастацтва яшчэ можа нешта давесці чалавеку пра яго, чалавечую

сутнасць. Калі тое здарыцца, можна чакаць, што чалавек паразумнее. Бо што яшчэ можа прымусіць яго паразумнець? Масавая свядомасць? Партыйныя ідэалы? Чаго дамаглася масавая свядомасць у гісторыі, мы ўжо ведаем, самі былі сведкамі. Партыі надта эгаістычныя стварэнні, кожнай з іх найперш трэба ўлада як сродак дзеля даволі сумніўных спраў. Толькі мастацтва і літаратура імкнуцца (могуць імкнуцца) не да ўлады – да ісціны. Але тут з'яўляецца новая і спрадвечная праблема: што ёсць ісціна? Мабыць, гэта зноў надта індывідуальная рэч – розная на кожным гістарычным этапе, для кожнае нацыі і асобы.

*А. А.:* Ясна...

*В. Б.:* Лепей бы грамадства слухала і шанавала сваіх мастакоў, гуманістаў, чым апантаных палітыкаў. Ужо хоць бы таму, што першыя не дамагаюцца для сябе карысці (хіба скарынку хлеба), у той час як апошнія дамагаюцца ўлады, у якой для іх няма меры. Некаторыя ў сваёй уладарнай прагнасці даходзяць да знішчэння падуладных, а то і да самазнішчэння. У літаратуры такое здараецца рэдка.

*А. А.:* А вось хто ў гэтым сэнсе для цябе мог бы быць прыкладам? Неабавязкова прыклад літаратуры, але тыя, якія трымаюць люстэрка перад чалавекам і кажуць: «Вось глядзі, гэта ты».

*В. Б.:* Найперш, аднак, з літаратуры. На мой пагляд, самыя дакладныя люстэркі – усё ж Талстой і Дастаеўскі. Калі з пазнейшых, дык я назваў бы аўтараў так званага «магічнага рэалізму», хоць бы Маркеса. Вялікі гуманіст Альберт Швейцар.

*А. А.:* А з нашых, савецкіх? Як ты на «Майстра і Маргарыту» глядзіш?

*В. Б.:* Разумееш, можа, гэта і добры твор (напэўна ж, выдатны), але, на мой погляд, занадта інтэлігентны і мудрагелісты. Філасофскі, вядома ж, але і сумніўны, як і кожная філасофія.

*А. А.:* А «Ціхі Дон»?

*В. Б.:* Ну, гэта іншая справа. «Ціхі Дон» у сэнсе ўсяленскай разні – унікальная кніга. Дакладнае люстэрка дабра і зла ў чалавеку, знявечанага рэвалюцыйным гвалтам.

*А. А.:* Ну, а паэты табе што-небудзь гавораць?

*В. Б.:* Паэты, чаму ж не... Якіх ты маеш на ўвазе паэтаў?

*А. А.:* Наогул паэзія. Я, скажам, ведаю, што такое для цябе тэатр. Ну, а паэзія?

*В. Б.:* Паэзія, канечне, выдатны літаратурны жанр. Але, як пісаў разумны Артэга-і-Гасэт, – я аддаю перавагу прозе, якая ёсць стадыя сталасці, што чалавецтва дасягае пасля доўгіх паэтычных гульняў. Зноў жа памятаю, як вызначаў пісанне вершаў Талстой – як танцы за бараной у полі. Канечне, гэта іранічная метафара, я паважаю паэзію. Нават некаторых паэтаў... Напрыклад, маіх сяброў і выдатных маэстра слова Акуджаву, Еўтушэнку, з беларускіх – Барадуліна, Бураўкіна, Гілевіча... Не кажучы ўжо пра класікаў. <...>

Васіль Быкаў



...перавыдаваць старыя рэчы,
каб на іх рабіла бізнес выдавецтва,
і атрымліваць за іх капейкі я не хачу...

# Дзякаваць богу, ёсць яшчэ на свеце сяброўства

***Лісты з Гародні (1963-1977)***

*Працяг. Пачатак у №2 (69)*

*Публікацыя і каментары Сяргея ШАПРАНА.*

***1972 год***

МІКАЛАЮ ПАШКЕВІЧУ[1]

*[20 студзеня (?) 1972 г.]*

Дарагі Мікалай, як ты?

Быў у Мінску на пленуме, які ўвогуле прайшоў ціха і звычайна, але там многія агульныя сябры пыталіся і ўспаміналі цябе. Усе вельмі засмучаны і спачуваюць, і вельмі жадаюць хутчэйшай папраўкі[2] – дзеля жыцця, спраў, работы, якой шмат і якая надта важна цяпер ды і заўсёды. Таму, браце, мацуйся,

[1] Пашкевіч Мікалай Арсеньевіч (1936-1972) – беларускі педагог, літаратуразнавец, краязнавец.

[2] М. Пашкевіч хварэў на анкалогію.

намагайся, адольвай хваробу. Па вясне можа і пад'едзем і яшчэ вып'ем па чарцы за перамогу і здароўе.

Абнімаю, *Васіль.*

Рукапісная паштоўка без даты. На штэмпелі – 20.01(?). 1972 г. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 55. Воп. 1. Адз. зах. 168. Арк. 11.

* * *

Дарагі Мікалаю!

Вельмі ўзрадвала мяне Ваша пісьмо, хоць, вядома, там шмат труднага (не дай бог!), але там ёсць надзея, вестка пра лепшае, пра папраўку – дай Вам божа нeяк ачуняць, выкарабкацца з хваробы і яшчэ шмат-шмат зрабіць дзеля культуры, чалавечнасці і праўды. Рабіць трэба так многа, а рабіць няма каму, толькі дзе-нідзе засталіся энтузіясты – на іх усё трымаецца. Іншыя ж т. зв. сельскія інтэлігенты больш дбаюць пра гадзіны, парсюкоў, «масквічы»... Таму калі яшчэ дзе што ёсць, не дай бог каб гэтае што нішчылася не толькі людзьмі, але і богам, хваробамі. За час Вашае хваробы я гутарыў з Лойкам[1] і іншымі, усе вельмі засмучаны і ўсе надта жадалі, каб настала палёгка, можа бог і пачуў... Хаця ён не заўжды чуе, вось Аляксандр Трыфанавіч[2] не дачакаўся, пасля пакут памёр, як найвялікшы ў Саюзе грэшнік, гэты самы святы чалавек. Пахавалі на Нова-Дзевіч'ем, у апошнім радзе побач з магілай (праз крокаў 15) Н. Хрушчова[3]. Жалобы было нямала, але некаторыя і радаваліся, некаторым ён засеў у касцях – не нарадаваліся.

Браце Мікола, мацуйцеся! Трывайце, не здавайцеся. Трэба перамагчы, адолець гэтую зіму, а там на ясным сонейку будзе лепш. Загляне сонца і ў наша аконца!

Я абдымаю Вас з наймацнейшым жаданнем паправіцца.

Калі ласка...

Ваш *Васіль.*

Маё самае шчырае шанаванне Вашым – маці, бацьку, жонцы.

*23 студзеня 72 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 55. Воп. 1. Адз. зах. 168. Арк. 12-12 ад.

## ГРЫГОРЫЮ БАКЛАНАВУ

*12 марта 72 г.*

Гриша, дорогой дружище!

Ну вот и замкнулся какой-то круг моей жизни, начатый ровно 10 лет назад, когда в «Литературной газете» я прочитал первую мою московскую рецензию на «Третью ракету» за твоей подписью[3]. Теперь в «Комсомолке»[4] ... Вчера мне

[1] Лойка Алег Антонавіч (1931-2008) – беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец, педагог.

[2] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910-1971) – расійскі паэт; галоўны рэдактар часопіса «Новый мир» (1950-1954, 1958-1970).

[3] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894-1971) – савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч, 1-шы сакратар ЦК КПСС (1953-1964), старшыня Савета міністраў СССР (1958–1964).

[4] Бакланов Г. Мужественная повесть // Литературная газета. 1962. 1 марта.

[5] У рэцэнзіі на аповесць «Абеліск» (Новый мир. 1972. № 1; пер. на рускую мову Г. Куранёвай) Г. Бакланаў пісаў у прыватнасці: «Литература, как известно, [...] рассказывает об одном событии или даже об одном человеке, но так, что этот рассказ вмещает судьбы многих и проблемы, не снятые временем. Такая книга вступает в особые отношения с читателем. Вне зависимости от его профессии, круга специальных интересов, она оказывается книгой про него тоже, поскольку будит в человеке человеческое, задает те самые вопросы, которые должна

позвонили, но я только сегодня нашел газету, прочитал и как-то растрогался прямо – не от твоей похвалы, разумеется (хотя и похвала твоя очень много для меня значит), а от чего-то другого. Наверно, от той духовной или, может, душевной общности, которая не исчезла, а еще укрепилась за это, что и говорить, трудное, многих навсегда разделившее десятилетие. Я очень рад буду, если все это останется с нами и впредь, может, это – единственная стоящая ценность в наш весьма немилосердный век. Я очень много сказал бы тебе хороших моих благодарственных слов, но боюсь сентиментальностей, а главное – надеюсь, что ты понимаешь и без того. Во всяком случае, спасибо тебе как человеку, писателю и критику – всем троим, сыгравшим немаловажную роль в моей судьбе.

А писать, наверное, как и жить, становится все трудней, многое здесь связано с нашим возрастом, другое – со внешними условиям жизни. Из моей драматургии, кажется, ничего не выйдет, не наш это жанр, и только теперь вот я убедился, что в театре гораздо труднее, чем даже в кино. Тут требуется полный отказ от себя и своего, полное подчинение театральной коньюктуре что, конечно, не может не влиять разрушительно на произведение, в природе которого прежде всего важна цельность. Домучиваю повесть, но раньше времени растрепался о ней[1] и как-то охладел, выходит плохо, и со страхом думаю о том часе, когда она будет опубликована и попадет на глаза людей, мнением которых я дорожу и чье расположение не хотел бы терять. Но – что делать? Я всегда был далек от расчетов, и всю жизнь все у меня идет спустя рукава...

Надеюсь, у тебя все хорошо, главное – были бы все здоровы – остальное приложится. Мой сердечный привет Элле.

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ТЭАДОРУ ВУЛЬФАВІЧУ[2]

Дорогой Тэд!

С огромным удовольствием прочитал твою повесть, написанную с явной талантливостью и, я бы сказал, даже не без некоторого изящества, хотя характеры и события, о которых идет речь, и далеки от изящества. Нет, в самом деле, повесть мне очень понравилась, очень психологически точно передана атмосфера, ряд подробностей и реалий того времени, ну, а Мария так просто библейский образ великомученицы-терпяжницы, истинно русский образ женщины. Мария прекрасна. И я не понимаю, почему бы такую повесть не напечатать ныне. Возможно, ты не туда обратился, надо, возможно, не в «Юность» и не в «Н[овый] М[ир]», больше всего, на мой взгляд, она бы подошла (по своему духу, конечно, по идее) «Нашему современнику». Ведь «Н[овый] М[ир]» не напечатал в свое время и «Пастуха и пастушку» В. Астафьева, у которой с твоей «Провожалкой» есть нечто общее, а «Наш современник» напечатал, и теперь все хвалят. Мой тебе совет: не теряй время, неси С. Викулову[3] (или кто там в прозе), ей-богу, они возьмут.

---

задавать ему собственная совесть. Такова новая повесть белорусского прозаика Василя Быкова “Обелиск” [...]» (Бакланов Г. Имена на обелиске // Комсомольская правда. 1972. 11 марта).

[1] Мусіць, размова ідзе пра аповесць «Дажыць да світання» і, у прыватнасці, пра інтэрв'ю, падчас якога Быкаў сказаў: «Повесть, действительно, о войне. Точнее – о молодом человеке на войне, об одном из тех, для кого первым жизненным опытом был опыт войны. Кто он? Офицер, командир взвода, с группой бойцов проникший в тыл врага для выполнения особого задания. Это происходит в самом начале войны, летом сорок первого» (Василь Быков: Урок человеческого достоинства / інт. Э. Тахтаравай з В. Быкавым // Литературная газета. 1971. 18 авг.).

[2] Вульфавіч Тэадор Юр'евіч (1923-2004) – расійскі кінарэжысёр, сцэнарыст.

[3] Вікулаў Сяргей Васільевіч (1922-2006) – расійскі паэт; у 1969-1989 гг. галоўны рэдактар часопіса «Наш современник».

А я вот хлебнул за это время драматургии да так, что больше не хочется. Самый противный жанр, хуже кино, автор там самая презренная фигура. У меня были хорошие отношения с МХАТом, но увы! – оказалось, что и О. Ефремов[1] не много может, ему там чертовски трудно, собирается уходить и наш союз, кажется, распадется. Но я не жалею, м[ожет] б[ыть], даже наоборот, снова пошел в кино и пишу сценарий по «Сотникову» для «Беларусьфильма»[2] А по правде сказать, так ничего уже не хочется – ни театра, ни прозы, ни кино.

Представляю очень хорошо твою работу в кино, не завидую. Но – что лучше?

Дорогой Тэд, можешь не сомневаться, у тебя четко и ярко выраженный литературный талант, работай. Только, м[ожет] б[ыть], сосредоточеннее, настойчивее, гуще. Особенно по части характеров. Язык прекрасен. В данном случае – сугубо российский, кондово-селянский.

Сердечный привет Полине и Лене[3], а также оч[ень] мною уважаемому Ю. О. Домбровскому[4], автору прекрасного романа. Дай ему бог здоровья.

Обнимаю, твой *Василь.*

*19 марта 72 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. Архіў В. Быкава.

## ВАСІЛЮ ЖУКУ[5]

Дарагі Васіль Пятровіч!

Атрымаў Ваша невясёлае пасланне[6]... Што зробіш! Вядома, цяпер такіх людзей мала, Мікалай Арсеньевіч сярод іх быў, мабыць, самы лепшы, самы самаадданы. Ну і вядома, лёс такіх заўжды самы трагічны.

Відаць, тым, хто застаецца, трэба несці ў жыцці і іх частку.

А несці трэба.

Дай бог Вам здароўя!

З павагай і сардэчнасцю

*В. Быкаў.*

*25.III.72 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 55. Воп. 1. Адз. зах. 168. Арк. 14.

## ТЭАДОРУ ВУЛЬФАВІЧУ

*[Май 1972 г.]*

Дорогой Тэд!

Надеюсь, ты уже прибыл из Пицунды, и потому сердечно поздравляю тебя

---

[1] Яфрэмаў Алег Мікалаевіч (1927-2000) – расійскі акцёр, рэжысёр; народны артыст РСФСР (1969) і СССР (1976); з 1970 г. галоўны рэжысёр МХАТа.

[2] Праца над сцэнарыем паводле аповесці «Сотнікаў» была распачата Быкавым ў першай палове 1972 г. у адказ на просьбу беларускага кінарэжысёра Ігара Міхайлавіча Дабралюбава (1933-2010).

[3] Паліна і Алена – першая жонка і дачка Т. Вульфавіча.

[4] Дамброўскі Юрый Восіпавіч (1909-1978) – расійскі пісьменнік, літаратурны крытык; чатыры разы арыштаваны (1933, 1936, 1939, 1949). Найбольшую вядомасць прынёс Ю. Дамброўскаму раман «Факультет ненужных вещей», які ўпершыню быў апублікаваны на рускай мове ў 1978 г. у Францыі. У тым жа годзе Дамброўскі быў збіты невядомымі і ў хуткім часе памёр.

[5] Жук Васіль Пятровіч – сябра М. Пашкевіча.

У лісце ад 18 сакавіка 1972 г. В. Жук паведамляў, што 14 сакавіка пайшоў з жыцця Мікалай Пашкевіч.

с Великим днем нашей Победы. Жаль, конечно, что все это было так давно, да и мы были другими...

Мне очень жаль, если твою «Провожалку» затаскают по начальству, повесть немножко со странностью, но со смыслом и безусловно талантливая. Все-таки, мне думается, «Наш современник» должен ее взять, просто это их повесть, напиши ее кто-либо другой, какой-нибудь Алексеев[1] или Кожевников[2] – дали бы премию. Я уже убедился, что в этом деле произведение мало что значит, все решает личность автора... Хотя бы того же Юрия Осиповича[3]. Не знаю, знает ли он, что его роман был признан лучшей книгой года (одного из недавних годов), ну а в Москве этот автор соответственно удостоился отд[ельной] квартиры, не больше. А роман-то действительно превосходный! Мой ему (автору) самый низкий поклон.

Ну, и всяческих успехов тебе в твоем многомесячном марафоне. Беги, брат, что же еще остается...

И мои сердечные приветы Лине и Лене.

Обнимаю, твой *Василь Б.*

---

Рукапісная паштоўка без даты. Датуецца зыходзячы са зместу. Арыгінал. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

*[Сентябрь (?) 1972 г.]*

Валя, дорогой дружище!

Спасибо за письмо и поздравляю тебя с новой должностью, хотя... Могли бы в конце концов тебя и повысить хотя бы на одну ступень. Но это вопрос особый. Правда, я как-то не очень восторгаюсь по поводу учреждения еще одного критического журнала[4], но бог с ним, я готов его принять, коль ты там трудишься. Твое предложение относительно Кайсына[5] меня озадачило. Конечно, я обеими руками за Кайсына, самые лестные слова будут недостаточны рядом с его стихами, но! Я не смогу, Валя. Я просто не могу писать о поэзии, тут надобно поэта или критика, я – не специалист, и испорчу вас всю обедню. К тому же я не успею в назначенные тобой сроки, у меня завал, а через 10 дней – неделя русской культуры, поездки и проч. Извини, Валя. И пусть извинит Кайсын тоже...

Лето провел бездарно, ничего не писал, но об этом не жалею. Жалею, мало ездил по Неману на своей «казанке», не удалось порыбачить как следует. Правда, перевел повесть[6] для [«]Невы[»] (№ 11), напечатал пьесу[7] (в «Немане» № 8). Получил новую квартиру: г. Гродно-25, ул. Свердлова 18, кв. 30. Вот и все. Никуда не ездил и ко мне никто не приезжал. Теперь вот с 18 сент[ября] собираюсь в Ялту.

Надеюсь, у тебя все хорошо дома, тезка молодцом, Нина тоже. Поклон им и сердечные пожелания.

А тебя обнимаю. Не сердись и извини.

Твой *Василь.*

---

[1] Аляксееў Міхаіл Мікалаевіч (1918-2007) – расійскі пісьменнік; галоўны рэдактар часопіса «Москва» (1968-1989); сакратар праўлення СП РСФСР.

[2] Кажэўнікаў Вадзім Міхайлавіч (1909-1984) – расійскі пісьменнік; з 1949 г. галоўны рэдактар часопіса «Знамя»; сакратар праўлення СП СССР (з 1967 г.) і СП РСФСР (з 1970 г.).

[3] Юрый Восіпавіч Дамброўскі.

[4] Мусіць, размова ідзе пра часопіс «Литературное обозрение».

[5] Кулieў Кайсын Шуваевіч (1917–1985) – балкарскі паэт; народны паэт Кабардзіна-Балкарскай АССР (1967).

[6] Аповесць «Дажыць да світання».

[7] П’еса «Решение».

P. S. Читаю в «Маладосці» Адамовича[1]. Хорошо. Б. Рунину[2] послал телеграмму от всего отделения[3].

*В.*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архў В. Быкава.

***1973 год***

## ТЭАДОРУ ВУЛЬФАВІЧУ

Дорогой Тэд!

Спасибо тебе за хорошие слова к празднику, которые нелишне выслушать в любое время. Я представляю твою беспокойную жизнь в этом кино, и хотя ты говоришь, что наша хуже, я все-таки думаю, что твоя, киношная, все же похуже литературной. Впрочем, это похоже на спор слепого с глухим – оба хороши.

Вот продолжаются мои мытарства со сценарием по «Сотникову». В Минске все уже готово – режиссер, группа, сценарий принят, начальство – за, так московский главк морит, не отказывает и не утверждает. Группа понемножку рассыпается, ребята разбегаются на другие картины... Видно, ничего не выйдет, как не вышло с пьесой. Видно, не ко времени это.

Очень жаль, что не напечатана твоя повесть. Кажется мне, ты не проявил должной настойчивости, без которой поначалу не обойтись никому. Может, стоит попробовать еще постучаться куда-нибудь[4]? И в СП тогда было бы легче.

А я нынче в простое. Ничего не делаю, и так хорошо! Немного гриппую. Никуда не езжу.

Мой сердечный привет твоим Полине и Лене, при случае кланяйся от меня Юрию Осиповичу[19]. Давно его ничего не было в журналах, а жаль!

Успеха твоему фильму.

Будь здоров,

обнимаю – *Василь Быков.*

*28 января 73 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. Архіў В. Быкава.

## АЛЕСЮ БАЧЫЛУ[6]

Шаноўны Алесь Мікалаевіч!

Дзякуй за клопат. Адразу бяруся за справу, буду рабіць расклейку[7]. Амаль усе творы пойдуць з ранейшых выданняў (выдавецтва «Беларусь»), за выключэннем трох апавяданняў, надрукаваных у газетах петытам, таму іх прадстаўлю ў рукапісах (гэта каля 1[-га] аркуша).

---

[1] Адамовіч А. Хатынская аповесць // Маладосць. 1972. № 8, 9.

[2] Б. Рунін (сапр. Рубінштэйн Барыс Міхайлавіч; 1912–?) – расійскі крытык, перакладчык.

[3] Гродзенскае абласное аддзяленне СП БССР, якое Быкаў узначальваў у 1971-1978 гг.

[4] Першая кніга Т. Вульфавіча пад назвай «Там, на войне» выйшла толькі ў 1991 г. Аўтар пакінуў такі надпіс на падараваным Быкаву экземпляры: «Дорогой Василь, не прошло и 25 лет, как появилась первая книга!» (Архіў В. Быкава).

[5] Юрый Восіпавіч Дамброўскі.

[6] Бачыла Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1918-1983) – беларускі паэт, перакладчык; у 1972-1978 гг. – старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

[7] Размова ідзе пра падрыхтоўку Выбраных твораў у 2 т., выданне рыхтавалася ў «Мастацкай літаратуры» да 50-годдзя Быкава.

Усё прывязу ў пачатку красавіка, пасля маскоўскага пленума СП.

З прывітаннем

*Васіль Быкаў.*

*21.III.73 г.*

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 1.

## МІХАІЛУ ЧВАНАВУ[1]

Дорогой Михаил!

Рассказ Ваш весьма неплохой, даже хороший, написан психологически, точно, сложно, глубоко, читается с интересом. Почти каждый образ в нем – свидетельство авторских способностей, весьма значительных. Многие места в нем мне очень нравятся, прекрасен образ осени, деревенской глуши, оч[ень] хороши Горохов и девушка, и хорошо, что они не встретились, не надо никаких встреч. Все очень убедительно и весомо, значительно. Мне не понравилась только сама концовка, особенно предпоследняя 19 стр[аница], на которой Вы после блестящих 18[-и] страниц сбиваетесь на банальщину. То, чем у вас кончается рассказ, каждый день написано в любой газете. Надобно иначе. А может, закончить где-то на стр. 18-й? Подумайте. И не надо этих деклараций относительно профессии, обычно это не более чем мальчишеское кокетство.

Весь же рассказ, повторяю, до стр. 19-й прекрасен. Вы оч[ень] способный прозаик, талант Ваш оч[ень] глубок, постарайтесь распорядиться им достойным образом. Я очень надеюсь еще услышать о Вас.

А пока – дай Вам бог!

Не верьте там разным... Больше слушайте себя самого, талант Вам подскажет.

Жму Вашу руку.

*В. Быков.*

*20 апреля 73 г.*

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## АЛЕСЮ БАЧЫЛУ

Шаноўны Алесь Мікалаевіч!

Сёння атрымаў Ваша не надта для мяне вясёлае пісьмо. «Праклятай вышыні», сапраўды, я раней не заяўляў і яе ў праспекце няма. На ёй я не настойваю. У першы том замест яе можна паставіць «Здраду».

Але «Круглянскі мост» я заяўляў, і на яго мне далі згоду Ткачоў і Хомчанка[2]. Значыцца, цяпер ужо задні ход. Але я таксама не хлопчык і не пачатковец. Я не прасіў аб двухтомніку. Іншыя ў свае 50 год выдалі шматтомныя зборы твораў. А Быкаву не дадуць выдаць жалкія дзве кніжкі.

Алесь Мікалаевіч! Калі «Круглянскі мост» і «Праклятую вышыню» не пусцяць, паведаміце адразу. Я прыеду і забяру расклейку абодвух тамоў. Перавыдаваць

[1] Чванаў Міхаіл Андрэеевіч (нар. у 1944) – расійскі пісьменнік.

[2] Ткачоў Мікола (Мікалай Гаўрылавіч) (1918-1979) – беларускі пісьменнік; у 1972-1979 гг. дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Хомчанка Васіль Фёдаравіч (1919-1992) – беларускі пісьменнік, сцэнарыст; у 1972-1985 гг. загадчык рэдакцыі прозы выдавецтва «Мастацкая літаратура».

старыя рэчы, каб на іх рабіла бізнес выдавецтва, і атрымліваць за іх капейкі я не хачу. Абыдуся без двухтомніка.

З павагай, *В. Быкаў.*

*2 мая 1973 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 2.

* * *

Дарагі Алесь Мікалаевіч!

Атрымаў Ваш ліст, дзякуй Вам за клопат. З «Праклятай вышынёй» я сёетое зрабіў, каб можна было спаслацца на тое, што аўтар перапрацаваў аповесць. Пульку не забівае Грыневіч, яе забірае з сабой Ванін, які адпраўляецца ў разведку. Перайначыў канцоўку, дзе з'яўляецца і Пулька, якую забіваюць немцы. Васюкоў распачынае з імі перастрэлку, далейшы лёс яго недаказаны.

Цяпер я мяркую так. Калі знімуць «Круглянскі мост» (да АТК[1] я звяртацца не буду), тады ў першы том трэба уставіць «Здраду», якую дасылаю. А «Праклятая вышыня» пяройдзе у другі том. Увогуле ўвесь план выдання будзе выглядаць так:

Том I

| | |
|---|---|
| Жураўліны крык | – 5,5 |
| Здрада | – 4,5 |
| Трэцяя ракета | – 7 |
| Альпійская балада | – 7 |
| Пастка | – 2,5 |
| | 24,5 арк. |

Том II

| | |
|---|---|
| Праклятая вышыня | – 5 |
| Сотнікаў | – 8,8 |
| Абеліск | – 3,8 |
| Дажыць да світання | – 7 |
| | 24,6 арк. |

Папраўкі дасылаю. Іх, мабыць, трэба ўклеіць ці ўкласці ў тэкст.

Калі ж не дадуць і «Праклятую вышыню», тады я не ведаю. Тады няма чаго і выдаваць. Тады ўжо я, мабыць, напэўна адмоўлюся ад выдання.

З павагай

*В. Быкаў.*

*16 мая 1973 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 3–3 ад.

* * *

Дарагі Алесь Мікалаевіч!

Атрымаў Ваша не дужа для мяне радаснае пісьмо. Што ж! Не прывыкаць...

Дасылаю 5 аркушаў апавяданняў. Пастаўце іх у такім парадку, напэўна, у канцы тома. Паводле майго падліку, у ім будзе 24,5 арк[ушаў]. Што і трэба.

І бывайце здаровы!

Калі што – пішыце.

З павагай

*Васіль.*

*9.VI.73 г.*

---

Рукапісны тэкст. БДАМЛМ. Ф. 323. Воп. 1. Адз. зах. 167. Арк. 4.

## ІГАРУ БАЖКО[1]

Дорогой Игорь Антонович!

Я получил и прочитал Ваше «Перекати-поле», хочу очень Вас похвалить. Конечно, это не повесть, но тем не менее это прекрасно во всех отношениях. Я не знаю, как это определить по жанру – то ли записки, то ли фрагменты, картинки детства, – но написаны они очень впечатляюще, вещно, серьезно и даже в ряде мест потрясающе своей оголенной правдивостью. Вообще все здорово! Я Вас поздравляю с удачей, удачей блестящей, большой, хотя Вы и написали о маленьких и, возможно, для малых. Но это – та большая литература, которая одинаково годится и для детей, и для взрослых.

Теперь – об издании. Тут я затрудняюсь сказать Вам что-либо обнадеживающее. Именно в силу специфических достоинств Вашей вещи, она может оказаться непроходной. Было бы, разумеется, очень печально. Но – попытайтесь! Где-куда? Мне думается, прежде всего надобно постучаться в журнал «Детская литература» в Москве, затем в «Юность». М[ожет] б[ыть], есть какая возможность в Одессе или в Киеве?

И еще название. Надо другое. Это, по-моему, мало подходяще для такой вещи. Надо что-нибудь в стиле ее материала. Но это дело всегда поправимое.

Очень желаю Вам напечататься.

И будьте здоровы. И удачливы.

И – пишите еще. У Вас есть талант, серьезный и честный.

С приветом и наилучшими пожеланиями

*Василь Быков.*

*7 августа 73 г.*
*Гродно*

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## ВАЛЯНЦІНУ АСКОЦКАМУ

*12 августа 73 г.*

Валя, дорогой дружище!

Спасибо тебе за письмо, за хорошее отношение к статье[2]. Писать статей я не умею, не туда направлены мозги, как говорил один наш покойный профессор, но тут «Литературка» уломала, и мне неудобно было отказаться от такой кандидатуры, какой является С. П. Залыгин[3]. Человек и писатель он оч[ень] хороший, и я его

---

[1] Бажко Ігар Антонавіч (нар. у 1937) – украінскі мастак, скульптар, пісьменнік, піша на рускай мове. У 1985 г. Быкаў даў рэкамендацыю І. Бажко для ўступлення ў СП СССР, куды апошні, аднак, не быў прыняты.

[2] Быков В. Зоркость исследователя, страсть художника // Литературная газета. 1973. 1 авг.

[3] Залыгін Сяргей Паўлавіч (1913-2000) – расійскі пісьменнік; галоўны рэдактар часопіса «Новый мир» (1986-1998); з ініцыятывы С. Залыгіна ў СССР у 1988 г. зноў пачалі друкаваць А. Салжаніцына.

люблю, хотя, конечно, эта любовь в творческом смысле больше внушена повестью «На Иртыше», чем романом «Южно-американский вариант» или даже «Соленая пядь». Ты прав, об этой повести у меня было написано больше, нежели о романах, но в редакции подрезали. Не знаю, м[ожет] б[ыть], автор иначе расценивает свой последний роман, или, б[ыть] м[ожет], я написал «не очень», но он мне что-то не написал, поэтому было бы неплохо, Валя, если бы ты позвонил ему и сказал от себя те слова о моей статье (по части, относящейся к роману), которые ты написал мне. Боюсь, что он сам (как это можно судить по его самооправдательной статье в «ЛитРоссии») не совсем представляет, что он написал, или не хочет сказать о том, хотя это, разумеется, не умаляет его авторской заслуги, ибо, как известно, часто устами таланта глаголет истина, а он и не подозревает о том.

№ 7 «Литобоза» я еще не видел[1], но увижу, у нас в продаже еще № 6. Мысль твоя о сборнике Быкова-критика весьма лестная, но какой же бес будет его издавать-то? Нет, с этим я подожду до лучших времен, если они когда-нибудь наступят. Вот в Минске к будущему году сдал двухтомник, из которого мне повыкидывали все, о чем когда-то хоть кем-нибудь было сказано неодобрительное слово. Поэтому ни «Мерт[вым] не б[ольно]», ни «Атака», ни «Круглянский мост» туда не вошли. А чтобы я не очень разбежался с рассказами, подрезали объем до 25 л[истов] на том. Вот так! Обидно немного, как вспомнишь, что другим у нас к их 50-летию поиздавали собрания сочинений, куда включили все, вплоть до заявлений в литфонд и докладов на разных заседаниях. Но я не кто-то и обижаться мне не годится.

Сижу дома, езжу по Неману, пытаюсь ловить рыбу, которая стала хитрее человека и упрямо не ловится. Приехал на месяц мой Сергей[2], окончил училище, лейтенант, едет служить в Германию. Писать надоело, с весны валяю Ваньку. В конце августа, кажется, еду в Румынию. На дискуссию о соцреализме. Лет 10 назад принимал участие в подобной дискуссии в ЦДЛ с чехами. Надискусировали...

Ну – будь здоров! Привет Нине и твоим ребятам. Пусть они будут здоровы!

Обнимаю.

---

Рукапісны тэкст. Копія. Архіў В. Быкава.

## У ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

Анатацыя на кнігу В. Быкава «Месячнай ноччу»[3]

Кніга – адна аповесць памерам 10 аркушаў – напісана на тэму вайны. У цэнтры падзеі – трое партызанаў, якія, ратуючы параненых сваіх сяброў, трапляюць у складаную сітуацыю і праяўляюць вялікі савецкі патрыятызм, мужнасць і майстэрства. У часе лютае бойні з немцамі большасць з іх гіне, але партызан Ляўчук, намогшыся на амаль немагчымае, ратуе маладога хлопчыка, якому яшчэ жыць і які пасля будзе ўсё жыццё дзякаваць свайму выратоўцу.

Аповесць будзе здадзена ў II квартале 74 г.

*В. Быкаў.*

*28.X.73 г.*

---

Рукапісны тэкст. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 120. Воп. 2. Адз. зах. 8. Арк. 24.

---

[1] У часопісе «Литературное обозрение» (№ 7) быў надрукаваны артыкул Быкава «Как создавалась повесть “Сотников”».

[2] Старэйшы сын Сяргей Васільевіч Быкаў (нар. у 1952).

[3] Працоўная назва аповесці «Воўчая зграя».

ДЫРЭКТАРУ ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

З А Я Ў К А

Прашу ўключыць у план выдання на 1975 год маю новую кнігу прозы пад назвай «Месячнай ноччу» у складзе двух[1] новых аповесцей, напісаных на матэрыяле мінулай вайны. Памер – каля 15[2] арк.

*В. Быкаў.*

*10 студзеня 1973 г.*

---

Машынапісны тэкст. Подпіс – аўтограф. Арыгінал. БДАМЛМ. Ф. 120. Воп. 2. Адз. зах. 8. Арк. 24.

БУРАЎКІНЫМ[3]

Дарагія

Бураўкіны – мужчыны і жанчыны, дарослыя і маленькія,

будзьце здаровыя і шчаслівыя ў Новым, 1974 годзе. Мы пастараемся таксама.

І памятайце: Нёман раскрываецца толькі ў трэці раз. А «Лопіс» – не ў першы.

Вашы *Быкавы-гродзенскія.*

---

Рукапісная паштоўка з выявай кветак і подпісам рукой В. Быкава: «Навагодні букет для Юлі». Арыгінал. Архіў Г. Бураўкіна.

*(Заканчэнне будзе)*

---

[1] «У складзе дзьвух» закрэслена.

[2] 15 папраўлена на 10.

[3] Маецца на ўвазе сям'я Бураўкіных Юліі Якаўлеўны і Генадзя Мікалаевіча (нар. у 1936), беларускага паэта, публіцыста, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча.

Мікола Гіль



...ьожа быць, у выбары прафесіі я памыліўся (усё ж-такі нармальны чалавек павінен быць на нешта здатны, да нечага здольны), але літаратуру я люблю, ёю жыву...

# Ён быў, як месяц, адзінокі...

***Пісьмы маладога Варлена Бечыка***

Сціплыя, не надта кідкія, а з гадамі ў дадатак выцвілыя і пабляклыя савецкія паштовачкі пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя.

Першая – са Спаскай вежай маскоўскага крамля і з казённым надпісам: «С Новым годом!» А на адвароце – некалькі радкоў, напісаных прыгожым "настаўніцкім" почыркам сінім чарнілам і, па ўсім, дасюль памятным школьным «стальным» пяром №86: «*Мікола! Не хачу крапаць пажаданні (на такой "плошчы" нават канспект іх не складзеш), ды і будуць жа яны гучаць надта ж прымітыўна; ды я табе і штодня жадаю тое ж самае, што і пад "распракляты" Новы год. Але паколькі ў пераднавагодні час мы прабываем у палоне навагодніх настрояў, то жадаю табе, каб было весела, звінелі чаркі, пусцелі чаркі, а галава была поўная сонца. Абдымаю (і д.т.п.) Варлен. 1961-62*». (На паштовым штэмпелі – дата канкрэтная: 30.12.61 г.).

Другая – таксама з той жа Спаскай вежай крамля і такім жа стандартным надпісам: "С праздником Первого мая!" І на адвароце – тая ж сардэчнасць, шчырасць і шляхетная

жартаўлівасць, занатаваная несумненна тым жа помным пяром: «*Майскі паклон табе, Мікола! Прасохлі Плісоўскія землі і Прылуцкія дарогі; яны будуць рады, калі ты завітаеш па іх да вясны ў госці. І гэта трэба зрабіць, каб ведала вясна, што ты не адмаўляешся ад яе гасціннага ўлоння. Варлен. 30.IV.62 г.*»

Божа мой, Божа! Сорак сем гадоў таму назад! Амаль паўвека!..

Я за тое, бадай, найбольш удзячны лёсу, што адарыў мяне знаёмствам, дружбай і нават сяброўствам са шчырымі, добрымі, разумнымі, таленавітымі, слаўнымі ва ўсіх адносінах, неардынарнымі, ды што там прыбядняцца – проста выдатнымі людзьмі. Сярод іх – і Варлен, мілы, усмешлівы, трошачкі заўсёдны хлапчук і крышачку дзівакаваты (як усе таленты) Варлене, сур'ёзны і жартаўлівы, наіўны і карпатліва-дападны Варлеша (як называла яго маці), а папраўдзе – Варлен Леанідавіч Бечык, адмысловы наш крытык, тонкі і ўніклівы даследчык беларускай паэзіі, выключнейшы яе ўлюбёнец, знаўца і вытлумачальнік.

Звёў нас слаўны і адзіны тады на ўсю Беларусь універсітэт (Варлен вучыўся на тым жа філфаку, толькі на другім аддзяленні і на курс ніжэй), адны і тыя ж аўдыторыі, бібліятэкі, вечары адпачынку, інтэрнацкія калідоры. А далейшаму збліжэнню і кантактаванню, дружбацтву і сяброўству моцна паспрыяў «ЛіМ», куды я шчасліва трапіў на працу (пра што неаднаразова гаварыў) неўзабаве пасля сканчэння ўніверсітэта. Варлен таксама (ужо трошачкі і з маёй дапамогай) стаў на нейкі час лімаўцам, але пазней, папрацаваўшы пэўны час настаўнікам у вёсцы Пліса Смалявіцкага раёна і правучыўшыся ў аспірантуры. Пасля ён працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі, апошняя пасада, якую ён займаў, – намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура»...

Гады, зазвычай, пакрысе-памалу трошачкі (а бывае, і зусім) разводзяць сяброў і дружбакоў юнацтва, жыццёвыя шляхі-дарогі спараджаюць і дораць нам новыя знаёмствы і людскія кантакты. Ды яны ніколі не заменяць і не падменяць сардэчных прыязнасцяў і душэўных набыткаў маладых гадоў. Нездарма кажуць, што сапраўдныя сябры знаходзяцца, набываюцца толькі ў юнацтве і маладосці, а пасля нам дастаецца толькі сумная і гаротная доля траціць іх, каб у глыбокай старасці зведаць тугу і роспач жахлівай самоты.

Мы з Варленам Бечыкам, дзякаваць Богу, кантактаваліся да самых апошніх дзён яго так раптоўна і надта ж заўчасна абарванага цяжкай хваробай жыцця. Але ўсё ж час найбольшай сяброўскай блізкасці прыпадае акурат на гады нашае маладосці, на славутыя 60-я – гады гэтак званай хрушчоўскай адлігі.

Ды я не замахваюся на тое, каб пісаць успаміны пра той час і пра нас у тым часе. Сталася так, што я амаль ніколі не вёў дзённікаў, рэдка калі рабіў нават нейкія паасобныя запісы ўслед тым ці іншым падзеям. А без гэтага ўспаміны пісаць цяжка, проста немагчыма, бо спадзеў на памяць вельмі і вельмі слабы, як і сама старэчая памяць. Сесці за кампутар мяне найперш падахвоціла тая акалічнасць, што сярод старых папер ужо даўняй той пары зберагліся некалькі лістоў Варлена Бечыка, адрасаваных мне, у тым ліку і згаданыя вышэй паштоўкі. Іх і захацелася выцягнуць на свет белы. Бо хай яны і носяць пераважна прыватны характар, але, тым не менш, лісты шмат што гавораць пра таго, хто іх пісаў. З іх паўстае надзвычай светлы і абаяльны воблік маладога чалавека, адукаванага, начытанага, шырокіх інтэлектуальных інтарэсаў і запатрабаванняў, чыстага ў памкненнях, чалавека чулай і тонкай, вельмі датклівай душы, чалавека, які глядзеў на свет і людзей шырока расплюшчанымі ўлюбёнымі вачыма, замахваўся на добрыя і самаахвярныя справы і ўчынкі, марыў пра высокае і вечнае каханне.

У яго было нялёгкае малалецтва, якое прайшло ў Астрашыцкім гарадку пад Мінскам. Гадаваўся без бацькі, якога практычна не ведаў. Маці (пасля вядомы і аўтарытэтны навуковец, выкладчыца БДУ Ларыса Лявонцьеўна Кароткая) у гады вайны была партызанскай сувязной, і малы Варлен разам з ёй падвяр-


*Мікола ГІЛЬ і Варлен БЕЧЫК. 1969 г.*

гаўся страшэннай небяспецы. Пашчасціла – лёс наканаваў вытрываць і выжыць абаім. У сорак чацвёртым, пасля вызвалення, Варлену (імя атрымаў у гонар правадыра, яно расшыфроўваецца – па-руску, вядома ж, – як "В АРмии ЛЕНина") было пяць гадкоў. Маці працавала ў школе настаўніцай, сына не было на каго пакінуць, і Ларыса Лявонцьеўна, каб ён не нарабіў бяды ці каб яна не напаткала яго самога, сяды-тады прывязвала Варлена вяровачкай да ножкі стала. Здаралася, маці затрымлівалася, і ейны малы сынок, было, засынаў, зняможаны і галодны, ля таго стала на падлозе. Пра гэта мне неяк, у хвіліну шчырасці, распавядаў сам Варлен. Час быў неймаверна цяжкі, гаротны і галодны, маладая адзінокая настаўніца вымушаная была біцца як рыбіна аб лёд, каб неяк жыць самой і падымаць сына, і ўсё ж... я ўжо трошкі быццам і інакш убачыў Ларысу Лявонцьеўну, жанчыну надзвычай разумную, у вышэйшай ступені інтэлігентную, аднак жа, аказваецца, без сантыментаў, нездарма была мужнай падпольшчыцай і смелай партызанкай.

Потым маці выйшла замуж другі раз, і Варлен гадаваўся ўжо пры айчыме. Я, бываючы ў Варлена дома ў вядомых Прылуках непадалёк ад Мінска, ведаў Яўгена Вікенцьевіча, чалавека добрага і мяккага. Пра яго і Варлен ніколі не сказаў благога слова. Дзякуючы айчыму, Варлен займеў брата (той парою, якую згадваю, ён быў проста Вінькам). Тым не менш, айчым ёсць айчым.

Як бы там ні было, а такія вось сямейныя калізіі паспрыялі, відаць, таму, што Варлен ці не праз усё жыццё пранёс горкае адчуванне сваёй адзіноты і адасобленасці, і ці не таму асабліва шчыра і аддана адклікаўся на сяброўскія пачуцці і прывязанасці. Яму не давялося, не суджана было стаць бацькам, але няма сумневу, што быў бы Варлен і тут не апошнім: досыць было сяды-тады назіраць, як дбайна і адказна гадаваў-выхоўваў ён пасынка – жончынага сына.

Дарэчы, будучая яго жонка, Зіна Надумовіч, працавала сакратаркай у «ЛіМе» (пасля ў рэдакцыі часопіса «Полымя» карэктаркай). У «ЛіМе» яе і напаткаў Варлен. Напаткаў і палка закахаўся, што невыпадкова: Зіна была дзяўчына надта ж паглядная. Нічога благога не хачу пра яе казаць, аднак жа не-не дый прыходзіць сумненне: ці ж разумела Зіна да канца свайго Варлена, ці ўсведамляла сваю ролю жонкі (а таксама каханкі і маці) паэта? Цяжкая гэтая роля. А Варлен жа быў аккурат паэт у душы, ды не толькі ў душы, а й наогул. Мо і Зіне з ім было нялёгка, ды такая ўжо доля: ведала, за каго ішла, з кім лёс звязвала.

Кажу ўсё гэта не дзеля таго, каб на некага кінуць нейкі цень, папракнуць у чым-небудзь. Барані Бог, як кажуць! Гаворыцца ўсё гэта толькі таму, што – было, памятаецца і дасюль, праз гады, не пакідала адчуванне нейкае Варленавае адзіноты. Мо і не маю рацыі, але мне часам у яго прысутнасці згадваўся Максім Багдановіч, радок з ягонага верша, прысвечанага Сяргею Палуяну: «Ты быў, як месяц, адзінокі...» Пасля ягонае заўчаснае смерці дадаваўся і другі радок: «Самотна жыў, самотна ўмёр...»

Але не буду, як кажуць, забягаць наперад. Лісты ад Варлена пазначаны

акурат пачаткам, першай паловай 60-х гадоў, і таму гаворка і пра яго той пары – маладога настаўніка Плісоўскай сярэдняй школы Смалявіцкага раёна і аспіранта, літаратурнага крытыка-пачаткоўца, які мо недзе глыбока ў душы і таемна, не прызнаючыся ў тым анікому, насіў «жазло» будучага масцітага і аўтарытэтнага знаўцы паэзіі, да ацэнак якога будуць прыслухоўвацца і думку якога будуць цаніць і паважаць нават самыя вядомыя паэты.

*“Тав. М. Гілевіч!*

*Нізка кланяюся Вам ад імя літаратурнай грамадскасці Плісы. Паведамляю (і напамінаю), што мы чакаем Вас у другой палове 18 дня месяца мая на 48-м кіламетры Белчыгункі (ст. “Чырвоны Сцяг”). Спадзяемся бачыць слаўных аўтараў “Песні пра хлеб” і “Блакітнага ветру”. Парадак работы з’езду такі:*

*1) Адпачынак.*

*2) Літ. вечар.*

*а) Уступнае слова.*

*б) Конкурс па выразнаму чытанню (памяці Купалы).*

*в) Выступленні гасцей-пісьменнікаў.*

*3) Вячэра і г.д.*

*Астатнія працэдурныя пытанні будзем вырашаць за круглым сталом (так, гаспадыня купіла круглы стол). Такім чынам, адкладванне і перанясенне Вашага падарожжа абсалютна выключаецца. Камандаваць парадам даручаецца Табе. Нарыхтоўкі анекдотаў – тваім падначаленым. Форма адзення – справа творчая, арыентуйцеся на магчымыя сюжэтныя павароты прыроды і ўлічвайце папраўкі на метэабюлетэнь. Скажы аўтару «Песні пра хлеб», «Стронцыя», «Зімняга сонцастаяння» і іншых выдатных твораў, што калі ў яго сэрца салдата, то няхай возьме з сабой у паходны ранец і колькі экземпляраў свайго двухспаловай тысячнага выдання, і авансам пакланіся яму ў ногі (вы спіце «валетам»?). Хай абавязкова дзьме на Плісу “Блакітны вецер” і яго паважаны аўтар. Скажы яму, што хораша бываць у сяброў.*

*Мемарыяльных дошак не будзе (няма лесу ў Смалявіцкім раёне). Можна толькі атрымаць мемарыяльныя квітанцыі на памяць аб безбілетным праездзе, але ад іх засцерагаю. Між іншым, здаецца ў тую пору адзначаюць дзень Міколы. Не грэх і нам адзначыць.*

*У мяне ёсць мяч.*

*Чакаю вашага прыезду. Гарачае прывітанне мемуарысту тав. А. Вярцінскаму і публіцысту тав. М. Стральцову; перакладчыку, крытыку, драматургу, празаіку, нарысісту тав. М. Гілевічу!*

*В.Б.*

*Ноч з 7 на 8 мая 1962 г. (за 10 сутак да Вашага прыезду)».*

Каментаваць тут асабліва няма й чаго, усё, як кажуць, навідавовоку. Варлен у школе, акрамя выкладання мовы і літаратуры, вёў літаратурны гурток, праводзіў конкурсы выразнага чытання, рупіўся аб тым, каб у гасцях у ягоных вучняў пабылі і пісьменнікі. Вось і напісаў мне такі ліст – гэткае жартоўнае запрашэнне прыехаць, а найперш – прывезці сяброў, у ягоную школу. Аўтар «Песні пра хлеб» – гэта Анатоль Вярцінскі, тады ў яго толькі што выйшаў з друку першы аднайменны зборнік вершаў. А аўтар «Блакітнага ветру» – гэта Міхась Стральцоў, так называлася яго першая кніжачка прозы, што таксама выйшла акурат тым годам.

Рэпліка ў дужках «вы спіце валетам?» азначае вось што. Той парою Анатоль Вярцінскі толькі што перабраўся на сталае жыхарства ў Мінск, пакінуўшы сям’ю ў Рагачове, здаецца, і «прабываў», так сказаць, у чаканні кватэры, якую неўзабаве меўся даць яму Саюз пісьменнікаў. У такой сітуацыі нейкі час жыў у мяне, у пакойчыку, які я здымаў у прыватным сектары на 2-м Рыгораўскім завулку – гэта

паблізу славутай мінскай Грушаўкі, дзе пазней з'явілася дэпо і разваротны круг станцыі метро «Інстытут культуры». (Дарэчы, на тым жа завулку здымаў тады куток і Васіль Зуёнак). Спалі мы з Анатолем па-студэнцку, па-маладому – на адным ложку, вось Варлен і не прамінуў пажартаваць з гэтае акалічнасці.

Што да «мемуарыста» Вярцінскага і «публіцыста» Стральцова, дык зараз што-небудзь пэўнае сказаць не магу, хутчэй за ўсё Варлен меў на ўвазе нейкія іх тагачасныя публікацыі ў адпаведных жанрах. Ахрысціць мяне «многастаночнікам» таксама былі «падставы»: друкаваў я ў «ЛіМе» замалёўкі, карэспандэнцыі, рэпартажы і г.д.

Не адгукнуцца на такое сардэчнае і, да ўсяго, такое дасціпнае запрашэнне «мемуарыст, публіцыст і нарысіст» не маглі, ды гэта ўжо трошкі іншая гісторыя, каторая па-за пісьмом.

У школе ў Варлена было, само сабою, і маладое захапленне – не вучаніца, крый Божа, гэта было не ў ягоным характары, а «адна вучыцелька». Не надта сур'ёзнае захапленне, калі казаць папраўдзе, але... Мне думаецца, што яно ўсё ж трошкі аздабляла для яго досыць аднастайнае і нават руціннае школьнае жыццё, развейвала малады сум і адзіноту, а часам і натхняла. На што?

Неяк у ліпені таго ж 1962 года прыйшоў мне з Плісы ліст, а ў ім, як у той песні, «только точки». Ну, не кропкі, але – ні слова звароту, ні радка тлумачэння, а толькі... верш. На рускай мове. (Вершы ў Варлена чамусьці шрайбаваліся, як сам казаў, па-руску). Пад назваю «Вместо письма». Мо і не варта было б цытаваць яго тут цалкам, але ж нейк не падымаецца рука нешта ў ім скарачаць ці выкідваць: усё ж зроблены ён, як кажуць, прафесійна, а галоўнае – гэта ж напісана рукою Варлена:

Имел я повод и возможность
Свое письмо тебе послать,
Но соблюдал я осторожность,
Предпочитая помолчать.

А слов накопленная многость
Меня терзала всё сильней.
Но я молчал. Совсем не робость
В той осторожности моей.

А просто понял я бесцельность
Того, что раньше говорил,
Хотя любовь, как драгоценность,
Я в сердце, кажется, хранил.

И презирая злую пошлость,
Которую в себе нашел,
Ее я отправляю в прошлость,
Как устаревший протокол.

И слов на ветер не бросаю,
Стал осторожней в много раз.
Все низменное презираю.
Не выставляй мне напоказ,

Что кто-то право первой ночи
Уже использовал давно,
Что этот выглядит не очень,
А тот был парень ничего,

Что тот, целуя, оставляет
Не поцелуи – синяки,

Что в турпоходах все бывает,
Но, в общем, только пустяки.

Не говори, ведь я-то знаю,
Неправда, правда – все не так.
Не все бывает, что бывает,
Но и бывает не пустяк.

Пусть рассказать не все могу я,
Но часто вижу в сонме снов,
Как ожидаешь ты, тоскуя,
Когда придет твоя любовь.

А вот еще почти малышка,
Не о любви твоя печаль.
Больная, ты сидишь над книжкой,
Волнуешься: хотя б медаль.

А вот уже взрослее стала.
Хотя одна идешь в кино,
Но все, что в книжках прочитала,
Уже оно и не оно.

Затем щемит в груди все чаще
Тревожней всех других основ,
Что рядом счастье и несчастье,
Что не твоя твоя любовь.

Потом ты стала обольщаться:
Победам вроде нет числа...
И не сумела разобраться,
Что по дешевке их брала...

Теперь я знаю:
чем мы строже,
Тем чище чувства бережем,
Тем больше на себя похожи...
И ныне я стою на том.

А как же ты? А я не знаю
И не берусь предполагать,
Но все-таки оберегаю
То,
что никак не оболгать.

А хочешь – лги! И пусть – нечестно.
Тебя я правильно пойму,
Но только ложь неинтересна.
Она ни сердцу, ни уму.

Любовь – не ненависть.
Не вечна.
Не оскверняй мою душу.
Тебя я не люблю, конечно,
Но все же...
я тебе пишу.

Зрэшты, мо гэта зусім і не Варленаў верш? Мо якога-небудзь тагачаснага паэта, таго ж надта папулярнага ў тыя часы Эдуарда Асадава, якога дзяўчаткі перапісвалі ў сшыткі і альбомы? Мо Варлен проста перапісаў ягоны верш і прыслаў мне, тадышняму таксама закаханаму Вертэру? Магчыма. Толькі ўсё ж пацягнулася рука занатаваць яго не выпадкова, бо вершы Варлен тады пісаў, і гэта добра пацвердзяць яго пазнейшыя пісьмы.

Зберaглося віншавальнае пісямко з маім 26-м днём нараджэння. Не паштоўка, а пісямко на звычайным аркушыку са школьнага сшытка ў клетачку:

*«Дарагі Мікола (Сымонавіч)! Віншую з Днём нараджэння! Жадаю дасягнуць той сталай яснасці, да якой мы імкнёмся, і захаваць тую іскрынку дзяцінства, якая пакуль што, мне здаецца, шчасліва цепліцца ў табе. Жадаю сілы, сонца, святла. Добрага настрою. Добрых настрояў! Плённай працы!*

*Кастр-к 62 г. Варлен».*

А перад Новым, 1963 годам ад яго прыйшоў такі ліст:

*«Дарагі Мікола!*

*Віншую цябе з Н. годам! За апошні час я адчуваю, што вельмі крэпка зросся з табою. Хацеў бы пажадаць, каб яшчэ крапчэй мацавалася тое карэнне. Але гэта ж пажаданне самому сабе.*

*Маршак (?) напісаў: «Вам от души желаю я, Друзья, всего хорошего. А все хорошее, друзья, Дается нам недешево».*

*Не, я не жадаю, каб табе далося «дешево«. Жадаю табе на доўгія гады «тернистых» дарог, цяжкіх пуцявін, раскрыжаванняў. Але хай нясуць яны добрае. Больш табе святла, сонца, агню! Будзь здароў!*

*Твой сентыментальны «адзін добры знаёмы».*

*28.XII – 62».*

І сёння, праз шмат гадоў, я зноў да слёз расчулены. Любы Варлене, прымі хоць са спазненнем шчырае слова ўдзячнасці, якое я наўрад ці ўмеў сказаць табе тады. Вось ты не баяўся агукнуцца пра сваю сентыментальнасць, а я... Хлопцы ж здзекваліся з яе: «Ну, нюні распусціў, як дзеўка...»

У 1963 годзе на ўсе тры летнія месяцы мяне загрэблі на вайсковыя зборы: перавучвалі з артылерыйскага камандзіра ўзвода ўпраўлення на, дайце веры, ракетчыка. Перавучвалі філолага, які к таму часу забыўся, чаму раўняецца «а» плюс «в» у кубе! Дурнота ды і толькі, тым не менш... Трапіў я ажно ў Разанскую вобласць, на бераг Акі, якраз насупраць Ясенінскага роднага сяла Канстанцінава, якое месцілася на другім, высокім беразе ракі. Даліся тыя тры месяцы ў знакі. Даводзілі не толькі камары і гнюс, але і сум па ўсім родным, беларускім. І добра, што хлопцы рэгулярна прысылалі мне нашы часопісы і газеты, за што мяне там, на зборах, тут жа ахрысцілі нацыяналістам – разам з латышом і эстонцам, якія таксама атрымлівалі з дому прэсу на родных сваіх мовах.

І самым дысцыплінаваным і акуратным маім карэспандэнтам быў Варлен.

*«Пане слаўны Мікалай! (Тут я, напісаўшы, чамусьці ўспомніў: «Мяла баба Міколая...»). Я не быў у Мінску (нашы ездзілі ў Ленінград; я сядзеў у Пр. з дзедам), і твой ліст мірна спаў у сваёй каморцы пад ліцерам «Б». Цяпер ён у мяне, і я, здавалася б, мог парадаваць цябе добрым лістом гэтак лістоў на сем, калі б не экзамены (12-га), калі б не баяўся я да таго ж, што дрэнна будуць думаць пра нашы разумовыя здольнасці нашчадкі, калі знойдуць пры раскопцы якога-небудзь сарціра маё «пасланне». Але для «мондрага» нашчадка я пакідаю ўсё-такі некаторыя факты інфармац. х-ру (урэшце, за перажыванні можна і не баяцца: нашчадкі будуць кібернетамі).*

*«ЛіМы» пры аказіі табе вышлю, «Чырвонку» – наўрад (цяпер ужо буду старацца і яе). Твой рэп-ж там надрукаваны адразу пасля ад'езду.*

*Дужа важна: бел. «Дынама» выйграе.*

*Я шныпарыў па суседніх (ад Прылук) вёсках на... танцулькі і нават танцаваў. Эпілог будзе на філас. экзамене, к якому я іду з ведамі пра Гулькін нос (так нядаўна мне казала адна вучоная жанчына).*

*Але стоп. Напішу адразу пасля 12-га (калі – крый божа!! – не правалюся). Тады ўсё будзе больш складна. І буду тады помніць увесь час, што з цябе, бедалакі, разам з потам, выганяюць анархію (толькі ты пуза не нагадуй там!). Усяго добрага.*

*Амінь. Варлен. 4.VI – 63 г.»*

Тым летам Варлен здаваў аспіранцкія экзамены – так званы кандыдацкі мінімум. Здаў ён іх, само сабою, бліскуча, і трэба ведаць Варленаву сціпласць, каб адно пасміхнуцца з ягоных ведаў пра Гулькін нос і адносна ягонага правалу. Каморка ж пад ліцерам «Б» – гэта паштовая скрынка з алфавітнымі «пячуркамі» ў студэнцкім інтэрнаце, дзе Варлен жыў. А словы пра «пана Міколая» – з польскае прыпеўкі, трошачкі пахабнай.

*«Паважаны Мікалай!*

*Дазвольце Вам далажыць: – атрымана ад Вас адно пісьмо – я на яго адказаў – потым прыйшло яшчэ адно пісьмо – я яго не атрымаў (хлопцы сказалі, што прыйшло; я пацiснуў да скрынкі – няма, г. зн. знікла, такое ў нас бывае) – а там жа магла быць і «карысная інфармацыя» – цяпер пастараюся табе выслаць газет і высылаць больш-менш рэгулярна – я здаў філасофію (дакладней, спіхнуў) – «пяць» – цяпер (не па Скарыне) «вызволены ад навук» чалавек, яшчэ не паспеў ачухацца, бо здаў учора толькі – Н. І. здала то ж – «5» – абдумваю, што рабіць летам – пакуль што я заядлы танцор (!) – на вечарынках у сус. вёсцы (Скарынічы) разбіваю пары – не толькі танцор, але і праважайла, і валачобнік начны – заядлы валейбаліст і заядлы футбаліст (як і наша «Дынама», з пераменным поспехам) – словам, абібок што трэба...*

*Навін чыста літаратурных – усё з той жа «Гулькін нос». Калі атрымаеш «ЛіМок», сам убачыш. Між іншым, цікава: у кн. Хрушчова «Высокое призвание» апушчана пра Еўтушэнку: «Во Франции вел себя достойно...»*

*У «Литературной» з'явілася рэпліка Пярміціна і Прамкова «Собрание нелепостей» на кніжку Федзюковай (рус. кафедра), а ў яе 18-га абарона. Што ж будзе? У Саюзе было абмеркаванне (Бураўкіна, Наўроцк., Макар., Карызны, Біч., Вярбы, Рудк. і г.д.). Нічога асабліва цікавага (выступ. Лужаніна – у «ЛіМе»).*

*Думаю, што за маск. газетамі ты сочыш. Увогуле, як ты там? Ці шмат маеш вольнага часу? Ці наліваецца мускулатура (там для гэтага ёсць магчымасці), ці праясняецца мазгавы апарат (не падумай хаця, што яго лічу ў цябе зацемненым; не, ты – разумнік), ці ёсць у цябе падначаленыя?.. Праўда, ты павінен пісаць, згодна з кодэксам, што начальства ў цябе добрае, што боездольнасць высокая, кормяць выдатна, а галава сав. ваенслужа заўсёды ясная... Ну, дык пішы хоць гэта, а я ўжо буду па настрою бачыць.*

*Навіны – «скудные» (бачыў заметку ў газеце за подпісам А. Скудный). У тваёй хаціне ні разу не быў. Часопісы запоўнены вершамі Н. Гілевіча («Маладосць», «Полымя» і, здаецца, «Беларусь»!) У продажы асабліва цік. кніжак не было...*

*Тут я змаўкаю, бо пара... ісці снедаць (устаю ў восем, а думаю налаўчыцца ўставаць раней). Мой адрас: Мінскі раён, Прылукі, п/я 20, Бечык В.Л.*

*Усяго табе добрага: паспяховай баявой і палітычнай (г. зн. кніг, газет, часопісаў) падрыхтоўкі, высокаякаснага адпачынку, добрых булёнаў, супоў і каш; жывоціка (ну, невялікага) і г.д.*

*Бывай здароў. Варлен.*

*14.VI.63 г.»*

Пісьмо празрыста-жартоўнае ад пачатку да канца. Я. Еўтушэнка згадваецца ў сувязі з лупцоўкай, учыненай М. Хрушчовым абстракцыяністам ды фармалістам. Н. І. – Ніна Іванаўна, жонка Ніла Гілевіча, мая братавая, якая тады таксама здавала аспіранцкія экзамены. Федзюкова – па ўсім, наколькі памятаю, тады маладая выкладчыца на філфаку, якая збіралася абараняць кандыдацкую. Просяцца на ўдакладненне толькі прозвішчы паэтаў, творчасць якіх абмяркоўвалася той парою ў Саюзе пісьменнікаў – на прадмет іх прыняцця ў суполку. Прозвішчы Генадзя Бураўкіна, паэтэсы Вербы Вярбы і паэта-песенніка Уладзіміра Карызны напісаны цалкам, Наўроцк. – гэта паэт Алесь Наўроцкі, Макар. – паэт Васіль Макарэвіч, Біч. – паэтэса Данута Бічэль, Рудк. – паэт Міхась Рудкоўскі. Мая хаціна, у якой,

як піша В. Бечык, ён ні разу не быў, гэта пакой з грубкай і агульнай кухняй ды туалетам у Траецкім прадмесці, які мне, ужо лімаўцу са стажам, прадаставіў Саюз пісьменнікаў. Зрэшты, прадаставіў, бадай, не за мае асаблівыя заслугі, а проста таму, што ад яго ўсе адмовіліся. Я прасіў Варлена зазірнуць туды і забраць, калі будзе, адрасаваную мне карэспандэнцыю.

Наступны ліст Варлен напісаў мне літаральна назаўтра:

*«Тав. Мікалай! Рады засведчыць Вам сваю любоў і павагу. Як кажуць салдаты, «у першых радках свайго ліста». Рад бы і пацешыць цябе якімі-небудзь цікавымі весткамі, думкамі, прыгодамі, толькі анічагусенькі свежага. Пішу з Мінска, куды заехаў з намерам сёе-тое пачытаць. Тут, у маім пакоі заняў кругавую абарону завочны батальён, і я не без цяжкасцей адваяваў сабе нейкі сектар. Людзі пажылыя (маёр і К°), мне з імі не дужа ёмка, і трэба будзе, відаць, перабірацца з гэтага інтэрната, бо ўжо дужа надакучыла цякучка ў пакоі...*

*Ніл Сям-ч прыехаў з Балгарыі, я гэта выпадкова пачуў ад студэнтаў, якія дужа хвалілі яго лекцыі (нейкі салдат супастаўляў яго са сваім там палітруком ці замапалітам)...*

*Пра «ЛіМ» ні шыша не ведаю. Ты атрымаў тое, што я паслаў? Днямі высылаю яшчэ трохі, што наскроб. «ЛіМ» мною выпісаны, і цяпер рэгулярна ідзе на Прылукі.*

*У нас тут горача, млосна і мухі кусаюць. Ані разу не бачыў вашае Светы, а чамусьці хацеў бы пабачыць, спытаць, можа і ёй ты пісаў што-небудзь...*

*Неяк па-дзіўнаму амаль узнавіліся адносіны з... фізічкай. Я быў у Плісе, якраз яна збіралася ад'язджаць, я зайшоў, і яна была дужа-дужа ўважлівай. Па інерцыі (дакладней, па інстынкту) я гэта ледзь не выкарыстаў, але ўстрымаўся. Некалькі дзён назад выпадкова зайшоў у «Ленінку» і раптам адчуў, што нехта павіс над маім сталом. Нехаця адарваўся ад кнігі – яна. Паабяцала мне прынесці агрэсту ў інтэрнат, апраўдвалася, што ў «Ленінцы» выпадкова... Мне было ўсё роўна.*

*Я крыху разгарнуў дзейнасць на завочным сектары, але спахапіўся: уяві сабе (твой выраз), кніжкі мяне зараз цікавяць больш. Да, і хочацца пісаць. Асабліва пра школу. Увогуле, за апошнія гады, калі пачынаюць гуляць думкі.*

*«ЛіМ» кінуў рэпліку «Знаменцы», асабіста Арловай (я табе высылаю, здаецца, і «Знаменку»)...*

*Чытаю Леангарда Франка, якога раней не чытаў... Але бачу, што ліст мой задужа сумны, нібы пустое возера, і я над ім сам засынаю. Будзь здароў душою і целам. Маці мая перадае табе прывітанне. Дзякуй за віншаванне з 24-годдзем.*

*Твой В.Б. 15. VI».*

Прасвятлю тры моманты. Фізічка – гэта прадмет таго школьнага захаплення, пра якое я згадваў. «Вашая Света» – гэта мая сястра Святлана (мы з ёй двайняты), Варлен з ёй быў знаёмы. Арлова Таццяна – мая былая аднакурсніца, дачка славутага артыста і рэжысёра Дзмітрыя Арлова, цяпер доктар навук і прафесар, а тады пасля ўніверсітэта працавала ў газеце «Знамя юности». З якое нагоды ці прычыны «ЛіМ» кінуў на яе адрас рэпліку – не высвятляў, а сёння ўжо не памятаю.

А ўвогуле даўно карцела сказаць вось што. Свет сёння развучыўся пісаць пісьмы. Адвучыў тэлефон. Ён адразу ж стаў магутным канкурэнтам эпісталярнаму жанру. А з вынаходствам мабільніка выйшла з ужытку нават тэлеграма. Навошта? Дзеля чаго? Націснуў на кнопку – і размаўляй з патрэбным табе суразмоўцам у любым куточку свету. Ды ў сённяшнім несупынным мільгаценні хвілінаў, гадзінаў, дзён і гадоў часам зробіцца моцна шкада калісь такога дарагога і жаданага пісьма! Якое можна чытаць і перачытваць, і вычытаць за гэтым другім разам нешта такое, што не прачыталася раней, і падумаць аб тым, у якім настроі пісалася пісьмо, і паспрабаваць па почырку ўгадаць тое...

Варлен Бечык любіў пісаць пісьмы. І ўмеў іх пісаць. Як, дарэчы, і шмат якія іншыя формы тэксту, як цяпер гавораць маладзёны, а ўслед за імі ўжо і не маладзёны. І ў лістах ён заставаўся шчырым, разумным і дасціпным суразмоўцам. Мо нават яшчэ цікавейшым, чым сам-насам з табой, без пасярэдніцтва паперы і атрамантa. Умеў ён давяраць той самай паперы самыя запаветныя свае думкі, меркаванні, жаданні, перажыванні, сумненні, радасці і засмучэнні, што ўжо добра засведчылі прыгаданыя вышэй «фрагменты» ягонага ліставання і са мною, у прыватнасці. І таму ўжо і з гэтае прычыны лісты ад яго прыемна і ўсцешна перачытваць – нібы чуеш ягоны жывы голас.

*«Дарагі Мікола! Калі я табе рэдка (па твайму разуменню) пішу і шлю мала вестак, то гэта не так ужо дрэнна. Што паслаць табе? Асабліва свежых і цікавых уражанняў, навін, звестак, думак няма. Жыву прымітыўна, як дагістарычны чалавек – жывёла. Бываюць, праўда, мінуты прасвятлення, калі думаецца ясна і глыбока, я сказаў бы нават тонка, за імі ідзе прылiў нейкае душэўнае сілы, нават упэўненасці, паяўляецца нейкая надзея... Але сёння ж ці заўтра спускаешся ў прыземлены і недалёкі свет, у прымітыў, у плоскасць. Прычым, добра разумею, што гэта рэфлексія, слабавольства – пігмейства, бо нельга капацца ў сваім драбноцці, а працаваць, чытаць, вучыцца ў пэўным напрамку. А з-за таго, што час страчаны, неяк боязна рашуча брацца...*

*Я дзён дзесяць «пагуляў» у Прылуках, цягаўся на танцы (і танцаваў, нават разбіваў пары), пабыў праважайлам, але гэта мне ўжо абрыдла: надакучыла быць запанібрата са смаркачамі, прыеліся адны і тыя ж дзяўкі з іх «амурнай хронікай» (плёткамі, у якіх я стаў дасведчаны)... (Дужа добры знак шматкроп'е: выручае, як толькі думка абрываецца ці няма чаго сказаць, ды яшчэ нават пакідае ўражанне, што за ім нешта ёсць – «падтэкст», як гавораць крытыкі новай фармацыі).*

*Крыўдна яшчэ, што вечная недарэчнасць – не ўмеем разумна і здарова выкарыстаць вольны час. Ты ж недзе зараз лічыш гэтыя дзянькі і марыш аб «волі», прыкідваеш, чаго і колькі мог бы зрабіць, а выляціш, прыляціш, «аслабонішся» і – станеш такім жа аслом, як і я, і будзеш гробіць свой час, а трохмесячныя пакуты памалу сатруцца, перамелюцца і набудуць тую асаблівасць, што стануць неблагім матэрыялам для гумарыстычных успамінаў ды падспор'ем, сыравінай для некаторых выпадковых размоў.*

*Але ў гэтую «псіхалогію» дужа лезці не варта. Ты маладзец, што ўсё-такі знайшоў формы і спосабы падаць свой быт і нябыт даволі цікава (бабскі «ўспамін» пра Ясеніна – хараша). Знайдзі яшчэ такую пазіцыю, каб усё, што там, успрымаць весела і не нудзіцца – і будзе цудоўна. Заслугоўваеш строгай камсамольскай вымовы, што не паставіў (не падняў) на належную вышыню сваю сцянную прэсу (чытай Пастанову Пленума, браце!); ва ўсякім разе, з-за гэтага ёй няма адкуль падаць.*

*Да, ты можаш у мяне з законнай крыўдай спытаць: «А ці жыве яшчэ «ЛіМ»? – Жыве, я клянуся, што пастараюся табе прадставіць рэчыўныя доказы гэтага... Проста: я сядзеў пасля экзамена ў Прылуках і трымаў на сваіх плячах сям'ю (маці была ў камандзіроўцы, а Яўг. Вікенцевіч адпачывае на Рыжскім узмор'і); да таго ж лета дужа спрые абвастрэнню абломаўскай хваробы на лянοту...*

*З хлопцаў літаральна нікога не бачу, так што прымаю твае прывеIты, але пакуль што яны астаюцца пры мне. У Мінску співаў Забэйда. У газетах – Быкоўскі з Цярашковай ды футбольная траскатня.*

*Я спадзяваўся, што будзе дужа цікавая ідэалагічная гаворка, аднак рэальнасць пераўзышла нават межы верагоднага. Дужа сумна, нясвежа, нудна. Пуста, збіта. Выступленні нейкія аднастайныя, бязлікія і бескарысныя... Урэшце, шукай сам сінонімы.*

*Ну, клюю носам (у нядзелю недаспаў). Будзь здароў. Служы спраўна. Памятай, што Радзіме патрэбны кваліфікаваныя рэзервы абаронцаў, і не падавайся ў*

*пацыфісты і баптысты. Між іншым, як там твая мускулатура? Цвярдзее на рэжымчыку, свежым паветры і грубых харчах?*

*Пішы, не трымай пры сабе ўражанні. Не шкадуй паперы. Няшмат у мяне такіх людзей, ад якіх я рады кожнай вестачцы. А дачакацца тае вестачкі – дык зусім можна ўжо сябе лічыць шчаслівчыкам.*

*Амінь.*

*24.VI».*

*«Учарашнім надвячоркам прыехаў з Плісы, куды з'ездзіў дужа няўдала. Цёрся каля гаспадынінай на пяць замкоў заперазанай хаты, пляваў са злосці (які чорт прыдумаў прымаўку «Пацалаваў прабой...» – дакладней будзе «Пapляваў на прабой») на яе замкі і прабоі, пацёрся каля школы. Аказалася, што выязджае якраз і Томка Даўгяла. Мы з ёю ў добрай дружбе і згодзе правялі час да поезда ў ейнай каморы, яна была настолькі ветлівай, уважлівай, цёплай, што я... Разам прыехалі ў Мінск і развіталіся цёпла-цёпла. Дзень быў футбольны, і ад рання кіпелі страсці да змяркання: «Дынама» разнесла падрад каманды, што займалі ў табліцы 2 першыя месцы: «Нафтавіка» і «Дын.» Масквы, прычым забілі масквічам столькі галоў, колькі яны прапусцілі за папярэднія 15 гульняў, нанёсшы ім 1-ае паражэнне (2:0). Словам, цяпер у дні футбола па Мінску ні прайсці, ні праехаць.*

*У Прылуках знайшоў вестку ад цябе, на якую і рашыў прыкінуць гэтую прыпіску. З сённяшняга дня прымаюся за работу; было б дужа карысна і што-небудзь пісаць (на кафедры мяне пясочылі – была атэстацыя – што сёлета не друкаваўся, і сказалі зрабіць вывады. Разам з Ів. Якаўлевічам прыкінулі план маёй дысертацыі, прычым павярнулі так, што культ не асабліва страшны. А пісаць будзе пра што; уключылі і Зах. Бел. паэзію, Танка. Час яшчэ ёсць (2 годзікі), можа і нашрайбую...*

*Ну, то ўсяго. Чакай газет. Размяняў 25-ы гадок.*

*26.VI.63».*

Вось прачытаў гэта цяпер і журботна, з гаркотаю і адчуваннем нейкае незваротнае віны падумаў аб тым, як цяжка чытаць у старэчым узросце лісты з гадоў маладосці. Колькі няспоўненых жаданняў, колькі нязздейсненых памкненняў! Колькі змарнаванага часу, колькі бяздумна, па-дурному страчаных дзён і гадоў! Варлен вунь адкуль нечакана нагадаў аб гэтым. Застаўся адзін толькі жаль, што ўжо больш нічога ні зрабіць, ні паправіць.

А тут, у дадатак, і міжвольны напамін пра яшчэ адну незваротнасць часу: «Няшмат у мяне такіх людзей, ад якіх я рады кожнай вестачцы...» Ах, Варлене, Варлене, што ж тады казаць мне цяпер, у мае сённяшнія гады, калі практычна не засталося анікога з сяброў юнацтва і маладосці? І яшчэ раз запознена дзякую табе за тое, што да такіх людзей ты залічваў і мяне, грэшнага. Я табе такіх слоў, бадай, не казаў, не дазваляла рабіць гэтага нейкая мая дурнаватая, празмерная сарамяжасць і закамплексаванасць (адчуванне сваёй хлапечай і наогул чалавечай заганнасці), але ж на самой справе я быў вельмі рады тваёй дружбе, ганарыўся сяброўствам з табою, хоць, пэўна, на вялікі жаль, не ўмеў даражыць ім, як след шанаваць. Адчуваю за сабой гэтую віну, бо, што грахі ўтойваць, жыў досыць легкадумна, мала што цэнячы і гэтак жа мала што робячы для будучыні.

У лісце ж просяцца на каментар тры моманты. Першы – адносна «бабскага ўспаміну пра Ясеніна». Я пісаў Варлену, што не адзін раз быў у Канстанцінаве, заходзіў у хаціну, якую бацька паэта паставіў пасля пажару на месцы колішняй, у якой нарадзіўся Сяргей, што гутарыў з ягонымі сёстрамі, якія на лета прыязджаюць з Масквы ў Канстанцінава і выступаюць экскурсаводамі для выпадковых наведнікаў, што паспрабаваў гутарыць са старэйшымі канстанцінаўцамі – мо што ўспомняць-прыгадаюць пра знакамітага земляка. Дык вось адна з бабуль пачала распавядаць пра тое, як «Серёга», прыязджаючы дадому, спяваў разам з імі, дзяўчатамі, і як

танцаваў з ёю на гэтым вось пятачку, дзе і сёння вечарамі моладзь ладзіць танцулькі, а галоўнае – як насіўся галопам па вёсцы на ружовым кані...

Другі момант – адносна Ів. Якаўлевіча. Гэта – Іван Якаўлевіч Навуменка, навуковы кіраўнік Варленавай кандыдацкай дысертацыі. Першапачаткова тэма дысертацыі абмяжоўвалася беларускай савецкай паэзіяй 30-х гадоў, і Варлен быў рады, што яна пашырана за кошт уключэння заходнебеларускай паэзіі, бо савецкая ўся была знявечана прэсам культу Сталіна і была проста нецікавай, не давала прасторы для развагаў і супастаўленняў.

І трэці момант – адносна Томкі Даўгяла. Гэта, наколькі памятаю, Варленава каляжанка, настаўніца Плісоўскай школы.

Два лісты 1963 года не маюць канкрэтных дат напісання ці адпраўкі. Першы пасланы мне яшчэ той парою, калі я быў на зборах, другі – калі ўжо быў дома, а Варлен адпачываў-падмацоўваўся на Нарачы. Лісты, як зазвычай, жартоўна-ўсмешлівыя, але ж і сумна-іранічныя, хваравіта-самадакорлівыя.

*«Мік. Сымонавіч! Здаецца, ідзе да фінішу Ваша слаўная дзейнасць на карысць міру і нашых стойкіх абаронных фарпостаў. Мне асабіста засталося толькі адбыць гэты ліст, выслаць табе газеты ў апошні раз (ці ж атрымліваеш ты іх?), атрымаць ад цябе 2 лісты (ты недавыканаў мой план) і тады ехаць на Нарач. Ты ж хутчэй прыязджай, і я буду рады бачыць цябе добра адпачыўшым, не пузатым, але з мордай на ёмкую камянюгу, з мускуламі —«тугімі вузлякамі» (так адзін паэта пісаў), з добра адпачыўшым месцам для сядзення і з добра праветранай ад усякага пылу галавой і з добрай ваеннай загартоўкай для зацяжных і палкіх атак на абітурыентак.*

*Шкада, што цябе ў ліпені не было. Тут бы ты чорт ведае як пажыраваў бы «вочна» і цялесна на завочным сектары. У нашым інтэрнаце ліха што робіцца. Ледзь не самі спыняюць (ды што там «ледзь» – спыняюць і ўсё).*

*Стаіць у нас млосная і застойная гарачыня. Вытркнешся на сонца, і ўжо нічога не хочаш рабіць, ні аб чым не думаецца, імкнешся ўлезці ў ваду і перабыць да вечара. А ў Мінску за дзень усё напаліцца і да паўночы спякотна, не спіцца і лезуць непрыстойныя думкі пра размораных гэтай парняй загарэлых дзябёлых дзяўчат. Божа мой, лета! Нашто ты пазбаўляеш апошніх ілюзій аб чысціні адносін. Усё неяк адбываецца проста, лёгка, мімаходзь. А назаўтра крыху падакараеш сябе, дзён пару патрымаешся – і ізноў непатрэбнае глупства. Праўда, у самым галоўным я ўсё-такі стойкі і не маю асаблівых падстаў сябе папракаць. Але ж усё-такі ў думках бываю шкоднікам.*

*Па-ранейшаму нічога новага не магу сказаць пра тваё асяроддзе. Хіба толькі, што бачыў сёння на вуліцы твайго Нічыпара Еўдакімавіча.*

*Чытаю Лорку, Генрыха Мана, Леангарда Франка. Перастаў цягацца на танцулькі па суботах і нядзелях. Маю жаданне пісаць, толькі ліха ведае – што і куды.*

*Выйшла кніжыца М. Чарняўскага (я табе дасылаю «ЛіМ» з рэцэнзіяй Макарэвіча)...*

*Я мог бы, вядома, яшчэ пісаць. Але няма асаблівай карысці. І шкада, што не ведаю, як табе паспачуваць, што так няўдала склалася гэтае лета. Цешся хіба тым, што і ў рэдакцыі зараз сядзець было б не надта ўжо і смачна. А можа табе за заслугі прадлілі «адпачынак»? Да сотні... Тады радуйся: армія – добры сродак ад паносаў, запораў, неўрозаў і лішніх думак. Жыву ў інтэрнаце, у 51-м пакоі, адзін».*

Патлумачу адно: Нічыпар Еўдакімавіч – гэта тагачасны галоўны рэдактар «ЛіМа» Н.Е. Пашкевіч, мой добры анёл-ахоўнік і дабрадзей.

Другі ліст больш мінорны. Варлен адчуваў сябе некамфортна: балела галава, адольвала нейкая незразумелая стомленасць, прыгнятаў дэпрэсіўны настрой.

Паехаў на Нарач. Там была ўніверсітэцкая біястанцыя, а пры ёй – так званая дача. Маці дамовілася, каб на той дачы прытулілі Варлена – далі яму начлег. Вось адтуль, з Нарачы, і прыйшоў гэты ліст – без зваротку, як своеасаблівы працяг пісьма ранейшага, пасланага з Мінска.

*«Сёння няма неба – дробны дождж. Тыпова асенні – аблажны, халодны, бясконцы. Сёння я яшчэ купаўся (купаюся ўсе дні). Пясок на беразе быў халодны, і я ўвесь час падскокваў. Потым гадзіну грэўся ў пасцелі. Зараз хачу схадзіць у Купу, на пошту. Таму і рашыў табе напісаць.*

*Я тут дзесяць дзён. Абвыкся так, што астаўся яшчэ б на невядом час. Былое, мінскае зацягнулася павуціннем.*

*Заспеў я лета. Загарэў, паплаваў, наездзіўся на лодцы (лодка ў мяне ёсць і зараз), рукі крыху абраслі мясам, якое можна назваць мускуламі. Вёсламі прадраў скуру на далонях. У лясах многа грыбоў і ягад. Прыедзь на нарыхтоўкі. Я чакаў вас са Слаўкам 22-га і 29-га. У хуткім часе перабяруся на біястанцыю (з дачы выганяюць) і буду жыць у горкай адзіноце (як і зараз жыву). Калі, прыехаўшы на наступны год, пачуеш воўчае выццё, тлумач усім, каб не палохаліся: гэта буду выць я, здзічэлы.*

*Ем на паплаўку. Вячэраю і снедаю лустай хлеба з паўлітэркай малака. Жыву бяздумна, і ўражанні не накапліваюцца.*

*Кніга нарачанскіх дзён пералістваецца ў залежнасці ад самаадчування і настрою. Пагода была цудоўная. Раніцой штодня бягу на зарадку, потым, разагрэты, лезу ў ваду і ганяю вясёлкі рукамі. На турбазе штовечар танцы. Я прынюхваюся. Афіцыянткам (тут зараз дзявок цьма цьмушчая, і ўсе аж пішчаць, здаецца: хлапцоў бы паболей) кажу, што я жанаты. Вечарам выязджаю на лодцы і гляджу, як гладзь азёрная мяняецца так, што для параўнанняў можна падабраць усе сплавы, металы і злучэнні – свінец, бронза, слюда, фаянс, медзь і г.д.*

*Сёння толькі займеў рэпрадуктар, а так усе навіны (навіны – выйгрышы і пройгрышы мінскага «Д») даходзілі толькі на трэці дзень.*

*На турбазе хлопцаў мала, больш дзевак. Хлапцы-піжоны выпілінгваюць і выкручваюцца, як, даруй, сперматазойды. У санаторыі адпачывае звяздовец М. Шыманскі. Я, як убачу яго, ледзь не скуголю, быццам сабака, які даўно не бачыў гаспадара – рады.*

*Дождж нібыта сціхае. У небе страляюць рэактыўныя. Я заканчваю.*

*31.VIII. Варлен*».

Дзве мілыя душэўныя вестачкі. Як дабратворныя сардэчныя пігулкі. Шчасна пасміхнешся з ваўчынага выцця здзічэлага адзінокага нарачанца-адпачыванца і з радаснага сабакі, што пабачыў гаспадара-Шыманскага. (Дарэчы, Міхась Шыманскі і сёння, хоць і старэча ўжо, усё яшчэ працуе, летась, здаецца, здабыў нейкую лукашэнкаўскую прэмію за вельмі надзённую і дужа патрэбную кніжку пра Кітай). Не стрымаешся ад ціхае ўсмешкі і ад Варленавага «прынюхвання» да танцаў на турбазе, ведаючы, які ён на самой справе «заядлы» танцор і гуляка. І хараша здзівішся і трошачкі пазайздросціш ягонай назіральнасці і здольнасці бачыць: гэта ж акурат паэт мог угледзець у азёрнай бязмежнай роўнядзі колеры і адценні сплаваў усіх металаў і не металаў...

Згадваецца ў другім лісце ў звязку са мной Слаўка. Гэта – Вячаслаў Мікалаевіч Куцэнка, мой аднакурснік, а пасля Варленаў сваяк (пабраўся з Варленавай цёткай, сястрой Ларысы Лявонцьеўны), супрацоўнік «ЛіМа» і выкладчык журфака нашага ж БДУ; мінула ўжо 12 гадоў, як не стала і яго.

У 1964 годзе Варлен адчуў сябе зусім блага. І можа не так фізічна, як душэўна, маральна. Дэпрэсія была жахлівая, ён проста не знаходзіў сабе месца. Клаўся ў бальніцу. Пра ўсё гэта – ліст ад 18-19 верасня:

*«Мікола Сымонавіч! Пішу табе мо ў апошні раз з Плісы, дзе з гэтага дня*

*прыступаю да выканання сваіх нудных абавязкаў выкладаўцы. Я не паехаў да цябе. Даруй. Я нікуды зараз не хачу і не магу ехаць. Не хочацца мне і аспірантуры. Дзеля чаго я ў яе лез? Павялічыць колькасць кандыдатаў? Ці чорт дзеля чаго. Думаецца. Дзённа і ношчна думаецца мне: што я нарабіў? Яскравейшы прыклад: бесталеннасць ідзе ў літаратуру, а на яе дарозе ніхто не ставіць шлагбаўмаў. Чым вышэй я ўзбяруся, тым больш прыкметным гэта стане.*

*Павер, я нават баюся цяпер кніжкі, баюся газеты, друкаванага і пісанага слова. Што я нарабіў. Некалі ж варта было б стаць і больш чэсным, і больш шчырым, і больш рашучым. Так і няма рашучасці ўголас прызнацца, што я не варты і літаратуры, і ўвагі тых, хто ў ёй. Толькі страшна – а што рабіць далей.*

*Васіль (напэўна, Макарэвіч. – М.Г.) аднойчы сказаў: Бечык – няўдалы (несостоявшийся) паэт, а таму – крытык. Ён нат не падазрае, наколькі страшна ён папаў у цэль. Так яно і ёсць. Каб мог, то я пісаў бы вершы, гаварыў бы на поўны голас, але – няма таленту. Гэта мучае мяне даўно. І чым далей, тым страшней. Бо калі я думаю, думаю, думаю аб людзях, аб жыцці, калі суджу сябе і другіх, я адчуваю фальшывасць становішча, калі ці не ўсе заўважаюць ледзь прыкметную бірку на маёй асобе: «Гэта, ведайце ўсе, бясталеннасць». Не ведаю, як мне зараз быць. Я паехаў у Плісу, працую. І тут не тое. І ў Мінску будзе не тое. І гняце адказнасць за ўсё: за тое, што я ў жыцці наманіў; за тое, што я змоўчыў; за тое, што бываў няшчырым; за тое, што быў няветлым, нясціплым, няўважлівым.*

*Сёння я разумею: каханне, шчырасць, чэснасць, мужнасць – гэта не «ідэёвая катэгорыя», а плоць, крой, атмасфера акаляючага мяне чалавека. Мне ж дано не гэта, а неўладкаванасць слязлівага хлюпіка...*

*Што мне зараз хочацца? Пляваць у столь. Ляжаць у пасцелі і пляваць у столь. Таяць у небе. Знікнуць, растварыцца. Не жыць, псуючы паветра. Людзей бачыць баюся. Цягне мяне накрыцца коўдрай з галавой, падабраць ногі да жывата. І не рыпацца, не рыпацца... А штодня свішчуць пайз вокны цягнікі.*

*Я заводжу штодня адну пласцінку: мяне віншуюць, а я распісваю, як прапоўз у аспірантуру...*

*Э, ды што. Баюся, і ты не зразумееш мяне. Скажаш: поза, самаўнушэнне, настрой. Гэта не тое. Не хачу я гэтага. Так, гэта настрой, але той настрой, які прыходзіць да мяне заўсёды, калі я астаюся адзін. Усё гэта складаней, чым я табе спавядаюся. Тут і роздумы, і назіранні, і «ўдалыя плюс няўдалыя каханні», і людскія слёзы, і ўчынкі, і кніжкі.*

*Страшна, але я не адчуваю грані паміж рэальным і нерэальным, паміж жыццём і выдумкай, праўдай і няпраўдай, паміж цвярозым розумам і вар'яцтвам...*

*Ды зноў-такі. Што я...*

*Ты, Міколка, дарыў мяне ў нейкай ступені сваёй дружбай. Таму і дзялюся з табой тым, што на сэрцы. Увогуле, з табой – здаецца – я заўсёды быў шчыры, выкладваў і сумненні, і «честолюбивые» намеры, і планы, і адносіны да людзей. Чэсна гаварыў заўсёды, што думаю і пра цябе (у сэнсе: пра недахопы). Ты меней чэсны: пра мае слабыя бакі і недахопы звычайна маўчыш. Карысці ў гэтым мала. Шчыра скажу, што баюся, што ты мяне на гэты раз не зразумееш. І не толькі таму, што я тут натуманіў, лухты навярнуў. Падумаеш: самакапанне, ды і толькі. А якое тут...*

*Не звяртай, калі ласка, увагі, што я забыўся на тваю гасціннасць, не дзівіся, што ў Мінску мне не хочацца каму-н. на вочы пападацца. Увогуле, што будзе – не ведаю. Усё настолькі не мае сэнсу. Добра б сказаць: «Я не был еще, я буду еще!..» Але ж калі я «не был еще» – праўда, то што можа значыць: «Я буду еще...» Што? Няма адказу.*

*Кручуся, як уюн, а не ведаю: куды дзецца ад думак. Што сказаць сабе самому? Куды я ішоў.*

*Што калі нават дзяўчына з забаўкі стала для мяне неабходнасцю і адразу ж перастала быць маёю і мучыць мяне тым, што недзе ездзіць, ходзіць, стаіць... з другім.*

*Што калі МОЙ СВЕТ (ёсць такі ў кожнага з нас і ён даецца нам самым глыбокім, жывым, рэальным) уціскаецца ў думкі, вершы, выказаныя другімі. Што калі я сам магу сказаць: я ніколі не быў чэсным, і шчырым, і справядлівым, і г.д. Калі не магу сказаць: До! Буду сапраўдным чалавекам. Чэсным і мужным.*

*Мусіць, сама лепшым было б самагубства. Але ж і для яго нечага не стае: смеласці ці трусасці.*

*Вось як, Коля. Бывай.*

*18-19 верасня 64. В.Б.»*

Горкі, балючы ліст. І сёння мне робіцца непамысна. А тады... Я таксама мучыўся такімі ж думкамі, пытаннямі, сумненнямі, такім жа нявер'ем у сябе, у свае сілы і здольнасці, у правільнасць абранага шляху. Але мне было, няйначай, лягчэй, бо так глыбока я не капаўся, гэтак бязлітасна не выварочваў сваю душу. А яшчэ таму, што... знаходзіў паратунак, як ні сорамна прызнавацца, у чарцы. Яна, вядома, вяла ў рэшце рэшт да пагібелі, п'янства – гэта самагубства, расцягнутае ў часе. Ды гэта – у канцы, а напачатку – гэта нібы сапраўды паратунак, вызваленне, разняволенне. Варлен жа катэгарычна адмаўляў такі шлях, хмельнага пітва практычна не браў у рот. Пра гэтыя свае праблемы мы гаварылі неаднойчы і часта апыналіся ў ніякаватай сітуацыі. Даводзілася пераконваць таварыша ў тым, у што сам (у сабе) не верыў. Варлен, вядома, слушна папракнуў мяне, ды што я мог зрабіць? Вышэй самога сябе не скокнеш. Як мог я гаварыць пра нейкія яго недахопы, указваць яму на іх, калі не мог адолець, хоць крышачку выправіць свае? Ды і з другое прычыны. Які б я ні быў бясталенны, карыстаючыся Варленавым словам, але ж хапала мяне на тое, каб разумець, заўважаць і паважаць чужы талент. Варлен жа быў безумоўна таленавіты чалавек! Дык якое права маю я, шарачок, гаварыць яму пра нейкія недахопы? Не, такога права я не меў. Заставалася адно што сяброўская ўвага і падтрымка, і тут я прыму любы папрок адносна іх недастатковасці ці незаўсёднасці. Хоць бы таму, што маладосць усё ж досыць жорсткі і несентыментальны ўзрост.

Як я ўжо казаў, Варленава самаадчуванне прыводзіла яго ў бальніцу, і нават неаднойчы. Тым не менш, ён нават рашыўся сумясціць вучобу з працаю і нейкі час парабіў у нашым «ЛіМе». Штодзённы рэдакцыйны клопат і звязаная з ім адказнасць дзейнічалі на яго дабратворна. Прынамсі, адчуў Варлен хоць нейкую прасветліну, пэўнае адхланне ад неадступных гнятлівых думак і кашмараў, якія абарочваліся галаўным болем.

У канцы сакавіка 1965-га ён паехаў на поўдзень – у санаторый. Адтуль мне прыйшлі два лісты.

*«Добры дзень, паважаны Мікола!*

*На ад'ездзе я з уласцівай мне лёгкасцю самаабавязкаў планаваў пісаць кожны дзень па пісьму. Аказалася, гэта нялёгка. Мяне палохае папера, я з цяжкасцю чытаю, а сны, як той казаў, пераліствоюць мяне.*

*Сёння мне снілася, што ў нейкай зале выступае з галёркі Сталін (у галёрцы – прэзідыум) у маршальскай форме. Потым снілася Света Камінская (мне рэдка сняцца дзяўчаты), я быў завалены ейнымі пісьмамі. Потым снілася афіцыянтка Наташа (яна мае быць адной з гераінь майго пісьма; пра яе асобна). Я цалаваў Наташу, а яна казала: яшчэ, яшчэ.*

*А раніцай наляцелі з мора гэтыя самыя норды, засыпалі снегам горы, лупілі ўсё градам, паднялі і ўздыбілі мора, загналі нас у палаты. Вясна, якая для мяне пачалася сёлета на паўтара месяца раней (тут ва ўсю спявалі шпакі, цвілі сады, мужчыны купаліся ў моры), цяпер скончылася: кветкі асыпаліся, лісты пажоўклі. Сёння я першы раз не адважыўся абціраца на моры – вельмі халодныя камяні.*

*Не чакай, што я буду пісаць пра мора, узбярэжжа, шчылі, туманы, сонца і кветкі – канкурыраваць з Паўстоўскім я не змагу.*

*Не будуць мае пісьмы мець і чоткую кампазіцыю – Барыс Сачанка з мяне не выйдзе.*

*...Быў на вяршыні адной з гор. Глядзеў на заліў, пасёлак у даліне, вінаграднікі, суседнія горы. Горы здаюцца мне то застылымі ўздыбленымі хвалямі, то вялізнымі кучамі пяску, насеянымі ўздоўж пабярэжжа. Хмары поўзаюць па горах, перамешваюцца з туманам і скідаюць уніз дождж і снег. У пахмурныя дні горы закладваюць гарызонт, як страшэнныя чорныя хмары. Ноччу я баюся мора. Здаецца, ты абсалютна адзін з гэтай стыхіяй.*

*Месца тут увогуле-то слаўнае. У першыя дні я нават спалохаўся: не здолею карыстацца ўсёй раскошай. Спачатку я крыху загараў на няпэўным сонцы, а потым халады спынілі «кліматычнае лячэнне». Усе застагналі, завойкалі. Падлічваюць грошы.*

*Дарога дзіка дарагая – прыезд сюды абышоўся мне за тры дзесяткі рублёў. Я купіў тут 2 кнігі Экзюперы і цяпер (жартую) эканомлю на канвертах і газетах (можа ты мне «ЛіМ» прышлеш?).*

*Першыя дні дарогі стамілі мяне. У Растове я быў цэлы дзень, тры гадзіны бадзяўся па Харкаву. Дарожныя ўражанні аселі ў галаве, як муць на дне шклянкі. Добра, што я з'ехаў: мне здавалася, што я парахнею і тлею (не па-беларуску?), як шчэпка.*

*Цяпер дні не стамляюць мяне. Уражанняў – менш, і яны прыходзяць без напружання. Здаецца, мне крыху лягчэй. Памалу чытаю выпадковыя кніжкі і Экзюперы. Па 30 старонак у дзень.*

*Хаджу на працэдуры. Жартую: працэдуры – дуры. Мне прапісаны гальванічны варатнік (каўнер) – я заву яго хлясцікам. Ён падкладваецца пад спіну. Маладая дзяўчына сцягвае з мяне штаны, кладзе на ложак (тапчан) на спіну, абкладвае нейкімі хрэновінамі і ўключае ток. Я заплюшчваю вочы, і мне здаецца, што спіна пакрыта калючым серабрыстым пылам. Я дэкламую дзяўчыне: «Электропылью серебрится его гальвановоротник». Здзек, вядома, з Пушкіна. У вачах плаваюць чырвоныя і чорна-сінія плямы.*

*Яшчэ хаджу на ГАІ. Гэта не аўтаінспекцыя (практыкуюцца ўсе вастрасловы), а гідрааэраіянізацыя. Удыхваеш спецыяльнае іянізаванае паветра з пісклівага апарата і думаеш, зажмурыўшы вочы. У першы сеанс я думаў пра свае студэнцкія часы, багатыя на выпадковыя веды і ўражанні. Тады была ясная галава і яшчэ не зусім растаяла туманная дымка будучыні.*

*Я тут стаў вершапісацелем. На гэта мяне заахвочваюць хлопцы ў пакоі («хлопцам» пад 40, усе мы тут з Мінска, асноўная маса – кіруючы клас нашага грамадства). «Хлопцы» ахвотна смокчуць гарэліцу (між іншым, у першы дзень адзін хворы пехатою ледзь не на карачках прытупаў з Наварасійска і, заглушаючы радыёвузловыя песні, спяваў пра чарот і пракладваў дарогі па газонах), крыюць матам і ніяк не ўцямяць, нашто я купіў 2 Экзюперы. Але кніжкі выклікалі ў іх пэўную павагу. Адзін з іх стойка чытае «Нямігі крывавыя берагі» (на рус. мове).*

*Першыя радкі, якія я склаў, сталі частушкай: «Санаторий обещали, а приехали в концлагерь». Цяпер усе называюць сан-й так: «Канцлагер «Жамчужына мора». Не наблытай і не напішы гэтак на канверце.*

*Потым у сталовай аказалася ёмкая, пульхная (у маім гусце) афіцыянтка Наташа, якую, праўда, паспелі перахапіць. Але і мае заляцанні пачынаюць мець некаторы поспех. Ёй я падкідваў такія вершыкі: «Говорят, сегодня танцы. Я не знаю, как мне быть: очень хочется на танго мне Наташу пригласить«. Яшчэ: «Не надеюсь на успех, сердце гулко бьется. У Наташи смех, как снег, – в руки не дается». А яшчэ я напісаў ледзь не верш, дзе былі і запазычанні, і вольныя радкі, і*

*белыя строфы. Усё прыйшлося даспадобы маёй каралеве. Напрыклад, было нават так: «Зачем вы меня не любите, не смотрите на меня?.. Я самой красивой девушке еще не смотрел в глаза...» (яўнае запазычванне).*

*Але мне заляцацца нельга. У санаторыі адпачывае мая... цешча. Жарты жартамі, але – з кім ты думаеш? – я ехаў у адным купэ? У купэ адна жанчына пачала гаварыць пра Свету Камінскую... Я дастаў фотку і спытаў: гэта яна? Жанчына завойкала: «Ой, яна!» Гэта, аказваецца, была Свеціна цётка. Гаварлівая, яна ўвяла мяне ў курс усіх сямейных спраў, стала называць сябе сваццяй, а потым – я ёй спадабаўся – «згадзілася» аддаць за мяне сваю дачку (дачка прыходзіла на вакзал). Па зразумелай асацыяцыі хачу спытацца: а як там Станіслаў Пятровіч? Ты, калі ласка, прывітай найлепшым чынам і яго, і хацяб асобных прадстаўнікоў ягонай паважанай сям'і.*

*Раскажу пад заслону пра адну нашу «аперацыю«. Хлопцы раззлаваліся, што мала сарціраў, і рашылі навесці парадак. Зрабілі пэндзлік, узялі бутэльку сіняга чарніла і пад покрывам цемнаты панапісвалі «М» на ўсіх спецыфічных будынках. Толькі паміж двума «М» уставілі раз «Ж». Жанчын адвадзілі, а «Ж» увесь час пустуе. І нават санаторнае начальства лічыць, што так і трэба. Такімі важнымі «аперацыямі» і перабаўляем час...*

*Але санаторны рэгламент не дазваляе мне пустасловіць бясконца. У маёй курортнай кніжцы вялікія палі, я запаўняю іх пісьмапісаннем, але бяздумным, як выпісванне кружочкаў і палачак...*

*Кліча вячэра. Благаславён хай будзе пах курортнай ежы!*

*Бывай здароў, Мікола!*

*Твой Варлен.*

*3.IV. Адрас: Краснодарский край, Геленджикский р-н. пос. Кабардинка, сан. «Жемчужина моря», Бечик».*

І гэты ліст начыста абвяргае сцвярджэнне ягонага аўтара, што свет яго абмежаваны, што ён грунтуецца толькі на чужых кніжках і думках. Наадварот! Гэта піша, несумненна, чалавек шырокага і глыбока ўласнага погляду на свет і людзей, чалавек шчодрай, багатай і неспакойна-цікаўнай душы, тонкага і дасціпнага розуму.

З пісьма падаецца, што Варлен паступова выходзіў з дэпрэсіі. А, можа, гэтымі жартамі ён проста падтрымліваў сябе, не дазваляў хандры авалодаць ім цалкам? Не без гэтага, пэўна, бо ў наступным – праз тыдзень – лісце зноў загучалі ноткі роспачы і безнадзейнасці.

Але спачатку – кароткі каментар да гэтага ліста. Света Камінская – наша агульная знаёмая. Ды якое там знаёмства?! Стаялі аднойчы на Круглай плошчы (цяпер плошча Перамогі) з Уладзімірам Круком, лімаўскім фотакарэспандэнтам. Звярнулі ўвагу на прыгожую дзяўчыну. Крук вазьмі ды сфатаграфуй яе. А яна ўбачыла гэта і падышла высветліць: дзеля чаго, навошта? Вось так і пазнаёміліся. Яна пасля заходзіла ў рэдакцыю па фотаздымкі.

А Станіслаў Пятровіч – гэта вядомы дзіцячы паэт і лімавец Шушкевіч. Якая асацыяцыя са згаданай Камінскай выклікала ў памяці яго? Ды самая звычайная. У С. Шушкевіча былі тры дачкі-красуні, і ў адну з іх, здаецца, у Галю, Варлен быў трошкі ці не закаханы.

А цяпер – другі ліст з Кабардзінкі:

*«Добры дзень, дарагі Мікола!*

*Чаканне з'ядае жыццё. Я чакаю пісьмаў, іх няма. Пішу на рэдакцыю, бо непакоюся, што ты не атрымаў майго псіхапісання.*

*Я сяджу тут у санаторыі, як лоцман, спісаны на бераг. Мой карабель сядзіць на мелі.*

*Сінтаксіс санаторнага жыцця нечым падобны на салдацкі знакамі прыпынку:*

*пад'ём, сняданне, абед і г.д., адбой. У салдата дзейнасць, запоўненая бяздумнасцю, тут бяздзейнасць з тым жа зместам.*

*Мая мазгаўня не можа працаваць, але не хоча мірыцца і з гэтай бяздзейнай бяздумнасцю. Галава цяжкая – хочацца скінуць яе і падфутболіць, каб адчуць палёгку.*

*Я не веру, што папраўлюся, і хачу астацца тут – хоць грузчыкам у Наварасійскім порце, хоць санітарам на ўзмор'і. І паспрабую гэта зрабіць – паспрабую тут астацца. Немагчыма жыць, калі думаеш толькі ў сарціры. Невыносна жыць, калі абмежавана свядомасць. І не столькі свядомасць, колькі магчымасці ёю карыстаца.*

*Страшэнна абмежаваны мой свет. Я пішу, гавару, чытаю без удзелу мазгоў. Малейшае напружанне каштуе мне дорага – не менш як дня стомленасці і дэпрэсіі. Механічна і бяздумна абгульваю ў шашкі санаторных слабакоў і жартую з медсёстрамі – харошымі (хацеў бы сказаць: «хорошенькими») дзяўчатамі.*

*Прыйшлі халады. Час спыніўся, стаў вялым і лянівым, як настылая мерзлая вада. Быт стаў тапорнымі жартамі, перастукам даміно і кароткімі перабежкамі ад палаты да працэдурных кабінетаў, сталовай і сарціра. Хлопцы сур'ёзна і пераконана гавораць, што трэба раскласці касцёр у палаце, клянуць свае мясцкомы, нейкіх абстрактных Зямаў, якія недзе грэюцца ў цёплых пасцелях.*

*Жартаў нягуста: з дня ў дзень называюць санаторый Асвенцымам, жанчынам абавязкова гавораць пра кустатэрапію і перапіхнін, патрабуюць вітамін «Будзьце здаровы»... Дарэчы, холад прыкметна астудзіў хцівыя заляцанні, затое выкачвае грошы расходамі на падагрэў.*

*Ёсць у нашым жыцці і камічны бок. Раніцай у маладой сястры выстройваецца чарга мужыкоў для ўколаў у адпаведнае месца. Яны так і стаяць са спушчанымі трусамі...*

*Ёсць і лірыка: мора, якое часам забудзецца на сваю варожасць, кліча на бераг і нават ува мне прабуджае нешта блізкае да натхнёнасці; ноч, празрыстая, ціхая, запоўненая сігнальнымі агнямі, глухім брэхам сабак, ціхім шэптам вады і ветру...*

*Але ўсё гэта бяжыць паўз мяне, як дарога каля акна аўтобуса. У мяне няма ні думак, якія патрабуюць слоў, ні слоў, каб выказаць думкі. Неадольная стома згусцілася ў галаве, як ноч на сопках. Жыццё здаецца такім аднастайным, што з яго не выціснеш цікавага пісьма...*

*Я думаю, якім дзяшовым было маё ранейшае жыццё, калі няма нават жадання варушыць яго ўспамінамі. У снах да мяне не прыходзіць ні мінулае, ні будучыня, а толькі нейкія нерэальныя прывіды, і я з абвостраным болем бачу ў гэтым патаемны і жахлівы сэнс. Сны працiўна, агідна поўзаюць у галаве ўсю ноч, як дажджавыя чарвякі па асфальце.*

*Я лёгка выйшаў з таго свету, у якім жыў, і не маю сіл нават на жаданне ў яго вяртацца. Няма ні ўспамінаў, ні каханкі, ні бацькоўскай хаты. Плыву няведама куды трухлявай шчэпкай. Гэта не трагедыя – якая можа быць трагедыя ў трухлявай шчэпкі. Гэта не роспач і не выдумка, а жахлівая рэальнасць, з якой я дарэмна не пагадзіўся яшчэ восенню.*

*Мне здаецца, што мая галава падыхае. Я адлежваюся ў палаце і ў думках плюю ў столь. Я апісваю не выпадковы настрой, а паўсядзённы стан.*

*Само гэта пісьмо – частка маёй хваробы. Здароваму яе не зразумець...*

*Думкі расплываюцца, як чарніла па дрэннай паперы.*

*Ізноў я аддаў даніну версіфікацыі – «склаў» злосныя радкі для «миловидной» афіцыянткі, якая пачала хваліцца маімі «вершамі». Вось некаторыя фрагменты, за бездапаможнасцю якіх павінен, па-мойму, праглядваць пэўны сэнс:*

Любой поэт во всем дитя –
от смеха и до слёз.
Я вам писал стихи шутя,
а вовсе не всерьёз.

Я больше не хочу шутить,
хочу всерьёз сказать:
какой же надо глупой быть,
чтоб всем давать читать,
на стол на наш кивать
и всем про все болтать...
(Тут хлопцы дадаюць яшчэ радок: «И вообще вы – дура»).
Я не хочу вас оскорблять,
но вынужден признать:
каким же надо глупым быть,
чтоб вам стихи писать, –
ведь надо ж было знать,
что вам их не понять!
(Хлопцы ізноў дапаўняюць: «И все-таки вы – дура»).

*Мусіць, я на гэтым закончу. Калі ласка, перадай прывітанні Станіславу Пятровічу, Слаўку і ўсім, хто не скрывіцца ўсмешкай, пачуўшы маё імя.*

*Будзь здароў. Твой В.Б. – кандыдат у грузчыкі Наварасійскага порта. (Калі-небудзь, калі «ЛіМу» будуць патрэбны водгукі на кніжкі, магу прысласць з подпісам: грузчык. Вядома, для гэтага трэба ўладкавацца на работу. У сераду звярнуся да адпаведнага начальства...)*

*Браце, мне да гэтага часу ніхто не прыслаў пісьма. Апроч адной маладой дзяўчынкі...*

*11.IV.65».*

Як відаць з ліста, справы на папраўку ішлі туга. Хвароба забрала Варлена ў свае страшныя лапы моцна, выбавіцца з ходу не выпадала. Дапамога гумару і досціпу толькі часовая і вонкавая. Бо хварэла душа. Самае ж жахлівае заключалася ў тым, што душа гэтая была ўсё ж папраўдзе адзінокая. Сябры, у тым ліку і я, былі заняты сабой, уласныя, як кажуць, прыватныя і дробязныя клопаты часта засланялі ад нас чужы боль, заміналі адчуць і зразумець цяжкую, амаль невыказную бяду таварыша.

Зрэшты, не буду гаварыць за іншых ці пра іншых. Не ведаю, каму яшчэ пісаў Варлен такія вось лісты, з кім яшчэ дзяліўся такім вось запаветным. Са мною ж – дзяліўся, мне ж – пісаў. А які быў, так сказаць, рэзананс з майго боку, якое слова? Сапраўды лекавае, глыбока-душэўнае, шчыра-сардэчнае, ці адчэпнае, спачувальна-абыякавае? Не ведаю. Не мне гаварыць пра гэта. Баюся, што калі і не адчэпнае, дык, бадай, і не надта лекавае, бо, паўтару, жыў я той парою ўсё ж легкавата. Я не чакаў прыходу ў свае сны будучыні, гэтак далёка сягаць нават і ў думках я не замахваўся. Філасофія на аддзяленні журналістыкі была ці не другарадным прадметам, логікі нам наогул не чыталі, як на двух другіх аддзяленнях філфака. Мо і з гэтае прычыны я наўрад ці задумваўся тады, які мой свет і якія ягоныя складнікі. Прафесія журналіста (газетчыка) нібы й творчая, аднак жа не параўнаеш яе з прафесіяй літаратара, пісьменніка, крытыка-літататуразнаўца. Мае памкненні ў гэтым плане былі досыць сціплыя. Не, быць шарачком, нават сераднячком у сваёй справе мне не хацелася. Думалася пра нешта трошкі большае, бо ўжо ж разумеў, што і журналісты бываць розныя: звычайныя нудныя пісакі-інфармацыйшчыкі і нарысісты, аналітыкі, даследчыкі. І калі былі думкі пра чыста літаратурныя намеры і захады, дык вельмі нясмелыя, нават палахлівыя і дужа неакрэсленыя. У Варлена ж, разумеў, зусім іншыя подумы і амбіцыі. І зусім жа невыпадковыя! Уся яго натура, увесь яго ўнутраны, духоўны і душэўны змест,

манера разважаць, думаць уголас, здольнасць бачыць тое, што не дадзена бачыць іншым, тонкае і дакладнае адчуванне слова, чуйнасць да інтанацыі і рытму выказвання, найперш паэтычнага, улоўліванне яго падтэксту і асацыятыўнасці, у чымсьці нават вонкавае аблічча – усё гаварыла за гэта. За гэта ж, паўтару яшчэ раз, гавораць і прыведзеныя тут Варленавы пісьмы: яны відочна і красамоўна сведчаць аб тым, што пісаў іх неардынарны малады чалавек. Я, дзякаваць Богу, гэта бачыў, разумеў і ніколі не сумняваўся, што Варлен будзе ў нашай літаратуры далёка не на апошнім месцы, што ён скажа ў ёй сваё важкае і адметнае слова. І ён рыхтаваўся да гэтага. Рыхтаваўся вельмі сур'ёзна, старанна, самаадддана, напружана, з усёй, так бы мовіць, моладa-камсамольскаю адказнасцю. І акурат гэтае неймаверна вялікае нагрузкі ягоны не надта моцны арганізм і не вытрымаў. Ну, а да гэтага дадаліся і іншыя нялёгкія акалічнасці, у тым ліку і так званага сямейнага плану, пра што трошкі гаварылася вышэй. Зрэшты, мо сказалася і тое, што прырода не надзяліла яго высокім ростам і іншымі адмысловымі фізічнымі данымі, – адчуванне ж гэтай сваёй заганнасці ў юначым і маладым узросце вельмі балючае. Ведаю гэта па сабе. Боль бывае такі невыносны, што сапраўды можна звіхнуцца і завыць воўкам ад нечуванай крыўды і роспачы. Лекі ад такое заняпаласці толькі камбінаваныя: поруч з медыкаментознымі – сяброўская ўвага і падмога, а найперш у рэшце рэшт – час. Акурат ён гоіць любыя, нават самыя цяжкія раны. Мо часам і не да канца, аднак жа – гоіць. І Варлен з часам выбавіўся (хай і не да канца) з пакутаў бяссоння і галавакружжа...

Не ў лепшым настроі вярнуўся Варлен з геленджыкскай Кабардзінкі. Дома, у Мінску, зноў вымушаны быў легчы ў бальніцу. А на схіле года, у лістападзе, паехаў у дом адпачынку на той жа, роднай ужо для яго Нарачы. Стараўся трымаць хвост пісталетам. Як ні цяжка было на душы, як ні балела, разбухала ад змрочных і тужлівых думак галава, а ўсё ж стараўся прагнаць адчай прэч, настроіцца на аптымістычны лад, хоць давалася яму гэта з цяжкасцю.

З Нарачы я атрымаў такі ліст:

*"Добры дзень, прыгоднік, рабінзон, качэўнік, лавелас, творца і дарагі таварыш!*

*Я чакаў ад цябе доўгае справаздачы пра паездкі ў глыбі і мелі Беларусі, але ты маўчыш, пэўна, не хочаш распыляць творчыя сілы на эпісталярную пісаніну. Няварта іх распыляць і на розных фіфачак. Як пісаў Экзюперы, фіфачкі не заўсёды ведаюць цану таму, што чалавек часам ім аддае. З вопыту вялікіх нам найбольш зразумелы і знаёмы вопыт іхняга кахання. Нам, як і большасці вялікіх, не стае вопыту шчаслівага кахання. І мы спрабуем будаваць адносіны з жанчынамі (ну, дзяўчатамі) па сваіх недасканалых праектах, якія прыгожым полам мала бяруцца пад увагу.*

*x X x*

*Радыё хрыпіць, як прапойца-масавік.*

*x X x*

*"Отдыхая – познавай" – пад такім дэвізам надрукаваны расклад культмасавай работы. Здзекуюцца.*

*x X x*

*Як я тут жыву? Ты ж ведаеш. У доме адпачынку ўсё завучана, як азбука. Ні святла, ні радасці, ні цікавых знаёмстваў. Уся тутэйшая мітусня не вартая аднаго дня дзеючай асобы. Ні праблем, ні пытанняў, ні сумненняў. Ні гора, ні радасці. Час бавіцца ў зубаскальстве, якое няма сэнсу пераказваць.*

*Для мяне ўсё яшчэ працягваецца той бясконцы сон, на які я асуджаны хваробай: з бяссонніцамі, санлівасцю, бяспамяцтвам.*

*Маё жыццё далёка ад той паўнаты, каб яго назваць чалавечым, а ўся ўтульнасць гэтых прасцін, фіранак, канап толькі яшчэ больш падкрэслівае душэўную няўтульнасць.*

*Так што ва ўнутраным жыцці такі ж сонны застой, як і ва ўсім гэтым жыццябыце.*

*х Х х*

*13-га я купаўся апошні раз, ламаючы тонкі лядок. А цяпер возера не стала: ёсць толькі 80 кв. км. ільду і снегу. Прымаю халодныя ванны ў больш спрыяльных умовах.*

*х Х х*

*Жыццё ў доме адпачынку – не сапраўднае жыццё, і калі яно і ўваходзіць у твой вопыт, то ў творчасць трэба ўводзіць яго вельмі асцярожна. Калі ты пераносіш падзеі ў дом адпачынку – значыць, табе не хапае сапраўднага жыцця.*

*Тутэйшае жыццё так лёгка ўцісне у пісьмо, што я нават і не збіраўся табе пісаць.*

*Ты ж ведаеш, што "адпачываючыя" групуюцца ў калектывы: двое – тэніс, трое – пайлітра, чацвёра – казёл. З усіх якасцей тут найменш патрэбен розум. Еш, спі, гуляй. А прагулачкі, танчыкі, жарцікі прыядаюцца, як дзяшовыя песенькі.*

*х Х х*

*Усё-такі нават для гэтага пісьма трэба рабіць намаганне: вата засцілае мазгі; але я сам вінаваты, што папусціўся да хваробы, і таму мне сорам скардзіцца.*

*Так што пісаць не маю пра што. Хіба што Стральцоў капнуў бы глыбока і адолеў бы гэтую бессюжэтную будзённасць.*

*Вітам Анатоля Ільіча, які з такім запалам прасаваў нарачанскія дарогі, што і зараз яны дымяцца. Вярцінскага тут помняць, чытаюць, паважаюць, кахаюць і г.д.*

*А я жыву ў ягоным пакоі, у тых жа ўмовах і нават есці перайду за ягоны стол (як вырадзіліся – ад "вырождаться" – адпачываючыя: быў Вярцінскі, а цяпер Бечык).*

*х Х х*

*Увогуле ўсім прывітанне і паклон.*

*х Х х*

*Рашыў разварушыць адну прыгажуню, чопарную (не па-беларуску?), як арфаграфія. Прыкладна вось што я ёй напісаў:*

*"Несравненная и возвышенная! Молюсь Вам, как богу. Вернее, как богине. Ибо, как сказал пророк, «сострадая, сердце Всевышнего остается твердым».*

*Господь сказал мне: «Едь в это вместилище греха и соблазнов, но помни: будь кротким агнцем, не прелюбодействуй и читай священные книги». И добавил: «Избегай лукавого, не впади во искушение, остерегись тех, кого я создал из ребра Адамова, ибо я сотворил женщин по наущению диавола».*

*Так и жил я в этом доме отдыха, непрестанно оставаясь верным наказу господа и одной из его важнейших заповедей.*

*Господи-боже! Сострадая нам, напутствуя нас, ты все же не ограждаешь нас от мук. В Евангелии, в книге Матфея, сказано: «И тот, кто посмотрит на женщину с вожделением, уже в уме прелюбодействовал с нею...» и т.д.*

*Но ведь глаза нам даны для того, чтобы видеть. И когда я увидел Вас, я сказал господу: «Всевидящий и всеслышащий! Если эта святая – исчадие ада, то не верю я ни в бога, ни в черта...»*

*И явился мне во сне Он. И сказал: «Молись. И живи без греха и знакомств 12 дней. А потом можешь знакомиться с Ней, ибо Она послана мною, Она с неба, хоть у нее и есть сердце. И помни, сказал мне Он, в мирских книгах написано: «Тогда любовь нечаянно нагрянет, когда ее совсем не ждешь». Рек еще господь: «Я скажу, чтобы этими строчками святой Лука дополнил Евангелие».*

*Я внял господнему слову. Господь спросил у меня: «А кто и зачем написал вот это:*

*...Гляжу в окно в молчанье,*
*Приезжий старожил,*
*Как под окном мещане*
*Прогуливают жир.*
*Я здесь живу не сладко,*
*И отдых мне не впрок, –*
*Проклятая оглядка,*
*Пугливый шепоток.*
*Я холодно и важно*
*Брожу по этажу, –*
*Бессмысленно и влажно*
*На девушек гляжу.*
*И улыбаюсь реже.*
*И про любовь не вру.*
*Хожу на побережье*
*И стыну на ветру...»*

*И повинился я перед господом, упал перед ним ниц: «Я не знал, господи, что нашел свое место, и повторял поэтому эти грешные строчки». И ангелы подлетели ко мне и пропели: «Бери вторую путевку и молись, чтобы быть с Ней в одной смене и за одним столом».*

*Аминь».*

*Эпілог:*

*За сталом мы цяпер за адным. Але Ёй я, вядома, такога ліста не даў, бо арыгінал у гэтым пісьме, а копію знімаць не хочацца.*

*х Х х*

*А можа ты ўжо жаніўся?*

*х Х х*

*«И на радость лицемерам*
*Жизнь ползет в тумане сером,*
*Безответна и глуха.*
*Вера спит. Молчит наука.*
*И царит над нами скука,*
*Мать порока и греха».*

*х Х х*

*Канец. Пачціва прывітай Шушкевіча. Усяго добрага. Варлен.*

*Мой уласны каламбур: «Их отношения пока еще в той зачаточной форме, что не требуется противозачаточных средств».*

*21.XI».*

Вось гэтак ратаваўся Варлен ад хваробы, ад бяссонніцы і трывожных думак, ад "соннага застою", такім чынам аздабляў і расквечваў-размалёўваў бляклую і аднастайную, бессюжэтную, як сам пісаў, будзённасць. Хвароба абвастрала пачуццё незадаволенасці сабой, а можа – наадварот: дзіўная, проста неспасціжна нізкая самаацэнка сваіх разумовых і творчых магчымасцей, наогул здольнасцей, а папраўдзе неймаверна высокая патрабавальнасць да сябе, да ўсяго, што робіць, чым заняты і заклапочаны, надзвычайная ягоная самаадказнасць перад людзьмі і светам заганялі хваробу ўглыб? Колькі разоў казаў ён у пісьмах пра сваю бесталентнасць, недаўмяваючы, чаму гэта на яе шляху ў літаратуру не ставяць шлагбаўмаў! Ах, Варлене, Варлене! Што б ты сказаў, калі б дажыў да гэтай пары? Калі б пабачыў сённяшніх маладых самагеніяў, начыста пазбаўленых пачуцця сціпласці, якім увогуле незнаёма цвярозая ацэнка сваіх здольнасцей і сваіх так званых творчых дасягненняў?

Хвароба замінала вучобе ў аспірантуры, практычна перапыніла яе амаль на два гады. Зрэшты, не саму вучобу, а працу над дысертацыяй. І гэта яго таксама прыгнятала і выводзіла з устойлівай жыццёвай каляіны.

У лісце згадваецца Анатоль Вярцінскі. Сталася так, што ён таксама той парою скідаў стомленасць і працаваў (пісаў вершы) у тым доме адпачынку, Варлен быццам прыехаў яму на змену.

Перад Новым 1966 годам прыйшла ад Варлена кароценькая, на тры радкі, паштоўка:

*“Са святам, з Новым годам! Хай будзе нам шчасным і плённым той кавалак жыцця, які мае назваццa 1966 годам. Твой (удзячны) Варлен. 27.ХІІ.65”.*

А потым прыйшоў ліст з Масквы, куды Варлен паехаў і папрацаваць, і падлячыцца. Ліст, у адрозненне ад ці не ўсіх астатніх, чыста дзелавы ад пачатку да канца:

*“Мікола!*

*Я хачу новага зігзагу ў сваім не вельмі дарэчным лёсе. Маскоўская мітусня, у якой глынуў я крыху навукі і шмат адзіноты, штурхае мяне да новага рашэння.*

*Жадаю сталай работы. Выключаны з працоўнага рытму, я страціў і нейкую ўнутраную ўстойлівасць. Мае паводзіны і ўчынкі (гэтых мала) – мізэрныя патугі не згубіцца ў бяздзейнасці.*

*Парады маскоўскіх лекараў і “знахараў” таксама падтрымліваюць маё жаданне падключыцца да чаго-небудзь істотнага і пастаяннага.*

*Я ведаю, што ў “ЛіМе” было (па вашым аддзеле) пастаяннае месца з акладам і работай. Калі яно не занята, ці згодзіцца гэтая арганізацыя ўзяць мяне, прытым – зусім не часова?*

*Само сабою, скардзіцца, што галава не цягне, я не буду, ды і маё самаадчуванне абяцае быць лепшым, чым мінулагодняй вясной, калі я нейкім чынам праходзіў пэўную “пробу” ў газеце.*

*Хай не падасца дзіўным, але на “ЛіМ” я разлічваю і як на пэўную пляцоўку для росту. Бо спадзяюся, што змагу тут пераадолець двух (ці болей) гадовую спячку.*

*Аднак натуральна спытаць: а што з аспірантурай? Спакуса самаадукавацца ў спакойных умовах аказалася не па мне. Глядзець на дысертацыю як на скачок пешкі ў ферзі – прыніжэнне годнасці навукі і насмешка над ацэнкай вартасці чалавека.*

*Я спрадвеку быў містыкам, і праскапія (здаецца, такая назва) – адчуванне ўласнай будучыні – была мне здаўна ўласціва. Калі паміж намі, то ты, пэўне, памятаеш той «вопль», якім я ацэньваў свой «майбутні» (сказалі б хахлы) лёс у аспірантуры (адразу пасля паступлення).*

*Сугуба (русізм?) паміж намі: я лічу, што дысертацыя мною ўжо зроблена – часткова на паперы, поўнасцю ў галаве. Праецыруючы яе на агульны ўзровень, спадзяюся, што абарона прайшла б. Але – па безлічы прычын – спяшацца не хачу і не магу.*

*Калі кінуць вокам на рускія, украінскія і беларускія даследаванні таго шматпакутнага часу, то, спадзяюся, па крайняй меры ў абагульненнях я болей паслядоўны і настойлівы.*

*Філасофская, гістарычная, этычная, палітычная, эстэтычная і ўсякая іншая перспектыва часу мною, як мог, асэнсавана і ўлічана. Зігзагі і павароты гэтай перспектывы, узровень і шляхі паэтычнага яе асваення, асноўныя праявы звужэння і пашырэння, спрашчэння і паглыблення творчых і грамадскіх ідэалаў не абыходзяцца, асаблівасці развіцця індывідуальных почыркаў і манер даследуюцца. Адносіны лірыкі і інфармацыі, лірыкі і рыторыкі, лірыкі і эпасу, спадзяюся, таксама мною асэнсаваны. Усякія там тэматыкі, праблематыкі, вобразы герояў і іншая абавязковая ерундыстыка, думаю, таксама на ўзроўні дысертацыйных стандартаў.*

*Каб не зацягваць цябе ў далейшую нуду маіх унутраных спраў, падсумую:*

*хай дысертацыя (лічу я ці не лічу яе зробленай – я зараз не перад кафедрай адчытваюся) пакуль што згіне. Не страшна, што я буду лічыцца недавучкай. Страшней, што зараз мне няма дзе прылажыцца да справы. Таму я рызыкую ў цябе спытаць: ці свеціць мне ў «ЛіМе»?*

*Калі б я быў упэўнены хаця б на 60 % у тым, што буду прыняты, то пісаў бы не з такою няёмкасцю. Паўтараю: я намераны працаваць, а не бавіць час. Як здолеў бы – стараўся б.*

*Я не паэт, не празаік, не крытык і як чалавек мнагазначны мінус. Можа быць, у выбары прафесіі я памыліўся (усё ж-такі нармальны чалавек павінен быць на нешта здатны, да нечага здольны), але літаратуру я люблю, ёю жыву.*

*Любоў гэтая большая за лагічную неабходнасць адмовіцца ад кніжак і пашукаць нелітаратурный сферы для прыкладання сваіх сіл. А можа і ўзрост не той, а можа малавата мужнасці...*

*Однако же рефлексивная лирика не должна уводить в сторону от делового вопроса.*

*Пісьмом я апераджаю свой прыезд з Масквы, каб потым – калі месца яшчэ ёсць – не пытацца знянацку.*

*Праз некалькі дзён я зайду ў «ЛіМ».*

*х Х х*

*З паездак, якія заўсёды мяне разварушвалі, Масква дала найменей уражанняў. Я абжыў яе ў першы ж дзень і не люблю ў ёй тлуму, віру, шуму, як заўсёды. Хаваюся ў метро, «Ленінцы» і гасцініцы, чытаю «Словарь атеиста» і «Працэс» Кафкі (купіў на польскай мове) і пішу па пісьму ў дзень на розныя адрасы. Востра ўспрымаю дзявочую прыгажосць і заглядваюся на адбіткі прывабных маладзіц у вокнах вагонаў метро. Як і ўсякі жывы чалавек, я маю сваю калекцыю сюжэтаў. Масква дала мне толькі жменю знешніх дэталяў, годных на літбалванку, але ў яе няблізкім прыгарадзе Балашыха (26 км) я знайшоў адзін паўнацэнны сюжэт... Ажно шкада, што я не празаік і не магу зрабіць яго цікавым для многіх жыццём.*

*Але не буду зацягваць сваё пісьмо. Ведаю свой даўні грэх – пакуль астаецца чыстая папера, пяро не мае супыну.*

*Ну, дык – усё.*

*Варлен. 28.IV».*

Гэта ўжо, як кажуць, пісьмо не юнака, а мужа. Вось з такімі думкамі і намерамі, з такой мераю адказнасці ішоў у літаратуру 25-гадовы малады чалавек.

Не магу не сказаць сёння і вось пра што. Некалькі разоў у лістах праслізгваюць Варленавы заўвагі, кшталту: «русізм?», «не па-беларуску?» і г.д. Ён ужо тады быў неабыякавы да слова, ведаў яму цану, адчуваў ягоныя смак і водар. Але вось жа: нідзе і ні разу не закранаў у лістах тагачаснае моўнае сітуацыі ў рэспубліцы. А яна ж была жахлівая, мала адрозная ад сённяшняй. Ужо ж прагучала пахвала Хрушчова на адрас беларусаў, што яны першыя прыйдуць да камунізму, бо першымі ўсе старанна і дружна загавораць па-руску. Мы ж з Варленам пра гэта практычна не гаварылі. Баяліся? Ну пэўна! Не дазвалялася тады не толькі гаварыць, але і думаць пра такія крамольныя рэчы. На гэта было накладзена строгае і суровае табу. Нам убівалі ў галовы зусім іншыя пастулаты: вялікая і вечная дружба народаў, развіццё і зліццё нацыянальных моў і культур, узнікненне ў СССР новай і адзінай чалавечай фармацыі – савецкі народ. Мы, камсахлопчыкі, верылі, ці, прынамсі, прымалі на веру гэтыя ўзнёслыя і пафасныя сцвярджэнні. А тым больш не мелі права думаць інакш работнікі друку. Толькі аднойчы, апавядаючы пра суседзяў-мінчукоў па санаторнай палаце, кажучы пра тое, што адзін з іх чытае «Нямігі крывавыя берагі» Ул. Карпава, Варлен робіць заўвагу: «на рус. мове». Такое магло быць толькі ў нас: беларус, а чытае раман свайго ж пісьменніка ў перакладзе. Гэта – таксама адзнака часу, калі гаспадары-інтэрнацыяналісты дзейнічалі па прынцыпе: «Б'юць і плакаць не даюць»...

Неўзабаве В. Бечык прыйшоў на працу ў «ЛіМ» – у наш аддзел літаратуры. Само сабою, непакоіўся і перажываў, сумняваўся і сціплічаў дарэмна. Сціпласць папраўдзе ўпрыгожвае чалавека, але ўжо і блага, калі яна празмерная, ажно да хваравітасці.

Ён уліўся ў калектыў, як кажуць, з ходу, без адаптацыі, бо быў падрыхтаваны да працы акурат у пісьменніцкай газеце лепш, бадай, за многіх яе супрацоўнікаў. Крытычныя матэрыялы газеты з яго прыходам пасвяжэлі і пабайчэлі, чаму, безумоўна, паспрыяў свежы погляд і малады імпэт новага супрацоўніка. У тым, што газета «Літаратура і мастацтва» ў 60-я гады, калі яе ўзначальваў Нічыпар Пашкевіч, здабыла нарэшце аўтарытэт і павагу, ёсць хай сабе й невялікая, але несумненная заслуга і Варлена Бечыка – чалавека, бязмежна ўлюбёнага ў літаратуру і самадданага яе служкі і працаўніка.

Я магу назваць няшмат такіх людзей, хто б гэтак шчыра і сардэчна радаваўся прыходу ў нашу родную літаратуру новых талентаў, як Варлен Леанідавіч. Ніколі не забуду, як мы ўголас, з радасцю і захапленнем чыталі ў рэдакцыі дасланыя ў «ЛіМ» вершы шаснаццаці-сямнаццацігадовых Жэні Янішчыц, Сашы Разанава, Раі Баравіковай, іншых паэтычных пачаткоўцаў. Варлен, несумненна, захапляўся больш за ўсіх нас, для яго гэта была свая, асабістая, крэўная радасць – ведаю гэта дакладна. Ён чытаў і перачытваў упадабаныя радкі і вершы, неўзабаве паўтараў іх ужо без паперы, па памяці (паэзію ён запамінаў практычна з першага прачытання) і прыгаворваў: «Гэта паэт! Сапраўдны, прыродны, арганічны! Гэтак ці пачынаў сам Куляшоў!» А паэтычны аўтарытэт Аркадзя Куляшова для яго быў надзвычай высокі, неаспрэчны.

Ды з прыходам Варлена ў «ЛіМ» скончылася, практычна, наша перапіска. Не будзеш жа пісаць пісьмо чалавеку, які сядзіць з табой у адным рэдакцыйным пакоі і з якім разлучаешся адно на выхадныя. І пазней, калі ён пайшоў на працу ў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, і яшчэ пазней, калі перайшоў у выдавецтва «Мастацкая літаратура», патрэбы ліставацца таксама было мала: калі што – пад рукою быў тэлефон. Ды і час мяняўся, хоць і застойны. Час надыходзіў відочна чужародны эпісталярнаму занятку.

А жанр эпісталы, як можна было красамоўна пераканацца і ў дадзеным выпадку, надзвычай цікавы, умяшчальны і ўсеахопны, ён дае шырокія магчымасці для выяўлення самых розных пачуццяў, думак і меркаванняў. Нездарма ў форме лістоў ствараліся не толькі аповесці і раманы, але нават і філасофскія трактаты.

У жанры эпісталы аўтар яе не хаваецца ад чытача, не выдае сябе за нейкага спадара А., ад імя якога можа весціся расповед у аповесці, ці за нейкага абстрактнага лірычнага героя ў вершах. Ён тут сам-насам са сваім адрасатам, без аніякіх пасрэднікаў і тлумачоў, і таму пачувае сябе вольна і раскавана, і таму выказваецца гэтак жа нязмушана і шчыра. У сваім эпісталярным расповедзе чалавек не азіраецца па баках, ён піша пра ўсё шчыра і адкрыта: і пра тое, у чым перакананы, і пра тое, у чым сумняваецца, дзелячыся сваімі развагамі, меркаваннямі, нават здагадкамі, думкамі пра падзеі дня сённяшняга і ўчарашняга, а таксама пра людзей – знаёмых і незнаёмых адрасату, і г.д., і да т.п. Гэтым эпісталы найперш і цікавыя, бо даюць вельмі яскравае ўяўленне пра іх аўтара, адначасова несучы на сабе і выразны адбітак часу, у які яны пісаліся.

Таму і хацелася падаць тут найперш самі лісты Варлена Бечыка – цалкам, без аніякіх скарачэнняў і правак, у тым выглядзе, у якім іх прынесла мне колішняя, даўняя ўжо, пошта. Мой каментар да лістоў – мінімальны. Галоўнае – самі лісты, якія праз дзесяцігоддзі даносяць жывы голас светлага, чыстага, надзвычай абаяльнага юнака і ў якіх яго слаўная будучыня ўгадваецца выразна і неаспрэчна.

*21-28 снежня 2008 года*

Віктар Жыбуль



...можна нават аднавіць па старой мапе ўвесь маршрут, па якім рухаліся сані з вядомым японцам у кампаніі беларусаў...

# Удзяку Акіта ў Менску: вопыт уважлівага прачытання

Публікацыя фрагментаў кнігі і дзённіка Удз**я**ку ***А***кіта ў "Дзеяслове" №64, здзейсненая дзякуючы супрацоўніцтву двух навукоўцаў: піцерскага беларуса Міколы Нікалаева і японца Такуакі Банная, – падзея неардынарная. Як-ніяк, у гістарычны і літаратуразнаўчы кантэкст уводзіцца сведчанне замежнага пісьменніка пра Беларусь, якое дагэтуль не перакладалася і ў нашай краіне не публікавалася. Хоць і выданне кнігі Удзяку Акіта "Маладая Савецкая Расія" (Токіа, 1928) – факт даволі вядомы, але кніга гэтая, як слушна заўважыў М. Нікалаеў, даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю і... чакала сваіх перакладчыкаў і даследчыкаў.

Цяпер мы маем магчымасць пабачыць вачыма ўсходняга госця мінскае культурнае жыццё 1920-х гг., прычым такія яго эпізоды, пра якія і ў нашай беларускай мемуарыстыцы знойдзеш з цяжкасцю. Скажам, асяродак беларускіх эсперантыстаў міжваеннага перыяду – з'ява пакуль маладаследаваная, і аповед Удзяку Акіта ў гэтым сэнсе з'яўляецца даволі карысным сведчаннем. Альбо некаторыя дадатковыя штрыхі

да партрэтаў і біяграфій беларускіх літаратараў, найперш Паўлюка Шукайлы і Змітра Снежкі.

Паколькі роднай стыхіяй Удзяку Акіта была драматургія, асаблівую цікавасць уяўляюць яго ўражанні ад пабачаных у Мінску тэатральных пастановак. Пісьменнік спрабаваў шукаць адпаведныя паралелі ў японскім тэатры – і знаходзіў. Народную драму "Цар Максімільян" ён назваў японскім тэатральным тэрмінам "кёгэн"; як зазначыў Такуакі Баннай, гэта *«"камічная інтэрмедыя" – адзін з шырока вядомых і да сёння традыцыйных японскіх драматычных жанраў у [тэатрах] Кабукі і Но»*[1]. Вядома ж, японскаму драматургу імпанавала жаданне аднаго з рэжысёраў Габрэйскага тэатра "паехаць у Японію, каб вывучаць японскае мастацтва", і зацікаўленасць беларускіх мастакоў японскім тэатральным і выяўленчым мастацтвам (с. 278). Сам жа Удзяку Акіта, паводле ўласнага прызнання, меў уяўленне пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, быў прыемна ўражаны, пабачыўшы фотаздымкі народных паэтаў у адной з каралішчавіцкіх хат (с. 274). Сёння кідаецца ў вочы і такое супадзенне: Удзяку Акіта параўнаў Мінск з Сэндаем (с. 272), а ў 1973 г. японскім горадам-пабрацімам Мінска стаў менавіта Сэндай.

Так, сапраўды, Беларусь і Японія, нягледзячы на далёкую адлегласць, ужо ў 1920-я гг. не былі культурна ізаляванымі адна ад другой, на што звяртае ўвагу і Мікола Нікалаеў у прадмове да публікацыі (с. 268 – 269). Да агляду беларуска-японскіх літаратурных сувязяў міжваеннага перыяду гісторык падышоў даволі грунтоўна: згадаў у зносках цэлы шэраг публікацый на японскую тэматыку ў беларускіх выданнях 1920–1930-х гг. (с. 269). Аднак пра пазнейшы перыяд зрабіў наступную выснову: *"Эпоха сталінскіх рэпрэсій практычна спыніла працу над перакладамі японскіх аўтараў на Беларусі..."* – і як доказ прывёў толькі 2 кнігі, выдадзеныя ўжо ў часы перабудовы, і... тэатральны плакат-афішу 2003 г. Не спрачаюся: сталінскія рэпрэсіі згубна паўплывалі на развіццё ўсёй беларускай культуры, у тым ліку і на дзейнасць перакладчыкаў. Аднак, пачынаючы з канца 1950-х, сёе-тое і выходзіла – пераважна ў перыядычных выданнях. Проста, напэўна, Мікола Нікалаеў на момант падрыхтоўкі публікацыі не меў патрэбных звестак. Насамрэч жа гісторыя беларуска-японскіх літаратурных сувязяў не настолькі бедная, як гэта можа падацца. Прывяду свой бібліяграфічны спіс. Скласці яго (з дапамогай каталогаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі) мяне ў свой час падштурхнула знаёмства з японскім перакладчыкам Кошына Го, які таксама зацікавіўся гэтай праблематыкай. Атрымалася не 3 пазіцыі, а каля 20 – і дадаваць да іх "ад бяды" плакат зусім не спатрэбілася:

Японскія казкі / Апрац. Н. Ходза. Мінск, 1959.

Кідзіма Хадзімэ. Дамашнія гаспадыні: [Верш] / Пер. Я. Семяжона // ЛіМ. 1965. 12 студз.

Русэй Хасэгава. Галубы на мінскіх праспектах: [Вершы] / Пер. Я. Семяжона // Полымя. 1965. № 3. С. 85 – 87.

Кісіра Танака. Узгорак: [Верш] / Пер. А. Вярцінскага // ЛіМ. 1965. 6 жн.

Эйсаку Ёнэда. Пясок шостага жніўня: [Верш] / Пер. А. Вярцінскага // Тамсама.

Іонехіра Н. Чырвонае зернетка рысу; Асаму Харака. Пра смерць в'етнамскага юнака; Слова да маёй дачкі: [Вершы] / Пер. В. Сёмухі // ЛіМ. 1968. 12 крас.

Каіціра У. Бог кітоў: Апавяданне / Пер. з яп. Я. Курто // Далягляды. Мінск, 1984.

Тамікі Хара. Чатыры хоку: З цыкла "Атамная бомба": [Вершы] / Пер. Я. Сіпакова // На волю птушку выпускаю. Мінск, 1989. С. 170.

Мунэта. Пясняр: [Верш] / [Апрац. М. Арла] // Арол М. Лірнік. Мінск, 1991[2].

Акутагава Руноскэ. Брама Расё; Нос; Павуцінкі / Пер. з яп. У. Шатон // Далягляды. Мінск, 1990.

---

[1] Нікалаеў М. Першы японец у Савецкай Беларусі // Дзеяслоў. 2013. № 3 (64). С. 271. Тут і далей спасылкі на згаданую публікацыю з пазначэннем старонкі ў дужках.

[2] Першапублікацыя: Наша Ніва. 1913. 14 ліст.

Такамі Дзюн. Я слабы: [Верш] / Пер. М. Танка[3] // На зорных шляхах. Мн., 1991. С. 190.

Хосі Сініці. Карабель скарбаў: [Апавяданне] / Пер. з // Піянер Беларусі. 1991. 4 крас.

Баршчэўскі Лявон. Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску [Басё (Мацуа Манэфуса), Сікісі-Найсіна, Фудзівара Садае, Сайгё] // Наша слова. 1992. 30 крас., 4 лістап.

Баршчэўскі Лявон. Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску: Танка [Ёсана Акіка, Такубоку Ісікава] // Наша слова. 1995. 6 вер.

Мудрыя гавораць... [Акутагава Руноскэ] // Тамсама.

Мацуо Басё: [Хайку] / Пер. з яп. А. Разанаў // Крыніца. 1997. № 6.

Руноскэ Акутагава. Капы / Пер. з яп. У. Шатона // Тамсама.

Шо Рубока. Ночы Камаці, альбо Час цыкад: са стараяпонскай паэзіі / Пер. Я. Сіпакова // Беларусь. 2000. № 3. С. 7.

Я наўмысна прывёў публікацыі ў храналагічным парадку – каб можна было лягчэй пабачыць пэўныя заканамернасці ў гісторыі беларуска-японскага мастацкага перакладу. У 1960–1980-я гг. зварот да перакладу японскіх аўтараў тлумачыўся салідарнасцю з ахвярамі атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі. Пазней у поле ўвагі перакладчыкаў трапілі сусветна прызнаныя класікі японскай літаратуры: Акутагава Руноскэ, Коба Абэ, Мацуо Басё, Ісікава Такубоку.

Натуральна, што працэс гэты двухбаковы. На сёння з беларускай мастацкай літаратуры на японскую мову перакладзены “1 раман, 1 аповесць і 3 апавяданні Васіля Быкава, 4 творы дакументальнай літаратуры Святланы Алексіевіч, 1 апавяданне Андрэя Федарэнкі,1 апавяданне Івана Шамякіна, 1 апавяданне Міхася Лынькова, 1 раман Уладзіміра Караткевіча, 1 апавяданне Янкі Брыля, 1 п’еса Алены Паповай, 61 верш Рыгора Барадуліна, 3 вершы Аркадзя Куляшова і 1 верш Янкі Купалы”[4].

Беларусь вачыма замежніка – тэма цікавая і пазнавальная. Але ёсць і іншы бок справы. Па-першае, Удзяку Акіта не валодаў беларускай мовай, а рускай – толькі “крыху” (с. 281) і недастаткова добра арыентаваўся ў беларускіх рэаліях. Адпаведна, ён не быў застрахаваны ад памылак, хоць і стараўся зафіксаваць кожную дэталь, асабліва ў аповедзе пра паездку ў вёску. Імёны, прозвішчы, геаграфічныя назвы ён запісваў на слых, часам скарачаў (што для дзённіка выглядае зусім натуральна) і, такім чынам, частка з іх зафіксавалася ў скажоным выглядзе. Гэтаму спрыяла і спецыфіка перадачы славянскіх уласных імёнаў і асобных выразаў сродкамі японскай мовы (на жаль, ёю не валодаю і не магу раскрыць гэты аспект больш грунтоўна). Можна было б павыпраўляць недакладнасці пры перакладзе на беларускую – і, адчуваю, такая праца рабілася, калі меркаваць па некалькіх зносках пад тэкстам. Аднак не ўсё здолела прайсці праз фільтр навуковай дасведчанасці Міколы Нікалаева. У выніку атрымаўся эфект “сапсаванага тэлефона”, і замест рэальных гістарычных асобаў з’явілася адразу некалькі “паручнікаў Кіжэ”.

Асабіста для мяне чытанне гэтага тэксту ператварылася ў гульню кшталту “знайдзі неадпаведнасць” альбо “адгадай, хто/што мелася на ўвазе”. Гульню, трэба сказаць, цікавую: разгадваць гэтыя загадкі і весці пошук мне спадабалася. Падобнае задавальненне адчуваеш, калі купляеш паўфабрыкат, які дае магчымасць праявіць уласную кулінарную віртуознасць. Але нельга забывацца, што перад намі ўсё ж такі дакументальная крыніца, на якую, магчыма, захочуць спаслацца іншыя

[3] Як можна меркаваць па навуковых публікацыях, японскія матывы ў паэзіі Максіма Танка займалі не апошняе месца. Гл.: Сузько А. “Каб ніякі сівер душ не астудзіў...” // Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры: міжнар. навук. чытанні, прысв. памяці Івана Навуменкі (2-3 кастр. 2008 г.): зб. навук. арт. – Гомель: ЦДІР, 2009. С. 279 – 283.

[4] Киёсава Сиори. Переводы белорусской литературы на японский язык // Мова – літаратура – культура: VII Міжнар. навук. канф., прысвеч. 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, 27–28 верас. 2012 г., Мінск, БДУ: зб. навук. арт. / пад агул. рэд. Т.І. Шамякінай. Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2012. С. 384.

даследчыкі – а матэрыял можа зацікавіць і тэатразнаўцаў, і літаратуразнаўцаў, і краязнаўцаў, і даследчыкаў міжнародных культурных сувязяў. А раптам... ім будзе не да гульні і не да "кулінарыі"? То – калі ласка: прапаную сваё ўласнае даследаванне "па слядах Удзяку Акіта ў Мінску", напісанае па матывах "дзеясловаўскай" публікацыі.

## Хто сустракаў Удзяку Акіта на вакзале?

У тэксце свайго выступлення Такуакі Баннай кажа, што на вакзале японскага драматурга сустрэлі Рыгор Рапапорт, Снежка і Айзенберг (271). Напэўна ж, маецца на ўвазе той самы Абрам Айзенберг, акцёр і рэжысёр-асістэнт Дзяржаўнага тэатра БССР, звесткі пра якога змешчаны на с. 270, – падумаем мы. Толькі вось у тэксце дзённіка самога Удзяку Акіты ў адпаведным месцы згаданы зусім не Айзенберг, а іншы чалавек – "чырвонатвары *Ян Куліш*" (менавіта так публікатары вырашылі інтэпрэтаваць арыгінальнае напісанне *Ян Курісі*, с. 277). А далей, там, дзе гаворка ідзе акурат пра Айзенберга (*"Прэм'ер Габрэйскага тэатра... марыць паехаць у Японію..."*, с. 278), ён пададзены чамусьці як *Айзеншпіц*, хоць чалавек з такім прозвішчам у Габрэйскім тэатры не працаваў.

А хто ж тады такі Ян Куліш? Каментары на гэты конт у публікацыі адсутнічаюць. І нядзіва: такой асобы ў мінскім культурным асяродку таксама не было. І толькі прачытаўшы дзённік Удзяку Акіты далей, здагадваешся, што маецца на ўвазе **Ян Клыс** (1896, в. Арачаў Велькі Урублеўскай вол. Сярадскага пав. Калішскай губ., Польшча – 1.09.1938, Мінск) – журналіст, адзін з лідараў беларускага эсперанцкага руху. Працаваў загадчыкам польскага сектара Наркамасветы БССР, рэдактарам менскай польскамоўнай газеты "Orka", газеты "Szturmowiec Kojdanowszczyzny" ("Ударнік Койданаўшчыны"; 1931 – 1932), з 1933 г. – загадчыкам палітаддзела, а пазней дырэктарам Стайкаўскай МТС Багушэўскага раёна Віцебскай вобласці. Пры ўсім гэтым ён быў заснавальнікам і старшынёй (са студзеня 1924 г.) Цэнтральнага Бюро Беларускай арганізацыі Саюза эсперантыстаў савецкіх рэспублік (СЭСР). Сапраўды, ну хто ж яшчэ мог арганізаваць і ўзначаліць сустрэчу Удзяку Акіта з эсперантыстамі ў Клубе настаўнікаў? (с. 280) Лёс Яна Клыса склаўся трагічна: ён быў рэпрэсаваны і расстраляны як член г. зв. Польскай вайсковай арганізацыі.

Найбліжэйшым паплечнікам Яна Клыса па эсперанцкім руху быў **Зміцер Снежка** (як памятаем, ён таксама прыйшоў сустракаць Удзяку Акіту на вакзале і потым суправаджаў яго ў паходах па Мінску). Прызнаюся, што гэта я гады два таму даў Міколу Нікалаеву звесткі пра З. Снежку. У той час інфармацыі пра яго беларускім даследчыкам сапраўды бракавала, вось і давялося закончыць стандартнай фармулёўкай "Далейшы лёс невядомы". Цяпер жа, калі я ведаю пра З. Снежку значна болей і нават пазнаёміўся з яго нашчадкамі, хацелася б падзяліцца новымі звесткамі пра гэтую асобу, а заадно зазначыць некаторыя недакладнасці ў біяграфіі З. Снежкі, якія можна сустрэць у электронных і друкаваных крыніцах.

Зміцер Снежка быў, безумоўна, адной з яркіх асобаў свайго часу. Яму належыць прыкметная роля ў развіцці як грамадскіх, так і літаратурных сувязяў Беларусі з іншымі краінамі 1920–1930-х гг. А таксама, як выявілася, – і ў расійскай медыцыне.

Нарадзіўся Зміцер Сямёнавіч Снежка (Сняжко)[5] 24 (11) верасня 1903 г. у Оршы

[5] У розных выданнях, пачынаючы ад "Слоўніка беларускіх псеўданімаў" Янкі Саламевіча (Мінск, 1983), можна сустрэць інфармацыю, быццам бы Снежка – гэта псеўданім літаратара, а сапраўднае яго прозвішча – Белы. На самай жа справе ўсё наадварот.



*Удзяку Акіта з мінскімі эсперантыстамі. Злева направа, сядзяць: Берта Гардон, Удзяку Акіта, невядомая, Рыгор Рапапорт; стаяць: Павел Кірушын, Ян Клыс, Зміцер Снежка. 29 лютага 1928 г. Фота з архіва Аляксандра Рапапорта*

ў сям'і чыноўніка паштова-тэлеграфнай канторы. Пазней сям'я пераехала ў Гомель, дзе Зміцер пачаў сваю працоўную дзейнасць, служачы на пошце спачатку разносчыкам, потым сарціроўшчыкам і кантралёрам тэлеграм. Яшчэ падлеткам пачаў наведваць заняткі ўтворанай у 1918 г. гомельскай групы эсперантыстаў, дасягнуўшы ў вывучэнні міжнароднай мовы вялікіх поспехаў. Пазней пераехаў у Мінск, дзе закончыў працоўную школу № 5 (1922) і ўзначаліў Мінскае гарадское аб'яднанне эсперантыстаў, а ў студзені 1924 г. стаў сакратаром Цэнтральнага Бюро Беларускай Арганізацыі СЭСР. Разам са старшынёй гэтай арганізацыі Янам Клысам наладзіў вялікую працу па арганізацыі курсаў і гурткоў па вывучэнні эсперанта. Будучы студэнтам медыцынскага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1922 – 1928), З. Снежка стаяў ля вытокаў стварэння гуртка студэнтаў-эсперантыстаў, актыўна супрацоўнічаў са студэнцкім штомесячным часопісам “Чырвоны сцяг” (выдаваўся ў 1925 г.), у якім вёў аддзел крытыкі, друкаваў артыкулы, рэцэнзіі, нарысы, апавяданні. Арганізоўваў публікацыі твораў беларускіх пісьменнікаў у замежнай прэсе, перакладаючы іх на эсперанта (на жаль, пра выніковасць гэтай справы звесткі адсутнічаюць). Паводле ўласнага прызнання, вёў сувязь амаль з усімі краінамі свету, друкаваў свае артыкулы ў выданнях 18 краін – напрыклад, часопісах “Наковалня” (Балгарыя), “Международный язык” (Расія), “Sennaciule” (Францыя), газетах “Tyo”, “Työväen Lent”, “Tiedonantaja”, “Liekki” (Фінляндыя), “Väst-Svenska Kuriren” (Швецыя), “Allgemeine deutsche Lehrerzeitung” (Германія) і іншых. Перапісваўся з пісьменнікамі, вучонымі, дзеячамі рабочага руху (захаваліся, напрыклад, яго лісты да балгарскага перакладчыка Любаміра Агнянава-Рызора, расійскага вучонага Канстанціна Цыялкоўскага). На радзіме публікаваўся ў часопісах “Беларуская работніца і сялянка”, “Узвышша”, “Чырвоны сейбіт”, “Полымя”, “Росквіт”, “Маладняк”, пісаў нарысы пра літаратурнае жыццё замежных краін, у тым ліку зрабіў некалькі публікацый пра Удзяку Акіта, пераклаў яго п'есу “Скок шкілетаў” (часопіс “Полымя”, 1928, № 10).

Пасля заканчэння Зміцер Снежка працаваў прамысловым санітарным урачом, асістэнтам Беларускага інстытута аховы працы ў Мінску (1929–1931), служыў

у Чырвонай Арміі (1930–1931), пазней быў старэйшым санітарным інспектарам Цэнтральнага савета прафсаюзаў Беларусі (ЦСПСБ), асістэнтам кафедры гігіены працы ў Беларускім медыцынскім інстытуце, сябрам мясцовага камітэта бюро секцыі навуковых работнікаў і іншых арганізацый. У сярэдзіне 1930-х гг. З. Снежка склаў эсперанта-беларускі і беларуска-эсперанцкі слоўнікі, падрыхтаваў да друку падручнік эсперанта на беларускай мове, пераклад п'есы "Гута" Рыгора Кобеца на эсперанта. Працаваў і над уласным раманам "33 дакументы". Аднак выдаць гэтыя кнігі не паспеў: 5 лютага 1936 г. ён быў арыштаваны па абвінавачанні ў шпіянажы і праз пяць месяцаў прыгавораны да трох гадоў высылкі ўглыб Расіі. Вызваліўшыся ў 1939 г.[6], З. Снежка жыў і працаваў у г. Багародзіцку Тульскай вобласці. У час Другой сусветнай вайны вёў актыўную работу па арганізацыі медыцынскага абслугоўвання насельніцтва ў прыфрантавых і вызваленых ад акупантаў раёнах. Пасля вайны быў прызначаны начальнікам Тульскай абласной санінспекцыі, а потым намеснікам загадчыка абласнога аддзела аховы здароўя. На выбарах у мясцовыя саветы 21 снежня 1947 г. ён нават быў кандыдатам у дэпутаты па Чардынскай выбарчай акрузе[7]. З 1953 г. працаваў галоўным урачом санаторыя "Усць-Качка" Молатаўскай (Пермскай) вобласці. Сярод яго прац 1946–1948 гг. – артыкулы пра выбітных дзеячаў медыцыны – напрыклад, такіх, як Пётр Белавусаў (стваральнік парку культуры і адпачынку ў Туле) і Вікенцій Смідовіч (бацька пісьменніка В. Верасаева). Яго дзве даўнія цікаўнасці – медыцына і прыгожае пісьменства – спалучыліся гэтым разам у тэксце даклада "Образ врача в художественной литературе" (1950).



*Паўлюк Шукайла і Удзяку Акіта. 27 лютага 1928 г.*

Памёр Дзмітры Сямёнавіч Снежка 17 лютага 1957 г. Яго пасмяротная рэабілітацыя па колішнім абвінавачанні адбылася толькі 20 сакавіка 1990 г.

Вось такая цікавая і шматгранная асоба – медык, журналіст, дзеяч міжнароднага эсперанцкага руху, перакладчык, літаратурны крытык... Нядаўна нашчадкі З. Снежкі, якія жывуць у Расіі, перадалі яго архіў на радзіму, у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Ну, а хто хоча даведацца пра жыццё і дзейнасць З. Снежкі больш падрабязна – чытайце мой артыкул «"Я... вяду сувязь амаль з усімі краінамі свету": Да 110-годдзя з дня нараджэння Змітра Снежкі» ў часопісе "Роднае слова", 2013, № 9.

Яшчэ адным мінскім гідам японскага драматурга быў **Рыгор Рапапорт** (19.06.1909 – 08.10.1966), беларускі і расійскі журналіст, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў Мінску, друкаваўся з 1924 г., супрацоўнічаў з газетамі "Звязда", "Беларуская вёска", "Рабочий". У 1928 ці пачатку 1929 г. з'ехаў у Сібір. Пра-

[6] У электронных і друкаваных крыніцах можна сустрэць інфармацыю, нібыта З. Снежка быў вызвалены толькі ў 1955 г., "вярнуўся фізічна і маральна раструшчаны, аслеп і неўзабаве памёр". Насамрэч усё трыма гадамі высылкі і абмежавалася. На слепату З. Снежка не пакутаваў, а прычынай яго заўчаснай смерці стаў рак.

[7] Падобна, што факт свайго арышту і высылкі З. Снежка старанна хаваў, як, зрэшты, і факт былой літаратурнай і эсперантысцкай дзейнасці – ён устрымліваўся размаўляць пра гэта нават у коле сям'і.



*Японскі драматург сярод пісьменнікаў аб'яднання "Полымя" і эсперантыстаў. Злева направа, сядзяць: Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Удзяку Акіта, Цішка Гартны; стаяць: Рыгор Рапапорт, Андрэй Александровіч, Зміцер Снежка. Фота з архіва Аляксандра Рапапорта*

цаваў у рэдакцыі газеты "Советская Сибирь", карэктарам у Заходне-Сібірскім краёвым выдавецтве (г. Новасібірск), загадчыкам аддзела культуры ў рэдакцыі газеты "Алтайская праўда" (г. Барнаул). У час Другой сусветнай вайны служыў шарагоўцам у пяхоце, потым – у рэдакцыі дывізійнай газеты. Дарэчы, гэта менавіта ён быў сведкам подзвіга Аляксандра Матросава і першы напісаў пра гэта. Пад Берлінам быў паранены, вярнуўся ў Барнаул пасля шпіталя ў 1946 г. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Працаваў упаўнаважаным ТАСС па Алтайскім краі, галоўным рэдактарам Алтайскага краёвага радыё. З 1952 г., ратуючыся ад праследу пад час кампаніі па барацьбе з "бязроднымі касмапалітамі", ізноў пераехаў у Новасібірск. Працаваў у Новасібірскай кінахроніцы, загадчыкам аддзела інфармацыі на мясцовым радыё, уласным карэспандэнтам выдавецтва "Колос". Пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы і нарысы, выдаў кнігі "Сельский киномеханик" (1952), "Барнаул: Краткий справочник", "Страницы литературного прошлого Алтая" (абедзве 1958). У Новасібірску жыве ягоны сын – кінадраматург, празаік і журналіст Аляксандр Рыгоравіч Рапапорт. У яго сямейным архіве захаваўся здымак, зроблены, мяркуючы па дзённіку Удзяку Акіты, 26 лютага 1928 г., падчас сустрэчы з літаратарамі (с. 278). На ім мы бачым і самога Акіту, і Рыгора Рапапорта, і Змітра Снежку, а таксама пісьменнікаў са згуртаванная "Полымя": Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага, Цішку Гартнага і Андрэя Александровіча. Здымак, дарэчы, друкаваўся ў часопісе "Полымя", 1928, № 3. У траўні 2013 г. Аляксандр Рапапорт завочна паўдзельнічаў у мінскіх "Узвышаўскіх чытаннях" (іх арганізуе і ладзіць Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), прапанаваўшы ўвазе беларусаў свае цікавыя ўспаміны пра бацьку.

Выглядае цалкам натуральным, што сустрэць Удзяку Акіту прыехалі трое эсперантыстаў. Пра чацвёртага, чыё прозвішча згадвае драматург, вядома меней. **М. Кац** – габрэйскі юнак, якому Акіта прачытаў сваё танка пра "сыноў Новага Ізраіля ў Мінску", – у 1930-я гг. склаў "Вялікі габрэйска-эсперанцкі слоўнік".

Застаецца дадаць, што менавіта яны, беларускія эсперантысты, разам з ВОКСам былі ініцыятарамі і арганізатарамі прыезду Удзяку Акіты ў Мінск[8].

Магчыма, я спыніўся на біяграфіях эсперантыстаў занадта падрабязна, але не будзем забывацца, што прозвішча, асабліва ўжытае ў гістарычным дакуменце, – гэта не проста адвольны набор літар, які можна з лёгкасцю пакінуць "наўздагад"; за ім стаіць пэўны чалавечы лёс, і часта – лёс, варты павагі. Ігнараванне ж гэтага моманту ператварае гістарычных асобаў у свайго кшталту ананімных статыстаў.

## Якія спектаклі глядзеў Удзяку Акіта?

А цяпер крыху пазнаёмімся з той культурнай праграмай, якую прапанавалі Удзяку Акіту беларусы.

24 лютага 1928 г., у першы дзень перабывання ў Мінску, драматург занатаваў: *«З васьмі гадзінаў вечара глядзеў "Бамбіна" ў Габрэйскім тэатры. Аўтар п'есы зараз жыве ў Маскве. Спектакль складаўся з чатырох актаў, сцэнаў было дзесяць прыкладна»* (277). Насамрэч спектакля з такой назвай у рэпертуары Дзяржаўнага габрэйскага тэатра БССР не было. А маецца на ўвазе спектакль **"Ботвін"**, які ставіўся згаданым тэатрам з 1927 г. Яго змест Удзяку Акіта і пераказвае ў наступным абзацы. Над пастаноўкай працавалі рэжысёр Міхаіл Рафальскі і мастак Аляксандр Тышлер. Апошні выклікаў у японца вялікае захапленне: Удзяку Акіта быў уражаны ідэяй *"зрабіць сцэну пад нахілам і размясціць розныя канструктывісцкія элементы на слупах электраперадач"*. А аўтар п'есы, габрэйскі пісьменнік і драматург Аўром Вявюрка (1887–1935), сапраўды (як і пазначыў Акіта) у той час жыў у Маскве.

Увечары наступнага дня, 25 лютага, японскі драматург у тым самым Габрэйскім тэатры "паглядзеў спектакль пра Іспанскую рэвалюцыю" (с. 278). З усяго тагачаснага рэпертуару Дзяржаўнага габрэйскага тэатра такому вызначэнню адпавядае толькі п'еса **"Фуэнтэ Авехуна" ("Авечая крыніца")** класіка гішпанскай драматургіі Лопэ дэ Вэгі, упершыню пастаўленая ў 1927 г. рэжысёрам Львом Літвінавым і аформленая тым самым мастаком А. Тышлерам...

Наступным спектаклем, які паглядзеў Акіта (26 лютага), быў "Цар Максімільян". Гэтая народная драма ў 2-й палове 1920-х гг. ставілася, аднак, не Габрэйскім, а Другім беларускім дзяржаўным тэатрам (БДТ-2). Да яе апрацоўкі сапраўды меў дачыненне драматург Мікалай Міцкевіч (а яшчэ раней – расійскі празаік Аляксей Рэмізаў); мастаком-дэкаратарам быў Леанід Нікіцін. А вось рэжысёрам – не *Сімсілаеў* (як расчыталі публікатары), а Валянцін **Смышляеў** (1891–1936) – расійскі тэатральны дзеяч, прадстаўнік школы К. Станіслаўскага, у 1922–1926 гг. кіраўнік Беларускай драматычнай студыі ў Маскве.

Як вынікае з газетнай нататкі[9], усе тры спектаклі дэманстраваліся ў адным будынку – Беларускім Дзяржаўным Тэатры (г. зн. БДТ-1), таму Удзяку Акіта і пераблытаў, які з тэатральных калектываў што ставіў.

А 28 лютага з 10 гадзін вечара Удзяку Акіта глядзеў *«камедыйны сінематограф "Двое мужчын" пра іх вынаходствы»* (с. 280). Які ж фільм маецца на ўвазе? Звернемся непасрэдна да кінаанонсу, змешчанага ў газеце "Савецкая Беларусь" за той самы дзень. Адтуль даведваемся, што 28.02.1928 у кінатэатры "Культура" ішла знятая студыяй "Совкино" нямая камедыя, якая на мове арыгінала мае назву **"Два**

---

[8] Снежко Д., Элькинд И. Белорусские писатели об эсперанто // Международный язык. 1933. № 4. С. 122.

[9] "...Апроч таго, пісьменьнік Акіта наведаў Беларускі Дзяржаўны Музэй і беларускія, яўрэйскія пастаноўкі ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры" (Японскі драматург Акіта знаёміцца з Менскам // Савецкая Беларусь. 1928. 28 лют. С. 4).

**друга, модель и подруга”** (рэжысёр Аляксей Папоў). Гэта сатырычны фільм пра змаганне двух рабочых-вынаходнікаў Ахава і Махава з заводскай бюракратыяй і прыватным прадпрымальнікам Медальёнавым, які чыніць ім розную шкоду.

Сустрэчы Удзяку Акіта з беларускімі акторамі не прайшлі бясплённа. Крыху пазней у часопісе “Полымя” выйшаў артыкул Змітра Снежкі “Японскі тэатр”, напісаны, як пазначана ў зносцы, “паводле матэрыялаў, атрыманых ад вядомага японскага драматурга Удзяку Акіта, яго гутаркі з артыстамі БДТ-2 і БДЯТ у часе наведваньня Менску і паасобных вестак, атрыманых ад эспэрантыстых Японіі”. Аўтар артыкула шчыра дзякаваў “т. У. Акіце і інш. таварышом”[10]. У артыкуле З. Снежка адзначыў “цікавасьць Японіі да новай культуры, якая творыцца ў СССР”, пранікненне савецкай культуры “ва ўсе галіны культурнага жыцьця Японіі”, акрэсліў спецыфіку тэатраў Но, Кабукі і Цукідзі – тое, пра што, уласна кажучы, і распытвалі Удзяку Акіта беларускія мастакі на сустрэчы 27 лютага 1928 г. (с. 278).

## У каго гасцяваў Удзяку Акіта?

Ну, і нарэшце, паездка Удзяку Акіты разам з Паўлюком Шукайлам і Змітром Снежкам у беларускую вёску – падзея, якая зрабіла на японскага драматурга найбольшае ўражанне: балазе, ён апісаў яе асабліва падрабязна, спыняючыся на ўсіх дэталях, якія здолеў запомніць.

Назву вёскі публікатары інтэрпрэтавалі правільна: *Караміčувічі* – гэта ні што іншае як Каралішчавічы. Можна нават аднавіць па старой мапе ўвесь маршрут, па якім рухаліся сані з вядомым японцам у кампаніі беларусаў. Дзеля таго, напрыклад, каб вылічыць: што ж за старая алея зачаравала Удзяку Акіту па дарозе? У дзённіку Акіты адзначана, што перад ёй яны праехалі “вярсты са тры” (с. 273), а пасля яе – яшчэ даволі доўгі адрэзак шляху – як падалося драматургу, 20 вёрстаў (с. 279). Значыцца, алея была яшчэ зусім блізка ля Мінска і, як пазначыў драматург, злева ад дарогі. Шлях жа ў Каралішчавічы пралягаў па Ігуменскім тракце (цяпер гэта вуліцы Маякоўскага і Чыжэўскіх). Атрымліваецца, што Удзяку Акіта пабачыў, хутчэй за ўсё, галоўную ліпавую алею Лошыцкага парка, пасаджаную акурат у часы Кацярыны ІІ. І параўнаў з алеяй таполяў у Сапара.

Адным з пунктаў экскурсіі стала наведванне таварыства (ці камуны) “Бальшавікі” (с. 274, 279). Калі дакладней, маецца на ўвазе сельскагаспадарчая арцель (пазней калгас) “Бальшавік”, што існавала каля вёскі Каралішчавічы. Агульнаму сходу рабочых менавіта гэтай арцелі прысвечана першая публікацыя Паўлюка Шукайлы[11], зробленая на тэрыторыі БССР, куды ён у 1923 г. перайшоў праз мяжу з Заходняй Беларусі. Пра першы год жыцця П. Шукайлы ў БССР мала што вядома – таму было не зусім зразумела і тое, што ж паэт рабіў там, у тагачаснай Пярэжырскай воласці. Цяпер жа, дзякуючы публікацыі фрагментаў з кнігі і дзённіка Удзяку Акіты, усё становіцца на сваё месца: аказваецца, першы беларускі футурыст працаваў там (але, відаць, нядоўга) настаўнікам малодшых класаў у мясцовай школе.

Але ў першую чаргу Каралішчавічы вядомыя як месца нараджэння іншага беларускага паэта, выбітнага і таленавітага. Ён таксама фігуруе ў расповедзе Удзяку Акіты і, мала таго, японскі драматург гасцяваў у яго роднай хаце. Учытаемся: *“У іх сям'і было сем чалавек, і з чатырох сыноў двое былі студэнтамі, адзін – Ленінградскага Універсітэта, другі – Мінскага. Старэйшы, па чутках, быў вядомым мясцовым паэтам”* (с. 275)... І ў вершах гэтага *мясцовага паэта* фігураваў *злы*

[10] Сьнежка З. Японскі тэатр // Полымя. 1929. № 9. С. 176.

[11] Шукайла П. Пратэст супроць гвалту польскай буржуазеі (Пярэжырская вол. Чэрвенскага пав.) // Савецкая Беларусь. 1924. 6 чэрв. С. 3.

менавіта з ёю? Можа таму, што магла заўсёды пакінуць пра сябе моцнае ўражанне ў свядомасці іншых людзей, таму вельмі захапілася гэтай небяспечнай гульнёй: выпрабоўваць лёс у самых цьмяных варунках чалавечага жыцця? А можа і сам талент, якім валодала гэтая незычайная вясковая дзяўчынка, з'явіўся для яе ўзнёсласцю, як шчаслівым наканаваннем, і, адначасна, цяжарам і вялікай спакусай. І калі пытаюцца часам, чаму Зіненка патанула ў хмельным моры забыцця, чаму жыццё паэткі скончылася так заўчасна і недарэчна, то адназначна адказаць цяжка, проста тады падступае міжвольнае пачуццё віны, бо калі ўжо нічога немагчыма было зрабіць, то і трэба было зрабіць тое самае "немагчымае"...

## Пад крылом Браніславы Валасецкай

Упершыню ў сваім жыцці я ўбачыла Таццяну Зіненку на паседжанні літаратурнага аб'яднання "Бярэзіна" пры нашай раённнай газеце "Камуністычная праца". Паседжанні праходзілі на кватэры барысаўскага паэта, члена Саюза пісьменнікаў БССР Леаніда Рашкоўскага. Кожнае паседжанне было незабыўным, бо збіраліся на іх самыя ўпэўненыя ў сваіх літаратурных здольнасцях жыхары Барысаўшчыны: Таццяна Зіненка, Павел Магілін, Вадзім Гілевіч, Аляксандр Быкаў. Часам бывалі і іншыя людзі, якія спрабавалі надрукавацца ў газеце. Вяла паседжанне Браніслава Аўгусцінаўна Валасецкая – літаратурны кансультант аддзела паэзіі – апякунка першых надрукаваных Таніных і маіх вершаў. Парадак паседжання быў звычайны: кожны чытаў свае творы па чарзе, а потым астатнія выказвалі меркаванне: альбо крытычнае, альбо хвалебнае. Хваліў вершы звычайна Леанід Рашкоўскі, крытыкі і непрыемных для аўтара заўвагаў амаль што не рабіў, пэўна, па дабраце сваёй натуры. Затое, калі слова пераходзіла да журналіста Вадзіма Гілевіча, то ён нікога не хваліў, а пачынаў адразу з крытычных заўвагаў, аздабляючы іх тонкім гумарам, гэта было вельмі весела... Але не заўсёды і не кожны мог вытрымаць нечаканы націск на ўласную пыху. Здаралася так, што Вадзім Барысаў ад непаразумення да ягоных вершаў хапаў, як кажуць, "у ахапку шапку" і, пакрыўджаны, пакідаў наш вясёлы хаўрус. А калі падыходзіла чарга прачытаць свае вершы Таццяне Зіненцы ці мне, то я бачыла, як паблісквають вочы ў Браніславы Аўгусцінаўны, якая сочыць, каб усё, што пасля пра іх скажуць, было толькі станоўчым і... ніякага гумару... Я нават адчувала, як з шэргатам распраўляліся пры гэтым яе крылы, як гэтая цудоўная жанчына, падобна арліцы, хоча абараніць нас. І я была ўпэўненая, што наступны нумар газеты выйдзе з літаратурнай старонкай, дзе будзе абавязкова надрукаваны мой верш побач з вершам вось гэтай дзяўчынкі, Тані Зіненкі, пра якую яшчэ я мала што ведала.

Таня тады жыла ў вёсцы Казлы Барысаўскага раёна, хадзіла ў Зачысцкую сярэднюю школу. Пасля паседжання літаб'яднання Браніслава Валасецкая вяла яе ў сваю сям'ю, бо дабрацца дамоў у вёску было ўжо немагчыма. Іх сяброўства доўжылася да сярэдзіны 1990-х гадоў, пакуль Браніслава Аўгусцінаўна не з'ехала на пастаяннае месца жыхарства ў Ізраіль. Я не ведаю пра яе далейшы лёс, як і не ведаю, ці дайшлі да Браніславы Валасецкай звесткі пра Таццяніны зямныя пакуты і смерць...

## Дакопкі

Наша наступная сустрэча з Зіненкай адбылася ў Навасёлкаўскай васьмігадовай школе Барысаўскага раёна, дзе Таня працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, а я настаўніцай гісторыі і геаграфіі. Вёска Казлы знаходзілася ў адным кіламетры ад школы.Там стаяла маленькая хатка, дзе жыла мая сяброўка са сваёй бабуляй Феняй Якаўлеўнай Кляшчонак. Сапраўнае імя бабулі было Феадора, а

сама яна належала да стараабрадцаў. Таня заўсёды ганарылася тым, што бабуля і яе "таксама ў бочцы пахрысціла..." У куце хаты вісела ікона. Бабуля малілася раніцай і ўвечары. На Вялікдзень прачыналася вельмі рана і тонкім галаском гучна спявала велікодныя песні. Таня прызнавалася, што гэта самыя радасныя і шчаслівыя раніцы яе дзяцінства. У Фені Якаўлеўны былі прыгожыя вялікія цёмна-карыя вочы, яна глядзела на мяне ўважліва і прыязна, я ёй падабалася. Дакопкі на бабуліным бульбяным полі сталі для мяне традыцыяй. Таня і Феня Якаўлеўна, у туга павязаных да броваў хусцінах, спакойна па-гаспадарску прасоўваліся па полі, далёка пакідаючы мяне ў маім радзе. Я ўперлася ўсёй сваёй істотай і стала хутчэй выхопліваць з зямлі бульбіны... як раптам пачула бабуліны словы, звернутыя да Зіненкі: "Таня, ды не ляці ты ўжо так па баразне, а то вунь дзяўчына зусім упрэла"... Ах, колькі разоў мы смяяліся з Таццянай, прыгадваючы гэтыя дакопкі... І мяне зусім не здзіўляла тое, што Зіненка марыла стаць фалькларысткай. Яшчэ з дзяцінства бабуля стварала вакол яе цэлы сусвет, напоўнены жыццёвай мудрасцю і простым гумарам, які здаваўся ёй дасціпным і салодкім, нібы вясновы водар: ён то высока ўздымаў у нябёсы, то прытуляў да грэшнай зямлі.

## Таніна мама

Нарадзілася Таццяна Зіненка на поўдні Урала 4 сакавіка 1960 года. Валянціна Мікалаеўна, Таніна мама, працавала даяркай у мясцовым саўгасе. Як і многія тады маладыя беларусы, яна паехала асвойваць "цаліну" і шукаць сваё шчасце. Праз дзесяць год у Валянціны Мікалаеўны ўжо было двое дзяцей: і маленькага Мішу яна магла заўсёды даручыць дачцэ, якая стала надзейнай нянькай для брата. Але Зіненка ўспаміналі гэты ранні перыяд свайго жыцця як працягла-тужлівую і нейкую недзіцячую адзіноту... Успамінаецца яе сумны аповед пра тое, як аднойчы зімнім вечарам яна так "доўга-доўга глядзела ў вакно, што заснула і прымерзла да шыбы...". Таня падрастала і патрабавала да сябе ўвагі. Валянціне Мікалаеўне стала вельмі складана з дачкой... і яна знайшла, дарэчы, не самае горшае выйсце, – аддаць Таню на выхаванне сваёй маці – Фене Якаўлеўне.

Пазней Валянціна Мікалаеўна пераехала ў вёску Малінаўка Чарняхоўскага раёна Калінінградскай вобласці. Там вырас сын Міша. А потым перавезла да сябе і Феню Якаўлеўну.

У пачатку 1990-х гадоў, калі яшчэ можна было праехаць праз Літву без візы, мы тры разы на цягніку адпраўлялі Таню да мамы, дзе быў дом, дзе яшчэ жыла бабуля, але Зіненка кожны раз вярталася на гэты свой "прывакзальны пятачок" у горадзе Барысаве...

## Самы вядомы верш

Дзевяностыя гады мінулага стагоддзя прынеслі нашай Бацькаўшчыне сапраўдны ўздым нацыянальнай самасвядомасці. І гэта быў час Таццяны Зіненка. Менавіта такія людзі, як яна, не толькі дэманстравалі сваю беларускасць, а былі сапраўднымі беларусамі, таленавітымі, прыгожымі і свабоднымі... Яны ўплывалі на цэлае пакаленне не толькі моладзі, але і на старэйшых людзей, якім было брыдка ад усяго гэтага савецка-чужынскага, што рабіла беларуса недасведчаным і прыніжаным. Таццяна Зіненка была свежым паветрам і жывым словам, якое, дарэчы, яна заўсёды мела смеласць сказаць. Аднойчы Таня напісала ліст у "Настаўніцкую газету", дзе быў прадстаўлены яе верш "Двухмоўе" і допіс. А ў допісе Зіненка выказала вялікі сумнеў у тым, што рэдакцыя надрукуе гэты твор на старонках сваёй газеты. Рэдакцыя ж газеты падумала... і дала верш Таццяны,

але толькі ў кантэксце “разгромнага” артыкула, дзе крытыкаваўся нацыяналізм, экстрэмізм і гэтак далей. Аўтар артыкула (не памятаю дакладна яго прозвішча ) у сваіх разважаннях нават выславіўся такім чынам, што, маўляў, па віне падобных да Таццяны Зіненка здараюцца “канфлікты ў Нагорным Карабаху”.

**ДВУХМОЎЕ**

Дзе той філосаф, дзе ён, дзе?
Што распаўсюджвае выслоўе,
Што беларускай грамадзе
Не мова трэба, а двухмоўе?

Ажно дзве мовы... Божа мой!
Яны ўва мне ніяк не ладзяць:
Адна – мая, яна з крывёй,
Ды ў нас чужая на пасадзе.

На роднай мове сняцца сны.
Нянаскай мове – прывілея,
Як быццам бы не мы сыны,
О, Беларусь мая, лілея!

І я не супраць іншых моў,
Як нехта зноў мяне пужае,
Але ў людзей спакон вякоў
Дзвюх матак з роду – не бывае.

О час мой, век мой златавуст!
І дзень наступны не ранейшы,
Але, выходзіць, беларус
Яшчэ і сёлета – тутэйшы.

Трываюць людзі да пары,
А беларусы дык і далей...
О дзе ж вы, хлопцы-бунтары,
Чаго ж вы крылы паскладалі!

Пэўна, рэдакцыя “Настаўніцкай газеты” разлічвала на тое, што на Зіненчын верш абрынецца грамадскае абурэнне і асуджэнне, але, як аказалася, у Беларусі ёсць і сапраўдная грамадскасць. На старонках сваёй жа газеты супрацоўнікі вымушаныя былі друкаваць лісты чытачоў, якія падтрымлівалі грамадзянскую пазіцыю аўтара верша і ўхвалялі яе за літаратурнае майстэрства. А аўтару няўдалага артыкула прыйшлося публічна прызнаць памылковасць сваіх выказваняў у адносінах да твора Таццяны Зіненка.

## Касманаўт і паэтка

У Зачысцкай школе ёсць музей нашага беларускага касманаўта Уладзіміра Кавалёнка. Экскурсія ў ім пачынаецца з верша пра хлопчыка, які марыў пра высокае неба. Гэты твор напісала Таццяна Зіненка. У 1980-я гады мінулага стагоддзя У. Кавалёнак быў вельмі папулярнай асобай у Беларусі. Знаходзячыся ў Маскве, ён даволі часта наведваў сваю радзіму – маленькую вёсачку Белае, дзе жылі тады яшчэ ягоныя мама і бабуля. Зачысцкая школа, якую ў свой час скончыў касманаўт, да прыезду свайго знакамітага земляка і былога вучня рыхтавалася вельмі руплíва. Такія падзеі па тым часе былі радаснымі і незабыўнымі. Асабліва хвалюючым быў прыезд Кавалёнка для Таццяны, бо на ўрачыстай частцы ёй адводзілася адна з галоўных роляў – прачытаць вершы. Зіненка вельмі ганарылася сваім знаёмствам з Уладзімірам Васільевічам. Яна ведала шмат гісторый з яго

дзяцінства. Кавалёнак жа прадказваў ёй вялікую літаратурную будучыню. Трэба адзначыць, што гэта быў вельмі яскравы перыяд жыцця Таццяны Зіненка. У Зачысцкім музеі захаваліся фотаздымкі, дзе яна чытае вершы і дзе, шчаслівая, вальсуе з касманаўтам Кавалёнкам. Напачатку 1990-х гадоў настала новая эпоха, пераацэньваліся шмат якія савецкія ды і чалавечыя каштоўнасці... Зіненка расправіла свой ветразь і выйшла ў мора бурлівых падзей і невядомасці. Яна радасна прыняла рэчаіснасць, марыла пра беларусізацыю... Касманаўт застаўся на нерухомым беразе і гучна на ўсю Беларусь еньчыў пра згубу вялікай дзяржавы. На трапяткія ўспаміны пра зачысцкія вечарыны накочваліся хвалі непаразумення і расчаравання.... Пра тое, што потым здарылася з Зіненкай, Уладзімір Васільевіч ведаў, але ці прапаноўваў ён ёй дапамогу, ці не, мне пра гэта нічога невядома.

## Час Таццяны Зіненка

Прыгожая дзяўчына з пшанічнымі косамі, зялёнымі вачыма і заўсёды ў белай кашулі-вышыванцы... Таццяна сама стварыла гэты свой чароўны вобраз і ён падабаўся ёй самой, падабаўся яе атачэнню і проста людзям, якія бачылі яе ўпершыню. Вобраз паэткі-беларускі пасаваў таму часу і настрою ў грамадстве. Не, Зіненка зусім не красавалася сваім абліччам, – гэта была частка яе яскравай творчасці, свяшчэннадзейства творцы, які прызваны шукаць шляхі да сэрцаў людзей як словам, так і ўсёй сваёй існасцю.

У пачатку 1990-х гадоў вельмі часта ладзіліся сустрэчы з літаратарамі... Чытаць свае вершы паэтаў запрашалі многія навучальныя установы, бібліятэкі, музеі... Гэта быў Таццянін час. Яна на такіх сустрэчах любіла “весці рэй”. І лепей за яе, бадай, ніхто б не змог так сказаць тое важкае слова, якога прагнулі слухачы. Зіненка любіла жартаваць, што чытае і ведае на памяць толькі свае вершы. Але калі пад час выступлення я збівалася, чытаючы ўласны верш, то яна , як сапраўдная сяброўка, заўсёды магла падказаць і мне мой забыты радок ці слова.

Яшчэ Таня любіла “спяваць” свае вершы. У маёй памяці застаўся адзін такі куплет:

Ой, цёмная ночка,
А йшчэ цямней будзе.
Ой, чаму ж мне гэтак горка
Не пытайце, людзі...

Потым, калі яна цяжка захварэла, і ўжо з цягам часу нічога не засталося ад таго цудоўнага вобраза сапраўднай Таццяны Зіненка, застаўся яе голас... Толькі ён і быў, як і раней, Танін...

## Максім Багдановіч

Пра творчасць Максіма Багдановіча Таня пісала навуковыя працы, калі яшчэ вучылася ва ўніверсітэце. І гэтая велічная зорка беларускага Адраджэння пакінула свае яскравае святло ў яе ўласнай творчасці, а жыццёвая трагедыя – глыбокі след у яе асабістым лёсе. Зіненка мела пачуццё сапраўднага суперажывання ў адносінах да постаці Максіма Багдановіча. Таня разважала пра ягонае жыццё вельмі цікава, ведала многія факты біяграфіі паэта, якія ніколі не друкаваліся, і рэўнасна ставілася да сучасных даследчыкаў літаратурнай спадчыны класіка. У Зіненкі была мара – пабываць у Ялце на магіле Максіма. І гэтую сваю мару яна паспела здзейсніць. А, калі вярнулася з Крыма, то падрабязна апісвала тую незвычайную вандроўку. Як і прадчувала яе сэрца, могілкі, дзе быў пахаваны паэт, былі вельмі старымі, дарэчы, яны так і называліся Старыя Ялцінскія могілкі. А знайсці тую сцяжыну,

што прывяла яе да месца пахавання Багдановіча, дапамагла толькі вялікая любоў да яго... Зіненка прыбрала магілу і пакінула на ёй кветкі і зборнік вершаў класіка. У некалькіх літаратурных газетах і часопісах таго часу з’явіліся потым публікацыі: прадстаўнікі грамадскасці на старонках перыёдыкі ўхвалялі неабыякавых да нацыянальнай спадчыны людзей, ўздымалася пытанне аб перазахаванні паэта на радзіме.


Аляксандр ІРВАНЕЦ і Тацяна ЗІНЕНКА.

## Мікола Пшанічны

З Міколам Пшанічным Таня пазнаёмілася на семінары маладых літаратараў у Каралішчавічах. Украінскі хлопец з Ровеншчыны захапіўся сваім парывам узнёслых пачуццяў да беларускай паэткі. У Тацяніных вачах заззяла святло шчасця і кахання. Яна з натхненнем прысвячала яму свае вершы. Але з нейкім гаркавата-сумным прысмакам паўтарала Міколава прызнанне: “Ой, Таню, цэ на всэ жыцця!” І смяялася. У Міколы Пшанічнага таксама ёсць верш, які ён прысвяціў Тацяне. “Гэты снег не расстане...”, – Зіненка любіла потым часта дэкламаваць гэты радок...

Мікола Пшанічны наведаў Барысаў. Ён спадабаўся ўсяму Тацянінаму атачэнню. Ён быў вельмі сімпатычны чалавек “з пшанічнымі вусамі” і добрымі вачыма. Мікола ўмеў вельмі тонка пажартаваць, увесь час весяліў нас і пакінуў пра сябе добрае ўражанне. Таня арганізавала паэтычныя сустрэчы на сваёй “малой радзіме” ў Зачысці і ў Барысаўскай школе №22, дзе яна тады працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. На гэтых сустрэчах гучала ўкраінская мова, Мікола аказаўся таленавітым паэтам і цудоўна чытаў свае творы, яго асобу надоўга запомнілі і вучні і калегі Тані. З гэтага, бадай, і пачаўся “ўкраінскі перыяд” творчасці Тацяны Зіненка.

Тацяна стала жаданым і даволі частым госцем Ровенскага літаратурнага аб’яднання на Украіне. Зіненка перакладала вершы свайго ўлюбёнага паэта Сашко Ірванца, ёй падабаўся такі сучасны і вельмі шматгранны паэт і мастак – Мікола Цімчак. Яны ўплывалі на Таню, натхнялі яе, атулялі сваім сяброўствам і стараліся захінуць ад непрыемнай для яе рэчаіснасці: Мікола Пшанічны быў жанаты. На літаб’яднанне ён прыходзіў са сваёй жонкай Любоўю Пшанічнай – таленавітай украінскай паэткай. У Зіненкі быў такі фотаздымак, дзе яны з Любай сядзяць побач... Але паездкі на Ровеншчыну хутка прыпыніліся, як і ўвогуле творчае жыццё Тацяны Зіненка.

## “Падары мне, сяброўка, слоўца...”

Больш за іншыя каштоўнасці на свеце Зіненка цаніла слова. “Словам і забіць чалавека можна, і ўзнесці да нябёсаў” – адно з яе ўлюбёных выслоўяў.

У часы нашага сяброўства мы чыталі адна адной свае толькі напісаныя вершы... Зіненка ўвяла такі звычай: трэба было проста сказаць, ці ёсць верш, ці няма, без усялякай цьмянасці. І калі пачуеш, а, бывала, што верша няма, то, як бы не было крыўдна, а з часам усё адно разумелася: няма яго... А вось пачуць: “Я табе зайздрошчу – верш ёсць”, – такая шчырасць безумоўна сведчыла пра паэтычную сапраўднасць. Звычайна я выкідала свае няўдалыя вершы. Зіненка мяне ўшчувала:

“Не хочаш працаваць над словам”. Свае ж, нават і не надта ўдалыя, запісвала ў сшытачак... Бывала так, што верш атрымаўся, але ёсць у ім адно слова, якое, як кажуць, “вытыркаецца” і яго трэба замяніць больш дасканалым, “правільным”, але ты ўсё ніяк не можаш знайсці тое адзінае слова, хоць і ведаеш, што яно ёсць. Тады можна было звярнуцца да Тані: “Падары мне, сяброўка, слоўца...” Тады... А цяпер?! Да каго мне сёння звярнуцца ў сваім дарэшты абруселым горадзе па душэўнае шчырае сумленнае беларускае слова?..

## Алена БРАВА

### ПАЛЁТ НАД БЕЗДАННЮ

Неабходнасць паэту заставацца жывым Мішэль Уэльбек у аднайменным эсэ падкрэслівае асабліва. «Мёртвы паэт пісаць не можа». Здавалася б, ці трэба казаць пра тое, што і так зразумела? Але што для звычайнага чалавека з’яўляецца банальнай канстатацыяй, для паэта ёсць справай архіскладанай. Бо паэт безабаронны — перад лёсам, перад уласным дарам. Раны на сэрцы паэта не ператвараюцца ў шнары. «Я не для жыцця», — пісала Марына Цвятаева. «Мы не народжаны доўга жыць і жыццё разумець», — адгукаецца Таццяна Зіненка, барысаўская паэтка, чыя адзіная, пасмяротная кніжка вершаў «Плакала дзяўчынка» выйшла нядаўна ў сталічным выдавецтве «Каўчэг».

І сапраўды, кожны верш тут – плач: з дзіцячай усмешкай скрозь слёзы, плач ад пяшчоты і замілавання перад Прыгажосцю, горкі плач наўзрыд. Зрэшты, інтанацыя вершаў анікольկі не плаксівая. Гэта шчырая споведзь аголенага сэрца, у якой кожнае слова аплочана высокай цаной. Вершы трывожаць, іх цяжка чытаць, бо ведаеш, што аддаў паэт наўзамен за крыштальную чысціню голасу. І міжволі ўзгадваеш Крысту Вольф: «Жанчыны доўгі час жылі, не беручыся за пяро. Потым яны пісалі — сваім жыццём, цаною яго». І калі Зіненка кажа: «А ты спыніся і падумай: кахаць табе ці паміраць...» (кажа з разважлівым спакоем — у адрозненне ад мноства жаночых спробаў версіфікацыі, багатых на “ахі” ды “вохі”), разумець яе трэба літаральна.

Для сябе яна гэты выбар зрабіла.

Каханне – гэта смерць.
А выжыў – дык прапаў.

Усё так і ёсць: паэт жыве ў свеце абсалютных велічынь. Каханне для лірычнай гераіні верша (якую нельга раздзяліць з самой паэткай) не проста пачуццё, гэта яе сутнасць – і таго ж яна чакае ад мужчыны (адна з самых распаўсюджаных і самых трагічных жаночых ілюзій).

Сярод жанчын-паэтаў Зіненка мае шмат сясцёр.

Калі б Паэзія ўзводзіла сваіх верных сыноў і дачок у ранг святых, Таццяна Зіненка была б кананізаваная на ее скрыжалях як *шчаслівая пакутніца*.

...Мы не былі з ёю блізка знаёмыя, магу прыгадаць дзве сустрэчы, не больш. Першая адбылася напачатку васьмідзясятых, на пасяджэнні літаратурнага аб’яднання “Бярэзіна” пры Барысаўскай раённай газеце, якое я некалькі разоў наведала яшчэ школьніцай. Ад сустрэчы захаваўся надзвычай прывабны вобраз: прыгожая маладая жанчына з доўгай касой, якая чытала надзіва мілагучныя вершы на роднай мове.

Другая сустрэча адбылася амаль праз пятнаццаць год. Таццяна завітала да мяне ў рэдакцыю з лістом, які прасіла надрукаваць. Гэта была яе споведзь – папярэджанне тым, каго зацягвае пачварная залежнасць. Магчыма, Таццяна з дзіцячай шчырасцю спадзявалася (бо нядаўна пралячылася сама), што з гэтага моманту яе жыццё пачнецца “з чыстага ліста” і пойдзе інакш.

Тэкст быў надрукаваны, жыццё інакш не пайшло.

Пра ўсе перыпетыі яе гібельнага шляху лепш ведаюць блізкія сябры, а яны ў Таццяны былі заўжды, нават у самыя складаныя моманты. Розныя людзі стараліся ёй дапамагчы – ведаю пра гэта з першых вуснаў.

Але... “навучыцца быць паэтам – значыць развучыцца жыць” (М. Уэльбек).

Нехта скажа: што за лухта! Бо жывуць жа! І кніжкі выдаюць. І на працу ходзяць. Ці гэта ўсё несапраўдныя паэты?

Справа ў наступным: каб выжыць, паэту – бо ён усё ж чалавек – даводзіцца ісці на той ці іншы выратавальны кампраміс, гуляць у тую ці іншую сацыяльную гульню. Таццяна не хацела іграць ніякіх роляў; прытворства, якім усе людзі – вязні сваіх “сацыяльных кантактаў” – надзелены ў той ці іншай ступені, было ёй не ўласціва ад прыроды.

Яна была сама Шчырасць – і сама Паэзія.

Аднак гэты свет не прыстасаваны ні для першага, ні для другога. Што б ні з’явілася пускавым механізмам чарговага вітка яго, гэтага свету, вар’яцтва – ідэя выстраіць усіх у гулагаўскую шарэнгу альбо татальны кансьюмерызм, які выцясніў усе “ідэі”, – паэт тут не патрэбен.

Выдатна разумеючы сваю асуджанасць, Таццяна заставалася вернай сабе. Крыж, які пад сілу толькі самым моцным. Бо была жанчынаю; мужчына-маргінал – з’ява ўсё ж больш звыклая, як для навакольных, так і для самога носьбіта такога кшталту нонканфармізму.

Яна была “голая душа” (М. Цвятаева – пра сябе); “мирского”, плоцевага ў ёй не было зусім – магчыма, таму яна пераносіла сваю бяздомнасць (у прамым і пераносным сэнсе) і безліч бытавых, фізічных пакутаў так цярпліва, як пераносяць толькі святыя праведнікі.

Таму і здолела трываць сваё існаванне так доўга.

Тым не менш, з вершаў — пра расстанні, страты, расчараванні — становіцца зразумелым і іншае: Зіненка — зусім не паэт «апрыёрнай немагчымасці жыцця» (І. Бродскі). Колькі святла, прыкладам, у гэтых радках:

Калі мяне ніхто не зразумее,
У тлуме дзён, у сховах пачуцця
Я адшукаю парастак надзеі,
Я і тады не разлюблю жыцця!

Так, гэта паэзія любові да жыцця — але не да такога, «якое яно ёсць», а да жыцця, якім яго бачыць чалавек, надзелены «безмерностью в мире мер». Такое адчуванне, што на нашых вачах на імгненне ўзняўся з падводных глыбіняў прывід Атлантыды — узняўся, каб абрынуцца туды зноў, з усімі сваімі чароўнымі прынадамі. Разбіваецца ідэальны вобраз — а разам з ім і сэрца. І ўсё цяжэй становіцца «заставацца жывым» — у свеце, дзе не выратоўвае нават любоў да Айчыны (дарэчы, Беларусь у Таццяны – «зеленавокая матуля»). Дзе бесперапынна раніць душу лёс роднай мовы. Адсюль і горкія прадчуванні:

Я чытаю сваю далонь:
Свет пачне паміраць з беларусаў...

І спробы зашаптаць-загаварыць сваю рану:

Пакуль не знікнуў боль з маёй душы,
Я адчуваю, што жыву высока.

Вось яна, найвышэйшая праўда паэта. Боль жаданы і неабходны, бо менавіта боль жывіць вершы. Але хто прымушае паэта прыносіць сябе ў ахвяру? *Нехта*, які

ўсведамляецца ім як унутраны голас, як уладны загад. Гэтаму настойліваму голасу неістотна, што трагедыя разбурае зямнога чалавека — яму істотна толькі, каб адбыўся паэт: у непадкантрольнай зямным уладам іерархіі. Каб ён «заставаўся жывым» да таго часу, пакуль гэта патрэбна дзеля мэтаў той патаемнай і жорсткай задумы.

Імёны тых, хто адбыўся, вядомыя.

Да аднаго з іх – Анатоля Сыса — як да духоўнага брата звяртаецца сама Зіненка:

І, парынаючы ў Лету,
Мы не згадаем зямлю,
Дзе паміраюць Паэты,
Перш, чым пачуюць: "Люблю..."

Хочацца спадзявацца, што маленькай кніжачкай, якую выдалі сябры Таццяны, знаёмства са спадчынай гэтага паэта не абмяжуецца. Бо шмат яе вершаў засталіся раскіданымі па розных перыядычных выданнях; гартаючы старыя падшыўкі барысаўскай раёнкі, я аднойчы знайшла верш "Апошні палёт" з такімі радкамі (цалкам друкуецца ў гэтай часопіснай падборцы):

Трымайся, мой любы, без гневу і страху.
Трымайся за неба, і лепш памаўчым.
Мы ўжо не каханкі, а дзікія птахі.
З нас людзі смяюцца, а мы ўсё ляцім.

Вечнае жаданне жанчыны – *ляцець удваіх* – зноў дарэшты не ажыццявілася. Але перш, чым разбіцца, яна здолела набраць у лёгкія паветра свабоды і высока праспяваць сваю самотную песню.

## Таццяна ЗІНЕНКА

* * *

Пачуйце ўсе маю жывую споведзь,
Хоць я памерці заўтра не баюся.
Але мяне сягоння непакоіць
Найбольш за ўсё – маўчанне Беларусі.

Чаго маўчым? Мо вырвалі язык наш?
Стагоддзямі цягнулі – і ўдалося?
Народзе мой, ты да ўсяго прывыкнуў.
Крыві дарма ці мала пралілося?

І ў свеце так халодна, што не грэе
Цябе ні Зніч святы, ні спадзяванка.
Чакаеш ты, пакуль не развіднее,
Чакаеш ты і вечарам, і ранкам.

А ўжо даўно відно, даўно відненька.
Ці можа вы аслеплі, беларусы?
Яшчэ ніколі нашая зямелька
Не сірацела гэтак без хаўрусу.

А час – адных суцэльных кульмінацый,
Народны фронт – нязломны і не вузкі.
Паўсталі ўсе за раўнапраў'е нацый,
Паўстань і ты, народ мой беларускі.

*(Верш прачытаны паэткай на акцыі «Дзяды»
30 кастрычніка 1988 года)*

* * *

І кахання на свеце няма.
І нічога на свеце не будзе.
Не радзіма ў мяне, а турма.
Чужакі навакол, а не людзі.

І так страшна застацца адной
І душою навек занядужаць.
І панура брысці за труной.
Адгалошваць чужога мужа.

І на капішчы ўласных надзей
Паміраць, як паэт бяздомны.
І так моцна баяцца людзей,
Што нікога – не помніць.

## ГАРЧЭЙШАЕ ПІТВО

*Анатолю Сысу*

Толькі табе пазайздрошчу,
Толькі табе не зманю...
Нас пакараюць на плошчы,
Нам пашкадуюць агню.

Мы, што ніколі з табою,
Не абняліся ў жыцці,
Будзем сцяблінай адною
Разам да сонца расці,

Покуль зялёная крона
Лісце на дол не страсе.
Нас пакараюць бяскроўна:
Ветліва і пакрысе.

Мы не народжаны доўга
Жыць і жыццё разумець.
Нам абяруць, як нябогам,
Самую лёгкую смерць.

І, парынаючы ў Лету,
Мы не згадаем зямлю,
Дзе паміраюць Паэты,
Перш чым пачуюць: “Люблю”...

## *ГЭТА НЕ НАСТАЛЬГІЯ*

Не трэба мне супакойныя сродкі!
Гэта не настальгія,
Калі са мной размаўляюць продкі
Мёртвыя, як жывыя.

І мне таксама ў дваццатым стагоддзі
Сэрца раніць не нова
За тое, каб у маім народзе
Не памірала мова.

Калі ж адчую, што я ўжо канаю, –
Лягу сама ўздоўж лавы.
Мае нашчадкі мяне пазнаюць
Скрозь па лядах крывавых.

Таму што я кожным крокам трапляла
На камяні і зоры.
А век мой родны й смяяўся мала,
Стомлены ў непакоры.

І да апошняй рыскі няспынна
Міне мяне калясніца,
Як быццам бы там я была павінна
Першы раз нарадзіцца...

## *ЗАЗІМНЫ ПАРК*

Я доўга блукала па парку
без пэўнай прычыны.
Мо думала нешта
і думкам сваім наўздагон
выпешчвала ў сэрцы
яшчэ дарагія ўспаміны
і раптам заўважыла
зграйку няхітрых варон...

Над зернем застыглым
яны шчыравалі, трымцелі,
нібыта разлушчвалі восень –

і рады няма.
І ў роспачы я
гайданула старыя арэлі!
"Зіма" – прарыпелі,
"зіма" – прарыпелі,
"зіма"...

### *МАЯ ПРАЎДА*

Роўна: бачыць сябе ў труне
ці ў абдымках спачыну...
Нас ужо не ўратуе – не! –
нат любоў да Айчыны!

Мы – апошнія з магікан.
Нам няма на каго маліцца.
Ватыкан? І ты Ватыкан, –
Вельзевула сталіца...

Я чытаю сваю далонь:
свет пачне ўміраць з беларусаў.
Я ж вартую паганскі Агонь –
Я Хрысту не малюся. –

Мая праўда.

** * **

О, гэты свет! Пусты як човен.
А як паплыў — дык і плыві.
Але калі каханнем повен, —
Абнараві, абнараві.

О, гэты свет цябе задушыць
І не прабачыць тых пакут.
Бо тут жывуць такія душы,
Што ўжо даўно жывуць не тут.

А ты спыніся і падумай:
Кахаць табе ці паміраць,
Ці разжывацца торбай-сумай
І – жабраваць, і жабраваць.

О, колькі нас, бяздомных, сірых
Павыйдзе хутка на панэль,

І будуць помніць нас мундзіры,
І так спатрэбіцца шынэль.

У гэтай велічнай краіне
Казармаў хопіць нам на ўсіх.
А той, хто гэты свет пакіне, –
Не напалохае жывых.

О, Гэты свет!

* * *

*памяці бабулі*

Я не дайшла да Бога...
я падышла да Храма.
Зязюльчына куванне
пачулася здаля...
О, не кувай, зязюля,
я ведаю таксама:
няма граху такога,
якім не грэшна я.

Адну магілу маю,
і то не ў родным краю.
О, не кувай, зязюля,
і лес не шалясці.
Сама сябе я толькі
за гэта пакараю,
сама сабе і толькі
скажу, куды ісці...

## *ПАРАСТАК НАДЗЕІ*

Калі мяне нішто не супакоіць
І раптам здасца мне, што ўсё – дарма, –
Я завіруху выклічу на споведзь,
Каб зразумець – не вечная зіма...

Калі мяне ніхто не зразумее
У тлуме дзён. У сховах пачуцця
Я адшукаю парастак надзеі,
Я і тады не разлюблю жыцця!

* * *

Пачаліся дажджы і надоўга, здаецца,
І дарэмна я восень выштурхваю прэч.

Ледзьве дыхае ўжо прадчуванне сустрэч.
Пачаліся дажджы. І надоўга, здаецца.

І такая самота па жылах ліецца.
І каторы ўжо дзень, як не топіцца печ.
Пачаліся дажды. І надоўга, здаецца.
І дарэмна я восень выштурхваю прэч.

## УЗНЁСЛАСЦЬ

Пакуль не знікнуў боль з маёй душы,
Я адчуваю, што жыву высока,
Таму што ўся, як ёсць, навідавоку,
Пакуль не знікнуў боль з маёй душы.

Не страшна мне, калі ў начной цішы
Пагляне раптам лёс нядобрым вокам:
Пакуль не знікнуў боль з маёй душы,
Я адчуваю, што жыву высока.

* * *

Хутчэй, цягнік, хутчэй, цягнік, хутчэй!
Хоць я тваёй не пазайздрошчу долі,
Дазволь схавацца ад людскіх вачэй,
Бо ад сябе я не ўцяку ніколі.

Ужо не будзе на душы лягчэй,
Але зусім не прагну я збавення.
Прашу цябе: “Да станцыі Натхнення
Хутчэй, цягнік, хутчэй, цягнік, хутчэй!”

* * *

Я пайшла не да Бога.
Я пайшла да людзей.
Толькі й гэта дарога
Не прынесла надзей.

Мне яшчэ пацяжэла
У нясходнай журбе:
Я ў людзях разглядзела
Тое, што і ў сабе.

Кожны носіць пакуту.
Кожны хоча кахаць.

А на свеце атруту
Трэба піць і ўміраць.

Я пайшла не да Бога.
Я пайшла да людзей.
Толькі й гэта дарога
Не прынесла надзей.

## АПОШНІ ПАЛЁТ

Трымайся, мой любы, без гневу і страху.
Трымайся за неба, і лепш памаўчым.
Мы ўжо не каханкі, а дзікія птахі.
З нас людзі смяюцца, а мы ўсё ляцім.

Ляцім над зямлёю і лічым за шчасце,
Абы толькі поруч, каб толькі любіць.
О, як легкадумна мы можам упасці,
О, як недарэчна нас могуць забіць.

Відаць, ненадоўга мы ў небе сышліся.
Зусім недарэмна смяецца народ.
Трымайся, мой любы, і вышай імкніся,
Бо скончыцца хутка і гэты палёт.

## * * *

Ох, як цяжка траве
ад зямлі адрастаць –
гэтак цяжка і мне
вас цяпер забываць.

Не прасіце ж мяне
вы аб гэтым дарма,
бо так цяжка траве,
як прыходзіць зіма.

І захочаш цяпла –
і не знойдзеш нідзе...
Нібы я не жыла,
не цвіла для людзей.

І хадзілі па мне,
і касілі мяне.
Ох, як цяжка траве,
ох, як цяжка траве...



Анжэла Мельнікава



...тэтралогія В. Адамчыка – адзін з самых сумленных і значных твораў беларускай літаратуры...

# “Голас крыві...”

## *Тэтралогія Вячаслава Адамчыка як люстэрка жыцця Заходняй Беларусі*

Цыкл раманаў Вячаслава Адамчыка, прысвечаны Заходняй Беларусі – “Чужая бацькаўшчына” (1977), “Год нулявы” (1982), “І скажа той, хто народзіцца” (1985), “Голас крыві брата твайго” (1990) – заслужана названы нацыянальным эпасам. А эпас гэта – “найбольш поўная і дакладная мадэль гістарычнай самаацэнкі народа. <...> у часы заняпаду эпас абуджае нацыянальную самасвядомасць і спрыяе фармаванню нацыі” [1, с. 256]. Да тэтралогіі В. Адамчыка гэтае азначэнне стасуецца абсалютна. У творы пісьменніка пададзены ўласна беларускі погляд на Гісторыю, па-майстэрску занатаваныя сутнасныя адзнакі беларускага.

Творца не толькі дакладна перадаў адметнасці побыту і светапогляду заходніх беларусаў, выступіў бліскучым мастаком беларускай прыроды. Яму ўдалося данесці глыбінную атмасферу жыцця Заходняй Беларусі. Думаецца, што асабліва твор В. Адамчыка блізкі таму, для каго Заходняя Беларусь – радзіма, тое, што сфармавала светапогляд, успрыманне свету. Блізкі

таму, хто яшчэ паспеў застаць адзнакі, памяць пра "тую" Беларусь: хутарскую, стрыманую. Калі адчуванне ўласнай годнасці не было зніклае ў безаблічнасці і безасабовасці. Люблю пераглядаць фільм А. Матафонава "Культура Заходняй Беларусі". Там ёсць сучасныя здымкі хутароў, якія яшчэ захаваліся. Калі бачыш гэтыя кадры, нешта адгукаецца на падсвядомым узроўні. І для мяне тэтралогія В. Адамчыка – як дарагі фотаздымак, дзе занатаваны твары, адзнакі роднага.

Значнасць здзейсненага В. Адамчыкам заключаецца не толькі ў глыбокім, дакладным раскрыцці спецыфікі нацыянальнага. Пісьменнік у новых умовах, у часы абвешчанай праграмы "зліцця нацый" зберагаў адзнакі ўласна беларускага.

Вартасць напісанага В. Адамчыкам і ў тым, што празаік здолеў пераканаўча перадаць маштабнасць трагедыі, якую перажывалі беларусы ў ХХ стагоддзі. Адсюль гэтыя роспачныя словы Уласа Корсака "Што значыць цяпер чалавек"? Гэты аспект твора В. Адамчыка быў бліскуча прааналізаваны М. Тычынам.

Нягледзячы на тое, што першыя раманы тэтралогіі пісаліся В. Адамчыкам у застойныя гады, пісьменнік здолеў выказаць шмат праўды пра жыццё беларусаў, узаемаадносіны з уладай, якая ў першай палове ХХ стагоддзя рэгулярна змянялася на беларускіх землях.

Раманы Вячаслава Адамчыка нясуць глыбокі гуманістычны патэнцыял. Звяртаючыся да падзей Другой сусветнай вайны, празаік пайшоў не традыцыйным для савецкай літаратуры шляхам апісання і ўслаўлення "масавага подзвігу", героікі змагання, калі асобны чалавек, яго пакуты і трагедыі адыходзяць на другі план. У цэнтры ўвагі аўтара – менавіта канкрэтны чалавек, праз лёс якога прасочваецца лёс нацыі. І лёс гэты складваецца надзвычай трагічна, калі ад самога чалавека мала што залежыць, калі ён незалежна ад сваёй волі ўцягнуты ў трагічны вір падзей. Прыгадваюцца словы Мілана Кундэры пра лёс малых нацый, якія апынуліся ў эпіцэнтры змагання: "Цэнтральная Еўропа як радзіма малых народаў мае сваё собскае бачанне свету, заснаванае на глыбокім недаверы да гісторыі. Гісторыя, багіня Гегеля і Маркса, гэта ўвасабленне рацыо, што прадвызначае нашу долю, гэта гісторыя заваёўнікаў. Народы Цэнтральнай Еўропы – не заваёўнікі. Іх немагчыма адасобіць ад еўрапейскай гісторыі, яны не могуць існаваць па-за ёй, але яны рэпрэзентуюць адваротны бок гісторыі, яны – ейныя ахвяры і няўдачнікі. Крыніцай іхняй культуры, іхняй мудрасці, «несур'ёзнага духу», што насміхаецца над веліччу і славаю, ёсць гэты нясплямлены погляд на гісторыю" [2, с. 13].

У рамане "Голас крыві брата твайго" пануючым матывам з'яўляецца матыў трагізму, непераадольнасці абставінаў, калі гінуць самыя безабаронныя: "Няўжо свет такі злы і нялітасцівы? Няўжо не было і няма ў ім дабра? І ён, Міця, дарма шукаў справядлівасці, высокага чалавечага розуму, светлага кахання, дабраты між людзьмі. Няўжо ён так горка памыліўся? Няўжо пануе толькі звярыны закон: ірваць адзін аднаго, трымаць у няволі. З асалодаю біць, рэзаць, заваёўваць, узвышацца адзін над адным, род над родам, нацыя над нацыяй, дзяржава над дзяржавай" [6, с. 258]. Можна ўзгадаць вядомыя словы Мігеля дэ Унамуна "Жыццё ёсць трагедыя, і гэтая трагедыя – пастаянная барацьба без перамогі і без надзеі на перамогу".

Драматызм, трагізм – вызначальная рыса літаратуры ХХ стагоддзя, якое ахарактарызавана як «вялікая драма», а ў дачыненні да беларускай літаратуры – як трагедыя нацыянальнага быцця: "Колькі ж можна за сваё кароткае жыццё сядзець у азызлых сутарэннях? Каго вінаваціць? На каго наракаць? Няўжо выпала такая доля – пакутаваць і бедаваць? Дзе літасць, дзе Бог, дзе праўда? Дзе ж усё?.. І пакутую не я адзін – увесь народ. І ўжо не адзін год – цэлыя вякі" [6, с. 118-119].

Некаторыя філасофы называюць ХХ стагоддзе часам бяздомнасці, калі чалавека апаноўвае пачуццё страты Дому, духоўнага апірышча, што М. Хайдэгер акрэсліў як

“выгнанне з уласнай айчыны”. Для беларускай сітуацыі, што пераканаўча паказаў В. Адамчык, гэта не метафара, а рэальнасць, фізічная і ўнутраная.

Вячаслаў Адамчык паказвае трагізм разбурэння стагоддзямі ўсталяванага свету жыцця. Жыцця не дасканалага, дзе было месца і крыўдам, і няпраўдзе, і злачынству. Але існавала строгая сістэма маральных законаў, і чалавек дакладна размяжоўваў, дзе грэх і няпраўда. І тая ж Алеся ўсведамляе глыбіню свайго злачынства, вельмі цяжка пакутуе (і нясе пакаранне) за свой грэх. Смерць бацькі і брата, здраду Імполя яна ўсведамляе як расплату за забойства свякрові і залоўкі (“Пэўна, за гэта да бацькі прыкінуўся грэх, бо згарэў у гумне” [6, с. 159]). Але на працягу разгортвання гістарычных і раманных падзеяў забойствы і злачынствы становяцца татальнымі, звыклымі, беспакаранымі, якімі раней яны не былі.

Калі прыйшлі Саветы, і Жэнік Рэпка забівае сям’ю асаднікаў, якія не былі “сваімі” для астатніх герояў твора, людзі ставяцца да гэтага з недаўменнем і асуджэннем. Так, зніякавелы Літавар гаворыць: “Які ж гэта злыдзень мог зрабіць” [5, с. 124]. Забойства Грабянкаў людзі называюць “наглай і нечуванай бядою”. Яны гідзяцца Жэніка за гэты яго ўчынак: “...было неяк лішне і непамысна гаварыць аб наглай і нечуванай бядзе” [5, с. 4]. Таму што гэта было нахабным парушэннем усялякіх законаў, маральных і юрыдычных, з чым раней людзям не даводзілася сутыкацца.

У творах В. Адамчыка шмат горкай праўды пра татальную неабароненасць чалавека: нідзе няма апірышча, няма куды схавацца ад няпраўды, няма ў каго шукаць паратунку. Небяспека сыходзіць і ад знешніх ворагаў і ад “сваіх” жэнікаў рэпкаў.

Чалавечыя не то што гонар, а жыццё нічога не каштуюць. З чалавекам можна зрабіць усё, што заўгодна. В. Адамчык пераканаўча апісвае адчуванні Уласа Корсака пасля таго, як яго збілі казакі: “Душыла крыўда, што не адпомсціў за ганьбу, гвалт, знявагу, за гэты люты ўдар нагайкаю. Цяпер свет такі – наздзекуюцца наб’юць, – і не акажыся, а слова вымавіш – застрэляць. Што значыць цяпер чалавек? Хто з ім лічыцца? А ці лічыўся калі?” [6, с. 74]. А ўначы прыйшлі партызаны.

Вуснамі Уласа Корсака Адамчык дакладна характарызуе сутнасць той вайны: несправядлівасць, помста, смерць, адчай і адзінота: “Адчуванне, здаецца, першы раз такое, што яе, гэтай страшнай вайны, з чалавечай помстай, несправядлівасцю, смерцю, адчаем і адзінотай ён, Корсак, не перажыве” [6, с. 77].

Прадчуванні Уласа Корсака спраўдзіліся: казакі спаляць яго разам з тымі людзьмі, якіх ён хацеў выратаваць: “Мужчыны, трэба ратаваць людзей! Трэба сказаць гэтым нехрысцям, што людзі ж невінаватыя... Адзін з адным біся, рэж адзін аднаго, а людзей не чапай! Людзей ды дзяцей не вінаваць ні ў чым.

– Пачакай, Улас! Пашкадуй свае галавы.

– Што сябе шкадаваць... Калі ўжо тут усяму цаны ды меры няма” [6, с. 150].

Пісьменнік паказвае бязглуздзіцу і хаос вайны (“Голас крыві брата твайго”), маштабнасць ахвяраў, размыванне паняццяў Дабра і Зла. Да гонару В. Адамчыка, пісьменнік здолеў узняцца над ідэалагічнымі схемамі, дакладней, паказаць фальшывасць схемаў, якія апраўдваюць чалавечыя ахвяры.

У В. Адамчыка вельмі рэалістычнае, аб’ектыўнае ўспрыманне вайны. Ніякай героікі. Вайна ў пісьменніка пададзеная такой, якой яна ёсць па сваёй сутнасці: забойствы, трагедыя, пакуты, несправядлівасць: “Рабілася шкада не толькі тых, хто загінуў у агні, а тых, хто застаўся, хто паспеў уцячы з хутароў, каб жыць і ў вечнай пакуце ўспамінаць і бачыць перад вачмі абгараныя косці дзяцей і жонак” [6, с. 160]. Бліскуча апісаны празаікам першыя дні вайны, бязладдзе, хаос. Акружэнец стрэліў у немца, у адказ немцы спалілі Ведравічы. Лейтэнанта, якога пазней хаваў Улас Корсак, выпадкова паранілі свае і кінулі. Паліцаі забіваюць лейтэнанта, каб забраць яго шынель.

Пісьменнік пераканаўча паказвае працэс расчалавечвання чалавека пад уплывам сацыяльных абставінаў, страты маральных табу: “Няўжо час, вайна, чужая смерць, на якую кожны нагледзеўся, так змяніла, так перайначыла і знявечыла людзей?” [6, с. 116]. Прычым “сваіх”, у характары якіх раней не назіралася нейкіх паталагічных адхіленняў у псіхіцы.

Роспачныя разважанні Уласа і пра чалавечую сутнасць: “Няма ўжо нічога святога ў чалавечай душы. Нейкі злы д’ябал, раздзіраючы душу і пад’юшваючы, змушае чалавека чыніць і тварыць усё злое і грэшнае. Помсціць за сваю крыўду невінаватым. Піць і гвалціць, каб знайсці сабе ўцеху і наталіць сваю прагнасць. Катаваць, калечыць, каб ужо нават з гэтага мець сабе слодыч. Страшную, звярыную слодыч. Калі ж чалавек пераменіцца? Няўжо было так спакон веку і так застанецца?” [6, с. 149].

Вячаслаў Адамчык паказвае, як вайна маральна нявечыць людзей, калі атрымана права на забойствы, здзекі. Паказальны вобраз Стася Дабрыяна (наколькі ёмістае прозвішча гэтага персанажа!), які ў гімназіі быў самым ціхім вучнем, а падчас вайны стаў бязлітасным катам, абсалютна страціўшы ўсё чалавечае. Стась Дабрыян, “ціхі, сарамяжлівы і баязлівы”, якога папіхалі ўсе, а найбольш здзекаваўся Тадак Пясецкі, апынуўся ў катоўні: “Успомнілася... на запараным, задыханым Дабрыяне конна сядзіць і рагоча малахольны Тадак Пясецкі. І ўбачылася, так выразна і блізка, ужо цяперашняе: гвалтам і дагала раздзетая і кінутая на дыбу-лаву з жалезнымі ножкамі – бездапаможная, квола-дрыготкая, як пташка, у дужых мужчынскіх руках зганьбеная дзяўчына. І яе раз’юшана і няшчадна, заплюшчыўшы ад асалоды вочы, сячэ плёткаю з ушытым на канцы волавам азвярэлы Стась Дабрыян” [6, с. 119].

Характэрны таксама эпізод з забойствам сям’і аднакласніцы Міці Корсака: “Тыдзень назад, кажуць, увараваўшыся ноччу ў хату, шукаючы, мусіць, яшчэ даўнейшага золата, нехта закатаваў, наздзекаваўшыся, пакалоўшы штыкамі грудзі і адараваўшы абцугамі пальцы, самую вясёлую з іхняга сёмага класа Анцю Станкевіч і яе мацеру. Па Дварчанах паўзуць прытоеныя, баязлівыя чуткі, што абедзвюх жанчын так нечувана і па-ваяцку замучылі, напэўна, свае, местачковыя, бо чужому сярод ночы Сідорчыкі наўрад ці адчынілі дзверы” [6, с. 207].

Хрысцю ў паліцыі таксама катуюць “свае”:

“– Цябе ракам не гналі праз надворак?

– Гналі, – перамагаючы боль і сорам, што яшчэ не ачах у душы, адказала Хрысця.

– Сліж гэта. Свой. А здзекуецца горш за немцаў. Немцы гэтага не твораць, што робяць свае” [6, с. 235]. Свае як каты пастаянна гучыць на старонках рамана.

Пісьменнік паказвае, што ахвярамі вайны становяцца самыя сумленныя і безабаронныя. Сярод іх Улас Корсак, яго сын Міця, Хрысця (паказальнае імя гераіні). Яна ратуе з палону старога яўрэя Ёселя, дапамагае савецкім ваеннапалонным знайсці дарогу да партызанаў. Яе, цяжарную, збілі немцы, у выніку чаго яна страціла дзіця. Хрысця пабегла ратаваць Імполя, калі яго арыштавалі. Імполь выратаваўся, а яна была расстраляная.

Хрысця імкнецца жыць сумленна, яна каецца за свае грахі: “Адзін хіба ёсць – перад Алесяй, што адбіла Імполя, злюбілася з ім. І перад Богам, што пабраліся без шлюбу” [6, с. 236].

Вячаслаў Адамчык гаворыць пра страх, рэпрэсіі, ссылкі, даносы з прыходам савецкай улады, рабаўніцтвы: “Той-сёй з камітэтчыкаў, як я ведаю, ужо добра намалаціўся. Вунь Абелькавічы ўсё ператрэслі, пакінулі толькі кніжкі” [5, с. 67]. Не доўга папрацавалі на Саветы Царык і Міця. Ніхто з герояў В. Адамчыка, акрамя Жэніка Рэпкі, не рады ўсталяванню новых парадкаў.

Рэфрэнам праз раманы В. Адамчыка праходзяць словы “чужым не

разжывешся" – закон, у адпаведнасці з якім жылі героі пісьменніка і які новая ўлада адмяніла:

"– Ты мо й не ведаеш, што бальшавіке лішнюю зямлю забяруць, пароўну на ўсіх раздзеляць.

– Чужое забраць лёгка, нажыць сваё цяжэй, – адсек Літавар" [5, с. 7], "на чужом не разжывешся" [5, с. 214].

Улас Корсак: "Мне чужой зямлі не трэба, дай божа спажыць сваю" [5, с. 24].

Улас: "Ідзі ўжо, райнуй гаспадаркі, збірай гультаёў і рабі свой камітэт. Рабі, але помні – чужым не разжывешся" [5, с. 29].

На старонках твора В. Адамчыка гучаць досыць красамоўныя выказванні: "чужым не разжывешся", "сколькі змарнавалася, шукаючы гультайскага ды лёгкага хлеба". Хрысця гаворыць Імполю: "На праўду вашу я нагледзелася там, у асадзе, як засеклі Грабянку" [5, с. 99]. Стары Літавар развawaжае: "Чакай дабра... Кожны смаркач начальнікам ці панам хоча быць. Лянуецца, ліха яму, рабіць" [5, с. 159], "ты бачыш. Уласць, – здзекліва хмыкнуў Жыток. – Брыды кусок" [4, с. 340].

Паказальныя роздумы Імполя пра абяцаную "роўнасць": "Кажуць, што яны будуць адбіраць у асаднікаў і дзяліць на бедных зямлю, што настане роўнасць. Але якая яна, Імполь дадумацца, дапытацца ў самога сябе не мог: як ён зраўняецца і праўда з граматным Грабянкам?" [4, с. 366].

Для Верасаўцаў, выхаваных на біблейскіх маральных пастулатах, нечым нечуваным, немагчымым падаецца адмаўленне Бога, дэклараванае новай уладай:

"– Ты абы-чаго не кажы, Язапат. Як гэта без Бога, хіба яны нехрысці?" [5, с. 5]...

– Ты скажы мне, пане-таварыш, – махнуў сваёй знятаю кепкаю Літавар, няўжо праўда, што бальшавікі Богу не вераць?

– Дедушка, ни мы к богу не имеем отношения, ни бог к нам.

– Дачакаліся... – упіраючыся пятамі, каб не ўпасці, стары Літавар спусціўся з крутога адхону. Унурыўшы голаў і дзеўбучы сукаватым кійком тупкую сцежку, ішоў назад да мужчын" [5, с. 6].

Старонкі, дзе празаік апісвае "пераўвасабленне" былога батрака Імполя і Жэніка Рэпкі, якія абвясцілі сябе прадстаўнікамі новай улады, надзвычай сугучныя высновам С. Мрожака з эсэ "Пакліканне Хама". В. Адамчык пераканаўчы паказвае, як нечаканая, незаслужаная ўлада псуе людзей: "Нешта ганарыстае, фанабэрыстае ды, можа, нават чужое і нядобрае прыкмеціла Хрысця ў Імполя, калі ён выйшаў на невысокі, падпёрты двума тоўстымі слупкамі ганак і, падтрасаючы на плячы карабін і, мусіць, ужо не хаваючы *пыхі і ашалелай радасці* (вылучана намі – *А.М.*), што ён са зброяю, з чырвонаю павязкаю на рукаве, спусціўся да Хрысці" [5, с. 98].

В. Адамчык аналізуе працэс з'яўлення такіх *жэнікаў рэпкаў*, іх помслівасць: "Каты (мянушка Рэпкаў – *А.М.*) ў Верасаве павагі не мелі. На іх, як на людзей, не зважалі яшчэ здаўна. Каты былі бедныя, казалі, што яшчэ за паншчынаю ў іхняга прадзеда, бо ленаваўся рабіць, пан адабраў палавіну надзелу. Цяпер у Катоў асталася шастуха – шостая частка валокі, па цяперашніх мерах – тры гектары з нечым, ды і тая не зямля, адна камяніца. А на голага сабакі брэшуць. І калі ў Верасаве была якая пакража – падазрэнне падала заўсёды на Катоў <...> Паздзекавацца ды пасмяяцца з Катоў у Верасаве любіў кожны. Яны ж, людзі і пунтовыя, і заядлыя, помсцілі па-свойму. Іхні бацька, Рэпка Адам, астаўшыся пры паляках солтысам, пачаў удаваць людзей: палякі тады пабралі ў вёсцы коней і збілі да паўсмерці Корсака" [3, с. 32]. Гэтая мянушка – Каты – таксама досыць паказальная: націск можна паставіць і на першым складзе.

Імполь спрабуе зразумець помслівасць Жэніка: "Чаму ў Жэніка Рэпкі не

аціхае раз'юшаная злосць? Адкуль і ад чаго яна? Няўжо ад зайздрасці, што яго не любіць Хрысця, што ніхто яго не ўважыў, не сказаў зычлівага слова, ці мо ад крыўды, што ніхто не хацеў з ім знацца, што маладое жыццё прайшло ў горы і нэндзе. Сляпы шашаль гаркаты і злобы точыць яго душу, бо чаму ён дратуе і нішчыць усё, бо чаму помсціць кожнаму" [5, с. 114].

В. Адамчык не пабаяўся сказаць праўду пра калабарацыю падчас вайны: РОНА, казакаў, якія перайшлі на бок фашыстаў. Пісьменнік паказвае злачынства перш за ўсё казакаў, ронаўцаў (былых савецкіх людзей, славянаў). Героі В. Адамчыка больш за ўсіх баяцца казакаў: "Паліцыянты да самаахоўцы яшчэ так-сяк асцерагаліся, пабоўваючыся немцаў ды наровячыся блізкае радні, што была тут, у мястэчку, ці ў недалёкай вёсцы. А для гэтых ні боязі, ні брыдкасці, ні страху ўжо не было" [6, с. 79]. Казакі ні за што збіваюць, забіваюць, рабуюць, паляць вёскі, гвалцяць дзяцей.

Характэрны аповед аднаго з казакаў: "У нас бабёнка при кухне была, чумовая, так она любила жертву свою поджарить" [6, с. 223]. Казакаў Улас Корсак называе "брыдой": "Пан, за што гэтая брыда катуе людзей? <...> Чаму яны ваююць з людзьмі?" [6, с. 152]. Паказальна, што для казакаў беларускі свет жыцця абсалютна чужы і незразумелы: чужая мова, касцёлы, іншая культура. Дастаткова адной рэплікі "Жалеть здеся некого", каб паказаць стаўленне казакаў да жыхароў Верасава.

Не з'яўляюцца сваімі для герояў Адамчыка і акаўцы: "Я чуў, яны нашых прывязваюць да дрэва ў мурашніку" [6, с.191].

В. Адамчык уклаў у свой твор шмат глыбокіх, балючых, пакутных роздумаў над лёсам беларускай нацыі. Так, Міця скрушна гаворыць: "Свае б'юць сваіх. Нешта заклятае на гэтым месцы. Грэшнае і страшнае. І ніколі ўжо не адкупнае – страляем, нішчым самі сябе. На векі вечныя" [6, с. 262].

Рэпліка другога героя: "Ты што, не знаеш беларусаў. Яны выпальваюць адзін аднаго жалезам. Іх змушалі вякамі выракацца саміх сябе" [6, с. 196]. Царык, які ўсё сваё жыццё прысвяціў беларускай справе, і ад таго быў пад пераследам ва ўсіх уладаў, таксама гаворыць: "Свой свайго і душыць" [6, с. 119].

Жонка Царыка бядуе: "Ты скажы, што за лёс выпадзе чалавеку: якая ўласць не прышла, што ні змянілася на свеце, а ён усё нікому не патрапіць. Ці ўжо свет такі, ці ён гэтакі ўдаўся.

– Ці гэта толькі яго лёс? Усіх нас" [6, с. 240].

В. Каваленка, аналізуючы вобраз Міці Корсака, даў свайму артыкулу вельмі трапную назву: "Птах з падрэзанымі крыламі". Міцю, які прагнуў вучыцца, пісаў вершы па-беларуску, марыў зрабіць "нешта вялікае на гэтай зямлі дзеля сябе і дзеля сваіх людзей", марыў загінуць за людское шчасце, забівае яго аднавяскоўвец, Жэнік Рэпка. Прычым Міця быў, бадай, адзіны, хто не пагарджаў Жэнікам. Такім чынам, В. Адамчык працягнуў, прычым працягнуў глыбока і пераканаўча, тэму ўзнятую В. Быкавым: "свае супраць сваіх". Нездарма і назва заключнага рамана тэтралогіі – "Голас крыві брата твайго" – цытата з біблейскай гісторыі пра забойства Авеля Каінам.

Надзвычай ёмістыя і паказальныя словы ксяндза, звернутыя да Міці: "Ты думаеш, народ прабуджаецца і да духоўнага ідэалу імкнецца, а тут яму крылы падцінаюць? Не!.. Гэты люд не хоча ведаць свайго нічога, на якой гутарцы ні гавары, якую яму навуку на казанні ні кажы, якія набажэнствы ні твары, якую сутану ні надзень, гэты народ не ўчуе вас, ён глухі не толькі да слова свайго, свае душы, ён, як смяротна хворы чалавек не адгукаецца ні на што, ён адмірае ўжо. І вы не ідзіце гэтаю дарогаю шукаць яго, свой народ. Ён нават вам адпомсціць за гэта. Спомніце маё слова. Ён, як ранены, знямоглы і люты звер, яшчэ ўкусіць вас. Ён, гэты народ, даўно не разбірае, хто яму спрыяе, а хто яму чыніць зло" [4, с. 200].

Цікава, што ў рамане "Год нулявы" В. Адамчык узгадвае Друю, айцоў-марыянаў.

У рамане "І скажа той, хто народзіцца" апісваюцца падзеі 1939 года. Паказальна, як прадстаўнікі новай улады ўспрымаюць беларускі свет жыцця:

"– У нас так: где безделица, там вино. А здесь все молятся.

– Да неужели?

– Смотри, какие кресты стоят у дорог" [5, с. 251].

В. Адамчык адзначае гэтыя адрозненні: "Літавар назваў сваё прозвішча і яшчэ дадаў:

– Сын Антося і Зосі" [5, с. 118].

"Таварыш Назімаў, ці, як цяпер гавораць па імені і бацьку, Нурмат Рахматулавіч" [5, с. 66]. Кіраваць беларусамі паставілі не тутэйшых.

Паказальнае заканчэнне рамана "І скажа той, хто народзіцца":

"– На новы круг жыццё пайшло...

І не дагаварыў, толькі сіплавата хіхікнуў, азіраючыся на чорную плойму расчыненых дзвярэй – там стаяў і пахістваўся п'янаваты Імполь і, паклаўшы руку яму на плячо, кісла ўсміхаўся асалавелы, у збітай набакір кубанцы і чорным, расхрыстаным шынялі Жэнік Рэпка.

З незачыненых знадворку сяней цягнула холадам, у хату клубкамі віўся густы сівер. Верасаўцы, з затоеным дзівам жахнуўшыся, адступіліся і пацiснуліся назад" [5, с. 319].

Не магу не спыніцца на яшчэ адным моманце: захопленасць В. Адамчыка беларускім словам. З якой любоўю, як наталяючыся, смакуе пісьменнік беларускія назвы расліны: грымотнік, палявая морква, хвошч, перапялічнік, паўночнік, памцінік, мацаўнік, руціна, браточкі, сухотнік, буслікі, нізіпернік, цыліндры, мацаўнік, вобратнік, свенціян, дзевяцяранка, грымотнік, парушэнец [4, с. 186]. Здаецца, эпізод збору Алесяй зёлак для будучага дзіцяці патрэбны пісьменніку, каб занатаваць, наталіцца адзнакамі роднага.

Тэтралогія В. Адамчыка – адзін з самых сумленных і значных твораў беларускай літаратуры. У тэтралогіі няма таго, што не вытрымала б праверку часам. Па-мастацку пераканаўча, глыбока і праўдзіва пісьменнік перадаў трагізм нацыянальнага лёсу.

Спасылкі:

1. Дубавец С. Стагоддзе НН. Нататкі з нагоды юбілею // Дзеяслоў. 2007. № 1.
2. Кундэра М. Трагедыя Цэнтральнай Эўропы // Фрагмэнты. – 1996. – № 1. – С. 4-21.
3. Адамчык В. Выбраныя творы. У 2-т. Т. 1. Чужая бацькаўшчына: Раман; Апавяданні. – Мн.: Маст. літ., 1983. – 397 с.
4. Адамчык В. Год нулявы: Раман. – Мн.: Маст. літ., 1983. – 396 с.
5. Адамчык В. І скажа той, хто народзіцца. – Мн.: Маст. літ, 1987. – 319 с.
6. Адамчык В. Голас крыві брата твайго: Раман, апавяданне. – Мн.: Маст. літ., 1991. – 287 с.

Леанід Галубовіч



...чужое і сваё спакойна
і амаль бесперашкодна
перасякаюць празрыстыя межы
нашых духоўных запатрабаванняў...

# “Мой рускі боль ціхмяны”

***Рэцэнзія на кнігу Марыны Наталіч***

***Марына Наталіч. Палыновая зорка: вершы, успаміны, эсэ. – Мінск, Кнігазбор, 2013. – 110 с.***

*“Жыццё прабегла, як раніца тая.*
*Салёнымі слёзамі Бог нас глытае...”*
Марына Наталіч

Сеў пісаць рэцэнзію на зборнік лірыкі Марыны Наталіч “Палыновая зорка”, а не даю рады ўтрымліваць сябе ў кантэксце абранай тэмы, глузды міжвольна “сплываюць” у публіцыстычным кірунку. Агрэсія Расеі ў дачыненні да Украіны змушае да не зусім паэтычных высноваў. Свет перамяніўся. Яму не да вершаў. І сам я выглядаю смешным перад самім сабою з усімі гэтымі развагамі пра метафары і алітэрацыі. Вобраз непрадказальнасці кладзецца цёмным ценем на чысты аркуш паперы...

Тым больш, што і аўтар зборніка руская па нацыянальнасці паэтка. Марына Наталіч (Наталля Давыдзенка) перабралася ў




Беларусь яшчэ ў маладосці і ўжо амаль паўвека жыве тут. Піша па-руску і па-беларуску. “Палыновая зорка” – першая яе кніжка на беларускай мове. Калі б наш чытач натрапіў на гэтае выданне, не азнаёміўшыся з выкладзенай мной біяграфічнай інфармацыяй, то наўрад ці адчуў бы хоць які літаратурны ці філалагічны (*ад-моўны*) “фальш”, чытаючы творы паэткі і эсэісткі. Беларуская філалагічная адукацыя (БДУ), праца рэдактарам у выдавецтвах “Мастацкая літаратура” і “Кнігазбор”, блізкія паўсядзённыя стасункі з людзьмі беларускай культуры і літаратуры, можна сказаць, сяброўскія дачыненні ў апошнія два дзесяцігоддзі з Р. Барадуліным – творцам і носьбітам нашай мовы, не толькі афіцыйна *пашпартавалі* яе асобу, як грамадзянку Беларусі, але і *падвоілі* (спарышавалі) яе нацыянальную сутнасць і самасвядомасць. Цікава было пачытаць у яе развітальным эсэ-некралогу па Васілю Быкаву пра тое, як яна да гэтага ішла, што і хто яе паштурхоўваў да беларушчыны: *“Вярнулася з развітання... У народзе кажуць, што калі хаваюць добрага чалавека, Бог дае добрае надвор’е. Дзень быў сонечны...*

*Божа, колькі дзён назад Васіль Уладзіміравіч прачытаў маю рускую кніжку “Глухие голоса” – пра жыццё маіх простых родзічаў у XX стагоддзі – і сказаў Рыгору Іванавічу: “Пара ўжо ёй пераходзіць на беларускую мову...” Не ў пахвальбу прыгадала. Сёння, менавіта сёння я адчула, што ён нібыта даверыў у мае рукі неацэнны і цяжкі скарб, дар Слова сапраўднага. Праўдзівага, чаго б гэта ні каштавала. Слова – беларускага й рускага”.*

Таму, мне думаецца, ёй сёння значна цяжэй суперажываць тое, што дзеецца ва Украіне. Крымская зіма – як нечаканы катаклізм чалавечай прыроды... Я думаю, у цяперашняй грамадска-палітычнай сітуацыі Наталля Давыдзенка падпісала б зварот не ў падтрымку Пуціна (Бог тым падпісантам суддзя), а супраць вайны. Чамусьці перакананы ў гэтым, хоць мог бы патэлефанаваць і ўпэўніцца... Гэта вынікае з усяго прачытанага ў яе кніжцы. Дазволю сабе прывесці цытацыю верлібра “Беларускі лёс” у празаічнай форме запісу: *“Я – “расейка”, //я “дачка расейскага афіцэра”, //я жыву не ў сябе дома. // Мой каханы – беларускі паэт. // Ён амаль ненавідзіць “расейцаў”, // ён амаль ненавідзіць вайскоўцаў, // і сваіх, і чужых. // Ён ненавідзіць няволю. // – Як ты трываеш нянавісць? // Як ты трымаеш нязгоду? //Як ты трываеш яго?! – // Пытаюцца родныя і сябры ў неўразуменні. // Я люблю беларускія песні, // я люблю беларускае Слова, // я прымаю беларускі свой лёс // і кахаю беларускага паэта. // А як жа іначай ён зразумее, // што такое каханне, // што такое каханне рускай // і што яно мацнейшае за нянавісць // і ўсёўладнае, як воля Божая?...”*

Мне думаецца, сыходзячы з уласнага жыццёвага вопыту, што чалавек, які перайшоў экватар свайго зямнога веку, пачынае жыць як бы ў адваротным накірунку, пераасэнсоўваючы пражытае; міжвольна мяняе вектар свайго *духоўнага руху* **ад сябе** на рух **да сябе**, прасцей кажучы, не даходзячы да канца, спрабуе вярнуцца да вытокаў...

Я не раз пісаў пра творчасць М. Наталіч (ці не пра тры зборнікі яе: адзін празаічны – “Глухие голоса” і два паэтычныя – “Улитка вселенной” і “Серебрянная ласточка”...), таму, магчыма, сёе-тое з ужо сцверджанага ўва мне пра яе няўзнак паўтару. Адчуваецца, што паэтка ў сваім бытаванні не камплексуе на памежжы дзвюх культур. Зрэшты, усе мы сёння міжволі асімілюемся ў гэтым адкрытым свеце, робімся, незалежна ад сваіх нацыянальных прывязак, своеасаблівымі *касмапалітамі*, як бы каму гэтага ні хацелася. *Чужое* і **сваё** спакойна і амаль

бесперашкодна перасякаюць празрыстыя межы нашых духоўных запатрабаванняў. Усё зямное робіцца паступова ўсёагульным, роўна прыналежным як усяму чалавецтву, так і кожнаму асобнаму чалавеку. Праўда, ёсць адно “але” – спрадвечная крэўная повязь. Гэта тое, што, **адрозніваючы і вылучаючы** нас, *захапляе і прыцягвае* адно да аднаго – нацыянальны дух. Спадкаемец таго **адзінага** Боскага *ўдыху*, што спарадзіў **шматлікасць** людскога дыхання...

Ведаю – не перапёлкай
У смагі я прасіцьму піць,
А самотнаю чужынкай
Скарб ваш стану бараніць...

Айчына для М. Наталіч – як усведамленне сябе і свайго зямнога выраку, а не як месца нараджэння і прыналежнасці да пэўнага роду, хоць, вядома і не без гэтага... Гэта фундамент, закладзены **Наталляй Давыдзенка**, на якім выбудаваны чалавечы дом Марыны Наталіч...

Кутавым каменем-глыбай, на мой погляд, у зборніку “Палыновая зорка” з’яўляецца верш “Споведзь” – пра Лёс і Кон.

Колькі жыццяў я слугавала
Лісу Лёсу ды коршуку Кону?
Навучылася жыць і трываць,
Без надзеі вясёла спяваць.
На мяжы халадаць удавою,
З-пад зямлі прабівацца травою.
І нарэшце ўдзячная Лёсу і Кону...
Адпусці мяне, Божа, дадому,
Да наймудрага бацькі разумных братоў –
Скону...

Гэта ўсё што да творчай постаці паэткі, яе філасофскай ды ідэйнай вызначанасці.

Цяпер звернемся да саміх твораў. Зборнік як бы двухузроўневы, складзены з кніжкі паэзіі (“Перастворанае святло”) і кніжкі прозы (“Беларусы, вы ёсць...”).

Вершы падаюцца скампаванымі падборкамі: лірыка, матывы народнага і грамадзянская тэматыка з асобнай нізкай прысвячэнняў В. Быкаву і Р. Барадуліну. Проза складаецца з трох эсэ, напісаных у жанры *fiction* вакол творчых стасункаў з такімі асобамі, як Вера Палтаран, Уладзімір Калеснік і Васіль Быкаў.

Агулам, па складзе свайго творчага і чалавечага характару, М. Наталіч, безумоўна і найперш, лірык. Калі не “чыстай красы”, дык адкрытых душэўных вычуванняў. Яна не затуманьвае ўласныя творы нейкім пафасам агульнавядомых паэтычных метафар, а падае іх наўпрост – жывымі, хвалюючымі і ранімымі... Трафарэтнасць, штучнасць і штампаванасць вобразаў у яе вершах абсалютна адсутнічае, бо гэта непрымальна самой сутнасцю яе таленту. Безумоўна, і ў яе вершах можна сустрэць некаторыя хібы, але заўважна, што яны сталіся як бы *насуперак* празмернасці яе ўласных душэўных парыванняў ці роздумнай нявыверанай стыхійнасці... Паэтка – зямны грэшны чалавек і, як казаў аўтар “капіталу”, *“нішто чалавечае ёй не чужое”*... Хоць, як на мой густ, дык вершы М. Наталіч на беларускай мове ўсё ж трохі саступаюць у нейкіх глыбока-сутнасных вобразна-моўных праяўленнях яе родна-рускамоўным вершам. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Нездарма ў народзе кажуць: *родная мова, як родная маці, будзе да смерці твой лёс цікаваці...* Увогуле, сур’ёзны класічны навык (пераемнасць, калі хочаце) высокай рускай Паэзіі ў Наталлі Аляксееўны па-добраму адчувальны. Засвоенасць (праз уласны лёс) асноў роднай ёй культуры і літаратуры выклікае павагу. Бо, скажам, калі чытаеш вершы большасці **нашых** рускамоўных аўтараў, то адразу адчуваеш іх

духоўнае сіроцтва і беднасць, можна нават сказаць, жабрацтва і папрашайніцтва ў сваёй заможнай стрыечнай сястры. Як звычай, у іх свой надзел запушчаны і неапрацаваны, таму вока *западае* на чужое, такое, здавалася б, блізкае, амаль роднае багацце (мову, культуру, літаратуру). Чаму б, *папасвіўшыся* там, не стаць якім мясцовым *пушкіным*?! М. Наталіч піша ў адным з вершаў:

Аблокі, як лісты
Ад страчанай Радзімы.
Яны плывуць, як дым,
Гаркавы дым Айчыны.
Як светлая мілосць,
Мой рускі боль ціхмяны.
Там дома ўжо няма...

Дом, вядома ж, ёсць, ён застаўся – у памяці, у душы, у сэрцы... Бо ж непадалёк чытаеш і такія глыбока пранікнёныя радкі:

Празрыста, самотна і горка,
Нібы палыновая зорка,
Тваёю жыву удавой –
Каханне маё маладое...

Зварот М. Наталіч да беларускіх народных матываў, хутчэй за ўсё, стаўся магчымым праз супрацу з Р. Барадуліным падчас падрыхтоўкі яго архіўных тэкстаў для выдавецтва "Кнігазбор". І вядома, маючы частыя стасункі з дзядзькам Рыгорам, немагчыма было не захапіцца сакавітасцю і мудрасцю яго *народнай* мовы, якая была водсветам яго глыбока нацыянальнага духу. І трэба сказаць, што спробы знайсці ў рускай душы водгук на праявы беларушчыны не прапаў дарма, а спалучыўся і даў своеасаблівы паэтычны плён.

Святую замову
Звяжу, як салому,
Агнём запалае –
Усіх зберагае
Ад горкай турботы,
Ад чорнай маркоты.
Сэрца пачуе,
Як слова ратуе.

І яшчэ вось пра што хацелася б сказаць колькі слоў па прачытанні кніжкі М. Наталіч. Творца, паэт у асаблівасці, без унутранай самакрытыкі наўрад ці рэалізуе свой талент напоўніцу, з найвышэйшай мастацкай самааддачай. Не думаю, што прыведзеная цытата гэта поза перад чытачом ці спроба апраўдання за мажлівыя паэтычныя няўдачы:

Кожны раз нясцерпна балюча бачыць
Надрукавана-памерлыя вершы
На зжаўцелых старонках аднадзённых газет.
Рэдкімі птушкамі далятаюць яны жывымі
Да сэрца самотнага чалавека...

На маю думку, гэта **нармальны** (а з пункту погляду абывацеля, пэўна ж, – *ненармальны*) творчы стан чалавека. Паэта як неардынарнай асобы. І справа тут не ў наіўнай *спробе гаварыць вершамі, як умееш*, а ў тым – у каго навучыцца мудраму маўчанню: у высокага і прыземленага – у вечнасці, якая складаецца з часу нараджэння і смерці кожнага канкрэтнага чалавека (ад паэта да далакопа). І "чалавечы знак" (паводле Вярцінскага) вызначаецца не па адной нейкай

выбітной яго характарыстыцы, а па сукупнасці ўсяго ім зробленага, здзеенага і створанага... Мне падаўся блізкім такі пасыл М. Наталіч, які я вычытаў у яе эсэ “Агонь незалежнай думкі”. У. Калеснік пасля канцэрта Данчыка захапляўся адным *“незвычайным хлопчыкам у белым”* з талентам, *“які рэдка сустрэнеш, і яго трэба берагчы! Я пагадзілася, што так, магчыма, талент, але ж чалавек непрыстойны. (...) Мы ўжо не ўпершыню не маглі прыйсці да згоды “пра добрыя справы дрэнных людзей”, людзей канктрэтных, у якіх ён верыў як у “творцаў культуры”, а я не (мне так і не прыйшлося перაканацца ў адваротным за ўсё апошняе дзесяцігоддзе, і ад гэтага было брыдка, балюча). Ён гаварыў і ўзгараўся ўсё больш і ўжо проста крычаў – пра натоўп, статак, быдла, якое нясецца, нічога не бачачы перад сабой, і топча жывое!”*

Дарэчы, з гэтай цытаты заўважна яшчэ і тое, як трапна выпісала М. Наталіч партрэтныя вобразы нашых выдатных творцаў у сваіх эсэ, што змешчаны напрыканцы кніжкі. Найперш гэта тычыцца публіцысткі і крытыка Веры Палтаран і берасцейскага літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка. Іх жывыя зямныя непрыгладжаныя постаці не пакідаюць чытача абыякавымі: ні ўнутраная душэўная чысціня і стрыманасць Палтаран, ні эмацыйна-выбуховы высока энергетычны складнік таленту Калесніка... А вось штрыхавыя нарысы такіх знакамітых асоб, як Барадулін і Быкаў, даюцца як бы ў працэсе асэнсавання...

*“...увесь час, услухваючыся ў іншыя лёсы, іншыя жыцці, я чула сцішанасць сваёй душы і асаблівую цішыню за плячыма: нехта слухаў нас, я ведаю – слухаў... Мабыць, тыя, што снавалі беларускае жыццё не за страх, а за сумленне, і той, чыя душа развіталася з намі, збіраючыся ў дарогу, па якой пойдзем усе мы, і тыя, хто жывіў сабою беларушчыну, і тыя, хто яе ганіў і зніштажаў”.*

М. Наталіч – чалавек далікатны і ў той жа час унутрана глыбокі. Навакольныя і бытавыя рэчы цікавяць яе найперш дзеля таго, каб разгадаць іх сутнасную патаемнасць. Пранікненне ў неспазнаны свет адушаўлёных і неадушаўлёных рэчаў пашырае ўласны досвед яе зямнога жыцця. Падчас словы паэткі, як жывая вада, *уваскрашаюць*, здавалася б, бездухоўную прыгажосць прыроды, набліжаючы яе да чалавечага стану.

Лепшыя творы аўтара, у тым ліку і гэтыя – беларускія не толькі па духу, але і па мове, ставяць паэтку ў адметны шэраг творцаў сучаснай беларускай літаратуры і, думаецца мне, застануцца “кінутымі ў нашу раллю” як жыццясцвярджальнае семя... Пра тое ёмка сказана ў вершы “Памяці Васіля Быкава”:

Пра Беларусь адгаманіў
Праўдзівы голас,
Ён сеяў словы на раллі,
Як зерне колас.
Ў каторы раз кляліся ўжо:
“Не згінем мы, як тыя прусы!”
Ён сорак год сцвярджаў адно:
“Вы ёсць народ! Вы – беларусы”...

І ў гэтым пераконвае нас руская жанчына? Якая нішчымніца нацыянальнага духу...

# Беларуская глыбіня

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Валеры Гапееў. Праклён. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 546 с.**




“Праклён” – першая кніга Валерыя Гапеева, вядомага перадусім як аўтара падлеткавай літаратуры, створаная для аўдыторыі, не абмежаванай узроставымі рамкамі. Тое, што гэты раман не патрапіў у доўгі спіс сёлетняе прэміі імя Ежы Гедройца, сталася вялікай (і прыкрай) неспадзяванкаю. Мажліва, да кнігі ёсць пытанні (перадусім – па рэдактуры-карэктуры), мажліва, з гледзішча мерчандайзінгу, твор крыху зацягнуты... Але ж зроблена гэтая рэч шчыра і з поўнай выкладкай і, безумоўна, знойдзе свайго чытача – незалежна ад узросту і месца пражывання. Раман В. Гапеева – добрая белетрыстыка, якой заўжды бракуе. Гэта твор, жанр якога можна акрэсліць як “раман ідэяў”. Маючы займальную фабулу, ён уздымае перадусім пытанне нацыянальнае памяці і тых наступстваў, што вядзе за сабой забыццё сваіх каранёў.

**Сяргей Дубавец. Errata: як што называецца, так і адбываецца. — Мінск: І.П. Логвінаў, 2013. – 134 с. – (Бібліятэка “Беларускі калегіюм”).**




Кампазіцыйна “Errata” выразна падзяляецца на дзве часткі: першая ўключае ў сябе суплёт эсэ, прысвечаных актуальным праблемам перадусім нацыянальнае ідэнтычнасці (раздзелы “Словы” і “Мова”), другая – гістарычныя нарысы (раздзел “Народ” з нашумелым калісьці тэкстам “Тайна шасці мільёнаў”). Фактычна, гэта дзве розныя кнігі, размешчаныя дыяхранічна: кніга пра “нацыю двухногіх зэдлікаў” (такую метафару аўтар уводзіць для характарыстыкі рускамоўных беларусаў) і кніга пра дваранаўусходнікаў 20-30-х гадоў XX стагоддзя, шчымлівыя ўводзіны ў даследаванне ахвяраў чырвонага тэрору на Беларусі (“Стагоддзе палітычнага тэрору”). Тое, што іх аб’ядноўвае, нібыта скразная тэма кнігі, абазначана ў анатацыі як “падмена назваў і сэнсаў”. Насамправўдзе ж галоўным аб’яднаўчым чыннікам гэтых зместава зусім розных частак ёсць фірмовы дубаўцоўскі стыль. Яго маркёрамі ёсць: нязмушанасць і неабавязковасць (з гэткаю нязмушанасцю кітайскі майстар мяча малюе іерогліф перад спохваткай, чым адбівае ахвоту ад двубою менш майстравітаму байцу). Такое сабе няспешнае філасофстванне, ленаватае прамаўленне глыбокіх сентэнцыяў... Сяргей Дубавец піша для тых, хто *чуе* і *бачыць*, а не проста – слухае і глядзіць.

**Валер Санько. Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе. Раман. Смаленск: Наапрэс, 2013. – 612 стар.**




У кнізе лагічна і праўдзіва, з дакументальнай пранізлівасцю гаворыцца аб прычынах выбуху на ЧАЭС, ліквідатарскіх і перасяленскіх праблемах. Асноўнае месца жыцця і дзейнасці герояў – Гомельшчына. Дынамізм падзеяў, лаканізм падачы шмат у чым узмацняецца друкаваннем “заставак” – дакументаў з архіваў, навуковай літаратуры. Твор яшчэ раз папярэджвае заходне-еўрапейскіх, рускіх, украінскіх і беларускіх фінансістаў: калі тэрмінова не з’явіцца трывалы саркафаг над і пад ЧАЭС – можа рвануць сусветны Армагедон. 30 краін Еўропы і Амерыкі ўзялі на сябе

абавязацельствы: да сакавіка 2007 года ўсе працы па бяспецы Саркафага прафінансаваць, закончыць. На жаль, не закончаныя да сёння...




**Павел Севярынец. Беларуская глыбіня. – Вільня: Логвінаў, 2014. – 296 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”).**

У новую кнігу вядомага палітыка і літаратара Паўла Севярынца ўвайшлі эсэ, напісаныя падчас апошняга зняволення аўтара. Тэксты пісаліся цягам трох гадоў і друкаваліся, па меры іх стварэння, у прэсе. Сёння эсэ пра лёс Беларусі і яе народа – усе разам пад адной вокладкай.

*“Беларуская глыбіня” – гэта сведчанне. Калі табе раптам у забытым і занядбаным адкрываецца нешта найвышэйшае – ты сам не здольны гэта ўмясціць, і таму дзелішся. Чытачу хачу сказаць: Бог побач. Тут. Ён любіць Беларусь мацней, чым кожны з нас – і любіць настолькі моцна, што не можа пакінуць нас такімі, якія мы ёсць. Гэтая кніга – спроба ўглядзецца ў нашу беларускую глыбінку, каб убачыць праз яе Хрыста. Углядзецца ў вочы. У лёсы. У далягляды скрозь краты. На вокладцы зарослы калодзеж, у якім адлюстроўваюцца нябёсы, і дрэвы цягнуцца ў бездань. Беларуская глыбіня – гэта насамрэч імкненне ўгару,* – падзяліўся Павал з чытачамі сайту Саюза беларускіх пісьменнікаў (www.lit-bel.org).




**Нільсан Ульф, Эрыксан Эва. Найлепшы спявак у свеце / Пераклад са шведскай Алесі Башарымавай. — Мінск: Кнігазбор, 2014. – 40 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. Падсерыя “Каляровы ровар”; выпуск 3).**

“Найлепшы спявак у свеце” – новая кніга для дзетак з серыі “Каляровы ровар” Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтары – шведскі пісьменнік Ульф Нільсан і мастачка Эва Эрыксан – стварылі цэлы шэраг дзіцячых кніг з малюнкамі, якія ўжо сталі класікай. Па-беларуску казка загучала дзякуючы перакладчыцы Алесі Башарымавай. Паводле яе словаў, “гэта гісторыя хлопчыка, які любіў спяваць, але саромеўся рабіць гэта перад публікай, гісторыя таго, як ён перамог гэты комплекс. Яна апісаная з лагодным гумарам, і я думаю, тыя, хто пазнае сябе ў герою, гэта ацэняць і змогуць па-іншаму паглядзець на свае праблемы, якія цалкам могуць аказацца ўяўнымі. А гумар у такім выпадку можа быць найлепшай дапамогай”. Шчыра рэкамендуем гэтую чытанку ўсім беларускамоўным бацькам і іх дзеткам.




**Оскар Ўайлд. Саламея. П’еса, вершы прозай / Пераклад і прадмова Кацярыны Мацеўскай. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 92 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Бібліятэка часопіса “ПрайдзіСвет” “PostScriptum”).**

Апроч знакамітай п’есы, кніга змяшчае прадмову ад перакладчыцы, стылістычна блізкія да яе вершы прозай Оскара Ўайлда, артыкул сябра пісьменніка, мастацтвазнаўцы Роберта Роса, які разабраў усе акалічнасці выхаду ў свет “Саламеі” і абверг звязаныя з ёй міфы, а таксама каментары і бібліяграфію ранейшых перакладаў з Оскара Ўайлда на беларускую мову. Змешчаныя ў кнізе і самыя знакамітыя ілюстрацыі да п’есы, выкананыя яшчэ адным творцам з кола Оскара Ўайлда — Обры Бёрдслі.

# Нашыя аўтары

**Адамовіч Алесь** – празаік, крытык, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1976). Аўтар кніг «Война под крышами», «Беларускі раман. Станаўленне жанра», «Партизаны», «Сыновья уходят в бой», «Хатынская повесть», «Я з вогненнай вёскі» (у суаўтарстве з Я. Брылём і У. Калеснікам), «Карнікі» і інш. Нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Канюхі на Капыльшчыне. Памёр у 1994 годзе.

**Адамовіч Андрэй** – паэт. Творы друкаваліся ў «Дзеяслове», «Нашай Ніве» і інш. выданнях. Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Віцебску.

**Адамовіч Славамір** – паэт, эсэіст, публіцыст. Аўтар кніг «Кальварыйскія клёны», «Зямля Ханаан», «Турэмны дзённік», «Плавільшчыкі расы», «Рым» і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе на станцыі Унежма Архангельскай вобласці (Расія). Жыве ў Мінску.

**Аксак Валянціна** — паэтка, журналістка. Аўтар кніг «Цвінтар», «Капліца», «Антычны дождж», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца» і інш. Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фауна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Барысюк Васіль** – паэт, журналіст. Вершы друкаваліся ў абласных і рэспубліканскіх перыядычных выданнях, а таксама ў калектыўных выданнях: «Берасцейскія карані», «Дзядзінец», «Жырандоля», «І нараджалася слова» і інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Малыя Корчыцы Кобрынскага раёна. Жыве ў Брэсце.

**Башарымава Алеся** – паэтка, перакладчыца. Перакладала на беларускую мову шведскія казкі, а таксама творы Тувэ Янсан, Сельмы Лагерлёф, Дана Андэрсана ды інш. Нарадзілася ў Магілёве, ў 1987 годзе. Жыве ў Мінску.

**Быкаў Васіль** – народны пісьменнік Беларусі. Празаік, публіцыст. Лаўрэат шматлікіх дзяржаўных і міжнародных літаратурных прэміяў. Аўтар кніг «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Кар'ер», «Сьцяна», «Пахаджане», «Доўгая дарога дадому» і інш. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне. Памёр у 2003 годзе.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** – паэтка, празаік, перакладчыца. Аўтар кніг «Рэканструкцыя неба», «Няголены ранак», «Метад муараваых крэсак», «Прысак і пожня» і інш. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Грышкевіч Аляксандр** – мастак. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1984 года. Сябра Беларускага саюза мастакоў. Працы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, у фондах Міністэрства культуры РБ, у Светлагорскай карцiннай галерэі імя Германа Пранішнікава, ва Унечскай карціннай галерэі (Расія), у цэнтры культуры г. Свеце (Польшча), у карпаратыўных і прыватных калекцыях у Беларусі і за мяжой. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Маладэчне. Жыве ў Мінску.

**Дамашэвіч Уладзімір** — празаік, нарысіст. Заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат літаратурнай прэміі імя І. Мележа. Аўтар кніг «Заклінаю ад кулі», «Між двух агнёў», «Абуджэнне», «Каб радзіла зямля», «Кожны чацвёрты», «Камень з гары» і інш. Нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Вадзяціна на Ляхавіччыне. Памёр 30 красавіка 2014 года.

**Данільчык Аксана** – паэтка, перакладчыца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», «Сон, які

немагчыма забараніць». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Зіненка Таццяна** – паэтка. Дзяцінства правяла ў вёсцы Зачысце барысаўскага раёна. Закончыла Зачысцкую школу, філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкавалася ў «Днях паэзіі», многіх рэспубліканскіх газетах і часопісах. У 2013 годзе барысаўскія таварышы і калегі выдалі яе пасмяротны зборнік паэзіі «Плакала дзяўчынка». Функцыянуе сайт памяці паэткі (www.zinenka.ru). Нарадзілася ў 1960 годзе ў Казахстане. Памерла 1 лютага 2011 года.

**Кананові̇ч Ігар** — паэт. Нізкі вершаў друкаваліся ў «Маладосці», «ЛіМе», «Дзеяслове». Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Клецку. Жыве ў Мінску.

**Карамазаў Віктар** – празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990). Аўтар кніг «Падранак», «Спіраль», «Пушча», «Дзень Барыса і Глеба», «Дома», «Дзяльба кабанчыка», «Крыж на зямлі і поўня ў небе», «З вясною ў адным вагоне» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Чэрыкаве. Жыве ў Мінску.

**Козел Андрэй** – паэт. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Працуе ў рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў пасёлку Новагарадзейскі на Нясвіжчыне, дзе і жыве.

**Кона Мары (紺野万里)** – паэтка, піша танкі, жыве ў г. Фукуі (Японія), выкладае ва ўніверсітэце, аўтарка 8 зборнікаў танка, сябра Таварыства японскай танкі, лаўрэатка розных літаратурных прэмій.

**Лукашук Аляксандар** – празаік, публіцыст, эсэіст. З 1999 года – дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода. Аўтар кніг «Зьдзек», «За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцця катаў», «У фіялетавай ночы вугал крыла», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «Сьлед матылька. Освальд у Менску», «Зкімбызымбы» і інш. Нарадзіўся ў 1955 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Празе.

**Макарэвіч Васіль** – паэт. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1994). Аўтар зборнікаў паэзіі: «Вогненная камета», «Мерыдыяны і паралелі», «Ліставей», «Вечнае дрэва», «Радоўка», «Праталіна», «Відушчы посах», «Сумежжа», «Квадратура круга» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Мельнікава Анжэла** – літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар манаграфій «Паэтыка твораў Кузьмы Чорнага», «Літаратура і час: постаці, тэндэнцыі, плыні». Нарадзілася ў 1969 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошнягa імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Рыжкоў Віталь** — паэт. Лаўрэат конкурсу «Пластылінавы бусел» (Магілёў, 2005), конкурсу беларускага ПЭН-цэнтру да стагоддзя газеты «Наша Ніва» (2006), конкурсу імя К. Шэрмана (2009). Лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» (2008) Аўтар кнігі «Дзверы, замкнёныя на ключы». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шталянкова Ксенія** – празаік. Аўтар кнігі для падлеткаў «Адваротны бок люстра». Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Южык Міхась** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Мёртвае дрэва» (аповесці), «АнтыРЫФМАР» (вершы), «Човен на Млечным Шляху» (кніга філасофіі); раманаў «Перакулены час», «Марыянеткі і лялькаводы», «Лесвіца». Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

# Contents

***POETRY***

**Valancina Aksak.** Insomnia. *Strophes-2013.*
**Vasil Makarevič.** Atlas. *An optimistic oratory.*
**Sɫavamir Adamovič.** Something is Wrong. *Poems.*
**Aksana Danilčyk.** A Question of Interpretation. *Poems.*
**Vasil Barysiuk.** God, Give Me Hope Again... *Poems.*
**Ihar Kananovič.** Jump to the Sun. *Poems.*

***PROSE***

**Ludmiɫa Rubleŭskaja.** Daguerreotype. *A decadent novel. (Beginning).*
**Viktar Karamazaŭ.** Lignt from the God's Heights. *Two novellas.*
**Uɫadzimir Damaševič.** Minsk-Baranavichy Suburban Train. *A short story of 1994.*
**Mikhaś Južyk.** Crowded Streets. *Phantasmagoria.*
**Ksenija Štalankova.** The POST Situation. *Impressions*.

***DEBUT***

**Andrej Kozeɫ.** Incompleteness. *Versets.*

***TRANSLATIONS***

**«A Dash Without the Date Behind».**
*Contemporary Georgian poetry.*
Nata Ingorkava. Nika Jardzhaneli. Paata Shamugiya. Georgiy Shoniya. Lasha Jayani. Amiran Svimanishvili.
**Mary Kona.** Doesn't It Hurt Them? *Translated from Japan by Volha Hapejeva.*

***FOR THE 90th ANNIVERSARY OF VASIL BYKAŬ***

**Vasil Bykaŭ – Aleś Adamovič.** Young Years.
*Autobiographical dialogues: Vasil Bykaŭ to Aleś Adamovič.*
**Vasil Bykaŭ.** Thanks God Still There Is Friendship in the World.
*Letters from Hrodna (1963-1977). (Continuation).*

***INTERVIEW***

**Mikoɫa Hil.** He Was Lonely As the Moon... *Letters by young Varlen Bečyk.*

***ESSAY***

**Viktar Žybul.** Udiaku Akita in Minsk: An Experience of Attentive Perusal.

***FOR THE 60th ANNIVERSARY OF RADIO LIBERTY***

**Alaksandar Łukašuk.** Radio Skaryna.

***IN THE CHAPLET OF MEMORY OF TACCIANA ZINENKA***

**Tacciana Zinenka.** A Rougher Drink.
**Leanid Haɫubovič.** "I Feel I Live Worthily".
**Alena Majeŭskaja.** My Friend Tanya.
**Alena Brava.** Flying Over the Abyss.
**Tacciana Zinenka.** *Poems.*

***PERUSAL***

**Anžela Melnikava.** "Voice of the Blood..."
*A Tetralogy by V. Adamčyk As A Mirror of Life of West Belarus.*

***BOOKRONCLE***

**Leanid Haɫubovič.** "My Quiet Russian Pain" *Review of the book by Maryna Natalič.*

***DZIEJASŁOŬ'S STOCK***

*New books on **DZIEJASŁOŬ's** shelves.*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца*** ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.